

**10**

**КАСТРЫЧНІК**

МІНСК, 1971

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

Заснаваны ў 1953 годзе

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

Вокладка **М. Пракапенкі.**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (стар. 3) і фота **У. Мяжэвіча** (стар. 89).

Галоўны рэдактар **Алесь АСІПЕНКА.**

Рэдакцыйная калегія: **Вячаслаў АДАМЧЫК, Генадзь АНЦІПАЎ, Мікола АЎРАМЧЫК, Генадзь БУРАЎКІН, Васіль БЫКАЎ, Арсен ВАНІЦКІ, Васіль ЗУЁНАК** (нам. галоўнага рэдактара), **Анатоль КУДРАВЕЦ** (адказны сакратар), **Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Пімен ПАНЧАНКА, Алесь САВІЦКІ, Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

- Васіль **ЗУЁНАК**
- Віктар **ЯРАЦ**
- Алесь **САВІЦКІ**
- Еўдакія **ЛОСЬ**
- Уладзімір **СКАРЫНКІН**
- Вячаслаў **АДАМЧЫК**
- Алег **САЛТУК**
- Іван **МУРАВЕЙКА**





● Васіль ЗУЁНАК



## Першы гром

Як бухне той бубен вясновы,
Напне навальніца гужы —
Пакінуўшы хітрыя сховы,
На выган маленства бяжыць:

У сто перакрутаў куляцца,
Дзе спее рамонкавы дым,
Каб грозных грамоў не баяцца
Ні сёлета, ні праз гады.

А неба спагадна вуркоча:
Забудзь на пасаду і чын,
Хоць поступ паважна-прарочы —
Кульнуцца ёсць многа прычын!

Вы толькі —
нікому нічога,
(А скажаце — перажыву):
Як некалі —
зноў басаногі
Качуся клубком у траву!

Куляюцца дрэвы і хаты,
То неба сінее, то бэз,
А гром — аблачынна-калматы —
Марудна сплывае за лес.

Па гулкіх ярах і лагчынах
Узахлінкі мчацца руччы,
І неба з вясёлай ляшчыны
Вясёлыя гне абручы.

●

Зраселы голас перапёлкі
Бяжыць праз поплаў нацянькі.



Як неба зорнага асколкі,
Гарань у вокнах аганькі.
Над грывай лесу маладзее
У светлай згодзе маладзік.
Спяшайся з добраю надзеяй
І стому змрочна не судзі.
Яна па жылах разліецца
Бунтоўным сокам маладым.
Яна рукою абаўецца,
Асмужыць пасмаю як дым.
Яна прышэпча, заласкоча —
Ты будзеш —
Бог з усіх багоў!..
...Гараць агні — бяссоння вочы.
Каго ж ім прагнецца, каго?..
Хай нецярплівае чаканне
Сваім святлом не абміне!
Хай мроіцца праз ноч
світанне—
Усім-усім,
І можа — мне...
Каб не спыніцца ля парога:
Ці двор не той?
Ці я чужы?..
Як вечнасць —
Доўгая дарога
І вокан чорныя крыжы.

## Бессмяротнасць

Памроіцца:
на дымных рубяжах
Чырвоны след мой вея замятае
І жудасць крумкачовага крыжа
На небе чорнай зданню прарастае...
Тады ляці галубкай да мяне:
Убор сястры—крылата-беласнежны—
Далёкім успамінам ахіне,
Праясніць памярцвелую бязмежнасць.
Схіліся над прадоннем нематы
І раны забінтуй мае паціху.
І гневам міласэрнай дабраты
Прэч адгані няпрошанае ліха.
Хай крыжык твой чырвоны праз імжу
Мне зоркай пуцяводнаю засвеціць—
І я ўзнімуся,
ворагу скажу
Аб тым,
што бессмяротнасць
ёсць на свеце!

## Песня

Вы чулі
салаўёў надрэчных?
Без песні той і я
аглух...

I трызніць даўнім-даўнім нечым
Пласцінкі грамафоннай круг.
I хісткім Ноевым каўчэгам
Плыве
зялёны гай адзін,
Што салаўя прыгрэў начлегам
I на пласцінку пасадзіў.
Круціся, шэры летуценнік,
Іголкай прама ў сэрца бі!
Забытай песні дзіўным ценем
Трывогу ў сем кален трубі:
«Аб чым ты, круг, раскажаш сыну?
I што—калі не адвяду
Ад той апошняй—салаўінай—
Ад песні — тапароў бяду?..»

●

Ці бог ішоў з парадай?
Ці сам адкрыў сакрэт?—
Я знаю гэту радасць—
Тварыць нанова свет!
Праменістае вочка
Расінкі дажджавой
Кацілася клубочкам,
Як ціхі роздум мой.
I кожная лісцінка
Мне пушчаю была.
I кожная пярынка —
Узмах тугі крыла.
I чорным ліхадзеем
Гарэў анёл-бялюсь.
I кожная надзея—
Як маці Беларусь.
I кожная дзяўчынка—
Заціяты плач удоў.
I кожная хвілінка —
Дакор былых гадоў...
Таемныя арбіты
Спадалі за сялом...
Мне ўсё тады адкрыта
I ясна ўсё было.
I жаваранак шэры
Мне вечнасцю звінеў.
I знакі на паперы.
Прарочыя?
Ці не?..



● Віктар ЯРАЦ





●

Калі зялёны ўзняўшы сцяг,
святкуе май свае ўваходзіны —
я на лясной,
світальнай споведзі
бязмежны слухаю абсяг.

I чутна мне,
як травы дыхаюць
і сок пульсуе па ствалах...
I ўжо з-за лесу
сонца выйшла
вітаць цяплом жыцця працяг.

## *Вечныя берагі*

Мы жывём, звычайныя і простыя,
па законах ліўняў і снягоў.
Нам няпроста расставацца з соснамі
над спакоем вечных берагоў.
Мы ў шляху ніколі не прыстанем —
нашай маладосці жыць і жыць
у краіне сонечных світанняў,
на зямлі, дзе пушчы таямніц,
на зямлі сустрэч і развітанняў,
на якой, як ліўні і снягі,
прымуць нас аднойчы берагі,
што спрадвеку журацца ў тумане.
Мы, як птушкі, ў вырай адляцелі
з гнёздаў тых, дзе першых крокаў след,
дзе бярозы белыя хацелі
ўслед за намі бегчы ў белы свет.
Мы адкрыта панясці на крыллях
радасную прагу вышыні,
з той пары над намі — гром і ліўні,
з той пары — няма нам цішыні.
Хай сплываюць вёсны крыгаходамі,
хай чаромхі хмеляць халадком —

Сонца над зямлёю і над водамі
маладым праходзіць хадаком.
Хай жыццё па свеце нас кідае,
у якім — то ліўні, то снягі,
у якім і ў студзені і ў маі
нас чакаюць нашы берагі.

## Восень у Грузіі

Я стаю пад небасхілам Грузіі.
Восень. Жураўліная туга.
Вечарэе. Дрэвы ў ціхай скрусе.
Над зямлёю — смутак і смуга.
Адплываюць светлыя імгненні,
адплываюць думкі і цяпло,
і плыве ў высокім задуменні
птушкі развітальнае крыло.
Што было —
бывай!
Прыходзь — што будзе.
Сёння я маўчу, нібы нямы,
і не мару ні аб якім цудзе —
толькі б не прысталі
журавы
у дарозе дальняй і нялёгкай
за чужое чарадою гор,
толькі б прыляцелі яны
зноўку
у вясновы наш зарэчны бор...

●

Быў ціхі парк цёмна-зялёны,
і гром грымеў над галавой —
над гарадком, даўно знаёмым,
дзе мы сустрэліся з табой.
Я не набег услед, як хлопчык
бяжыць вясною за раку
схапіць вясёлку за руку;
я проста зазірнуў у вочы.
Між мокрых дрэў,
маўклівых сведак,
твой погляд бачыў толькі я,
хоць я цябе яшчэ не ведаў,
не знаў яшчэ твайго імя.
А ты ішла, як навальніца,
якую вабіць свет зямны,
каб кожнай кропляй паўтарыцца
у снах маіх,
у снах вясны...

● Алесь САВІЦКІ



● Мал. І. ДАВІДОВІЧА

# І НІЧОГА ЎЗАМЕН

АПОВЕСЦЬ

### I

Бывай...
Бывай, Мінск!
Гэта гаворыць Вольга. Яна стаіць непадалёк, ля прыступак, і трымаецца за поручань, нібыта баіцца, што вагон уцячэ. На шкле, на зялёнай фарбе зіхацяць буйныя кроплі — вагон нядаўна памылі; жаўтлявыя абажуры настольных лямп у вокнах падобны на аграмадныя бліскучыя ад слёз вочы. І вочы Вольгі таксама бліскучыя, і голас нейкі роспачны, з трывогаю.

Бывай...

Раней я не любіла гэтае слова. А цяпер яно са мною, і я знаходжу ў ім нешта прывабнае. Але вымаўляць яго ўслых не хачу, бо разумею, што яно закрэсліць шмат чаго з майго мінулага, будзе замінаць мне ў дарозе. З ім увогуле — цяпер я разумею гэта — людзям цяжка. А магчыма наадварот, лягчэй? Магчыма. Сапраўды, тое, што не міла сэрцу, чалавек часам лёгка закрэслівае гэтым кароткім словам.

Але Вольга нічога не хоча закрэсліваць — гэта я ведаю дакладна. І мне таксама няма патрэбы нешта закрэсліваць. Я пражыла не вельмі багатае жыццё. Уласна кажучы, не жыла зусім. Вучылася. Пазнаёмілася з Вольгаю і разам з ёю скончыла медыцынскі. Цяпер разам едзем на працу. Разам, праўда, мы толькі на пачатку дарогі: Вольга едзе працаваць у Друйскую

чыгуначную бальніцу, а я — у Заазер'е, што на самай мяжы з Латвіяй. Там таксама бальніца, але вясковая, і чыгункі там паблізу няма. Бліжэйшая чыгуначная станцыя кіламетраў за паўсотні — так мне здалося, калі я зірнула на карту.

Мажліва, гэта крыху і дзіўна: сяброўкі, а разам працаваць не едзем. Уласна кажучы, нічога дзіўнага тут няма: мы з Вольгаю дужа розныя і ў вялікім і ў драбніцах. Я нават не ведаю, чым мне вельмі блізкая Вольга. Яна праўдзівая, смелая, часам нават да рэзкасці смелая — яна нікому не змоўчыць, нават калі і на шкоду ёй гэта павернецца. І ў мяне такая ж натура. І яшчэ ў адным мы сыходзімся: паэзію любім.

Вакол Вольгі поўна родзічаў. Яны пананосілі кветак, нешта ўсё ёй гаворадь, гаворадь. Маці Вольгі заўсёды была ласкавая і ветлівая да мяне, а цяпер быццам і не заўважае, паглядае толькі на сваю дачку: то прыгладзіць валасы ёй, то папраўіць каўнерык кофтачкі. А ў вялікіх чорных вачах — слёзы. Вольга ж — усміхаецца. Тут, на пероне, у гэтай сваёй новай белай сукенцы і малінавай кофтачцы яна зусім не падобна на сваю маці: нізенькая, танклявая, светлыя валасы над высокім ілбом. А бровы — матчыны: чорныя-чорныя.

Ніхто не праводзіць, ніхто не прыкмячае мяне. На пероне ўсё шырэе натоўп, гусцее людскі тлум. А я — адна. Уласна кажучы, мяне няма каму праводзіць. Бацькі другі год за мяжою — працуюць на Асуане. Дома толькі бабуля. Яна старая, і ў мяне з ёю ладу, часцяком, не было. Бабуля не жыла з намі разам, але як бацька і маці паехалі ў замежную камандзіроўку, яна перасялілася ў нашу кватэру. Вольга жартам сказала, што бацькі «нанялі яе пільнаваць маю маральнасць». Яно і праўда: бабуля зверам глядзела на кожнага хлопца, які прыходзіў да нас.

Але бабуля цяпер дома, а я тут, на пероне. Белае святло ліхтароў льецца на асфальт, і ён здаецца бліскучы; бляск гэты сухі нейкі; нейкім сухім і далёкім выдае голас з дынаміка — металёва-спакойны голас.

Да адпраўленння цягніка застаецца пяць мінут.

Вольга ўскочыла на прыступкі, знікла ў калідоры, і ў той жа міг усе яе родзічы дружнаю купаю мітнуліся да акна. Я ўзялася за поручань і, быццам хто паклікаў мяне, азірнулася.

Валера! Мой Валерка!

Я нават ледзьве не крыкнула гэта ўголас, калі ўбачыла яго, знямела ў радасным здранцвенні. З вялікім букетам кветак, за якім амаль хаваўся яго твар, Валера бег усцяж вагона; шэра-белы пыльнік, выцвілы на сонцы, напінаўся за яго плячыма ветразем.

— Дзе сёмы? Дзе сёмы вагон? — стукае мне ў вушы незнаёмы голас.— Сёмы дзе вагон? А-аа, гэты!

Ніякі гэта не Валера. Але якое падабенства! У мяне такое адчуванне, нібыта ў вагон зайшоў Валера. Глупства, вядома. Валера зараз далёка — паехаў на Мангышлак у камандзіроўку ад кафедры. Дзіўна, чаму я зблытала яго з гэтым незнаёмым хлопцам? А-аа, гэта шэра-белы ветразь!

Летась, увосень, мы з Валерам паехалі на Мінскае мора. Я не збіралася туды ехаць, і ён напярэдадні не меў такога намеру, але паехалі. Сустрэліся выпадкова ля пошты — ён адпраўляў артыкул у маскоўскі часопіс,— і падышоў якраз аўтобус, і мы селі і паехалі. Валера любіць гэтыя неспадзяваныя і нечаканыя рашэнні. І ніколі, аніводнага разу, калі мы выконвалі такія рашэнні, нам не было сумна.



Мора было бурнае, неспакойнае: хвалі лезлі на сцэментаванае каменне дамбы; гнуліся, шумелі таполі, і біўся, трымцеў напяты ветразем на Валеравай спіне старэнькі шэра-белы плашч. Я бахнула яшчэ па гэтым ветразі рукою, а Валера, сагнуўшыся, зачэрпнуў у прыгаршчы вады і лінуў на мяне; але толькі маленькія кроплі трапілі мне на твар — такі моцны быў на дамбе вецер...

А цяпер Валера далёка. Але нават каб і быў ён зараз у Мінску, ён бы не прыйшоў сюды. Я б не сказала, калі і якім цягніком еду. Мяне зараз ніхто не праводзіць. І ён не ведае гэта. Ён увогуле шмат чаго не ведае. І не ведае, вядома, галоўнае, не ведае, што я кахаю яго. Аднаго! Назаўжды! На ўсё жыццё! Дзіўна, вядома: кахаю, а еду не да свайго кахання, а зусім у іншы бок, нібыта ўцякаю. Не памятаю дзе, але чытала недзе: каханне наша падобна на твой цень — калі ты бяжыш за ім, яно ўцякае ад цябе. Калі ж ты спрабуеш уцячы ад яго — яно мкнецца наўздагон. Але мне не варта і думаць пра тое...

Дзівачка! Як жа гэта не думаць пра тое! Ты будзеш думаць пра тыя дні і ніколі нічога не закрэсліш з іх. І ў гэтым, мажліва, і ёсць найвялікшае шчасце чалавека: благое ён можа закрэсліць, адкінуць, а добрае ґадаваць у сваім сэрцы, з ім жыць, на яго спадзявацца.

Цягнік кранаецца. Я ўваходжу з тамбура ў вагон, але мушу адступіць крок назад: мне насустрач імчыцца той хлопец у шэра-белым пыльніку. З ружамі! Значыцца, ён не знайшоў таго чалавека, каго прыходзіў праводзіць.

— Гэта — вам! Разумееце, вам! — ён кладзе мне на рукі цяжкі букет руж і сігае з тамбура.

Ні адмовіцца, ні сказаць яму нешта, ні проста падзякаваць я не паспела. І не магу зірнуць на перон — праваднiца гоніць мяне з тамбура ў вагон.

Я спяшаюся ў купэ, каб зірнуць у акно на таго хлопца. «Гэта — вам...» Ён проста пераблытаў нешта. А мо не стрэў тую, каму былі прызначаны гэтыя кветкі, і вырашыў падараваць іх мне? Стаяла ў яго на дарозе, вось і аддаў... А мо яго проста папрасіў Валера прыйсці на вакзал і праводзіць мяне? Але Валера не ведае, калі я павінна ехаць, куды. А ружы цудоўныя! Ай, якія ж яны цудоўныя, гэтыя ружы! І дужа няёмка неяк, быццам чужое што на тваіх руках.

Столік нашага купэ ўвесь у кветках. Кветкі нават на каленях у Вольгі, і сама яна схіліла галаў, нібыта схавалася ў кветках. Насупраць Вольгі — лейтэнант. Убачыў мяне, узіраецца, а па твары яго плыве цень — за акном купэ праплывае цёмная сцяна віядука.

— Дазвольце, суседзі. Дазволіце? Я ёсць чацвёрты, калі няма пярэчанняў. Адзін. Рэчаў не маю. Еду не да канца. І спадарожнік памяркоўны: вясёлы, добразычлівы...

Са здзіўленнем разглядаем чалавека, што стаіць на парозе нашага купэ. Ледзьве ў дзвярах месціцца. Гарганцюа, дый годзе! Я не бачу яго твару — ён недзе там, уверсе. А кішэня пінжака якраз перад маім носам — тры бутэлькі піва ў ёй!

— Размеркаваліся? — пытаецца ён і закідвае свой тонкі, як блінец, партфель на верхнюю паліцу.

Мужчына выцягвае з кішэні піва, стаўляе на стол, і я бачу яго твар. Чырвоны, нібыта ў лазні распараны твар! А вочы шэрыя, маленькія, хуткія, як у мышкі вочы. І ў вачах гэтых — насцярожанасць.

Ён ссоўвае локцем кветкі да акна, расстаўляе папяровыя кубкі і весела прапануе паспытаць піва.

— Бярыце, шаноўныя таварышы жанчыны! Лейтэнант, паказвайце прыклад! Якасць найвышэйшая піва гарантавана.



Піва ў жаўтаватых кубачках здаецца карычневым. Лёгкая наздраватая пена ўздрыгвае — ад дрыжэння століка — і памалу асядае ля беражка. Мяне мучыць смага, але я бачу, з якім захапленнем пазірае Вольга на лейтэнанта, які працягнуў ёй кубак, і адмаўляюся піць піва. Не люблю, маўляў.

— Піўко? —у голасе мужчыны гучыць непадробленае здзіўленне.— А я — жыць без яго не магу. Ды і прозвішча маё абавязвае: Пі-ва-ва-раў! Не, сур'ёзна. І адчуваеце, які водар! Букет!

Лейтэнант бярэ ў руку кубачак, але губы яго сціснуты — намагаецца схаваць усмешку.

А Вольга не вытрывала.

— Гэта кветкі,— тлумачыць яна.— Ружы. Таму і водар такі...

— Але, але... Кветкі. Кветкі і піўко вельмі цесна звязаны, паверце мне,— перапыняе Піваварaў.— Вы можаце не любіць піва, але паважаць яго павінны. Чэхі, ведаеце, выпіваюць піва штогод у дваццаць разоў болей за нас. У іх вытворчасць піва — цэлая галіна вялікай навукі. А ведаеце, што робяць баварцы? Яны вядуць разліў піва ў спецыяльных аранжарэях, каб піўко паглынала водар кветак! А «Мартаўскае»! Яго робяць вясною, калі свеціць-грэе сакавіцкае сонейка, і піўко робіцца мяккім і ласкавым, як вясна. А яшчэ ёсць «Бархатнае»!..

— Яго, я чула, гладзяць аксамітам,— з пачцівым выразам на твары сцвярджае Вольга.— І з таго яно робіцца мяккім, нібыта самага высокага гатунку аксаміт...

Мацней ад усіх рагоча Піваварaў. Смех у яго зычны, нейкі трубны, быццам чалавек моцна прастуджаны; ён рагоча, і твар ад гэтага робіцца вельмі добразычлівы. Мне чамусьці думаецца, што ён ніколі і ні з кім не сварыўся. І пабойваецца, мабыць, свае жонкі. Я недзе чытала, што асілкі-мужчыны вельмі добразычлівыя людзі і пабойваюцца сваіх жонак. Цікава, ці тычыцца гэта нашага спадарожніка?

І раптам Піваварaў спахопліваецца:

— У-ууу! Даруйце, даражэнькія. Загаварыўся я тут з вамі, а мяне сябар чакае ў суседнім вагоне. З вашага дазволу я да яго на гадзінку...

Мы застаемся ў купэ ўтраіх. Лейтэнант пачынае распытваць, хто мы, куды едзем — звычайная, адным словам, гаворка ў дарозе. Але ініцыятыву вельмі хутка перахоплівае Вольга. Яна сама засыпае лейтэнанта пытаннямі і аб нас вярзе несусветнае: мы, маўляў, геолагі, вядзём пошукі нафты на поўначы Беларусі. Служба картажу, адным словам, рэспубліканскага ўпраўлення. А летась былі ў Сібіры, каля Аўдзінкі — шукалі енісейскія алмазы.

Мяне аж жах бярэ. Навошта яна лухту гаворыць! Але лейтэнант слухае вельмі ўважліва, ахвотна падтрымлівае гаворку. Ён, аказваецца, нават артыкул чытаў пра гэтыя самыя енісейскія алмазы.

А мне — сорамна. Гэтулькі хлусіць! І навошта гэта спатрэбілася Вользе?

— Навошта? — пытае яна, калі мы застаемся ў купэ ўдзвюх — лейтэнант дастаў з чамадана вазу і пайшоў наліць вады.— А ты думаеш, што ён нам праўду казаў? У Абалу, маўляў, ездзіў да сястры хворай... Ды я пра такі горад нават і не чула. Да сястры!.. А ў чамаданчыку — крыштальная ваза. І сукенка з парчы ў цэлафане. Я ж бачыла, калі ён чамадан адкрываў. Ад хворай сястры ці да сястры з такімі рэчамі не едуць.

Я запярэчыла. Чалавек едзе дамоў, дарогаю, відаць, і купіў падарункі. Нічога дзіўнага тут няма. Вольга толькі пальцам ля скроні пакруціла: кемлівасці, маўляў, зусім няма.

Лейтэнант тым часам прынёс вазу з вадою, і мы паставілі кветкі. Дакладней, не ўсе кветкі, а толькі ружы. Ад святла настольнай лямпы ружы здаваліся барвовыя, пышныя, бы раслі ў палісадніку. Некалькі пялёсткаў звалілася на стол, і я ўзяла адзін з іх, пацерла ў пальцах. Тое ж самае зрабіў і лейтэнант.

— Гатунак «Дар сэрца». Старадаўні кітайскі гатунак. І ёсць цікавае паданне аб ім...

— Ён падараваў ёй ружу, і яна кахала яго дзесяць тысяч год і два дні,— пажартавала Вольга.

— Гэта паданне сапраўды пра яго і яе. Пра садавода, які працаваў у імператара, і бедную дзяўчыну, якую ён пакахаў. Ён вырасціў цудоўны гатунак руж — белыя, як аблокі, ружы. Яго каханая ўбачыла ружы — садавод паказаў іх ёй: «Бяры якую хочаш». «Але гэта належыць імператару. А тое, што яму належыць,— святое і недатыкальнае». І не ўзяла. А ўвечары садавод прынёс ёй ружы. Раніцою яму адсеклі галаву — так загадаў імператар. І ў тое ж імгненне ўсе белыя ружы зрабіліся чырвоныя, як кроў.

— Значыцца, і за гэтыя таксама нехта пакараны ўжо,— пажартавала я, адчуваючы непамыснасць пад уважлівым позіркам лейтэнанта.

— Гэтыя — прыносяць шчасце.

— Новае паданне?

— Аналіз фактаў. Не больш, таварыш геолаг!..

Ён глядзіць на мяне смела, не тоячыся, і я бачу ў яго вачах добрае і сяброўскае спачуванне. Вядома ж, здагадваецца, што Вольга маніла. Але мяне дзівіць не гэты позірк, не іранічнае адценне ў слове «геолаг», а колер яго вачэй. Сінія! Ну зусім сінія вочы! Дзіўна нават — валасы чорныя, трохі кучаравяцца, як у Піваварава, а вочы — сінія. Як на мора глядзіш. Памятаю, яно, мора, зачаравала мяне незвычайна, калі ўпершыню ўбачыла яго. Гэта было ля Алушты, на перавале.

— Ідзіце на калідор,— загадвае Вольга мне, але гэта тычыцца і лейтэнанта.— Буду ладкаваць пасцель!.. Хуценька, хуценька!..

І гэты яе загад скасаваў гнятлівасць, што вісела над намі. Мы пачынаем размаўляць свабодна, і тэм для гаворкі шмат. Калідор робіцца дужа гармідарны — людзі павыходзілі з купэ, уладкаваўшы рэчы і пасцелі. Я нечакана заўважаю, што вагон наш зусім навюсенькі, дужа светлы і святочны. Светлы пластык на столі і сценах. Металёвая акантоўка на доўгай прыступачцы пад вокнамі — на ўсю даўжыню вагона. Чысцюткая белая стужка на дывановай дарожцы. Фіранкі таксама белыя і дужа каляныя.

— Са шкла фіранкі,— тлумачыць мне лейтэнант.— Тканіна, якая не гарыць і не гніе. Цудоўны матэрыял. Аднойчы я быў на заводзе, дзе робяць яе.

— Я таксама была.

— Вас, геолагаў, нічым, ведаю, не здзівіш...

І зноў тая ж прытоеная ўсмешка ў вачах. Але ён тут жа згасіў яе і, папрасіўшы майго дазволу, закурвае.

— А мяне здзівіла Мінскае мора,— гаворыць лейтэнант, далікатна адмахваючы рукою дым.— Я быў на ім двойчы. У маі. І вось цяпер, пазаўчора. Тады яно было сіняе, і хвалі хадзілі — сапраўднае мора. А пазаўчора пабачыў — здзівіўся. Зялёнае! І маленькае зусім зрабілася. Астравы, астравы... Мы былі на адным — ракавінкі збіралі. Насупраць лодачнай станцыі востраў блізенька зусім. А ракавінкі вялізныя. Арыгінальныя попельнічкі з іх атрымліваюцца. Я сваім сябрам вязу ў падарунак...



За акном у перадвячэрнім змроку трымціць россып бляклых агнёў. Калі глядзець на іх, прыплюшчыўшы вока, яны выцягваюцца шнурам і нагадваюць зорныя палосы. Потым яны знікаюць — замест іх узнікае роўная пілачка лесу. Густы малінавы далягляд наблізіўся, амаль побач, і вяршаліны дрэў за насыпам вельмі выразна акрэсліваюцца.

Лейтэнант усё гаворыць пра ракавінкі, але я амаль не слухаю яго: чую голас, асобныя словы, якія не звязваюцца ў самастойныя сказы. Думкі мае там, на Мінскім моры... Зялёна-зялёным... І Валера стаіць басаногам на пясчаным беразе вострава. Вада ля яго ног зялёная. І падсохлая пена на берагавой касе ля вады таксама зялёная, а крыху вышэй — зусім блакітная. І блізкі-блізкі, як руку працягнуць, малады сасоннік на беразе, за сінім будынкам лодачнай станцыі, і пясчаная дарога, што вядзе цераз лес на аўтобусны прыпынак...

Шоргаюць дзверы купэ. Вольга ўжо ляжыць пад коўдраю — мабыць нагою піхнула дзверы — і загадвае:

— Спаць, Галіна! Спаць!

Лейтэнант спачувальна глядзіць на мяне.

— Дык якое ж у вас імя сапраўднае?

— Гэтае. А прозвішча — Князюк.

— Мне здаецца, што тут — таксама алмазы!

— Не-е, тут без алмазаў.

— Пабачым, што будзе раніцой. Алмазы, я чуў, вельмі хутка растуць.

— Гэта ўсё Вольга мая напрыдумляла. А навошта — не ведаю нават. Мы згаварыцца не паспелі...

Адчуваю нечаканую даверлівасць да лейтэнанта. Расказваю яму пра нас: хто мы і куды едзем працаваць. У яго вачах усё тое ж, крыху, праўда, прыгаслае, спачуванне: не верыць, вядома, аніводнаму слову, і гэта мяне крыўдзіць. Жадаю яму добрай ночы і іду ў купэ да Вольгі. Лейтэнант застаецца ў калідоры.

— Слухай,— пошапкам кажа мне Вольга,— ты сапраўды як алмаз. Ён жа з цябе вачэй не адводзіць. Аркань яго, аркань! У парчы будзеш жыць!..

— Бяры ты яго сабе, мая родная!

— Жыццё, аднак, здаўна інакш пабудавана: не мы бяром, а нас бяруць.

— А ты крышы старыя традыцыі і звычаі!

— Табе добра ламаць, калі лейтэнант да цябе, як цвік да магніта. О, каб ён так на мяне зірнуў — я б не разгубілася!

— А, каб цябе зараз пачуў Сцяпан!..

Знарок кажу гэта, падрабляючыся пад голас Вольгі, і яна адчувае мой настрой, але ненадоўга. Я не паспяваю пераапрануцца, як зноў чую яе шэпт?

— Заўважыла? Лейтэнант на Валерку крыху падобны. У гэтага толькі вочы прыгажэйшыя. У-уу! Марскія вочы!

Гэта яна знарок, каб адпомсціць мне, і я кажу, не адчуваючы аніякай крыўды на сяброўку:

— Язык у цябе марскі. Як хваля матляецца!

— Нічога, нічога... Як адна застанешся — не раз і не два гэтую хвалю ўспомніш!..

Пстрыкнула выключальнікам, пакрыўдзілася. Нешта яшчэ буркнула ў адказ на маё «добрай ночы», стаілася пад коўдраю. Ну, нічога: Вольга адпусціцца, крыўдаваць доўга не можа.

— Будзем спаць? — спытала я, каб прымірыцца ўжо сёння.

Не адказала, толькі задыхала гучна, бы моцна заснула. Я болей

не зачапіла яе. Ляжу, думаю. Намагаюся заснуць, а сну няма.

Сіні плафон уверсе здаецца несапраўдным, як бы намаляваны. Ад святла яго вада ў крыштальнай вазе змрочная, загадкавая, а ружы амаль чорныя і святлейшыя не зверху, а знізу — адбівае святло крышталь. «Дар сэрца»... Цікавае паданне. І сам лейтэнант, вядома, чалавек цікавы. І прозвішча прыгожае. Сагунін... Нешта далёкае ў ім, быццам клічуць некага здалёк, але чуваць не сам голас, а толькі выразнае, блізкае рэха. Кастусь Сагунін... Вольга нават раўнаваць пачала. Дзівачка! У мяне ёсць Валера. І болей мне ніхто не патрэбен. А паданне расказаў Сагунін цікавае. І ўвогуле, прыгожы і добры гэта звычай — дарыць кветкі. Цікава, хто і калі першы падарыў кветкі жанчыне?.. Не ведаю. Але пераканана, што звычай гэты вельмі добры. Зусім незнаёмы чалавек падараваў ружы, ружы, якія былі падрыхтаваны зусім не мне, але на душы зрабілася добра і ўтульна. Як мала, зусім мала патрэбна, каб чалавек радасна і ўдзячна табе ўсміхнуўся! Усяго крышку кветак! Ды і не ў кветках тут прычына. Проста чалавеку патрэбна цеплыня. Кожнаму! Маленькая крупінка сардэчнай цеплыні. Мабыць так і пабудаваны чалавек: жыццё яго — гэта працэс, калі ён робіць дабро і дорыць людзям цеплыню і нічога не патрабуе ўзамен. І гэтая цеплыня мае казачную ўласцівасць: чым болей аддаеш яе, тым болей маеш сам.

Але гэта не мае думкі. Гэта любіў казаць нам Васіль Данілавіч. Выкладчык геаграфіі ў школе. Яго ўжо няма, ён памёр пазалетась, і я не ведала гэта аж да таго часу, покуль аднойчы вясною не завітала ў сваю школу. Няма чалавека, а добрыя яго словы жывуць; і мабыць, не толькі са мною — яго ў нашым класе любілі ўсе...

Паціху адкрыліся дзверы купэ, і моўчкі ўвайшлі нашыя спадарожнікі. Піваварaў пачаў шукаць лесвічку, ледзьве не зваліўся з яе; лейтэнант дапамог яму, і тады ён, з крэктам, ускараскаўся на сваё месца; парываўся быў гаманіць, але лейтэнант шыкнуў на яго, і ў купэ ўсталявалася цішыня.

З гулкім стогнам прамчаў за сцяною стрэчны цягнік. Зноў затахкалі ўнізе колы. Вагон рэзка хіснуўся, мяне прыціснула да сцяны, і ўсё цела адчула, як падае, знікае хуткасць руху. Цягнік прыпыніўся на хвілінку. Я адхіляю фіранку. Нейкая маленькая станцыя. Але будынак яе застаўся за скверам; да сквера вядзе вузкі перон. У скверы на лавачцы сядзяць удваіх. Дзяўчына хінецца да хлопца, і яны нерухомыя, нібыта помнік.

Аднойчы з Валерам мы сядзелі вось так у станцыйным скверыку ў Ждановічах — чакалі электрычку. Калі ж гэта было? У ліпені, здаецца... Але якое значэнне мае тут абсалютная дакладнасць? У ліпені ці ў маі... Было — сплыло. Пустое, як сказаў вялікі паэт, падман нявопытнай душы.

Жартую. Значыцца, баліць. І калі ўжо шукаць дакладнасці і тое спомніць...

А навошта спамінаць! Усё тое жыве ва мне. Усё тое таксама пачыналася жартам...

## 2

Вяселле Вольгі.

Усе на добрым падпітку. Ужо ўсе стаміліся скардзіцца на гаркату віна, стаміліся спяваць. І ніяк не стомяцца госці гаманіць, балбатаць — кожны аб сваім, прымушаючы свайго субяседніка толькі слухаць. Але слухаць ніхто не хоча, і ў пакоі гармідарна, шумна, але весела.

Відэлец, што ляжыць ускрай мае талеркі, пачынае — я нават у такім гармідары чую гэта — трымцець: у суседнім пакоі нехта шпарыць «Лявоніху». Ведаю: гэта — Валера. І нейкая магутная сіла цягне мяне туды: убачыць яго!

Я думаю пра гэта і сама пасміхаюся з свайго жадання, і разумею, што гэта не проста жаданне, а нешта большае, непадуладнае ні сэрцу ні розуму. Яно, гэтае «нешта», прыйшло да мяне зусім нядаўна, калі я ўбачыла Валеравы вочы. Блакітныя. Амаль сінія вочы. Ён прыпазніўся на вяселле, прыйшоў, калі было ўзнята нямала тостаў, і яго з'яўленне не выклікала здзіўлення і авацый. Але я заўважыла яго адразу, заўважыла, як толькі ён увайшоў і выглядаў месца, дзе сесці. «Сядай каля мяне!» Я загадала гэта ўпотай. І ён сапраўды сеў побач — ля мяне было вольнае крэсла. Але я падумала, я была ўпэўнена, што гэта выконваецца мой маўклівы загад, і гэта надало мне смеласці. Я спытала, што яму пакласці на закусь.

— Прапаную яшчэ і гэта. Фаршыраваная рыба. І аздоблена яна прыгожа. Нават цыбулька з пашчы. Цыбулькі пакласці?

Ён кіўнуў галавою.

— Шчупак глядзіць на мяне, нібыта збіраецца праглынуць, як гэтую цыбулінку.

— Мужчыны павінны заўсёды ісці насустрач небяспецы!

— Але разумна! Не на злом галавы.

— Гэтую перасцярогу мне рабіла звычайна Вольга.

— Па логіцы рэчаў: вы таксама будзеце казаць гэтую перасцярогу на сваім вяселлі каму-небудзь.

— Мажліва. Але не раней як праз тры гады.

— Тры? Вельмі задавальняе мяне гэты тэрмін. Раней мне не ўдасца, на жаль, прапанаваць вам руку і сэрца.

— А навошта расцягваць на тры гады? Зараз — руку. А́ сэрца — потым...

Жартую. Ведаю, што гэта неразумна, але ўтрымацца не магу, нібыта не я, а нехта вымаўляе мае словы, і ён прымае мае жарты, і мне з ім весела і добра...

А цяпер ён там, у суседнім пакоі, дзе звініць, грукоча «Лявоніха», дзе гучна пляскаюць у далоні. Але яго твар, яго насмешлівыя вочы глядзяць на мяне з кожнага кутка. Туды! Мне трэба быць там, побач з ім!..

Затрымлівае Зіна. Падыходзіць з працягнутым келіхам, патрабуе выпіць.

— За нашае славутае трыё! За памяць аб ім! І за добрае жыццё вольных птушак, нас з табою!

Славутае «трыё» — гэта мы: Вольга, Зіна і я. Тры школьныя сяброўкі, якія яшчэ ў сёмым класе пакляліся на кляновай лісціне: заўсёды, ва ўсім, на ўсё жыццё — разам! Да магілы! І вось, калі ласка: Вольга, якая і стварыла гэта трыё, першая і разбурыла наш саюз.

У маім келіху няма віна. Зіна робіць знак Вользе, але тая нічога не бачыць, нічога не заўважае, апроч Сцяпана.

— Бачыш! — абураецца Зіна. — Яна вінаватая, што наш саюз гіне, а робіць выгляд, што яе хата з краю.

— Гэта няпраўда, што наша трыё гіне. Святая справа ніколі не памірае, калі адзін салдат памірае ў баі!

— Правільна! — гукае Валера. Я нават не заўважыла, як ён апы-

нуўся побач, але вельмі ўзрадавалася, што гэта здарылася. У гонар справы салдата, якая ніколі не паміраe!..

Нашыя келіхі звіняць. Я патрабую: наліць яшчэ! Зіна адгаворвае: блага, маўляў, будзе, закусіць трэба хоць чым. Я ўпарта трасу галавою: няхай блага, але мы павінны выпіць за нашае сяброўства, за агонь вернасці, які не павінен згасаць у нашых сэрцах!.. Скончыць гэты тост мне не даюць, і мой голас патанае ў патрабавальным і радасным: «гоо-орка!» І сама крычу гэта, і роў сп'янелых галасоў дзіўна вярэдзіць сэрца.

Валера глядзіць на мае рукі, і я ўзнімаю келіх. Ён сочыць за маімі рухамі, яго вочы глядзяць даверліва і падбадзёрваюць, і я выпіваю келіх да дна.

— Пойдзем кружыць «Лявоніху»!

Я нібыта чакала гэтае прапановы, паставіла келіх на стол і працягнула Валеру руку.

Мы кружым «Лявоніху», потым вальс, і зноў вальс, і Валера вельмі асцярожна трымае маю руку, і я толькі цяпер заўважаю тое, чаго не заўважала раней: спартыўны пінжак Валеры, асабліва рукавы, занадта кароткія, ён вырас з яго. І тэніска, некалі тэракотавая, выцвіла, зрабілася амаль белая. Я бачу гэта, і бачу яго вочы — крыху сцямнелыя, але даверліва-радасныя вочы,— і бачу свой адбітак у бліскучых зрэнках.

— Гэта «Вальс кветак»,— гаворыць Валера.— Вы любіце кветкі? Закрыйце вочы, калі ласка... На хвіліначку! Вось, вось... Цяпер мы ўжо не тут. Мы далёка адсюль. На лузе. І рэчка побач. Адчуваеце, якая мяккая травіца... Асцярожна, тут канаўка... Та-ак, мы перайшлі яе... А вакол — кветкі, кветкі, кветкі... І гудуць пчолы. І павявае ветрык. І водар кветак. Адчуваеце? Прыгожыя, слаўныя кветкі...

Сэрца поўніць удзячнасць Валеру. Удзячнасць за ягоную прыдумку, за тое, што ён так лёгка вальсуе, і вальсуе менавіта тут, ля адкрытага акна, удзячнасць кожнаму ягонаму слову. Мне здаецца, што ва мне няма ні сэрца, ні думак, ні імкненняў, а ёсць толькі гэтая лугавіна, якую ён дзеля жартаў прыдумаў, але якая жыве звычайным рэальным жыццём, і ў гэтым жыцці поўна кветак, шчэбету ластавак, бляску сонца і водару траў і кветак. Я ў палоне гэтага летуцення, гэтай дзіўнай, па-дзіцячы наіўнай казкі, але я веру ў яе існаванне, жыву ёю, радуюся, нават ніколькі не трывожуся, што яна можа скончыцца, скончыцца ў адно імгненне, як толькі аціхне радыёла і мы спынімся...

З вяселля мы ідзем разам: Валера яшчэ там, на вяселлі, сказаў, што будзе праводзіць мяне дадому. Перадранішнія вуліцы ціхія, гулкія, і я іду асцярожна, быццам нясу ў руках кволую пасудзіну. Мы ідзем пешкі да парку Чэлюскінцаў, і неба над соснамі паціху ружавее. Ночы ўжо няма, у шэрай дымцы калоны аркі ля Батанічнага саду здаюцца тоўстыя, нібыта абгорнуты шызай ватай. Мы мінаем гэтыя калоны і блукаем сцяжынкамі парку, а потым выходзім на лугавінку ля валейбольных пляцовак; белая ад расы лугавіна здаецца зацярушанай зыркім зорным жвірам.

Дом мой непадалёк, за ручаём, цераз які перакінуты жалезны масток. Ручаіна двойчы перагароджана гліністай дамбаю, і на тых азярках заўжды поўна рыбакоў. А сёлета вясною спявалі салаўі. Я кажу пра гэта Валеру, а ён смяецца, цягне мяне за руку.

— Хутчэй, хутчэй. Зараз пабачым, як хораша ўзыходзіць сонца. Ёсць такая кніжка — «Хораша ўзыходзіць сонца». Чытала?

— Чытала. І бачыла мо сто разоў, як яно ўзыходзіць.

— Але такога ты яшчэ не бачыла. Мы на вышку ўскараскаемся



і пабачым. Яго ніхто яшчэ ў Мінску не бачыць, а мы — убачым! Самыя першыя ў горадзе ўбачым!

Драўляная, даваенная яшчэ, парашутная вышка здаецца мне казачным і дзіўным збудаваннем. Мноства разоў я ішла сцяжынкаю непадалёк, але да яе не падыходзіла. Яна была звычайнай, як і любое дрэва ў парку. Але цяпер яна трывожыць і хвалюе мяне, і я падыходжу да яе з нейкай перасцярогаю. Унізе вышка шырэзная, бэлькі ўсе ў расколінах, спрэс парэзаныя сцізорыкам, перакрэсленыя рознымі надпісамі, лічбамі, імёнамі.

Першых прыступак на лесвічцы, што вядзе на перакрыцце, няма. Валера прыгінаецца, прымушае мяне станавіцца яму на плечы. І я раблю гэта, і ён узнімае мяне, і я караскаюся на драўляны насціл першага перакрыцця. А далей ўжо ёсць прыступкі, і мы ўзнімаемся на самы верх. На вачах у мяне нейкая імгла. Сэрца грукоча ў грудзях, і адчуванне свае істоты знікае, нібыта незямная зрабілася.

Такога я яшчэ не бачыла ў жыцці! Наш трохпавярховы дом за азярком, само азярко, і гліністая дамба, і рэйкі дзіцячай чыгункі, і зялёныя і сінія вагончыкі за пераездам здаюцца маленькія, быццам цацкі. І ўсё тое, што на зямлі, маленькае і кволае. А затое неба — агромністае, агромністае! І гэтае агромністае неба, з трыма маленькімі палоскамі белых хмарак, нібыта ўзнімае мяне насустрач яркаму сонечнаму дыску, што ўспаўзае на небакрай крыху лявей соснаў парку. Раней я пасміхалася з выразу «нібыта крылы выраслі». А цяпер яны ў мяне былі. І каб Валера прапанаваў мне паляцець туды, да соснаў, за якімі ўзыходзіла сонца, я нырнула б з вышкі...

І гэтае адчуванне лёгкасці і ўзнёсласці было са мною і пазней, калі мы развіталіся з Валерам ля майго дома. Я запрашала яго зайсці да нас, абяцала яму выключную «каву па-турэцку». Але ён з нейкім шкадаваннем у голасе адмовіўся і развітаўся.

Я глядзела, як ён ідзе. Ідзе спартыўным, пругкім крокам, ідзе і не азіраецца. А мне хацелася, каб ён азірнуўся. Я маліла яго, загадвала, як рабіла гэта, калі ўбачыла яго на вяселлі, але ён не азірнуўся. А я ўсё чакала, стаяла і чакала да таго часу, пакуль яго постаць не схавалася за дамбаю. Ён не азірнуўся, і мне чамусьці зрабілася ад гэтага яшчэ радасней, нібыта я пераканалася ў нечым вельмі важным і была ўдзячна яму за гэта, і птушкаю ўзляцела на свой паверх.

Дзверы былі адчынены нахлашч, і, трымаючы іх за ручку, у калідоры мяне чакала бабуля. Упершыню я адчула да яе нянавісць, сапраўдную нянавісць, і яна, гэтая нянавісць, яшчэ больш памацнела, калі пачула лаянку. «Я ночы не спала, чакала басурманку, а яна любочы да сонейка ладзіць». Аказваецца, бабуля стаяла ля акна і назірала за намі, яна бачыла, як мы ішлі дамбаю, як развіталіся! Гэта ж цуд проста, што Валера не азірнуўся. А каб ён азірнуўся, я б напэўна пабегла да яго і пачала б цалаваць, цалаваць...

Бабуля ходзіць па кухні, грыміць там посудам, бубніць «бацькам яшчэ напішу, усё чысцяком напішу», але я ўжо жыву зусім на іншай планеце. Бухнулася на ложак, закрыла вочы і зноў адчула сябе птушкай, якая можа ляцець, куды захоча. А потым бачу лугавіну над ракою, і я іду ўслед за Валерам, і Валера абсыпае мяне кветкамі. Валера ідзе шпарка і ўсё далей і далей адыходзіць ад мяне, і я не магу дагнаць яго, бо трава высокая і густая і замінае ісці.

Валера жанаты.

У іх ёсць дачка, і ёй ужо два гады. Але з жонкаю Валера не жыве.

Разышліся яны летась, а ў чым прычына — невядома. Дакладней, вядома, ёсць дзве прычыны, але адна выключае другую. Тлумачэнне Валеры: эгаістка з галавы да ног, я ёй не веру. Тлумачэнне Рыты: эгаіст з ног да галавы, верыць яму, спадзявацца на яго нельга.

Пра ўсё гэта мне расказвае Вольга. Яны прыйшлі да нас удваіх — яна і яе муж Сцяпан. Сцяпан трымаецца пачціва, з гонарам, на мяне паглядае, як на малое дзяўчо — аніводнага слова ўсур'ёз. Як толькі прыйшлі яны, дык Сцяпан амаль увесь час з бабуляю маёй — нейкая ўзаемная павага ў іх, сядзяць, гамоняць.

А мы з Вольгаю на кухні. Нам ніхто не замінае, і Вольга, нібыта выключную таямніцу, выкладвае мне ўсё, што яна ведае пра Валеру. Дакладней тое, пра што даведалася ад свайго мужа: Сцяпан і Валера, аказваецца, даўнія таварышы.

Але вось ужо і канкрэтная парада.

— Ты не вельмі давярайся яму,— раіць Вольга.— Валера галаву ўмомант замуціць-закруціць.

— Няхай круціць, галава мая.

— У Рыткі таксама была не чужая.

— Якая яшчэ Рытка?

— Жоначка яго! Законная!

— Ты ж казала, што не жывуць яны разам другі год.

— А хто можа паручыцца, што гэта праўда? Такія вось халасцякі дужа небяспечныя: іх падманулі, дык яны і любой дзяўчыне гатовыя адпомсціць. Ой, Галчо, прыглядайся ўважна!..

Я прыкусіла губу. Усё ва мне ўзбунтавалася. Чаго Вольга павучае мяне, як малое дзіця. Я не малая! І якое значэнне мае той факт, што Валера жанаты быў? Ды аніякага!

Я хлусіла сабе. Мае значэнне! Вялікае! І з гэтага пераканання брала свае вытокі неўсвядомленая яшчэ крыўда. Невядома на каго і завошта. Валера?.. Я не хацела ані ў чым яго вінаваціць. Ён не сказаў мне нічога пра сваю жонку. А хіба я пыталася ў яго пра тое? Не! І хіба гэтак прыемна казаць пра горыч сваю і бяду!.. І, зрэшты, ён не абавязаны быў спавядацца перада мною ў сваіх памылках, крыўдзе...

Валераву крыўду я не магла зразумець, я не ведала яе, а словы Вольгі мяне не пераканалі ані ў чым. І Валера да таго ж быў далёка. А тут, блізка, была Вольга, і мая крыўда скіравалася цяпер супраць яе. Толькі яе адной!

Нядобрае пачуццё пасялілася ў маім сэрцы да Вольгі. Але я перасіліла сябе.

Валера... Ён не казаў мне аб сваім асабістым жыцці нічога. Значыцца, былі на тое свае прычыны. Боязь, каб я не спалохалася?.. Дык гэта ж добра: значыцца, ён зберагаў мяне. Але каб і сказаў! Хіба ж гэта нешта змяніла б? Хіба не ўзышло б у тую раніцу сонца? І хіба ж не такое было б неба над намі, калі мы караскаліся на парашутную вышку?

Я зноў убачыла сябе там, на старым і счарнелым ад часу насціле, хісткім, драўляным насціле вышкі. І адчула тую ўзнёслую радасць, і гэтая радасць прыўзнімала, клікала, цягнула мяне цяпер з такою ж сілаю, як і там, на вышцы, цягнула ў прастору ранішняга неба...

Мы сустрэліся з Валерам.

Я ўбачыла яго твар у адчыненым акне тралейбуса, які ішоў на супрацьлеглым баку вуліцы. Убачыла, зрабіла яму знак рукою, і ён заўважыў мяне. Мой тралейбус стаяў на прыпынку, а той імчаў, але я зразумела Валераў знак рукою — загад сысці і чакаць.



Чакала тры мінуты. Пяць! А яго не было. Магчыма, я няправільна зразумела яго знак, і Валера там цяпер чакае, а я — тут? Не, не можа быць! Спакайней. Спакайней! Спакайней!

І якраз у той самы момант, калі выспела рашэнне перайсці вуліцу і сесці ў тралейбус і ехаць следам за Валерам, ён і з'явіўся.

Валера скочыў цераз заднія дзверы тралейбуса першы, падбег да мяне.

— А я там чакаю!..

Спахапілася, толькі цяпер спомніўшы: ехала ж на практыку ў больніцу! Ён выслухаў мае пярэчанні задаволена.

— Проста цудоўна, што мы сустрэліся. З самае раніцы галава баліць — страхоцце. Во, як кацёл гарачая. Лекі, таварыш доктар, патрэбны. Лекі!

Неяк міжвольна, сама напалохаўшыся свае смеласці, я паклала далонь на яго лоб. Лоб быў гарачы. І тады я заўважыла яшчэ ў вачах, нібыта пасля альбуцыду, вільготны бляск.

— Ты сапраўды, мабыць, хворы. Трэба прыняць аспірыну, сагрэцца. І абавязкова напіцца чаю з малінаю.

— А дзе яе цяпер знойдзеш!

— У аптэцы. Сухая. А можна і проста маліннік. Нікольні не горш. Прыедзеш дамоў і абавязкова зрабі гэта.

— Абяцаю. Але ты прывязеш аспірыну. Сёння. І тады я абавязкова папраўлюся. Я жыву не так і далёка. Прагрэсіўная вуліца. Ведаеш, дзе такая. А дом адразу пазнаеш. Блакітны такі дом...

Ён раптам сумеўся, вінавата схіліў голаў, даючы адчуць мне, што яго словы можна прымаць як жарт, не зусім удалы жарт з гэтым яго запрашэннем. А я збаялася, каб ён не перадумаў, не скасаваў сваё запрашэнне. На нейкае імгненне з памяці вылецела, што ён хворы: мне хацелася бачыць яго побач. Але гэта было імгненне, нейкае міжвольнае забыццё, і яно з такой жа імклівасцю, як і прыйшло, саступіла месца іншым думкам, ад якіх мне зрабілася непамысна.

Толькі аб сабе думаеш, толькі свой клопат турбуе!

— Нават і не чула такую вуліцу,— сказала я наўпярок сваім думкам.— Але назва дужа прыгожая. І сучасная зусім. Цяпер разумею, чаму цябе цяжка збянтэжыць. Ты ўвесь з прагрэсу!

— Не адстаюць ад яго і медыкі, між іншым. Яны людзі знаходлівыя, чулыя, сардэчныя. Яны не павінны кідаць цяжка хворага чалавека на вуліцы.

— Добра, паедзем да цябе зараз. Па дарозе ёсць аптэка?

— Нават дзве!

Мы ехалі трамваем, потым, на трэцім прыпынку, сышлі. У аптэцы Валера купіў аспірыну, і мы зноў паехалі.

— Пазнаёміць цябе, на жаль, з сваёй цёткай сёння мне не ўдасца. А мо яна і затрымалася. Паглядзім,— паабяцаў Валера, калі мы сядзелі зноў у трамваі.— Грымлівая такая жанчына, а сэрца ў яе добрае... Нават шкада будзе развітвацца: вясною, мабыць, яшчэ і раней, пераеду ў Мазыр. А мо нават у Рэчыцу. У мяне дысертацыя па картажу. Ты ведаеш, што гэта за штука? Ну, нічога... Вось ты мяне крыху падлечыш, а я табе цэлую лекцыю па геалогіі прачытаю. Цяпер гэта вельмі захапляе ўсіх — нафта.

На Старажоўцы мы сышлі з трамвая і, мінуўшы будынак кінатэатра, пайшлі старымі могілкамі. Ад могілак амаль нічога не засталося, толькі горбіліся пад старымі дрэвамі пакатыя курганкі, прыцярушаныя пажоўклай лістотаю. За могілкамі пачалася вузкая пясча-

ная вулачка, з глыбокімі калдобінамі, у якіх плавалі сытыя гусі. З вуліцы павярнулі ў правулак і апынуліся ля ручая.

Я тут ніколі не была. Дзіўна было бачыць пасля грукатлівага трамвая і шумнай вуліцы гэтую амаль вясковую цішу; і нідзе вакол не было прыкметна аніякага руху, не чуваць аніякага гуку. На мастках я нават запыніла хаду і, трымаючыся за тоўстую драціну, што была нацягнута замест парэнчаў, пачала зыбацца. І тады мне падалося, што разам са мною пачалі зыбацца старыя пахілыя вербы, разлапісты бур'ян, высокі комін фабрыкі за высокім шчыльным плотам.

Ад ручая мы пайшлі сцежкаю, затравелай, жоўта-бурай ад лістоты. Паабапал сцежкі цягнуўся нізкі жардзяннік, няроўны, заматаны, як вяроўкамі, тоўстым і доўгім бульбоўнікам; там-сям бульбоўнік быў з карэньчыкамі, на якіх чырванелі абмытыя дажджом дробненькія, як гарошынкі, бульбінкі.

І раптам наперадзе вырасла, як сцяна, заглуш вішняку, жардзяннік бы зламаўся, упершыся ў яе. Ісці трэба было сагнуўшыся, гледзячы сабе толькі пад ногі, каб не спатыкнуцца, і, калі вішняк скончыўся і можна было выпрастацца і зірнуць, я войкнула ад здзіўлення.

Перада мною, абкружаны жоўтымі вяргінямі і фіялетавымі мальвамі, стройнымі, як маладыя кіпарысы, стаяў блакітны дамок. Я ніколі не бачыла, каб дом малявалі ў такі колер. Вяргіні і мальвы захінулі ўвесь падмурак, і таму здавалася, што сам дамок з вастраверхім дахам і зашклёнай тэрасай нібыта стаіць на кветках.

Сонца вісела над высокімі дрэвамі дзіўна густога і велічнага парку, і вада ў рэчцы ззяла агністым бляскам; рэчка была зусім блізенька, за вузкім гародчыкам і праглядвала цераз навісь галля. І гэты агністы бляск вады, і сам гэты дамок, і старанна дагледжаны гародчык з трыма разгалістымі яблынямі ў цэнтры і вішняком ля плота, і дрэвы на беразе рэчкі, і высокі каменны гмах, што краем вытыркаўся злева з-за вяршалін старых вербаў, здаваліся казачнымі, амаль ненатуральнымі, як прыгожа і ўдала зробленая дэкарацыя.

— Тут я жыву,— сказаў Валерка і адчыніў перада мною веснічкі, зробленыя ў плоце і таксама, як і плот, спавітыя бульбоўнікам.

— Царства кветак і зеляніны. І нават плюскоча вада. Твая цётка, часам, не чараўніца?

— Амаль што. Яна будуе палацы. І дае людзям радасць. Але палацы — несапраўдныя. І радасць — таксама. Яны — бісквітныя. Гэта ж бісквітка побач. Вунь, комін за рэчкаю. Там і ёсць фабрыка. І цётка там працуе.

— Нават не верыцца. Свіслач, а такая прыгожая.

— У-уу!.. Тут такія куточкі ёсць — казка. Быў час, я любіў блукаць па Мінску — ніякай мэты наперадзе. Ідзеш, ідзеш, ідзеш... Дарэчы, вось не звярнула ўвагу, якой вуліцаю мы ішлі? Варварынскі завулак! Якая назва, а? Альбо: Фабрычная, Уральская... Але гэта ўжо зусім другі раён... Я там жыў раней...

Ён нібыта спатыкнуўся, змоўк і, быццам прыгадаўшы што, спытаў мяне:

— Ты, ніколі, мабыць, і не была тут?

— Была. У «Спартак» мы хадзілі з Вольгаю. Ой!

Я спалохана мітнулася за весніцы — ад хаты імчаў на нас кудлаты сабака. Падбег да весніц, сеў на заднія лапы, матляе хвастом, бы падмятае сцежку.

Валера супакоіў мяне:

— Ён з выгляду такі страшэнны. А сам — напалохаўся. Падбегчы бліжэй — баіцца. Лахмач, ідзі сюды, ідзі!..



Сабака імпэтна кідаецца да нас. Але дакрануцца да яго я баюся і хаваюся за Валераву спіну.

— Ды што ты яго баішся? Памацай, які ён мя-яккі! Лахмач, давай лапу!

Сабака паслухмяна садзіцца, працягвае кароткую кудлатую лапу, і я асцярожна кратаю яе. Мяккая, цёплая лапа!

Мы ідзем да тэрасы. Сабака весела трухае побач, не забягаючы наперад, але і на крок не адстаючы. Аднак на тэрасу прашмыгнуў і адразу ж лёг пад сталом.

На тэрасе не вельмі светла — ля акна ў вялізнай драўлянай бочачцы расце разлапістае дрэўца лімона. На сцяне, у кутку ля дзвярэй, ля самай столі, вісяць лыжы, жоўтыя, з чырвонай паласой пасярэдзіне.

— Твае лыжы? — спытала.

— Мае. За возерам выдатныя горы ёсць. Зімою будзем з табою на лыжах лётаць. Ты можаш на лыжах?

— Не вельмі! З горак люблю каціць, але больш — носам у снег.

— Зімою я цябе навучу. Я адзін сакрэт ведаю — з любой гары паедзеш і не паваліцца. Але да зімы не блізка, так што ўключай плітку, стаўляй чайнік, а я маліннiку прынясу. Не, лепей я сам гаспадаркай займуся. У халасцяцкай гаспадарцы не адразу сцяміш, што да чаго. Цётка сама па сабе, а я — сам па сабе. Так жывем. Рыта Аляксееўна мне гэта і прарочыла: закукуеш, усё казала, ды позна будзе...

Змаўкае, бы нешта прыгадаўшы, потым пачынае тлумачыць, і на твары яго одум.

— Гэта жонка мая прарочыла. Мы пазалетась разляцеліся. Яна на Уральскай засталася — там у нас кватэра была. Цяпер яна ў Манголію паехала на будоўлю — яна інжынер. Ты, напэўна, хочаш ведаць, чаго мы з ёю не падзялілі?

Я пацiснула плячыма. Моўчкі. Потым паспешліва дадала:

— Хачу. Навошта ж хлусіць?..

— Правільна. Хлусіць трэба, калі не верыш. А ёй я не верыў. Яна аднойчы падманула мяне, у дробязі, зусім нязначнай дробязі. А пасля таго я ўжо не мог ёй верыць. Разумеў, што не зусім правільна раблю, а перайначыць сябе не мог. Мы жылі разам, але вакол нас ужо быў вакуум. Часам мне хацелася нешта сказаць ёй, параіцца, але не было веры, і я маўчаў...

— А мне ты, значыцца, верыш?

— Мне з табою добра. Неяк дужа добра. І я нават не сярдую, што ты не робіш зараз патрэбнае.

— Не разумею...

— Ты павінна зараз быць не тут, а там,— ён паказаў рукою на адчыненыя дзверы.— І ламаць маліннік. Бяры ў памагатыя Лахмача. Лахмач! На́ ручку! — І ўжо ўслед, калі я была на падворку, гукнуў: — У самы канец саду ідзі, за Лахмачом кіруйся. Ён ведае...

Сцежка была ля вішняку, і Лахмач бег наперадзе, і потым паслухмяна садзіўся, чакаў, пакуль я падыду, а потым зноў кідаўся наперад. Маліннiку было поўна паабапал сцежкі, і я наламала яго вялізны пук, але да хаты не павярнула — хацелася агледзець увесь садок. Сцежку ахінула заглуш вішняку, і я сагнулася, і колькі крокаў так і ішла, заплюшчыўшы вочы — галіны сцёбалі па твары. Але вось вішняк скончыўся, скончыўся раптоўна, як жыта на ўскрайку поля, і я спынілася, аслупянеўшы. Ля ног маіх была шырокая рака. Супроцьлеглы, затравелы бераг адлюстроўваўся ў ціхай плыні. І адбітак

гэтага берага, і чатырох старых вербаў, што шнурам схіліліся над вадою злева ад мяне — як рукой крануць, і Лахмач, які, нахіліўшыся, піў ваду, здавалася, некуды плывуць; але адбіткі гэтыя нікуды не знікалі, і гэта яшчэ больш павялічвала рэальнасць руху.

За вербамі рос стары клён, скрыўлены ля камля, і Лахмач падбег да яго і сеў на заднія лапы і глядзеў на мяне, быццам клікаў. Я падышла да клёна і села на яго камель, як на лавачку — зручна дужа, нават адхінуцца можна,— і, прысеўшы, убачыла вясёлку. Я бачыла толькі адзін край яе, той, што нібыта зачапіўся за гнуткія галіны, але здавалася, якая шырокая і магутная вясёлка вісіць там, дзе плескатаў вадазліў плаціны.

Я слухала мяккі шорхат вады, і ён зацягваў мяне ў вірлівае кола думак; думкі гэтыя доўга не спыняліся на нечым адным, але аднолькава хвалявалі і абуджалі сумненні. Рыта... Рыта Аляксееўна, як казаў Валера. Другі раз я чую гэтае імя. Папярэджвала Вольга. Цяпер зусім нечакана пачаў казаць пра сваю жонку Валера. Казаў без тугі, роспачы, з нейкім пачцівым смяшком. Сам прапанаваў расказаць пра тое, што развяло яго з жонкаю, але так нічога пэўнага і не сказаў. Вера... Вакуум... Але ж да таго, як утварыўся той вакуум, вера была і было нешта, што звязвала іх разам... Звязвала? Але і цяпер нешта звязвае іх? Хіба бывае, што людзі ў адзін міг скасуюць сваё былое сяброўства і ніколі аб ім і не прыгадаюць?

Пра гэта, вядома, смешна пытацца. А самае лепшае, здаецца, увогуле пра тое не думаць, проста прымаць усё так, як ёсць, глядзець на гэтыя прыгожыя вербы, нерухомы зялёны бераг, што, здаецца, схаваны на самае дно Свіслачы... Дзіва! Пражыла столькі год у Мінску і не ведала, што ёсць у ім такія прыгожыя куточкі! І Свіслач якая! Звычайная вясковая рэчка! І амаль у самым цэнтры горада!..

Але неяк няма ціхамірнасці на душы. Я гляджу на прыгожыя вербы, ціхую плынь ракі, а думкі скіроўваюцца да ранейшага. Валера і Рыта! Але ж яе няма! Трэба прымаць усё так, як ёсць. Але гэта ж звычайны эгаізм: я ёсць, мне добра — астатняе мяне не тычыцца! Не, па гэтай формуле я жыць не магу! Валера мне мог усё і не расказваць, не павінен нават... Але я павінна сама разумець сувязь падзей, ведаць мінулае... Мажліва на гэтым вось месцы сядзела яна, Валерава жонка, невядомая мне жанчына, а ён быў побач... А мо яны сядзелі разам, на гэтым вось камлі клёна, а плынь была такая ж, і такія ж адбіткі былі на ёй, і плынь гайдала гэтыя адбіткі, і гэтак жа вісела ля плаціны вясёлка, а Лахмач ляжаў на беразе?..

Я ўзнялася. Глупства нейкае думаю, невядома якія паралелі праводжу. Гэтая мая заўсёдная рацыяналістычнасць. Усё значна прасцей у жыцці! Я вось тут сяджу, а Валера там чакае. І ён жа хворы!

— Гэта ты? — пачула я Валераў голас, калі ўзышла на тэрасу.— Пакладзі малiннік і ідзі сюды. Зараз чайнік закіпіць, тады заварым...

Дзвярэй у суседні пакой, адкуль гукаў мяне Валера, няма, замест іх у прасценку вісіць нейкая старасвецкая парцьера. Пакойчык маленькі зусім — у ім ледзьве змяшчаюцца вузкі столік ля акна, канапа і два крэслы. На сцяне самаробны стэлаж, які загружаны кнігамі; кнігі таксама ляжаць на стале і на спінцы канапы.

Валера стаіць ля стала з кніжкаю ў руках. Убачыў у маіх руках пук маліннiку, здзівіўся:

— А чаго ты яго сюды прынесла? Дай сюды... Я зараз там усё давяду да ладу, а ты пагартай кніжку. Яна зацікавіць. «Беларуская нафта». Чула пра такую?



— Пра нафту — чула.

— Тады глядзі і кнігу...

Я трымаю кнігу ў руках, гартаю старонкі, але думкі мае вельмі далёкія ад нафты. На тэрасе — грузныя крокі, рыпяць масніцы, брэнькае шкло — Валера гаспадарыць. І ўсё гэта — за маёй спіною, а перада мною — адчыненае акно, і за ім сад, і мядзяныя ад вечаровага сонца вербы і кавалак блакітнага і чыстага неба... Я кладу кнігу на стол, і тады маю ўвагу прыцягвае перакідны каляндар. Чатырнаццатае верасня. Чатырнаццатае! Цяпер толькі разумею сэнс гэтай лічбы. Гэта ж месяц мы не бачыліся з Валерам. Так, вяселле ў Вольгі было ў жніўні... Значыцца, трыццаць дзён мы не бачыліся з Валерам. А такое адчуванне, быццам і не развітваліся зусім, а ўчора былі ля майго дома, і я запрашала яго зайсці да нас, абяцала напаіць кавай...

На спінцы крэсла вісіць усё той жа пінжак, спартыўнага крою, з кароткаватымі рукавамі. У гэтым пінжаку ён быў на вяселлі ў Вольгі і танцаваў са мною. А ў чым жа ён быў апрануты зараз, вось там, на вуліцы, калі мы сустрэліся? Я не магу прыгадаць, і гэта дзівіць мяне, і кратаю рукою пінжак, што вісіць на спінцы крэсла. Тканіна пінжака мяккая, яшчэ крыху цёплая ад Валеравага пляча. І ад дотыку да яе, ад думкі, што гэта ж у ім ён і быў сёння, а толькі што зняў і павесіў на крэсла, у маім сэрцы, як выбух які, пачынае гучаць знаёмая мелодыя вальса, і я ўся ў тым далёкім, нерэальным, але блізкім сэрцу свеце...

— А ў мяне ўсё гатова! Будзем піць чай!

Валера стаіць на парозе, адкінуўшы ўбок парцьеру, і я бачу стол на тэрасе, застаўлены шклянкамі, і адчуваю пах распаранага маліннiку, і заўважаю яшчэ хваравіты бляск у Валеравых вачах. Чай? Які тут можа быць чай! Яму зараз жа трэба выпіць лякарства і класціся ў пасцель!..

Але мая настойлівасць нічога не дае. Валера амаль сілаю ўсаджвае мяне ў крэсла, бярэ ў рукі слоік з варэннем.

— Пачастую цябе чаем. І сам тры шклянкі вып'ю. Заўтра — здаровенькі. Я доўга не хварэю! І не люблю, калі пра хваробы гавораць. Я прыхільнік псіхатэрапіі, звычайнай псіхатэрапіі ва ўласным тлумачэнні: кажы чалавеку пра здароўе, і ён будзе здаровы. Прызнае гэта медыцына? Калі не, дык мёд яна прызнае. Частуйся... Гэта — кушлікоўскі мёд. Чула калі-небудзь пра такі?

Я паціснула плячыма.

— Бачым, не чула. А Кушлікі — гэта вёска. І там мой дзед жыве. І мама мая там непадалёк жыве... Яна ўсё просіць мяне прыехаць, забраць варэнне... З ажыны варэнне. Ты не ела варэнне з ажыны? Вось прыеду адтуль — атрымаеш цэлы слоік. А мо разам давай паедзем?

— У мяне ж заняткі.

— Зімою. Пасля сесіі.

— Пасля сесіі мы ў Ленінград едзем на экскурсію. На мне ўся адказнасць за паездку. Па лініі мясцкома выраршана.

— Тады вясною ці ўлетку!

— Вясною — дыплом абараняць. А ўлетку — на работу трэба ехаць. Ты мне лепей раскажы пра свае Кушлікі...

— А Дзвіну ты калі-небудзь бачыла?.. Ну, уяві сабе. Высокі, высокі бераг. Гліністы, круты — напрамкі і не ўзлезеш. І па саменькім краечку — сосны. А ўнізе — рака. Асака зялёнай вужакай ля берага, і над ёю — кнігаўкі лётаюць. А крыху вышэй асакі — вербы. І яны спавіты хмелем і ажынаю — як на гушкалцы можна гушкацца.

А ноччу, ціхай ноччу, калі свеціць поўня, вада ў рацэ, і асака, і вербы, і сосны — срэбра адно. А на ваду зірнеш — плыве ўсё: бераг, вербы, сосны, асака, поўня... Бясконца плыве... А ты сядзіш, юшку варыш, слухаеш... У вёсцы спяваюць. Ці ходзіць нехта па тым беразе з транзістарам. А ты даўмецца не можаш: куды, адкуль плывуць гукі. Быццам адтуль, з высі, з соснаў злятае ўсё уніз, да ракі, а плынь гоніць, гоніць... А ранкам — сонца. Ружовы туман над вадою. І ад ветру асака, здаецца, нешта табе гамоніць, гамоніць. І кнігаўка прачнецца — як дзіцячы галасок над вадою.

Роўныя прыцемкі на тэрасе, і мяккае святло насценнага бра за спіною ў Валеры, і ліхаманкавы бляск вачэй. Мабыць, гэта ад святла такія вочы. Не, ён жа хворы! Але ў словах Валеры — дзіўная летуценнасць, яна закалыхвае, цягне ў зманлівую, салодкую прорву.

— Табе трэба класціся,— кажу я, зусім не намерваючыся ні ўзнімацца ці што-небудзь рабіць.

— Так, трэба. Толькі ты не знікай. І не бойся цёткі — сёння яна ў другой змене.

— А я не баюся. Я нічога ўвогуле не баюся.

— Гэта правільна. І ты пасядзі крыху. Я на канапу прылягу, а ты не знікай, пасядзі. Я павінен табе шмат расказаць пра лясы яшчэ. Там такія лясы! Партызанскія скрозь. Мой дзед быў партызанам. Яго там усе ведаюць...

Мажліва гадзіну якую я сяджу ля канапы. Мы амаль нічога і не гаворым. Валера ўсё парываецца мне нешта гаварыць, але я забараняю, загадваю ляжаць і не варушыцца, і ён ляжыць, не варушыцца, і пакрысе яго адольвае сон.

— Ты чараўніца. Я бачу цябе, але адчуваю, што зараз буду спаць. Быццам плыву некуды... Толькі ты заўтра прыходзь. Я буду чакаць. Прыходзь абавязкова!

Я кіўнула са згодаю галавою.

— А не падманеш? — спытаў Валера.

— Не падманвала. Ніколі і нікога.

— Ведаю. Ты шчырая. І добрая... Дужа добрая. А Лахмача не выпускай з саду. Ён мяне пакаравуліць...

Валера тут жа засынае і спіць моцна, і я выключаю насценнае бра і ціхутка прычыняю дзверы тэрасы.

На мосце цераз ручай я прыпыняюся. У садку на супрацьлеглым беразе ручая бялеюць дзве старыя бярозы. Чаму я не заўважыла іх, калі ішла разам з Валерам? Мабыць, болей наперад глядзела, а яны за спіною былі. Неба над бярозамі бэзавае, а крыху правей жаўтлявае, з рэдкаватым адценнем зеляніны і амаль зліваецца па колеру з лістотаю. Па дзіўных няроўных траекторыях, быццам завінчваючыся, ляцяць да зямлі тонкія, завостраныя з канцоў, вузкія лісцінкі вербалозу, а галіны ледзьве ўлоўна вагаюцца, бы дрыжаць ад звону трамвая, амаль няўлоўнага. А бярозы стаяць самавіта, нерухома, у строгай павазе ўзіраюцца вяршалінамі ў бэзавую далячынь вечаровага неба.

Слаўна! Як жа слаўна і добра ў гэтым зацішным кутку! Заўтра я прыйду сюды абавязкова, і буду сядзець там, на беразе рэчкі, і Валера паправіцца, і ён мне зноў пачне расказваць пра сваю Дзвіну, пра ажыну...

А мо запрасіць яго, каб паехаў разам у Ленінград? Не, не трэба гэтага рабіць. І, магчыма, увогуле не трэба ніколі болей прыходзіць сюды? А чаму не трэба? Таму толькі, што Валера жанаты? Дык гэта ж мінулае! Яго мінулае! І ён не тоіць яго ад мяне. Ён — верыць мне. І я не спрабую разбураць яго шчасце, калі яно было там, у тым



мінулым. Няхай ён скажа: не прыходзь, і я не пайду. Але ж ён патрабуе, каб абавязкова прыходзіла. Ён — верыць мне. І ў мяне няма падстаў баяцца і не верыць Валеру! Аніякіх падстаў няма!..

Абед у Вольгі.

На абед гэты запрошаны мы з Валерам — госці.

Прычына гэтай падзеі — артыкул Сцяпана ў маскоўскім часопісе. Але аб ім — падрабязна.

Улетку Сцяпан быў на студэнцкай практыцы — група журналістаў ездзіла па розных абласцях рэспублікі з адным заданнем: напісаць нарыс аб новых з'явах нашага жыцця. Сцяпан папрасіўся на нафтапромысел, і быў пад Рэчыцай, і напісаў нарыс пра маладых геолагаў, і паслаў нарыс у маскоўскі часопіс, і той надрукаваў яго.

Нарыс мне не падабаецца. Праўда, там, дзе гаворка пра Валеру — напісана цікава: гэта пра тое, як на адной свідравіне нечакана пайшла нафта і разам з геолагамі аспірант Валера Нрык дзейнічаў асабліва мужна і смела. А Вольга лічыць, што нарыс — шэдэўр, бляск, прыгажосць. Спрачацца з Вольгаю ў гэтым выпадку — марная трата часу: усё тое, што звязана з імем Сцяпана, яна лічыць бліскучым.

Ведама, яна не так прамалінейна гэта гаворыць, але сэнс яе пярэчанняў і доказаў менавіта такі. Дзіўная логіка. Але я сваю думку не змяняю: звычайны нарыс! Вольга ж так узнялася, што я адразу перавяла гаворку на іншае — пачала захапляцца тым, што стаіць на стале. І трэба сказаць, што абед, які Вольга наладзіла з нагоды Сцяпанавага нарыса, сапраўды бліскучы.

Спроба мая перавесці гаворку не мела поспеху. За сталом месца толькі аднае гаворкі — Сцяпанаў нарыс. Гаворку цалкам захапіла Вольга. А мы — слухаем. Яна ж гаворыць, гаворыць, гаворыць. І глядзіць на Сцяпана, нібыта на ікону.

Божухна, як сляпіць людзей каханне!

А Валера змрочны. Ён пасміхаецца, часам кідае нязначную заўвагу, але атрымліваецца ўсё неяк наўскасяк, нібыта пнецца чалавек падкалоць гаспадыню, памуціць сяброўскую стрэчу.

Віна ці гарэлкі на стале няма — Вольга забараніла. Стаяць бутэлькі беларускай мінеральнай вады. Валера з гэтае нагоды кпіць.

— Сцяпан можа з цягам часу выбіцца ў пісьменнікі. Але ты, Вольга, забіваеш яго літаратурныя здольнасці... Сапраўдныя пісьменнікі аздабляюць сваю фантазію творчую добрым віном, і яно жывіць яе, надае ёй колер, гэтай фантазіі, своеасаблівасць. А галоўнае, яно закрэслівае старыя ўражанні — нараджае новыя: тое ж самае, што загрунтоўка палатна ў мастака, які замысліў новы твор. Карацей кажучы, сур'ёзныя пісьменнікі і мастакі п'юць не мінералку!

— П'яніцы. І былыя пісьменнікі,— удакладняе Вольга.

— І яшчэ пісьменнікі павінны любіць жанчын. І віно,— змрочна настойвае Валера.— А ты яму што прапаноўваеш? Мінералку. З гэтае мінералкі ён можа быць чалавекам мінеральным, але ніяк не творчым!

Вочы Вольгі кідаюць маланкі, але ўся яна сцялася, быццам гатовая рынуцца ў сапраўдную бойку.

— Творчым ці мінеральным ён будзе — не ведаю. Але скажу табе з дакладнасцю абсалютнаю: вочы заліваць гарэлкаю яму не дазволю! Ясна табе?

Гэта закід у Валераў адрас асабісты: ён прыйшоў на абед на падпітку, і Вольга дэманстратыўна не паставіла на стол віна. Цяпер Ва-

лера і гаворыць і робіць назнарок, зусім не верачы ў тое, што гаворыць — дражніцца. Выпіў шклянку мінералкі, дэманстратыўна хукае і нюхае скарынку хлеба — адкрыты падкоп! Вольга ўсё гэта бачыць, але болей у Валераў гарод камення не кідае.

Абед заканчваецца мірна. Мы з Вольгаю мыем і ладкуем посуд на кухні, а Валера і Сцяпан гутараць у пакоі. Яны ўсё гавораць, гавораць, гавораць... Часам то адзін, то другі збіваюцца на шэпт, потым узвышаюць голас ледзьве не да крыку; мне чуваць асобныя словы, але пра што там у іх гаворка — зразумець цяжка.

— І вось амаль заўжды ў іх гэтак,— скардзіцца мне Вольга.— Гэты — свае дурацкія ідэі вытрухвае: віно, жанчыны... Ці аб праблемах геалогіі і непаладках на кафедры. Патрабуе ад Сцяпана: ты журналіст, маўляў, словам валодаеш, газеты цябе ведаюць — пішы! Пішы і выводзь бюракратаў на чыстую вадзіцу — пісьменнік, маўляў, гэта барацьбіт і павінен змагацца. А Сцяпан пасля заняткаў, як вяхотка выкручаны. Трэба адпачыць, творча за сталом падумаць. А хіба ж ён можа адпачыць, калі гэты яго сваімі ідэямі нашпігуе, нервы ўзвінціць?

— Звычайныя жарты...

— У яго ўсё звычайнае. А ў кожным слове — цвік востры, каб абавязкова ўкалоць. Нейкая скандальна-таленавітая асоба, гэты Валера. І прыкмячаеш? З гарэліцай здружыўся. Я ўжо апасаюся, каб ён і Сцяпана на тое не збіў...

Мы ўваходзім у пакой, і нас сустракае маўчанне. Гаворка не наладжваецца, і Валера пачынае развітвацца. І робіць гэта так, што заставацца мне таксама не выходзіць, і мы ідзем разам.

На вуліцы Валера дае волю сваім пачуццям. Ён ідзе хутка, па-спартыўнаму пругкім крокам, і я ледзьве паспяваю за ім. Няхай бы ён цішэй ішоў! Але папрасіць аб гэтым не хачу і ўподбег імчу побач.

— Абывацелі! — гнеўна гукае Валера.— Шэрае племя абывацеляў! Не паспееш азірнуцца, як на чалавеку, які зусім нядаўна быў сапраўдным чалавекам, ужо блішчыць мяшчанскае забрала. А на душы, як у чайніку: накіп. Але ж душа не чайнік, туды вады з вочатам не налееш і на агонь не паставіш, каб накіп зняць. Артыкулы, артыкулы... І ўсё — геніяльныя! Сярэдняга ўзроўню допісы, а ляманту вакол іх, як у сусветны патоп!..

Мяне абурае яго тырада. Які разумны абвінаваўца! І каго ён абвінавачвае? Вольга абывацель? Ды я Вольгу здаўна ведаю, разам з першага класа ў школе вучыліся. І ў інстытут разам. Мужа пахвальвае? А што, лепей, каб яна яго ганіла ва ўсім?

Валера незадаволена моршчыцца. Шырокая зморшчына прарэзвае лоб, бы ссоўвае бровы ніжэй, і ад іх ценю вочы робяцца цёмна-сінія, амаль чорныя.

— Занадта ты прамалінейная. Любое пытанне ты лінеечкаю падзяліць можаш...

— А калі лінеечкаю, дык адразу і няправільна? Ісці прама — значыцца, ісці найкарацейшай дарогаю да ісціны. А лінеечка — яна фактаў, вернасці патрабуе.

— Эквілібрыстыка! Факт — гэта яшчэ не ўся праўда: трэба бачыць і разумець, што хаваецца за ім — тады да праўды дойдзеш. Вось ты кажаш, што артыкул — факт. А хіба ж такі артыкул ён павінен быў пісаць? Ён бачыў гэтулькі непаладкаў... І бачыў таму, што іх яму і паказалі. І яшчэ прасілі: напішы пра тое, што замінае, чаго не павінна быць, хто абавязаны дапамагчы... І ён жа запісваў, абяцаў... А ў часопісе — фіміям курыць. А каму ён патрэбны, гэты салодкі дымок? А цяпер спакойненька пацягвае мінералку, беражэ свой талент ад



шкоднага ўздзеяння алкаголю. І слухае пахвальбу жонкі, як цёплую ванну прымае! І захапляецца каханнем! Хіба ж сапраўднае каханне падобнае на гэтую абедзенную ідылію? Гульня гэта!..

— А што, на тваю думку, не гульня?

Ён спыняецца, быццам наляцеў на якуюсь перашкоду. Чужыя зусім незнаёмыя мне вочы глядзяць ва ўпор — колкія, халодныя. І мне пад гэтым позіркам робіцца холадна, нібыта сіверам абвеяла спіну.

— Што не гульня?

Спытаўшы, ён доўга не адказвае; мы ідзем і маўчым. Я чакаю яго адказу, і ён ведае гэта.

— Што не гульня? — перапытвае Валера і дадае марудна, нібыта мяне тут няма і ён размаўляе сам-насам.— Не гульня — гэта тады, калі чалавек ані ў чым не хлусіць. Нават у дробязях!.. Не гульня, гэта тады, калі каханне сапраўднае. А сапраўднае... Яно як гераічны подзвіг. Вялікі і цяжкі, зусім не лёгкі подзвіг. А, зрэшты, лёгкім подзвіг і не бывае. Чалавек нараджаецца, расце, вучыцца — усё гэта падрыхтоўка да подзвігу, які праднаканаваны яму: у гэтым — сэнс жыцця. Адзін зробіць яго ў вялікім, другі — у малым. І калі чалавек хоча зрабіць свой подзвіг — ён павінен забыцца на сваё асабістае «я». Так і ў каханні. Кахаць, гэта значыць адкінуць сваё асабістае, эгаістычнае «я», аддаваць сябе цалкам, усяго, да апошняй драбніцы аддаваць. І нічога не патрабаваць узамен. Нічога ўзамен!

— Чалавек павінен нешта атрымліваць ўзамен. Інакш, кахаючы, ён раздорыць сябе цалкам!

— Ніколі! Каханне, калі разглядаць яго абстрактна, самае звычайнае слова — не больш і не менш. Як, скажам, паветра, дрэва, птушка... Трэба пераліць самое сябе ў гэтае слова, цалкам увасобіць. І тое, як ты зробіш гэта, ёсць крытэрый тваё чалавечай годнасці. Калі гэта праца — у ёй увесь ты; калі гэта каханы чалавек — значыцца, усё дзеля яго радасці і шчасця, усё да апошняй драбніцы, без падману і фальшы. І калі хоць адзіны крок будзе фальшывы, калі хоць адзінае слова з падманам — у выніку толькі падман. І нічога больш!

Я перапыніла яго, пачала пратэставаць і спрачацца. Як гэта можна яго разумець? Будуе нейкія павучальныя канцэпцыі і аніводнага слова канкрэтнага. А гаворка ў нас пачалася менавіта з фактаў канкрэтных. Значыцца, калі перавесці яго канцэпцыі на глебу рэальную, жыццёвую, дык атрымліваецца ўсё вельмі проста: Вольга не кахае Сцяпана, а Сцяпан не кахае Вольгу. Бо там гульня, паводле яго слоў, аніякага подзвігу...

Валера ўзяў маю руку, ціха патрос яе:

— Акрамя ўсяго, ёсць жа і маленькія чалавечыя слабасці. А яны — па-за ўвагай маіх разважанняў!

— А я не хачу, каб «па-за ўвагай»...

— Ты хочаш праўды. А чаму яна не хоча казаць яму праўду? Чаму яна ўхваляе яго гэты нарыс? Яна ж таксама была на ўчастку, няхай меней Сцяпана, але ж шмат бачыла і сама абуралася некаторымі фактамі. Дык што ж, ёй цяпер славы мужа захацелася? Пісьменнікам яна яго бачыць! А ты ведаеш, што такое пісьменнік? Пісьменнік — гэта як сэрца легендарнага Горкаўскага Данка: ён выняў сваё сэрца і ўзняў над галавою, каб людзям было светла, каб людзі ўбачылі правільную дарогу наперад. Разумееш?.. І ўяві сабе: Данка схаваў сваё сэрца, сядзіць ля жоначкі. А бацька жонкі — дацэнт. І дацэнт пабудаваў для свайго Данка кааператыўную кватэру. І Данка жыве ў гэтай кватэрцы, салодка есць, запівае стравы мінералкаю і слухае салодзенькую ўхвалу сваім нарысам... Гэта — горай гульні! Гэта гуль-

ня лялек. Мінеральны фарс! Мінеральна-лялечнае фарысейства, а не каханне!

Ён напалохаў мяне. Бровы схмурнелі, чырвоныя плямы на твары. І страшэнна чужыя, звужаныя вочы. Зусім цёмныя вочы! А яны ж у яго заўсёды былі блакітныя!..

Мы ішлі. Размаўлялі. Але нейкая нябачная мяжа падзяляла нас, і мы не мкнуліся скасаваць яе.

А вочы! Якія ў яго вочы, калі ён злуе!.. А цяпер — зноў блакітныя! Добрыя! Дужа добрыя вочы! І цеплыні колькі!..

Снег!..

Урэшце ён ідзе, гэты доўгачаканы і жаданы снег!

Снег ішоў увечары. Ішоў, мабыць, усю ноч і ідзе цяпер, ранкам. Я на ложку яшчэ і бачу шэраватае неба. Нават не неба, а нешта дужа блізкае, і адтуль, з гэтай блізкай белаватай шэрані, з невытлумачальнай блізкасці, вылятаюць буйныя зоркі і ападаюць на дах суседняга дома, скочваюцца ўніз і ўжо знізу ўзлятаюць да майго акна.

Фортка адчынена. Снегавыя зоркі часам залятаюць у фортку, і я зрываюся з ложка. Злавіць! Злавіць зімовую зорку рукамі! Падбягаю да акна, падстаўляю далоні... Вось яна, снегавая зорка, бяры яе ў прыгаршчы! І тут жа яе няма, растала, як здань.

Снег, снег... Значыцца, лыжы! Мы так дамовіліся з Валерам: як толькі будзе добры снег — едзем на лыжах. І смешна, вядома, казаць, што я раптам гэта цяпер і прыгадала тое! Я памятала пра гэтую нашу дамоўленасць усе гэтыя дні, памятала ўчора, калі пачаўся снегапад і я клалася спаць, памятала нават ноччу.

Але ноччу гэта было ў сне. Сасніласяr: снег, лыжы, вялізная гара... І мы імчым з гэтае гары, і я моцна так стаю на лыжах... А потым поле, за ім — яшчэ большая гара. Мы доўга-доўга караскаемся на яе. Калі зірнула ўніз — сэрца ва мне спынілася. Снег. Снег быў толькі на схілах, а ўнізе ззяла рэчка, а за ёю стракацеў кветкамі шырозны луг. Я не магла крануцца з месца — баялася. Але Валера нахіліўся блізка да мяне і сказаў, што ведае сакрэт, і я паверыла, і адразу пасмялела, хоць і не пачула, у чым той сакрэт ёсць, і мы панесліся з гары ўніз...

— А вой ты вой, долечка мая! І што ж яна гэта вырабляе! — вохкае за маёй спіною бабуля.— Лезе сляпіцаю пад самую фортку. Захварэць? Зачыні!

— Снег! Колькі ж яго найшло!

— Снегу яна не бачыла! Халадэчу ў кватэры зрабіла!

А мне смешна глядзець, як бабуля, вохкаючы, затуліўшы твар каўняром кофтачкі, сунецца да акна. Зачыняю фортку сама, смяюся:

— Пакоцім разам на лыжах?

— Толькі мне гэтага нестае, лыжаў тваіх. Ідзі мыйся і снедаць будзем!..

Ад халоднай вады ломіць зубы. Але я не звяртаю на гэта ўвагі — бегчы на кухню, каб узяць цяплейшай вады, няма часу. Хуценька шморгаю шчоткаю зубы, мыюся — усё раблю спехам. За сталом часцяком пазіраю на гадзіннік.

— Што, гарыць? — пытаецца бабуля незадаволена.

— А як жа! Снег можа растаць,— кажу, смеючыся, і адчуваю ніякаватасць і кажу ласкава.— А што ты робіш пасля снядання? У «Партызане» добры фільм — пра шпіёнаў. І білеты зранку без чаргі. Пойдзеш?



— Заўтра пайду,— лагодна гаворыць бабуля: яна заўжды лагаднее, калі прапаноўваеш схадзіць у кіно — вельмі любіць глядзець розныя дэтэктывы.— На Камароўку пацягнуся. Тварагу пашукаю.

Бабуля прынцыпова не хоча купляць тварог і масла ў краме, а спецыяльна едзе на Камароўку і там купляе ўсё гэта. Смятану таксама. А калі я што-небудзь прынашу з крамы — не дакранецца. Колькі я ўжо ёй даводзіла — на сваім стаіць: тварог і масла на Камароўцы смачнейшыя. А смятана крамная — не смятана ўвогуле. І гэтак настойліва яна тое мне ў галаву ўбівала, што я нават верыць ёй пачала. Але аднойчы атрымалася, я не ведала, што яна на Камароўку ездзіла, і прынесла смятану з крамы, і слоікі ў халадзільніку знарок параставіла. Бабуля крамную смятану ела — пахвальвала, а за сваю, з Камароўкі, узялася — ганіла... З таго часу я толькі пасмейваюся з яе дзівацтваў. Але ніколі не спрачаюся, бо пераканалася: старую не пераробіш.

Паснедала. Схапіла лыжы. Голас бабулі дагнаў мяне ўжо на лесвіцы:

— Шалік! Шалік не ўзяла! І яшчэ галаруч пакоціш! Бяры рукавіцы!..

Я іду з лыжамі па дарожцы парку. Свеціць сонца. Снег зыркі, зорны. Сосны — у белых вялізных кучомках. І лыжнікаў у парку шмат — і дарослыя, і дзеці. Хочацца стаць на лыжы і пакаціць. Але стрымліваю сябе: абяцала Валеру, што разам паедзем. Увогуле мы з ім так дамовіліся: паедзем па Свіслачы, за возера, на нейкія там адмысловыя горы. А другім разам — ён прыедзе сюды, у парк, і я пакажу яму лес за дзіцячай чыгункаю. Мажліва, трэба было нам сюды ехаць: тут і лес, і поле, і горы можна знайсці на любы густ. Але ён так ужо нахвальваў мне тыя свае мясціны, што проста дужа хочацца пабачыць.

Спазнілася на пяць мінут: на трамвайным прыпынку Валера ўжо чакае мяне. На ім сіні спартыўны гарнітур, белы вязаны берэт. І лыжы ляжаць побач на аснежанай рабрыстай лавачцы. Як гэта добра, што ён з лыжамі! Нам не трэба губляць час, каб ісці да яго дамоў, а можна адразу і паехаць на тыя яго славутыя горы. Я гэтага адразу і патрабую: дзе гэтая Швейцарыя твая? Паказвай, маўляў, дарогу!

— Не спяшайся, не спяшайся. Усё будзе!..

— Мяне не напалохаеш! Наперад!

Возера было ў нас злева. Па нейкіх страшэнна крутых узвалах мы прабіліся да густых пасадак, мінулі поле, перасеклі Свіслач, узабраліся на крутую гару і з яе пакацілі ў звілістую лагчыну. З лагчыны неўзабаве выйшлі на дарогу, перайшлі яе і зноў апынуліся ў нізіне, але роўнай і чыстай — аніводнага слядочка вакол. Неба неўпрыкмет зрабілася шэрым, пайшоў снег, але сонца было відаць увысі — роўнае светла-мядзянае кола.

Неўзабаве нізіна павярнула, і перада мною ўзнікла белая сцяна — вецер нагнаў у нізіну снег, і ён асеў крутым узвалам. Валера пачаў лесвічкаю ўзбірацца, за ім адолела ўздым і я. Адолела, азірнулася і ад радасці войкнула. Лес! Дык жа мы да самага лесу прыйшлі!

У лесе было ціха-ціха. З аснежаных сосмаў церусіцца белае снегавое сяйво, і ўсё праясніваецца, робіцца блакітным і чыстым неба. Валера ідзе хутка, я пачынаю адставаць — набілася снегавая бабышка пад абцасам. Пакуль я збівала яе вастрыём лыжнай палкі, Валера знікае. Але лыжня ёсць, і я імчу па ёй. Лес расступаецца, і ўнізе, на белай раўніне стаіць Валера. Ён круціць палкамі ў паветры, гукае, каб ехала.

А я не еду, стаю ў радасным узрушэнні. Злева, у далячыні, у зыркай белаватай дымцы, паўсталі белыя гарадскія гмахі. Яны дужа далёка, асветлены сонцам, і над імі вісяць залачоныя шлейфы не то дыму, не то пары. Шкло ў вокнах ярка зіхаціць, і гэтыя зыркія квадраты выцягнуты доўгімі шнурамі-палосамі, нібыта залачоныя кроплі вісяць у белаватай марознай імгле.

— Гэ-эй-йй!

Кліча Валера. І я кідаюся па крохкай лыжні ўніз, і адразу ж адчуваю, як расце хуткасць.

Валера імчыць да мяне, і я патрабую, каб ён вёў мяне на сапраўдныя горы, гэта, маўляў, драбяза.

— Гэта і ёсць сапраўдныя. Толькі крыху лявей цяпер паедзем. Там адзін схіл, апрача гэтага, а далей — трамплінчык, вунь тамка,— Валера паказвае мне рукою будучы наш маршрут. Ты толькі следам па маёй лыжні. І нікуды не вярні. Хмыз той, потым сасоннік, а далей — уніз. Тры горкі, адным словам!

— А мне хоць чатыры. Горай не будзе!

— Толькі ты нахіляйся крыху, калі імчыш. Нахіляйся, і прыгніся. І рукі трымай вольна, нібыта крылы яны. Як птушка. Каб лёгкасць ва ўсім целе была!

— Гэта і ёсць твой сакрэт?

— Ды ніякага сакрэту няма. Ты выключная лыжніца, скажу табе. Маеш талент. І смелая!..

Мы пакрысе караскаемся на касагор. Мы толькі крыху павярнулі ўлева ад нашай першай лыжні, але ўнізе ўсё новае, зусім незнаёмае і таму палохае. Чорным крыжавіннем хмыз апаясаў схіл, за ім прыступкамі малады сасоннік, і зусім блізка, як брама якая, чатыры маладыя дубкі; скурчаная, неабляцеўшая з восені лістота на іх, здаецца, нядаўна абпалена агнём. За дубкамі, крыху ніжэй, вузкае і доўгае цела снегавога трампліна; была там, відаць, гурба, яе падраўнавалі, падсыпалі з канца; на бакавінах відаць рудыя плямы — дубовае лісце. Гляджу на гэты трамплін, і сэрца сціскаецца. Мабыць, самае разумнае — гэта сысці ніжэй, абмінуць трамплін і паехаць. Але быццам хто падштурхоўвае мяне. Наперад!

Вецер адразу ж прадзімае мой світар, і адчуваю на целе колкую сцюжу — такая хуткасць. А трамплін ўсё бліжэй, бліжэй! Узлятаю і... еду! Не падаю! Але што робіцца вакол і наперадзе, бачу блага — на вачах ад ветру слёзы. Лыжы запавольваюць рух, я выпростваюся, і тут жа нейкая сіла цягне мяне ўбок, я губляю раўнавагу, і гэтая сіла куляе мяне тры разы і цягне ўніз па схіле.

Снег растае на шчоках, халодныя кроплі зрываюцца з валасоў за каўнер, і ад іх дрыжыкі працінаюць ўсё цела. Я выціраю твар рукавіцаю, і ўпартасць ахоплівае мяне.

Зноўку імчу ўніз. І зноў падаю. І потым куляюся ў снег яшчэ, яшчэ, яшчэ... Згубіла ўжо рэальнасць, згубіла здольнасць разумна ацэньваць свае сілы. Валера, вядома, бачыць гэта, цягне за руку, каб ехаць куды ў іншае месца. Але мяне ўжо нельга пераканаць у чымсьці. Тут! Толькі тут будзем!

Урэшце! З'ехала і не паваліліся. Мне і смешна з сваіх няўдач, і радасна, і гонар на душы: не здалася, навучылася! Прынамсі, не навучылася, а проста прызвычаілася да гэтай мясцовасці — на лыжах я і раней ездзіла няблага.

Валера рагоча, потым скідае лыжы і пачынае грабсці снег. Нагроб пагорак, прыцягнуў дубовую галінку, уваткнуў, потым яшчэ падсыпаў снегу і пераставіў галінку на самы верх пагорка:



— Помнік! Манумент у гонар Галіны. Што ў перакладзе з грэчаскай азначае: спакойства і ціхамірнасць! А мы яшчэ дадамо: і воля як дуб! Спыніся, лыжнік! І навучыся тут!

Хацела паваліць яго ў снег, але вывернуўся, пакаціў па схіле, і я панеслася даганяць яго. Дурэлі, адным словам. Праехалі лес, потым адпачывалі ў маладым сасонніку, знайшлі каліну і елі кіславата-салодкія, пабітыя марозам ягады — буйныя, ярка-ружовыя, празрыстыя амаль, з цвёрдымі семкамі ўсярэдзіне. Бачылі на старой, пахіленай над ручаём арабіне чырванагрудых снегіроў. Валера казаў, што вясною снегіроў можна злавіць вудаю — на канцы вуды робіцца колца з тонкай лёскі.

Я рагатала, а ён усё мяне пераконваў, што лавіў так снегіроў вясною і абавязкова зловіць і мне, а я ўсё дражнілася, і ён зазлаваў, адвярнуўся, пачаў хутаць шыю вузенькім каўняром курткі — мы ўжо ехалі полем, і быў моцны вецер. Прапанавала яму свой шалік, але ён адмовіўся і знарок адвярнуў каўнер. А я падумала: будзе дзень нараджэння — абавязкова куплю яму ў падарунак добры шалік. І абавязкова белы з блакітным беражком. Трэба будзе толькі даведацца ў Вольгі, калі яго дзень...

Назад, да возера, мы ледзьве дацягнуліся. Ля плаціны знялі лыжы; я аж захісталася — такая слабасць у нагах, быццам хадзіць не ўмею. І есці захацелася, хоць ты крычы — ад крайняй хаты на завулку прынесла пах смажанай бульбы. А мне ж яшчэ трамваем, а потым тралейбусам... Ад гэтай думкі моташна зрабілася.

Смачны пах учуў і Валера, прыпыніўся:

— У-ух ты. Бульбачка з мясам тушаная!

— Смажаная!

— А я кажу: тушаная! З кансерваю мясной!

— Смажаная!

Валера зарагатаў:

— Добра, бяры сабе смажаную. А я тушаную. Цётка мая толькі такую бульбу любіць. Я ўжо гэты пах ведаю. Завернем да нас...

Я пагадзілася: не хацелася крыўдзіць Валеру, не хацелася, каб ён думаў, быццам нечага я збаялася. І дужа хацелася есці. І карцела яшчэ пабачыць Валераву цётку — ён пра яе казаў шмат.

Цётка стрэла нас добразычліва. Убачыла мой лыжны гарнітур, скарэлы ад снегу, завохкала, пацягнула мяне ў баковачку — спальню, прымусіла апрануць цёплы халат. Твар яе разгледзела пазней, калі мы сядзелі ўжо за сталом.

У доме, апрача тэрасы, тры пакоі. У першым я была тады з Валерам, калі ён хварэў. У другім, баковачцы-спальні, я пераапраналася. А ў трэцім, самым вялікім, мы паселі цяпер: п'ем каву са згушчаным малаком. Да кавы — аладкі: вялізныя, наздраватыя, зусім нядаўна спечаныя. А перад гэтым елі тушаную бульбу. З мясной кансерваю бульба тушылася — смаката незвычайная.

Цётка падсоўвае мне масла, тварог, а сама ўважліва разглядаевывучае мяне, і яе сухенькі, зморшчаны твар поўны добразычлівасці. У жанчыны вельмі рухавыя карыя вочы, гладка зачасаныя назад і прыціснутыя белым грабянём валасы. Нізенькая. І аніякага падабенства з Валерам!

Купіла шалік. Зусім выпадкова ўбачыла менавіта такі, як мне і хацелася. І даведалася, калі ў Валеры дзень нараджэння, спецыяльна хадзіла да Вольгі.

З «Маладосць» № 10—1971 г.

Вольга стрэла мяне добра, узрадавалася, пачала абвінавачваць, што рэдка, маўляў, да іх заходжу. І гэта мяне здзівіла: не помніцца мне штосьці, каб яна запрашала пасля той сваркі Сцяпана з Валерам. Праўда, гэты месяц мы амаль што і не сустракаліся: я праходжу практыку ў пятай бальніцы, а Вольга — у чацвертай. А гэта — на розных канцах горада. Тройчы званіла я ёй, але ніхто не адказваў, і я махнула рукою. Ды і часу на гасцяванне асабліва не выпадала. Але асноўнае — гонар мой: заўважыла, што пасля таго абмеркавання Сцяпанавага артыкула Вольга трымаецца са мною неяк адчужана.

Відаць, гэта я проста прыдумала. Вольга на мяне не крыўдуе, і стрэліся мы з ёю, як страчаюцца лепшыя сяброўкі, якія даўным-даўно не бачыліся. І гаварылі мы з ёю, і розныя навіны і пагалоскі абмяркоўвалі, і каву пілі.

А потым Вольга неспадзявана расплакалася.

— Сцяпан мой ты ведаеш куды павярнуў?.. Піць пачаў. Дамоў часцяком на добрым падпітку вяртаецца. І мяне школіць пачынае. А з чаго? Тую Валераву параду ён усур'ёз прыняў.

— Якую параду? — здзівілася я.

— Пісьменнік сапраўдны — піць павінен не мінералку. Памятаеш?

Мне аж горача зрабілася. Ды гэта ж глупства! Жарт! Ён жа знарок казаў тое, дзеля жартаў. Гульня тое было, не больш. Няўжо Сцяпану гумару бракуе?..

— Відаць,— адразу ж і пагадзілася Вольга.— Відаць, бракуе. А ўчора заявіўся, і я адразу ўчула: духі! Чужыя духі! Ты ж ведаеш, я тут не наблытаю. «Каменная кветка»! Ёю ён смярдзіць. А гэтыя духі я не выношу, цярпець не магу. Аднойчы мне падаравалі, дык я іх і выкінула. А тут — ад яго гэты пах. Значыцца, у жанчыны быў. Маўчу, а сэрца — кіпіць: у жанчыны быў, дзе ж яшчэ?!

— Глупства! Узяла б ды і спытала.

— Спытаць? Не-ее... Я спачатку павінна мець факты. І не адзін, а плойму фактаў і доказаў. Каб ён нікуды вільнуць не мог. І тады аніякіх цырымоній: вось — дзверы, вось парог! І — канец!..

Я пачала ёй пярэчыць. Але яна мяне амаль што і не слухала, дакладней, слухала, але пад увагу мае словы не брала — быццам вецер іх змятаў. А сама ўсё гаварыла, гаварыла, гаварыла... Плачучы, яна абвінавачвала Сцяпана ва ўсіх зямных і незямных грахах. Але мяне дзівіла не гэта, не яе словы, а тое, як літаральна на маіх вачах блажэла Вольга: вусны згубілі пунсовы колер, сінелі, бы пакрапленыя воцатам, вочы падпухлі, і на шчоках ляглі пісягі; неахайна звіслі на плечы валасы, і твар ад гэтага набыў гаротны пакутніцкі выраз, быццам жанчына адчувала страшэнны боль і пнецца схаваць яго, каб ніхто не толькі не ўбачыў гэты боль, але і не здагадаўся аб яго існаванні.

Карцела распытаць у Вольгі падрабязнасці. Не можа, не павінна ж быць так, каб адразу ўсё выветрылася з душы, уся вера ў чалавека прапала. Але Вольга сама ўжо спалохалася свае даверлівасці, сядзела замкнёная, паглядала скоса. І я нічога не запытала ў яе.

Глядзелі дзве серыі фільма «Сямейнае жыццё». Фільм паставіў французскі рэжысёр Андрэ Кайят. Адна і тая ж сямейная гісторыя; каханне і разрыў — пра гэта фільм. Але ў першай серыі яе расказвае муж. У другой — жонка.



Адны і тыя ж факты набываюць зусім іншы сэнс у залежнасці ад таго, хто іх расказвае: два бакі аднаго і таго ж медаля. І якая пераконанасць у кожнага! І кожнаму — верыш. І абодвух — шкада.

Я сказала пра гэта Валеру, калі мы выйшлі з кіно. Валера не пагадзіўся, пачаў даводзіць сваё.

— А мне шкада рэжысёра,— сказаў ён у сваёй безапеляцыйнай манеры.— Ён жа бачыць, што і герой і гераіня хлусы. І хлусня іх — гэта не даніна абставін, а чыста рэжысёрскі прыём. Ён, Андрэ гэты, хоча пераканаць мяне, гледача, у тым, у што і сам не верыць. А падман застаецца падманам, калі ён размаляваны самымі прыгожымі фарбамі. Фільм не прымушае мяне думаць: рэжысёр думае за мяне. Ён падсоўвае мне факты, якія я павінен прымаць за праўду толькі таму, што ў іх праўду верыць рэжысёр. Мне патрэбна сацыяльнае зерне. А яго я не бачу. Яго, на маю думку, няма!..

А мне думаецца, інакш трэба разумець гэты фільм. Ён патрабуе ад кожнага роздуму. Там, на экране, я ўбачыла дзве розныя, вельмі розныя і непадобныя, натуры, дзве розныя асобы: у кожнага сваё ўласнае жыццё, уласныя думкі, уласныя патрэбы і жаданні...

І дзіўна: не спрачаюся з Валерам, не адстойваю сваіх пераконанняў. Словы мае нібыта пацяжэлі, і ў маім розуме асядае цяжкая і непрыемная мне здагадка: Валера таксама ўражаны фільмам!

І гэта здагадка мацнее, і мне робіцца непамысна. Так, не трэба было глядзець гэты фільм разам з ім. Зараз Валера спрачаецца знарок, каб адвесці гаворку ад канкрэтных фактаў, канкрэтных параўнанняў. Фільм, напэўна, абудзіў у яго душы ўспаміны аб мінулым, і яму зараз ніякавата з таго, што я ведаю крыху гэтае мінулае, маю магчымасць праводзіць нейкія паралелі, рабіць параўнанні.

Але я не хачу ні гэтых паралеляў, ні гэтых параўнанняў, ні спрэчак. І, што мяне вельмі дзівіць, наўпярок гэтай думцы, зусім міжвольна гэтыя паралелі ўзнікаюць, жывуць сваім жыццём, і я ўцягнута ў іх арбіту.

Валера і Рыта...

Ён расказваў мне крыху пра тое, што развяло яго з жонкаю. А каб побач паставіць тлумачэнні яе, Рыты? У якім святле тады паўстаў бы ён, да якога я стаўлюся з такой чуласцю, каго ўсяляк спрабую абараніць, абараніць нават тады, калі ніхто і не спрабуе на яго нападаць ці абвінавачваць?

Але навошта мне гэта? Што гэта вытлумачыць у нашых адносінах? У маім стаўленні да яго?

Я разумею Валеру. Ён разумее мяне. Ён нічога не патрабуе ад мяне. Ён пярэчыць зараз, абвяргае мае думкі, цягне на спрэчку?.. Няхай! Ён нават больш да спадобы мне менавіта такі. Схмурнелыя бровы... Сцямнелыя вочы... Энергічны ўзмах рукі...

Валера неспадзявана паведамляе — зусім не ў рэчышчы нашае гаворкі:

— Чытаў нядаўна Халдора Лакснеса. Раман. «Салка Валка». Пра рыбачку кніга. Цётка з бібліятэкі прынесла. Яна вельмі любіць чытаць кнігі. І чытае, што пад руку трапіць.

— А чаго ты прыгадаў гэты раман?

— Ды фільм гэты. Мы пра яго спрачаліся, а я аб той жанчыне з рамана падумаў. Франсуаз і Валка... Неба і зямля, адным словам. Пераканаўчы: рэжысёр раман не чытаў...

Мне здалося, што ён зараз спытае пра раман і ў мяне, і шчыра прызналася: я, маўляў, рамана таксама не чытала. Ён не здзівіўся, не папракнуў, але паабяцаў цвёрда:

— Заўтра ты будзеш мець яго. Прачытаеш, а потым мы гэтую гаворку нашу працягнем. Прымаеш?

Я пагадзілася. І гэта яго адразу ж супакоіла, і мы болей не спрачаліся, і не прыгадвалі фільм, і нам было добра, як ніколі.

Вольга зноў пасварылася з мужам. Прыйшла да мяне, сядзіць, румзае. Прычына разладу — Сцяпан патрабуе, каб яна ранкам і ўвечары гатавала моцную каву,— мяне і насмяшыла і абурыла.

— Дык што, цяжка згатаваць? Згатуй!

— Брыда! Суцэльная брыда!

— Сцяпан? Ты раней пра яго іншай думкі трымалася. А цяпер ужо адразу і брыда!

— Дзівачка ты! Кава — брыда, я кажу! — Вольга ўсміхаецца і выцірае далонькаю слёзы.— І ніколі ён не любіў гэтую брыду праклятую. А цяпер недзе навучыўся. І каб абавязкова падсмажыць спачатку зерні, гарачыя змалоць потым і гатаваць. Я хутка ад гэтай кавы вар'яткаю зраблюся!..

А я ўсё яе словы чамусьці не ўспрымаю ўсур'ёз. З памяці яшчэ не выветрылася карціна Андрэ Кайята. Акрамя таго, я прачытала і той раман ісландскага пісьменніка, якім гэтак захапляўся Валера. Цяпер на ўсе скаргі Вольгі я гляджу, як на медаль, у якога ёсць два бакі. Адзін бок гэта той, які належыць скаргам Вольгі — яна гаворыць. А другі... Другі — гэта тое, што павінен казаць Сцяпан. І мне гэта вельмі цяжка дамысліць. О, каб я пагаварыла з ім! Тады б я нешта пэўнае магла сказаць і Вользе. Але са Сцяпанам я не хачу гаварыць.

— А што ў цябе з Валерам? Сур'ёзны намер ці ружовы раманчык?

Вольга ўжо не плача, вочы ў яе зусім сухія, быццам на іх ніколі не было слёз. І пытанне яе бянтэжыць мяне.

— З якім Валерам? — пытаюся, каб схаваць сваю збянтэжанасць.— Проста так сустрэлася: хацела даведацца, ці любіць ён каву!..

Вольга пакрыўджана фыркае. Але мяне яе крыўда зусім не ўстрывожыла. Мяне зусім іншае трывожыла — мае словы. Чаму я хлусіла ёй? Чаму я адразу не прызналася па-сяброўску, што сустракаюся з Валерам амаль кожны дзень? Спалохалася? Але мне няма чаго палохацца. Засаромелася? Але ж які тут сорам, калі дзяўчына сустракаецца з чалавекам, якога яна кахае?..

Кахае...

Гэта, так мне думалася, ва ўсім мяне апраўдвае. Але яна абудзіла ў маёй душы зусім нечаканы папрок. Ты ж ніколі і нікому не хлусіла! Гэта ж першая твая няпраўда!

Ад папрокаў гэтых зрабілася весела. Бачыла пакрыўджаны, незадаволены твар Вольгі і адчувала, што дзеля спакою Валеры, дзеля таго, каб яму, Валеру, было добра, я магу сказаць сваёй сяброўцы няпраўду, магу нешта ўтойваць, магу быць няшчырай!..

Вольга развітваецца, і я не іду, як звычайна, праводзіць яе. Зачыняю дзверы і зноў бяру ў рукі падручнік — заўтра ў мяне залік па клінічнай эндакрыналогіі. Засталося паўтарыць толькі адзін раздзел — сахарны дыябет. Трэба адкінуць усе думкі прэч і паўтараць, паўтараць...

Але гэтая Вольга сваімі пытаннямі ўсё пераблытала — у галаў нічога не лезе. Нейкая мелодыя прывязалася, гучыць у душы ўвесь час. І слова, адзінае слова — «Дзібайна»... Яно, гэтае слова, добра кладзецца на мелодыю. І як песня ў душы — дзібайна, дзібайна, дзібайна... Нейкі ж тэрмін гэта! Ведала, чытала перад тым, як прыйшла Вольга... А-аа!.. З грэчаскага. Ад яго і назва хваробы — дыябет. Дзібайна, што ў перакладзе — праходжу наскрозь.



Наскрозь!..

Вось каб чалавек мог бачыць свайго субяседніка гэтак, разумець не толькі тое, што ён гаворыць, але і ўсе словы нявыказаныя, усе патаемныя думкі чытаць, як словы ў кнізе!..

Каляровая старонка. Гэта — сахарыметр Альтгаўзена. Жоўтыя слупкі дыяграмы зліваюцца з чырвонымі і карычневымі. Адна суцэльная чырвона-жоўтая паласа. Як крайчык магутнай і шырокай вясёлкі! Такая вясёлка была на Свіслачы, там, ля плаціны, што непадалёк ад Валеравага дома. І яшчэ там, калі ідзеш завулкам, бярозы прыгожыя. Ля ручая. Нехта ж узяў і пасадзіў. І гародчыку яны там — перашкода, а чалавек вось пасадзіў. І назва завулка прыгожая. «Варварынскі...» Гэта, мабыць, ад імя жаночага — Варвара. Але што яна зрабіла, гэтая жанчына? Зусім не ведаю я гісторыю горада. А нарадзілася, расла тут. Школу скончыла, цяпер — інстытут заканчваю, а гэтага вось і не ведаю.

І каб жа толькі гэта! Я зусім не ведаю самое сябе. Не ведаю сваю натуру. Не ведаю, як заўтра здам залік. Адно толькі пакуль што ведаю: залік трэба абавязкова здаць. І яшчэ: дзібайна — гэта з грэчаскага...

Дзібайна... Дзібайна... Дзібайна!

Таямнічае нейкае слова. Яго можна нават спяваць. Як песню. І мелодыя прывязалася зусім пад гэтае слова — японская песенька пра мора.

Дзібайна... Дзібайна... Дзібайна!..

Ленінград.

Горад — цуд. Горад — казка. Гэта асабістае ўражанне. Валера больш стрыманы ў ацэнцы, і я разумею яго: крыху, мабыць, зайздросціць мне. Валера прыляцеў пазаўчора і сёння едзе дамоў — быў разам суботу і нядзелю,— а наша група будзе яшчэ ў Ленінградзе да наступнага панядзелка.

Учора з Валерам мы былі ў тэатры. Мы дамовіліся яшчэ ў Мінску: я, прыехаўшы ў Ленінград, вазьму білеты на суботу. Білеты я ўзяла на «Прададзеную калыханку» Лакснеса. Убачыла афішу і ўзрадавалася незвычайна: ён тады прымусіў мяне чырванець з раманам, няхай цяпер сам пачырванее — напэўна ж гэты спектакль ён не бачыў. Ды і не мог, вядома: у Мінску гэтая п'еса не ішла, як мне помніцца.

Білеты я літаральна вымаліла ў касе тэатра. А потым, пасля спектакля, лаяла сябе страшэнна. Хацела ўзрадаваць Валеру, нешта светлае даць для душы. А прымусіла глядзець спектакль жорсткі і бязлітасны: прададзенае каханне, разбуранае шчасце... Міжвольна — я добра адчула гэта — прымусіла яго зноў перажыць сваю асабістую бяду. І дзівілася: быццам старая жанчына, якая шмат бачыла, шмат перажыла, шмат адпакутавала сама — гэтак востра я ўсё ўспрымаю. Нейкае абвостранае адчуванне Валеравай бяды, мінулай і даўняй. Мне б, мабыць, увогуле не варта было нават і думаць пра тое. Якое я дачыненне маю да таго, што было з ім даўно? Аніякага! Не, няпраўда гэта! Тая бяда жыве разам з Валерам, у ім, і я не магу адкінуць

гэта, не магу прыняць Валеру толькі ў адным ідэальным святле, без яго мінулага...

Такія думкі трывожылі мяне і з'явіліся зноў, і з імі дужа няўтульна і непамысна.

Тэатр быў учора. А сёння мы глядзелі Эрмітаж. Увечары паспелі і ў кіно — глядзелі дакументальны фільм «Чэхаславакія, год выпрабаванняў». Кінатэатр побач з вакзалам, да адпраўлення цягніка, якім павінен ехаць Валера, яшчэ амаль гадзіна, і мы правялі яе на пероне. Вечар быццам спецыяльна заказаны нам: цёплы, без ветру, і невядома адкуль бяруцца сняжынкі. Неба чыстае, зорнае, а з высі лятуць, лятуць долу рэдкія сняжынкі...

Учора ўвечары я пакутавала: прымусіла Валеру прыгадаць сваю асабістую бяду. А сёння гэтыя пакуты здаюцца дзіцячым наівам. Перад вачыма кадры дакументальныя і бязлітасныя: ахопленыя полымем танкі, аўтобусы і машыны, разбураныя будынкі савецкіх устаноў, разбураныя жылыя дамы, пяцікутныя зоркі са свастыкай у цэнтры і намаляваныя на сценах, кроў, смерць... І твары, чорныя душы тых, хто маляваў гэтыя зоркі на вуліцах і плошчах, хто страляў у спіну савецкага салдата, хто са звярынай нянавісцю абвяшчаў гітлераўскую мярзоту: «Мы забаронім кампартыю, а кнігі ідыёлагаў марксізма-ленінізма спалім»...

Кадры кінахронікі няўмольныя. Контррэвалюцыя адкінута. Святкуе перамогу праўда і вясна. Мітынг сапраўдных прадстаўнікоў народа ля будынка савецкага пасольства. Чырвоныя кветкі на магіле савецкіх салдат, што загінулі пры вызваленні Прагі ад гітлераўцаў. І чырвоныя кветкі на руках маладых воінаў, сыноў тых салдат, што ляжаць пад магільнымі плітамі.

Братэрства, змацаванае крывёю. Я шмат разоў чула гэтыя словы. А цяпер яны адкрылі перада мною сваю магутную выбуховую сілу, яны ўвайшлі ў мяне, як разрыўная куля...

— Я тады напісаў заяву ў ваенкамат,— сказаў мне Валера.— Прасіў, каб мяне паслалі ў Чэхаславакію. Мой бацька быў танкістам. І загінуў пад Прагаю. Яшчэ ў вайну...

А я не ведала гэтага. І калі ён сказаў мне пра свайго бацьку, я ўся сцялася, бы ад холаду. А потым мне зрабілася горача-горача, і я ледзьве не прызналася, што кахаю яго, што ён, Валера, самы дарагі для мяне чалавек. І я была гатовая сказаць гэта, і я хацела сказаць, але марудзіла, і мне было дужа добра і ўсцешна з гэтымі маімі словамі.

А потым цягнік пайшоў, і адгулі рэйкі, і на пероне было ціха, і паранейшаму з чыстай зорнай высі ляцелі долу рэдкія сняжынкі, і я глядзела ў той бок, дзе знік цягнік, і бачыла россып сініх і чырвоных сігнальных ліхтароў, і думала пра Валеру. І вось менавіта тут, на гэтым пероне, пад зорным небам, пасля думак аб сваім каханні зрабіла я адкрыццё, якое было поўна роздуму і горычы.

Валера не любіць мяне.

Не ведаю адкуль, але такая думка, з'явілася. І было болей чым трэба падстаў, каб яна расла і ўсё мацнела ва мне. У яго ёсць жонка, ёсць дачка. Пра жонку ён казаў мне — значыцца, перабалела. Перабалела, але ж не растала, пакінула след, і ён, той след, жыве, не знікае, жыве ва ўспамінах і думках. Можа ён нават параўноўвае мяне і «яе», прыглядаецца, нешта ўзважвае. Мажліва, гэта толькі мае здагадкі, але ж чаго тады ён маўчыць пра мінулае, пра тое, што з ім тады было — аднойчы толькі казаў. А пра дачку ўвогуле маўчыць, пра дачку аніводнага слова. І ў гэтым — яго боль, яго трывога. А мо





шчасце і радасць? Не, адно выключае другое, і ўсё тое, што я зараз думаю, гэта толькі мае асабістыя здагадкі, здагадкі, нічым не абгрунтаваныя.

Адно толькі я ведаю дакладна: кахаю яго. І мне з гэтага цяжка: трывога ўвесь час, непакой на душы, быццам зрабіла што нядобрае. Але ж хіба гэта злачынства якое — кахаць?

Зусім нядаўна я здзівілася, маючы на ўвазе Вольгу і Сцяпана: божухна, маўляў, што робіць з чалавекам каханне!

Цяпер я з трывогаю думаю гэта аб сабе. Што будзе са мною? І разумею: эгаістычна гэта. Толькі аб сабе клопат, толькі тое трывожыць, што можа быць са мною асабіста.

А Валера?

Не ведаю, не ведаю... Але я не зусім страціла розум, я магу цвяроза думаць пра тое, магу цвяроза глядзець на свае і яго ўчынкі. І я разумею, што ў мяне заўжды хопіць розуму і вытрымкі не перайсці мяжу непатрэбшчыны, не перайсці мяжу, за якой пачынаецца толькі сваё асабістае «я», за якой толькі эгаізм і чэрствасць.

Валераў дзень.

Мой падарунак у сумачцы, а сумачка ў руцэ, і я не ведаю, як мне растлумачыць Валеравай цётцы, дзеля чаго я так раненька прыперлася. Мне ўжо няёмка за сваю неразумную імклівасць. Дзевяць жа гадзін толькі! Трэба развітацца і пайсці. Гэта будзе самае разумнае, бо Валеры дома няма.

Зноў гляджу на гадзіннік, адчуваючы, што з кожным імгненнем сумачка робіцца цяжэйшая. І з чаго гэта мне цюкнула ў галаў, што Валера ўзрадуецца падарунку, што ён, гэты шалік, дужа патрэбны яму?! І з чаго гэта мне падумалася, што Валера чакае мяне, чакае і ўзрадуецца, калі пабачыць мяне? Не, сапраўды трэба развітацца і пайсці.

— Ты пачакай, пачакай,— раіць цётка.— Зараз і прыляціць. Абяцаў, што праз гадзінку і вернецца.

Яна забірае маё паліто і, ладкуючы яго на вешалцы, крытычна аглядае, нечага прытоена ўздыхае і зноў бярэцца за анучку, якою выцірала пыл з лімоннага дрэўца, а мне загадвае ісці ў Валераў пакой і там чакаць.

Спрабую добрасумленна выконваць яе параду і не магу. Не магу сядзець у адзіноце і чакаць. Лепей напісаць яму два словы і пайсці...

На стале і ручкі, і алоўкі, і папера. Але аніводнага людскага слова ў мяне няма. «Віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю шчасця і радасці...» Банальшчына! Трэба інача́й. Але як?..

Рыпяць масніцы. Плюскоча ў вядзерцы вада. Цяжка, зморана дыхае жанчына за перагародкаю. Эх ты, таварыш доктар, як часам з усмешкаю казаў Валера. Там працуе старая жанчына, а ты тут на выгодзе раскашуеш, словы нейкія шукаеш! Ды кідай ты гэтую непатрэбшчыну, ідзе і дапамажы чалавеку лепей!..

Валерава цётка пратэстуе, спрабуе забраць у мяне анучку, але потым супакойваецца, і мы працуем разам. Але я ўвесь час думаю пра Валеру. Дзе ён? А мо я тут яго чакаю, а ён да мяне паехаў і там сядзіць?

— Чарга, мабыць,— выказвае нечакана здагадку Валерава цётка.— Выдаць чарга...

Я не адразу магу даўмецца, што да чаго, а яна тут жа і растлумачвае ўсё:



— Ён падарунак дачцы пасылае, а на пошце, мабыць, чарга. У іх жа, з Валерам, адзін і той жа дзень і месяц — такое супадзенне. Ён табе паказваў картку? Не?.. То я зараз пакажу. Толькі ты яму не кажы — пакрыўдзіцца. Ён усе карткі, дзе з жонкаю быў, падраў. А гэтую я схавала...

Яна выцірае фартухом рукі, беспамылкова — мабыць, не аднойчы рабіла тое — цягне з высокай і вузкай этажэркі абшарпаную кнігу, раскрывае яе, і я бачу фотаздымак.

Звычайны сямейны фотаздымак: муж, жонка, дзіця. Але я гляджу толькі на адну асобу — яго былую жонку. Дык вось ты якая, невядомая мне жанчына! Яго былое каханне, мая суперніца... Буйны, але даволі сімпатычны твар. І мажліва толькі занадта маленькія вочы, яны нібыта ўціснуты ўглыб вачніц. Скрутак валасоў, як вянок на патыліцы, і галава быццам ад цяжару гэтага крыху нахілена наперад. Тоўстыя губы падціснуты, здаецца, што зусім нядаўна жанчына сказала камусьці жорсткія і пагардлівыя словы...

Дык вось ты якая!

Гарачыня хвалямі, як удар, тукае ў галаў, і цяжка дыхаць, і кропля поту халоднай пацеркаю коціцца па шыі. Як добра, што Валерава цётка нібыта і не заўважае мяне, уважна, быццам бачыць упершыню, разглядае фотакартку, пагладжвае рукою, бы сціраючы пыл. І раптам твар яе лагаднее, мякчэе.

— А Вольга слаўная. Вачаняткі толькі матчыны — хітраватыя...

Вольга? Якая яшчэ тут Вольга? Ах, гэта ж яго дачка! І як падобна на Валеру! Падабенства незвычайнае!..

Плечы праціна́юць непрыемныя дрыжыкі. Сорамна, быццам я вінаватая, вінаватая ў нечым перад гэтаю маленькай і незнаёмай мне дзяўчынкаю.

— Ён кахае сваю жонку?

Хацела спытаць пра дачку, а спытала пра жонку. Наіўнае, зусім непатрэбнае пытанне: але яно зрываецца з маіх вуснаў міжвольна. Валерава цётка па-ранейшаму нібыта не заўважае мае разгубленасці, глядзіць на фотакартку, схіліўшы галаў.

— А што ж цяпер пра каханне казаць?.. Было ці не было — сплыло. Дзяўчынёначка вось засталася. А чым дзяўчо вінаватае? Анічым жа... Яно не прасілася ў іх на гэты свет. А цяпер — пакутваць за іхнюю дурасць павінна...

Цяпер я бачу яе вочы, быццам углыб студні гляджу — далёкі і цёмны боль.

— Сыдуцца,— глыбакадумна прарочу я.— Знайшлі час пасварыцца, знойдуць час — памірацца.

— Валеру не ведаеш, таму і гаворыш. Ён калі што сказаў — перарабляць не будзе. Дый перарабляць няма чаго, думаю. Жыццё ў іх з самага пачатку не пайшло. Яна жыццё патрабавала прыгожае. А ён — студэнт тады быў. Дык яна з яго стыпендыі капейкі тыя на дачку праз суд вытрабавала. Я сама ўпотай ад Валеры з ёю гаманіла: кінь, прасіла яе, дапамажы яму вучыцца лепей — добрае чалавек не забудзе, можа гэтым яго да сябе павернеш. Уга! «Пяць год студэнта вучыць, каб ён там з дзеўкамі балява́ў? Не-ее... Мне яго студэнцтва ў кішэнь не пакласці, мне жыць трэба!..» Вось яна як паставіла пытанне. А ён жа ёй і кватэру пакінуў, і на вучобу паехаў у чым стаіць. А як вывучыўся, інжынерам зрабіўся, дык і яна да яго мітнулася. І па партыйнай лініі на яго ціснула, і бруд ліла, і цяперка ліе...

На падворку гаўкнуў Лахмач. Валерава цётка паспешліва хавае картку, стаўляе кнігу на этажэрку. Просіць:

— Маўчы. Аніводнага слова з таго, што я табе тут пляла, каб ён не ведаў!..

Я пазіраю на дзверы, чакаючы, што зараз увойдзе Валера. Але яго няма. Валерава цётка пачынае распытваць у мяне, і я расказваю ёй аб сваіх занятках, аб тым, што хутка экзамен, што ўлетку я ўжо буду працаваць. Яна слухае мяне, але я прыкмячаю, што ўсё гэта ёй нецікава, і ўвесь час заўважаю насцярожаны і вывучальны позірк. Ніякай даверлівасці паміж намі няма, тая мінута блізкасці знікла беззваротна.

Пачуццё няёмкасці расце ва мне. Развітваюся і выходжу з дому.

Іду па вуліцы з адчуваннем дзіўным і невядомым раней. Нейкае раўнадушша, безудзельнасць да ўсяго. Час нібыта спыніўся, і ўсё бачыцца мне ў нейкім адным мізэрным вымярэнні, усё зменшылася вакол, быццам аддалілася, спавітае пярэстым павуціннем. І толькі адно бачыцца, уяўляецца мне аграмадным — Валерава бяда. Вялікая чалавечая бяда. Яна, гэтая бяда, не ва мне, далёка, але рэха яе, як выбуховая хваля, аглушыла мяне, кінула на дол.

На трамвайным прыпынку стаю доўга. Чакаю. Мне здаецца, што Валера зараз прыедзе. Не на гэтым, дык на наступным трамваі. А яны грукочуць, грукочуць. Адзін трамвай, другі, трэці... Лічыць нават надакучыла. Ахутаныя снегавым пылам імчаць аўтамашыны, раскідваючы на бакі грукат, гуд стылага на холадзе жалеза і сінявы дымок спаленай газолі.

А Валеры ўсё няма. Думаю пра яго цётку, якая толькі што даверліва адкрыла мне сваю душу. Даверліва? Дзівачка! Не, ніякая гэта не даверлівасць! Гэта папярэджанне старой, умудронай жыццём жанчыны. Валера, маўляў, чалавек жанаты, у яго дачка... А ты, дзеўчанёначка, зялёная яшчэ зусім, твая дарога наперадзе, чакае цябе, шукай яе, па ёй ідзі!..

Мажліва, прыдумка гэта мая, уласны мой боль і трывога. Мажліва... Але такія думкі прыйшлі да мяне, і я адчула, што нешта змянілася і ва мне, што я ўжо не тая летуценная, якою была, калі бегла з падарункам да Валеравага дома. Нібыта адразу паразумнела і пасталела на дзесяць год адразу. І нейкая ўпартасць нарадзілася ва мне, нязнаная раней упартасць, жаданне пярэчыць, рабіць усё назнарок не так, як табе раяць разумныя людзі.

Валерава цётка паказала мне фотакартку. Няхай! Няхай яна паказвае мне сто фотакартак, а я ўсё роўна кахаю Валеру. І буду кахаць!

Мне толькі адно патрэбна: яму каб было добра. А яму зараз цяжка. Вельмі цяжка. І я павінна дапамагчы яму. Абавязкова памагчы! Памагчы нават у тым выпадку, калі ён адмовіцца ад гэтае помачы, забароніць нават нечым дапамагаць... Не, лепей трэба так, каб ён і не здагадваўся пра гэтую маю дапамогу. А што я магу зрабіць? Толькі маё добрае стаўленне да яго, толькі ласкавыя словы, толькі цёплы позірк... А што будзе потым са мною — гэта драбяза, гэта зусім не варта ўвагі, гэта мой асабісты клопат, мая асабістая трывога, і гэта анікога не павінна тычыцца...

Бразджалі, гулі працятыя марозам трамваі. Віскаталі рэйкі. Падаў снег. У бэзавай марознай імгле нерухома жаўцела мядзянае кола зімовага сонца. Я слухала візгат халоднага жалеза, глядзела, як падае снег, як жаўцее ў бэзавай высі сонца, і чакала Валеру.

Ведала: няма, не існуе на зямлі такой сілы, якая б прымусіла мяне пайсці і не дачакацца яго на гэтым трамвайным прыпынку. Валера, вядома, можа паехаў іншай дарогаю, аўтобусам і ішоў далей пешкі





цераз парк, можа ён ужо дома і не ведае, што тут я чакаю. Я закрэсліла, заціснула гэтыя думкі і ўпарта чакала яго.

І вось ён прыехаў. Я ўбачыла, як ён стаіць у дзвярах трамвая, якія яшчэ не адчыніліся, і кінулася да трамвая, насустрач Валеру.

Новы год!

Люблю гэтае свята незвычайна — яно нічым не падобна на ўсе астатнія. На вуліцах водар жывіцы, рознакаляровыя гронкі лямпачак на дрэвах усцяж тратуараў, на вітрынах у крамах прыгожа аздобленыя ялінкі, ялінкі на шкле, ялінкі ў руках прахожых.

Новы год мы дамовіліся сустрэць сваім сяброўскім гуртам: Вольга з мужам, Валера і я. Яшчэ будзе Валераў сябар — Анатоль. Гэта таксама аспірант, працаваў разам з Валерам, а цяпер недзе ля Цюмені і прыехаў у горад па нейкіх там справах. Анатоль, казаў Валера, будзе мажліва з дзяўчынаю. Адным словам, збіраецца шэсць чалавек. І сабрацца вырашана на кватэры ў Валеры — яго цётка дзяжурыць у гэтую ноч на фабрыцы.

А цяпер я сяджу, чакаю Вольгу і Сцяпана. Усё тое, што патрэбна для святочнай вячэры, ужо закупілі і завезлі да Валеры. Застаецца адвезці толькі дзве сумкі — віно і яблыкі.

Вольга нешта позніцца, і я, бавячы час, раблю запіс у сваім дзённіку. Ведаю, што дзённік гэта глупства, але я вяду яго. І вось — апошні запіс у гэтым годзе. Наперадзе — Новы! Што ён прынясе мне, чым парадуе? І чаго я ўвогуле чакаю ад яго?..

Стары год быў цудоўным годам — я стрэлася з Валерам. Пераглядаю цяпер старыя запісы і дзіўлюся: аніводнага запісу пра гэта! Аніводнага разу я не напісала яго імя ў сваім дзённіку. Чаму? Не ведаю. Мажліва, баялася? Чаго? Ніхто мой дзённік не чытае. Не, відаць гэта і сапраўды так: таілася ад усіх, не хацела нават паперы даляраць тое, што было і ёсць у сэрцы. Гэта — усё маё, гэта са мною ўвесь час, на паперу гэта не так проста і пакласці. Тут патрэбны не словы, тут патрэбна нешта значна большае, чымся простыя маленькія літары...

Званок!

Гэта — Вольга. Яна ўлятае ў пакой раздражнёная, узбуджаная — лае Сцяпана злосна і бязлітасна. Аказваецца, адлятае з Мінска нейкі маскоўскі паэт, і Сцяпан з сваімі сябрамі праводзіць яго ў аэрапорце. Праўда, ён абяцаў, што прыедзе адтуль адразу да Валеры.

Я паспрабавала супакоіць Вольгу.

— Чаго ты кіпіш? — спытала я.— Прыедзе, калі абяцаў. А спозніцца — і без яго сустрэнем. Бяры сумкі і пакоцім. Мажліва Сцяпан даўно ў Валеры і чакае нас...

Яно і сапраўды было так. У Валеры ўжо і Сцяпан, і высокі, як жардзіна тонкі, хлопец, ад якога і на крок не адстае маленькая, да пляча яму, дзяўчына — гэта Анатоль і Вера. Я іх бачыла ўпершыню, але яны мне адразу спадабаліся: вясёлыя, сціплыя, ветлівыя.

Стол быў ужо застаўлены талеркамі, і на ім адразу ж апынуліся бутэлькі і яблыкі, што мы прывезлі, і мы паселі, і ўзнялі тост: тост за стары год, потым за новы, за нашыя добрыя надзеі, за сяброўства, за поспехі і радасці.

А потым танцавалі. Прынеслі на тэрасу магнітафон, і Анатоль пстрыкнуў выключацелем: патрэбны, маўляў, інтымныя прыцемкі. Гэта быў жарт, і на тэрасе не было цёмна: святло з пакоя асвятляла роўную паласу, што падзяляла тэрасу на дзве палавіны, і па кутках



быў празрысты паўзмрок — адбівалася святло ад снегу ў садзе, і лімоннае дрэўца здавалася густым і загадкавым, і на лісціках ляжаў адбітак снегу і размаляваных марозам шыбаў, і дзіўным сіняватым вокам свяціўся індыкатар магнітафона, які стаяў пад дрэўцам на нізкім зэдліку.

Дзіўнае святло. Казачны паўзмрок. І ў галаве, крыху атуманенай віном, казачна, неверагодна светла і лёгка. Сцяпан танцаваў з Верaю. Анатоль нешта горача даводзіў Вользе — яны стаялі ў кутку тэрасы. А Валера не адпускаў мяне ад сябе і на крок. З гэтага ўвесь час пацвельваўся Сцяпан, але я не зважала. Мы зноў і зноў танцавалі ўсё той жа, знаёмы мне да трывогі і роспачы «Вальс кветак», і я бачыла толькі Валеру, толькі яго вочы: яны былі то пахмурныя, то ласкавыя, то насцярожаныя і недаверлівыя, то поўныя дзіўнай цеплыні і прызнасці.

— Чаркаваць будзем! Чаркаваць!— пачалі патрабаваць Анатоль і Вольга.

Мы з Валерам змоўчалі. Ніяк не адгукнуліся Сцяпан з Вераю — і тады Вольга настойліва пачала цвердзіць:

— Пайшлі піць! Не хочаце віна — каву будзем. Глісэ піць. Кавуглісэ!

— Пойдзем? — спытаў Валера.

Я хітнула галавою — маўляў, не хачу. Лепей танцаваць.

— А ў мяне перасохла горла. Пойдзем!

— Я ж сказала табе: не хачу.

— Тады адпачні. А я зараз...

Валера разам з усімі ў пакоі. Я чую іх галасы, там весела, усе, перабіваючы адно аднаго, жартуюць, рагочуць, а я адна на тэрасе, нібыта прыкаваная да шырокага, на паўсцяны, акна.

І не магу зразумець, што са мною робіцца: нібыта крыўда нейкая, чаго пайшоў туды, у пакой, Валера. Нібыта пакінуў мяне тут знарок. Але ж ён клікаў мяне, прапаноўваў пайсці і выпіць кавы. А мне хацелася быць з ім. А ён пайшоў. І мне крыўдна. Гэта так, калі збоку паглядзець. Але абрынуліся на мяне пачуцці невядомыя, зусім не падобныя на крыўду, і я здзівілася і спалохалася нават.

Магнітафон змаўкае — з шоргатам злятае з касеты канец ленты. На тэрасу ўлятае Валера з бакалам кавы ў руцэ, стаўляе бакал на падваконне і мяняе касеты. Гучыць мелодыя, і я адразу пазнаю голас маладой французскай спявачкі. Мірэй Мацье! Дзе і калі Валера зрабіў гэты запіс?

Валера працягвае мне бакал. Марожанае яшчэ не ўсё растала і плавае ў каве, як снегавы камячок, а з сярэдзіны яго тырчыць тонкая пластыкавая саломінка — зялёная сцяблінка.

— Бяры. Гэта — табе! Вельмі смачна.

— Я ж сказала: не хачу.

— Ты пакрыўдзілася? Я ж бачу.

— Тут цемнавата. Як жа ты разгледзеў?

— Калі ты крыўдуеш, у цябе вузеюць вочы. І нават бровы меншаюць. Як у Мірэй — я бачыў яе фотаздымак. Тады ты падобна на яе вельмі.

— Гэта «Парыжскія масты»?

— Так. Я запісаў іх у Анатоля — на ўсю касету. Танцуем?

Яго рука на маім плячы, і ён ціха гаворыць мне пра Мірэй Мацье. Дачка авіньёнскага муляра, бацькі дванаццаці дзяцей. У семнаццаць год выступіла ў спаборніцтве спевакоў-аматараў. А праз два гады аб ёй газеты свету крычалі — нарадзілася новая Эдзіт Піаф!

— Адкуль ты ўведаў, што я вельмі люблю «Парыжскія масты»?

— Аднойчы ты сказала гэта. Калі былі ў Вольгі. Не памятаеш хіба?

— Не.

— А «Масты» — ты ведаеш пра што гэта?.. Масты Парыжа — гэта месца спатканняў тых, хто кахае. Ім тут добра, бо яны губляюцца ў людской плыні... А ўнізе — плынь Сены. І ты гаворыш з каханым і не заўважаеш гэтай плыні. А яна забірае і вашыя мары, і песні, і нясе далёка-далёка, аж да мора, і там яны бясконцыя, бо плынь жыцця таксама бясконцая... Добрая песня. Праўда?

— Так, добрая. Але калі ты гаворыш не са мною, а з кім-небудзь яшчэ, у тваім голасе з'яўляюцца ноткі ліслівасці. Вось нядаўна, калі вы там гатавалі гэтую каву...

— Не крыўдуй.

Там, у пакоі, пачынаюць спяваць, а мы з Валерам танцуем, мы адны на тэрасе, і зялёнае вока магнітафона свеціць нам з-пад лімоннага дрэўца, і Валерава рука на маім плячы, і гэтая рука струменіць цеплыню і спакой.

Валера просіць зноў:

— Не крыўдуй. Не трэба... Вельмі часта людзі лаюцца, псуюць сабе настрой праз нейкую дрэнь, дробязі, зусім не вартыя аніякай увагі. А потым, у адзін цудоўны дзень, яны заўважаюць, што нешта змянілася вакол, што нешта не так, і не разумеюць, што гэта яны самі змяніліся, зрабіліся іншымі, і ніяк не могуць даўмецца, у чым гэтыя змены. У сапраўднасці ж людзі не змяніліся, яны засталіся ўсё тыя ж, але тое добрае, чулае і сардэчнае, што звязвала іх, знікла, дабрыня і давер раcталі, як дым. А калі няма даверу — няма і сяброўства. А сяброўства — гэта неацэннае багацце, невычэрпнае багацце. Але яно невычэрпнае толькі тады, калі ёсць давер і чуласць. Няма гэтага — крыніца тая па кропельцы, зусім незаўважна высыхае. І потым — пыл. І ён засыпае крыніцу. І там, дзе звяла чыстая вада, робіцца пустэча — расце асот. Колкі, нікому не патрэбны.

— Яго можна вырваць. Тады засохне асот, а крыніца застанецца.

Я сказала гэта знарок, я была згодна з Валерам, мяне нават дзівіла крыху тое, як сур'ёзна казаў ён, але жыла ў душы крыўда, і я пярэчыла. А ён не пярэчыў, а сказаў проста і даверліва, быццам мае словы не мелі аніякага значэння.

— Немагчыма. Вырвеш нават з карэннем, але заўсёды застанецца маленькі карэньчык, і з яго забуяе зноў моцнае, крапчэйшае нават яшчэ, каліва. І таму я прашу цябе: ніколі не крыўдуй на мяне. І не зважай на дробязі. Засцерагчыся ад іх цяжка. Іх трэба проста не заўважаць. Не, заўважаць іх трэба, ведаць, але разумець, чаго яны варты. Тады ты будзеш вышэй.

— Абяцаю табе: не буду крыўдаваць. Паспрабую быць вышэй. Але ты не пакідай мяне адну.

— Ты малайчына. Я гэта ведаў. Ты нават сама не ведаеш, якая ты магутная — не, не ведаеш. І — непаўторная. Побач з табою я заўсёды раблюся лепшы і крыху нечага саромеюся, нешта благое закрэсліваю...

— Унька яно як! Значыцца, благога ў цябе гэтулькі, што ты яго крэсліш, крэсліш і ніяк не можаш закрэсліць да апошняга?

— Хочаш, я падніму цябе на руках? Каб усе бачылі...

— А ты ведаеш усходнюю мудрасць? Ніколі не пытайся ў госця, ці хоча ён, каб для яго засмажылі курку!..

Спявае Мацье, і голас яе поўны роздуму, трывогі, ён кліча некуды, ён быццам штосьці абяцае: толькі слухай яго, гэты голас, яму падпарадкоўвайся... А мы — спыніліся, і я ведаю, што зараз Валера схопіць мяне і ўзніме на руках. Але ён не паспявае зрабіць гэта. Шумны гурт з пакоя ўжо на тэрасе, і Вольга ўсіх падбухторвае пайсці ў парк.

У парку цудоўна, нікога, апроч нас, няма, і мы блукаем па сцежках, галёкаем, дурэем. А потым зноў мы апынуліся з Валерам адны. Недзе наперадзе, зусім блізка, чуваць галасы, але яны аддаляюцца, цішэюць, і мы спыняемся насупраць трох бяроз, што растуць крыху воддаль ад паркавай алеі. Снег глыбокі. Але Валера храбра пратупаў першы, і я іду па яго следу. Ён прыхінуўся спіною да адной бярозы, я насупраць яго, і гэтак мы стаім.

— Ведаеш, якія гэта бярозы? Гэта казачныя бярозы. На іх растуць зоркі. Толькі ты глядзі на самыя макавінкі.

Жарт мне па душы. Сапраўды, хораша прыдумана: зоркі растуць на бярозах. Смеючыся, я ўзнімаю галаў і збянтэжана сціскаю Валераву руку. Ён не хлусіць: на галінах бярозы вісяць іскрыстыя зоркі!

Бярозы белыя, быццам са снегу злепленыя, за імі — цёмныя нетры парку. А над бярозамі светлае неба, а галіны цёмныя і густыя, як сетка, і далёкія зоркі таму здаюцца блізкімі, быццам прывязаў іх нехта.

І раптам зоркі знікаюць — Валера нахіляецца нада мною і цалуе ў шчаку. Потым цалуе вочы, бровы, губы...

— Не трэба,— прашу я, хоць адчуваю, што сказаць мне трэба нешта зусім іншае, а не гэтыя нікчэмныя словы.

— Бярозы! Бярозы! Я — самы шчаслівы чалавек.

Валера імкнецца цалаваць мяне зноў, а на маіх вуснах усё тыя ж нікчэмныя словы.

— Не трэба! Не трэба.

— А я — шчаслівы чалавек. І буду такім увесь год. І шмат год яшчэ. Гэта ж верная прыкмета: як стрэнеш год — такі ён і будзе. Я ў гэта веру!

— А я не веру.

— І дарэмна. Гэта ж вельмі цудоўна: увесь год, кожны дзень адчуваць сябе шчаслівым чалавекам!..

Валера зноў цалуе мяне, і я хоць менеі настойліва, але ўсё паўтараю тыя нікчэмныя словы «не трэба, не трэба» і адчуваю сябе таксама нікчэмнай, бо ў душы ўсё пратэстуе супраць гэтых маіх слоў. Я хачу, каб ён цалаваў мяне зараз, цалаваў увесь год, і хачу цалаваць яго сама кожны дзень, кожную гадзіну, кожную мінуту. Але ўсё гэта толькі ва мне, і я баюся гэтых сваіх парыванняў, баюся нават паварушыцца і стаю, як слуп, апусціўшы, як нежывыя, рукі, прыціскаючыся спіною да шурпатай бярозы.

Дурніца! Якая я дурніца! І баязліўка!

І Валера раптам сумеўся, адхінуўся ад мяне, таксама прыхінуўся спіною да сваёй бярозы, моўчкі глядзіць на вяршаліну. З галавы ў яго зляцела шапка, яна ляжыць на снезе чорным камяком, бы падзяляючы нас, і я баюся яе ўзняць, і ён не ўзнімае, нічога не заўважае і ўсё глядзіць і глядзіць на зорнае начное неба.

— Гэ-эээй-йй!

Гэта гукаюць нас, і рэха коціцца па парку, і варочаецца да нас і зноў адлятае, і зоркі, быццам спалохаўшыся гэтых галасных покрыкаў, зусім знікаюць з галін. Валера нахіляецца, паднімае шапку і не глядзіць на мяне, і я таксама баюся ўбачыць яго вочы. Я ўтаропілася позіркам на дол. Дзіва! На снезе — зоркі! Адліга яшчэ не кранула снег у парку, і на ацвярдзелым насце, бліскучым, як люстэрка, парассыпаны буйныя зоркі; яны ззяюць, зырка зіхацяць, успыхваюць калючым

святлом, потым знікаюць, бы правальваюцца глыбока ў снег, і зноў з'яўляюцца, бы хто выкідвае іх адтуль.

Ранкам — я толькі што ўзнялася — прыехаў Валера. Прыехаў павіншаваць мяне з нашым жаночым святам. Прывёз кветкі — галінку ружы: дзве расцвілі, вялізныя чырвоныя, а трэцяя яшчэ ў бутончыку.

Бабульцы — таксама падарунак: маленькая, але наўдзіў прыгожая каробачка цукерак. Бабуля, якая звычайна не вельмі добразычлівая да яго і насцярожаная, расчулілася, нават пацалавала Валеру.

Я таксама хацела зрабіць гэта, але прысутнасць бабулі — яна б магла тут жа прытомнасць страціць! — утрымала мяне: падзякавала, разгарнула паперу, каб паставіць ружу ў вазу. А ў паперы — канверт. А ў канверце — фотаздымак.

Разглядала, разглядала — не адразу і даўмелася, што на ім. Соснік, снег, дрэвы з лістотаю... Божухна! Гэта ж дубы! На касагоры, дзе бухалася з трампліна ў снег! Вось і лыжня... I той трамплін! Гэта ж ён спецыяльна ездзіў туды і зрабіў здымак! I подпіс «Глядзі наперад. Заўсёды смела глядзі наперад!»

Паднесла галінку ружы да твару — хацела неяк схаваць тую радасць, што агарнула мяне. Валера! Мілы мой і добры Валера! На свеце няма, не можа быць даражэйшага падарунка!

Водар ружы быў незвычайны. А пялёсткі, густа-барвовыя, мяккія, былі не халодныя, а цёплыя, быццам падагрэтыя знутры, і цяпло іх працяла маё сэрца.

Валера паведаміў, што наш суботні паход у лес на лыжах не адбудзецца: пасылаюць у тэрміновую камандзіроўку ў Рэчыцу, а потым — у Мазыр.

Валера ветліва развітаўся з бабуляй, і мы пайшлі. Праводзіла я Валеру да трамвайнага прыпынку, праўда, перад гэтым мы пагулялі ў парку — і ён паехаў дамоў, каб збірацца ў дарогу. Цягнік ідзе ноччу, я прапанавала зноў сустрэцца на вакзале, каб праводзіць яго, але Валера забараніў мне рабіць гэта, і мы развіталіся.

Дамоў я вярнулася нешта ля адзінаццатай — назад таксама ішла пешкі і не спяшалася. Бабуля сустрэла мяне буркатліва.

— Пазней не магла? — спытала.— Ой, глядзі, дзеўка, глядзі! Няўжо не бачыш, як ён цябе абгульвае?

Я абурылася. Што гэта за слова такое «абгульвае»? Прыдумляе, прыдумляе лухту розную...

— Каб жа толькі слова,— сказала яна і глыбакадумна ўздыхнула.— Тут жыццё ўсё сабе сапсуеш. З боку яно ўнька як усё добра відаць. I я адразу прыкмеціла: жанацік.

— Што, што?

— Жанаты чалавек, кажу... I не ты яму зусім патрэбна, а пакой. Яго ў Мазыр пасылаюць, а ён ехаць не хоча. Цябе, дурніцу, абкруціць хоча, а потым кватэрачку — напалам...

— Байкі нейкія! Слухаць моташна!

— А што, не жанацік ён, скажаш? Ну, прызнайся!

— Глупства! Якое глупства!..

А што мне заставалася рабіць? Сказаць ёй праўду? Ды яшчэ дадаць, што ён цалаваў мяне? Дык яна б звар'яцела, каб пачула ўсё тое, што я ведаю пра Валеру. Яна не зможа зразумець ні яго, ні мяне. А я не магу пераканаць яе ў тым, што раблю правільна, не змагу прымусіць перарабіць, змяніць яе стаўленне да Валеры, зразумець наша сяброўства.



Напэўна ж, не змагу. А галоўнае — не хачу. Яна стары чалавек, са сваімі поглядамі, ёй цяжка зразумець мае пачуцці. Магчыма, яна б і змагла мяне зразумець, каб ведала добра Валеру, ведала яго жыццё, яго мінулае гора. Але яна гэтага не ведае, і ёй цяжка разабрацца ва ўсім, тым, што ёсць паміж намі.

I яшчэ цяжэй ёй, мабыць, зразумець тое, што Валера — мой сапраўдны сябар.

Што лепш: хірургія альбо тэрапія?

Схаластыка, вядома. Тысцюткая. Але мы з Валерам сур'ёзна і грунтоўна абмяркоўваем гэтую праблему. Хадзілі ў кіно, потым абмяркоўвалі кінафільм, і гаворка наша збілася да гэтае праблемы.

Уласна кажучы, гаворку пачала я сама, хоць для мяне нічога незразумелага і няяснага ў гэтым пытанні няма. Я хачу быць тэрапеўтам. Прынамсі, гэта не зусім дакладна: я ўжо вырашыла і буду ім. Але я хачу быць добрым тэрапеўтам, а для гэтага, на маю думку, трэба ведаць і тэрапію, і хурургію, і анкалогію. Ведаць, увогуле, як мага больш ва ўсіх сумежных навуках. Разумею, што гэта і складана і цяжка. Але — неабходна.

Валера са мною не згодзен. Ён лічыць, што будучае ў медыцыне — гэта ён выводзіць, грунтуючыся на фактах уласнай геалагічнай практыкі,— належыць вузкім спецыялістам. Але выключным знаўцам менавіта ў сваёй галіне. Калі ж паспрабуеш, на яго думку, ахапіць усё, раскідаеш свае сілы, будзеш ведаць шмат, але сваю канкрэтную, абраную на ўсё жыццё галіну проста не зможаш вывучыць дасканала; дасканаласць і глыбіня плюс веданне асноўных палажэнняў у сумесных галінах — гэта і ёсць добры спецыяліст. Але галоўнае — дасканаласць і глыбіня ведаў у сваёй канкрэтнай галіне.

Я спытала: якога, маўляў, ён бачыць спецыяліста ва мне. Ён адказаў хутка, нібыта чакаў майго пытання:

— Добрага!

— Пажаданне прарока? Ці ёсць нейкія навуковыя падставы?

— Ты сама верыш у гэта. А яно ва ўсім так: верыш — спраўдзіцца абавязкова. I чалавек заўсёды павінен верыць сабе.

— Добра, буду ўсё жыццё карыстацца гэтым мудрым правілам.

— I дзякаваць мне!

Мы шмат жартавалі з Валерам і шмат гаманілі аб справах сур'ёзных, і я адчувала, што яму хораша са мною.

Дамоў ішла пешкі, павольна, зусім не спяшаючыся, нібыта нічога не чакала мяне наперадзе. Праспект быў амаль бязлюдны, рэдка, але перапоўненыя, пралягалі аўтобусы і тралейбусы, і я бачыла твары людзей і здзіўлялася, не разумеючы, чаго яны ціснуцца там, а не ідуць вось так, спакваля, па тратуарах. Я прымала ўвесь свет вакол сябе так, нібыта ў яго быў толькі адзіны клопат — мая асоба, і ва мне было замілаванне і гэтым светам, і гэтай асобаю, глыбокае перакананне поўніла сэрца: верыш — усё спраўдзіцца абавязкова.

Валеравы словы жылі ва мне. Раней, прымаючы нейкае рашэнне, я сумнявалася ў сваіх здольнасцях і нечага баялася. Цяпер для мяне не было розніцы паміж рашэннем, якое я магла прыняць, і верай у свае сілы. Цяпер я разумела: верыш — усё спраўдзіцца.

Разумела.

Але сэрца...

Сэрца было поўнае шчымлівай трывогі і няяснасці. Валера і я. Не, тут зусім не падыходзіць Валерава формула: я — чалавек, значыцца

ўсё магу!.. Не, дарагі мой! Я не ўсё магу. Калі ты побач — мне нічога не трэба. Мне і радасна, што ты побач, і трывожна, калі мы падыходзім да трамвайнага прыпынку, бо за ім абавязкова прыходзіць растанне, і з гэтым растаннем я нічога зрабіць не магу.

Сваю трывогу я ведаю — я баюся нашых растанняў. Растанняў кароткіх — толькі на адну ноч, бо ранкам ці ўдзень мы бачымся з табою зноў. Але твая трывога!.. Адкуль яна? І я не кажу табе аб ёй, бо ведаю, што ты адразу пачнеш пацвельвацца: прыдумляеш, маўляў, прыдумляеш... Але і ў гэтых тваіх словах, нават у жартах заўсёды гучыць трывога. Ты не заўважаеш яе, не прыкмячаеш, тоіш...

О, каб я магла зразумець сапраўдную прычыну гэтае самоты! Пакуль што толькі здагадваюся: каханне, відаць, наша цябе палохае. Недзе ў душы ты, мабыць, не верыш мне... Не, не верыш — гэта не тое слова. Ты верыш! Але недзе ў душы наўпярок твайму розуму жыве яшчэ стары боль. І гэта я вінаватая, што гэты боль яшчэ жывы. Але што я магу зрабіць?..

На алеі парку ціха, самотна. Гарань ліхтары. Але сосны здаюцца чорныя-чорныя, і чорным выдае апаўшае сасновае шыгалле, і толькі ўверсе, над усёй алеяю, лягла роўна крыху святлейшая паласа неба, што быццам разрэзала парк на дзве чорныя скібкі. І ў гэтым святле мне добра відаць чалавечыя абрысы ля сасны — хлопец цалуе дзяўчыну...

Нейкі горкі смех бунтуе ва мне — аж звініць у скронях кроў. Пасля той ночы ў зімовым парку Валера болей аніводнага разу не цалаваў мяне. Чаму? Я не ведаю. Ды якое мае значэнне прычына! Ты ж сама прасіла-маліла яго: не трэба, маўляў, не трэба!..

І настойліва. Нават вельмі настойліва прасіла!..

Саснілася невядомая рака, човен, бляск вады і шэра-попельныя лазнякі на прырэчных узвалах. Човен з белым ветразем, лёгкі, плыве хутка, і мы з Валерам на гэтым чоўне.

А потым я стаю на беразе, а човен адплывае, і на чоўне Валера, і нешта гаворыць ён мне. Сілюся і не магу зразумець. Але раптам словы робяцца ясныя, зразумелыя: ён, Валера, хутка вернецца — на тым беразе яго нехта чакае. І я сама прыкмячаю, што сапраўды на тым беразе Валеру нехта кліча, але не магу зразумець, хто гэта, і толькі чую Валераў голас, і ў голасе гэтым роспач і туга.

Гэта ўсё саснілася ўчора. Яно мне снілася і раней, але ўчора малюнкі сну — човен, рака, напяты ветрам ветразь — былі незвычайна яркія і трывожныя. І я ведаю з чаго гэта: учора ўвечары Валера сказаў мне, што едзе дахаты — захварэла яго маці. І, як звычайна, ён пачаў расказваць мне пра Дзвіну, човен, на якім дужа лоўка можна плысці пад ветразем.

А сёння Валера едзе. Ён нядаўна быў у камандзіроўцы і вось зноў едзе, і гэта ўжо не сон, а сапраўднасць, што ён пераконвае мяне: хутка, маўляў, вярнуся. Няма толькі аніякага чоўна, а ёсць перон вакзала, вагоны цягніка і яшчэ вастрэйшая, чым у сне, туга.

Валера едзе, і я трывожуся. Мне ўвесь час здаецца, што ён едзе да «яе», былой сваёй жонкі, што яна там яго страчае, і ён чакае гэтых стрэч. Ведаю: непатрэбная падазронасць. Ведаю: не можа гэтага быць, але нічога не магу зрабіць з сабою.

Што гэта? Рэўнасць? Боязь згубіць Валеру? Проста жаноцкая падазронасць? Напэўна. Ды не, не напэўна, а сапраўды. Валера самы дарагі для мяне чалавек на зямлі. Мая радасць. Мая трывога. Мае мары і спадзяванні!..

Але што будзе з гэтай маёй радасцю, з маімі марамі, спадзяваннямі?.. Ніхто мне на гэта не адкажа. Ніхто не можа адказаць штонебудзь пэўнае.

Валера ад'язджае. Ён едзе туды, на сваю Дзвіну, і ён ужо ўвесь у чаканні і радасным прадчуванні сустрэчы з роднымі мясцінамі, якія ён любіць бязмежна і пра якія можа мне расказваць бясконца.

— Я прывязу табе сома,— абяцае ён мне.— І яшчэ судака. І не абы якога, а вэнджанага! Абавязкова прывязу. Сам злаўлю — у нас там судакі добра бяруцца. І сом мяне чакае. І судачок!

Ён пра Дзвіну гаворыць часам, як пра жывую істоту: чакае, маўляў, мяне. А хто яшчэ чакае яго там? Яна, магчыма, тая жанчына... Ды не, не проста жанчына, а жанчына, якую ён некалі кахаў, якая была яго жонкаю...

Нічога не магу зрабіць са сваімі пачуццямі: я ненавіджу яе, тую жанчыну, якая мажліва, чакае яго там, на Дзвіне, і якую я ніколі не бачыла... Не, чаму ж не бачыла! А фотакартка!

Няўжо я ніколі не пазбаўлюся ад гэтых думак?

Валера едзе. І ён не пакідае мне аніводнага адказу на гэтыя мае пытанні. Ён, мабыць, нават і не ведае, што яны існуюць. Мажліва, мне трэба было б папытаць яго пра ўсё гэта? Але я не магу, не маю права, як мне здаецца, ані пра што яго распытваць. Ён павінен сам адказаць на ўсе тыя пытанні. Сам! А мне трэба чакаць. Я змушана чакаць.

Але колькі ж чакаць?

Мажліва, усё жыццё. І нават калі і сапраўды здарыцца так, што нічога тут не пераробіш, застаецца толькі адно: чакаць. Чакаць, бо спытаць яго — значыцца, дакрануцца да старой раны, а ты не зможаш, не маеш права зрабіць яму, Валеру, нават маленькі, самы маленькі боль...

Ля маіх ног з лянотаю плюскоча Чорнае мора.

Я апынулася тут зусім выпадкова. Вольга і Сцяпан сабраліся ў турысцкае падарожжа па Крыме на бацькавым «Масквічы». Вольга запрасіла і мяне, і толькі ў машыне, калі мы былі ўжо далёка ад дому, я зразумела, з якіх меркаванняў. У машыне, апроч нас, быў яшчэ Іван Раманавіч Бохан, Сцяпанаў прыяцель, пісьменнік, які нядаўна стаў удаўцом.

Пра гэтую, апошнюю, акалічнасць Вольга мне сказала, даючы зразумець, што я павінна пасябраваць з пісьменнікам.

— Бохан чалавек далікатны,— сказала яна.— І вельмі ўплывовы. Май гэта на ўвазе...

Цяпер яны са Сцяпанам пайшлі піць сухое віно — «паўднёвы мацыён для страўніка», як кажа Бохан. А мы з Вольгаю смажымся на сонцы.

Над намі чысцюткі густа-сіні прасцяг неба. Аблачынкі, падобныя на далёкія горы, толькі на даляглядзе, здаецца, што яны ціха і непрыкметна выплываюць з вады. Я расчысціла ля сябе мясцінку і на вільготным рудым пяску складаю з белых каменчыкаў лічбу дваццаць чатыры.

— Што гэта? — пытаецца Вольга і стукае пальчыкам па маіх каменчыках.

— Здагадайся.

— Дваццаць чатыры дні мы правядзем у гэтым райскім куточку,— гаворыць Вольга і вымаўляе словы з паўднёвым акцэнтам, нібыта грузінка, у якой мы ранкам купляем персікі.— У гэтым райскім краі...

— Гэта — дата. І вельмі важная.

— Ах, у гэтым месяцы табе ж дваццаць чатыры гадочкі. Во якая вырасла, а розуму... Дзе ён, скажы?

— Ён у камандзіроўцы. І вернецца дваццаць чацвертага.

— Ах, праўда. Ты ж мне казала. І што, Валера прыедзе сюды? — з нейкай трывогаю пытаецца Вольга.

— Не. Гэта я вярнуся туды, у Мінск.

— І табе не шкада пакідаць гэтае райскае мора? Зірні, ідуць нашы грэкі...

Берагам, ля самай вады, ідзе Бохан, нешта даводзіць Сцяпану, і той спрачаецца, энергічна ўзмахваючы правай рукою. Спыняюцца яны непадалёк. Бохан садзіцца, а Сцяпан стаіць побач, звёўшы рукі за спіною, потым мяняе паставу, крыху паварочваецца і адна рука ў яго на паясніцы, на чырвонай палосцы плавак, а другая закінута за голаў; ён гэтак і стаіць, стаіць доўга, узіраючыся ў бок мора, і ўся яго постава нагадвае прыгожую скульптуру, адлітую з цёмнай бронзы. Дык вось чаму Вольга заве іх грэкамі! Сапраўды, падобны на скульптуру грэка, які кідае кап'ё — я бачыла гэтую скульптуру ў Маскоўскім музеі. Грэкі былі выдатнымі медыкамі, бо кожная іх скульптура, якая дайшла да нас з тых далёкіх часоў,— прыклад бліскучага ведання анатоміі чалавека: кожная мышца — дакладны адбітак натуры, прычым выдатнай.

Я кажу гэта зараз Вользе, і яна рагоча:

— Ідэалістка! Хіба ў іх там не было гарбатых і крывых? Ты ўвогуле жывеш у нейкім невядомым антычным часе. А жыццё — гэта сучаснасць, з усімі праявамі, якія ўласцівы жывой прыродзе.

— Але твой грэк выглядае імпазантна. І як прыгожа ўглядаецца ў марскую прастору. Пра нешта ж думае...

— Даведацца, пра што ён звычайна думае, гэта цяжэй, чым пералічыць каменне на гэтым беразе.

— Як? Вы хіба ніколі з ім не думаеце ўслых?

— Гэта нецікава ўвогуле. Думаць услых — значыцца, хлусіць свядома...

— Разам жыць і не ведаць, пра што думае той, хто побач? Не разумею...

— Звычайна гэта разумеюць пасля вяселля. Крыху спагадзя...

Вольга глядзіць на неба, потым закрывае вочы. Голас яе гучыць журботна і аднастайна, нібыта выплывае з ціхага шоргату вады і звону каменьчыкаў.

— Раней мне здавалася: Сцяпан разумее мяне. Але цяпер мне ўжо нічога не здаецца, і я бачу, што спроба пераканаць сябе, што мы разумеем адно другога, самападман. Раней ён не разумеў мяне, але спрабаваў гэта зрабіць, а цяпер нават і не спрабуе. Пра сваю работу ён нічога мне не гаворыць, лічыць, што я дурніца, нічога не петру ў мастацтве. І я таксама навучылася нічога не казаць яму пра свой клопат. Я нават баюся распытваць яго, бо ён што-небудзь мармытне ці схлусіць, скажа зусім не тое, што думае, чым заклапочаны, і я гэта бачу, і гэта мяне крыўдзіць, прыносіць боль. А я не хачу болю. Я хачу сонца, цяпла, пяшчоты, ласкавасці, чуласці...

— Ты не кахаеш яго? — кажу я, і гэта гучыць як запытанне, і як сцвярджэнне, і як вялікае адкрыццё, якое палохае мяне.



— Не ведаю. Здаецца, кахаю. Мы сварымся часцяком. Але я нават навучылася варыць каву. І люблю яе піць...

Тое, пра што гаворыць Вольга, ніяк не месціцца ў маім розуме. Але я веру ў яе шчырасць, яна не хлусіць — я пераконана. І як жа тады разумець яе словы?.. Калі побач з табою чалавек, якога ты кахаеш, адкуль жа сумненні, як можна не зразумець тое, аб чым гаворыць твой сябар?

Сябар і сумненні?..

Гэта несумяшчальна, тут адно выключае другое. Але ж як тады разумець тое, што ёсць? Вольга тут, яна скардзіцца мне, а Сцяпан там, на вострай грані базальту, які нахілены ў бок мора, быццам восьвось абрынецца ў пакатыя хвалі, і, мажліва, і ён жаліцца Бохану...

Два чалавекі...

А я з Валерам? Ці заўсёды я разумела яго? Ці заўсёды ведала, пра што ён думае?..

Гэта дужа цяжка — думаць увесь час толькі пра адно і тое ж. А я — думаю. І думкі мае — пра Валеру. Дзіўна нават: слухаю Вольгу, дзіўлюся і яе словам, і яе скаргам, а думаю пра Валеру.

Валера, Валера...

Калі ён побач са мною— ведаю аб ім усё: нават калі ён маўчыць, я, здаецца мне, ведаю, пра што ён думае. Гэтыя думкі не заўсёды прыемныя, яны трывожаць мяне, але я — ведаю іх.

— Як Бохан табе? — нечакана пытаецца Вольга.

— Цікавы чалавек.

— І толькі? Мне здаецца, што ты прысушыла яго. Толькі ён баіцца пра тое казаць.

— Глупства. Ты добра ведаеш, што я кахаю Валеру!

— Дзіўны гэты свет! Адзін мужчына кахае жанчыну, можа зрабіць яе найшчаслівейшай істотаю. А яна кахае другога, і гэтае каханне акрамя пакут не дасць ёй нічога, і яна ўсё роўна сніць і марыць менавіта аб ім!

— А ты здрадніца, Вольга. Я ж ведаю, дзеля чаго ты запрасіла мяне ў гэтае падарожжа!

— Гэта — Сцяпан. Я ўвогуле хацела, каб мы паехалі адны, каб побач быў толькі Сцяпан. А ён настояў: паедзе і Бохан!

— Навошта? Давай ужо шчыра...

— Толькі ты нікому не кажы,— Вольга панізіла голас да шэпту.— Яны пішуць сцэнарый. І яшчэ ведаеш? Сцяпан піша вершы. На мой погляд — дрэнь несусветная. А Бохан — хваліць. Прыедзем, я табе пакажу. Толькі ты — ані-гу-гу! Бо ён павесіць мяне!..

Вольга гучна рагоча.

Учора: сонца, аксамітнае мора, пах міндалю, нібыта ў жоўтую вату абкручаныя галіны мімоз — вясновы поўдзень, адным словам. Райскае жыццё, як казала Вольга.

Сёння: слота, сцюдзёны вецер, замглёнае непрыветнае неба, нуднае чаўканне размяклага снегу пад нагамі. І як дадатак — у аэрапорце мяне не стрэў Валера.

І вось ужо другую гадзіну я дома, і не ведаю, дзе ён, і не ведаю, дзе яго можна шукаць. І галоўнае — аніводнага пісьмка! А можа гэта і справядліва — адплата за тое «райскае жыццё», дзе не было аніякага клопату.

Шчоўкае замок у дзвярах — вярнулася бабуля. Але яна не адна — з кімсьці гаворыць. А з кім жа гэта? Дык жа гэта Валера!

Куляю — на калідор! Ён усё абглядаў мяне з усіх бакоў, пацвельваўся:
— Засмажылася! Ну і ну!
— І ты загарэў. Нават бровы выцвілі.
— Гэта табе,— ён працягнуў мне жоўты скрутак.— Шле падарунак Дзвіна.
— Сом?
— Нават два. Судакі сёлета не бяруцца...
Што мне тыя судакі! Валера не проста тады жартаваў на пероне, ён помніў пра мяне, думаў. Там, на поўдні, я думала пра гэта: прывязе сома — значыцца, кахае. Глупства, вядома. Ён мог купіць рыбіну ў мінскай краме. Галоўнае ж не гэта: ён — помніў, думаў пра мяне там, на сваёй Дзвіне!..
Вячэралі ўсе разам — утраіх. Бабуля сядзела побач з намі, расхвальвала сома; рыба прыемна пахла дымам.
Я слухала іх гаворку і не магла надзівіцца. Што ж гэта робіцца з бабуляю! Гаворыць з Валерам пачціва, жартуе, павага невядома адкуль з'явілася. Дзіўныя змены! І Валера змяніўся: трывожныя, сумныя вочы. І мне пад гэтым яго трывожным паглядам робіцца ніякавата.
Калі гадзіну спагадзя мы гулялі ў парку, размова ў нас з Валерам не ладзілася. Мы і раней маглі хадзіць моўчкі, але адчужанасці паміж намі не было. А цяпер яна, гэтая невядомая мне раней адчужанасць, была, і я сэрцам адчувала: нешта адбылося нядобрае. Але што? Сілілася і ніяк не магла даўмецца.
— Як на поўдні? — спытаў Валера.
— Прыгожа. І дужа цёпла. Вада, праўда, халаднаватая, але мы купаліся і спалі ў палатцы...
Сказала і тут жа спахапілася, што казала яму ўжо і аб гэтай палатцы і ўвогуле аб усім тым, што было ў маім нечаканым паўднёвым падарожжы. Спахапілася і адчула нікчэмнасць нашае гаворкі, адчула, што ўсе словы мае, а таксама і яго — шырма, не болей як звычайная шырма, за якую і ён і я хочам схавацца.
Я ведала: хачу схавацца ад той адчужанасці, што была ў Валеравых вачах. І не разумела, ад чаго хоча схавацца ён сам.
Сапраўды, ад чаго?
Ад мяне? Мажліва ён усё адкінуў, мажліва я са сваім наіўным каханнем толькі перашкаджаю яму, а калі і не перашкаджаю, дык зусім непатрэбна. І гэта, здаецца мне, падобна на праўду, падобна на праўду — гэта мая здагадка, бо ён мужчына і ведаў другое каханне, не такое наіўнае і бязглуздае пачуццё.
Другое каханне!..
— Паедзем у Ратамку? — спытаў Валера, і я нават здрыганулася ад нечаканасці гэтага пытання.
— Куды, куды?..
— Паедзем у Ратамку, кажу. Я цяпер там жыву — знайшоў маленькі пакойчык. З цёткаю ў нас не атрымліваецца ладу — сварымся. Я табе потым усё раскажу пакрысе... Дык едзем у Ратамку?
— А дзе гэта?
— Ты не была хіба там? За Ждановічамі. Электрычкаю. Далей Крыжоўка, Зялёнае... Едзем?
— Такая слота.
— Ты што, не бачыш? Марозік бярэцца. І снег. Звычайнае сакавіцкае надвор'е.
У электрычцы мы зноў гаворым пра снег, які ідзе цяпер густа: у бела-шэрай імгле хаваецца далягляд. Валераў твар насцярожаны, як у чалавека, які ўвесь час чакае непрыемнага пытання.
За акном ужо Ждановічы. Снег не ідзе, нават свеціць сонца. Злева ад станцыйнага будынка лёгкі драўляны павільён для пасажыраў: востраканечны дах, ярка пафарбаваны франтон. А побач — у два рады — растуць таполі, высокія, але не разгалістыя, як звычайна, а тонкія, імкліва выцягнутыя ўверх.
— Зусім як на поўдні. І як падобны гэтыя таполі на кіпарысы... Ты бачыў, як растуць кіпарысы?
— Ты цяпер шмат чаго будзеш параўноўваць толькі з поўднем. Пазалетась, калі мы былі там і потым вярнуліся, у мяне было такое ж адчуванне...
У Ратамцы ад станцыі ідуць дзве дарогі. Мяне прывабіла вузенькая, тая, што ўлева.
— А гэтая дарога куды? У лес? — спытала я.
— Так. За соснікам дачны пасёлак збудаваны.
— Пойдзем у лес. Унька на той пагорак.
Мы пайшлі дарогаю, і ўсё вакол нас наўздзіў хутка мянялася. На сонца, якое дагэтуль ярка свяціла, напlывала шэрая хмара, і было дзіўна бачыць, як чэзнуць, робяцца непрыветнымі і пагорак, і лес, і звілістая, слаба ўезджаная дарога. Лес быў ужо зусім блізка, і паабапал дарогі ўсё вышэй узнімаліся снегавыя гурбы. Падыходзім бліжэй, і гурбы адсоўваюцца, і тады паміж гарбатых шэрых пагоркаў бачыцца нешта накшталт дарогі. Падобна на тое, што мы зблудзілі.
— Не хвалюйся, я не Сусанін, у багну не завяду,— паабяцаў Валера.
— Сусанін вёў ворагаў. А я — твой сябар. І я ведаю, што сяброў не вядуць у багну, сябрам гавораць усё, з імі раяцца, у горы ці бядзе — апірышча яны. А ты тоішся ад мяне... А я ж ведаю, адчуваю: нешта здарылася...
— А як жа! Змяніў жа месца жыхарства!
— Гэта не больш, як жарт. І не зусім удалы.
— І ўрэшце ўхвалілі тэму дысертацыі. І гэта шмат што мяняе ў маім жыцці... І самае галоўнае; ты гаворыш з будучым прафесарам!..
— У нас з табою заўжды амаль так: калі што сур'ёзнае ў гаворцы — адразу жарт на дапамогу. За ім хаваемся. Мяне гэта заўсёды крыўдзіць.
— Ты ўпершыню папракаеш мяне.
— Не папракала. І ніколі не буду. Ані ў чым!..
Мы крочым моўчкі і гэтак жа моўчкі ўваходзім у лес. У рэдкай снегавой імгле — сонца свеціць праз хмару — ўсё навокал зацярушана мядзяным пылам — дрэвы выдаюць тоўстымі, і сняжынкі відаць толькі ў той міг, калі пралятаюць блізка ля твару, а далей вісіць усё тая ж мядзяная імгла. І ціхуткі, ледзьве ўлоўны шоргат і шархаценне — гэта шархаціць, спаўзае па сасновым голлі, снег.
— У горы ці бядзе — апірышча яны,— паўтарае Валера мае словы.— Правільна. І самая цяжкая віна — гэта калі вінаваты перад сваім сябрам. А перад табою я вінаваты крэпка...
— Не-ее, Валерачка! Перада мною ты ані ў чым не вінаваты. Ані ў чым!
— Я ведаю, што кажу... Калі цябе не было, прыязджала Рыта. Яна з цёткаю заўсёды сябравала, і тая сустрэла яе з вялікай радасцю.
— Навошта ты гаворыш мне гэта? Навошта?!
— Навошта? На тое, каб не было падману. Ані ў чым. І ніколі не было ў нас падману...

Валера нахіляецца, бярэ ў прыгаршчы снег, доўга камечыць яго і нечакана моцна шпурляе снегавы камяк; нейкі міг, і з лесу далятае мяккі пошчак — камяк бэхнуў па сасне. І гэты мяккі пошчак, як стрэл, гучыць у вушах. «Каб не было падману...» А хіба ж ён не падмануў мяне? Мажліва і ёй таксама ён казаў гэтыя ж словы, тыя ж словы, што гаворыць зараз мне. І можа вось так, як зараз, ён хадзіў па дарозе з ёю, там, ля возера, у тым парку, ля тых нашых бяроз!..

Гэта здрада! Гэта здрада! Гэта здрада!..

Звінелі, ціснулі мне скроні гэтыя словы, але я не пусціла іх на волю. Я не сказала яму нічога. Хацела і не сказала. Невядомая мне сіла звяла вусны, і я змоўчала.

А Валера паўтарыў маё пытанне.

— Навошта ты гаворыш мне гэта? Адказаць на тваё пытанне прасцей, і я, безумоўна, табе адкажу. Але цяжэй зразумець, чаму ўзнікае ў тым патрэба, патрэба ў шчырасці, патрэба не хлусіць, і я хачу, каб ты гэта зразумела. Я б мог табе і не казаць пра тыя два дні, і ты ніколі б, мажліва, не даведалася пра іх. Але тое, пра што я не сказаў бы табе: усё роўна жыло б, існавала ва мне і рана ці позна паўстала б паміж намі сцяною і падзяліла нас на два светы, якія нічога не звязвае. А я не хачу! Не хачу, каб гэта калі-небудзь адбылося... Не, не! Не перашкаджай мне, я хачу ўсё табе сказаць, і ты, калі ласка, слухай, толькі слухай... Калі ты побач — мне вельмі хораша і заўсёды блага, калі цябе няма, калі ты далёка. А яшчэ горай мне было, невыносна горай было тады, калі я думаў, што магу памыліцца і прынесці табе боль. Боль адзіноты. Быць аднаму — гэта цяжка, але гэта — не адзінота яшчэ. Адзінота — гэта тады, калі ты ўдваіх, але ты — адзін. З табою побач чалавек, якога ты лічыш блізкім, не чужым, але ты — адзін, і ён, гэты чалавек, горай чужога...

— Некамунікабельнасць, адным словам. Гэта цяпер модна. Модна спасылацца на гэта. Навуковая падстава, як гаворыцца...

Ён быццам не пачуў мае словы, і нічога на твары ў яго не адбілася, толькі ён увесь неяк прыгнуўся.

— У мяне была жонка,— сказаў Валера, і я прыкусіла губу і загадала сабе, што буду маўчаць, аніводным словам не перапыню яго. І я прыходзіў дамоў, бо ў мяне быў дом, і адчуваў, што я адзін, што дом пусты, што ў сапраўднасці ў мяне няма і ніколі не было таго, што чалавек заве звычайна «мой дом». Удзень гэта яшчэ нічога. Але ўночы... Побач з табою чалавек, а ты — адзін. Горай гэтай адзіноты, мабыць, няма нічога больш жахлівага...

І калі цяпер прыехала Рыта, я ўбачыў не проста жанчыну, а чалавека зусім, зусім адзінокага. Адзінота кладзе на твар чалавека знак, які нават і час з цяжкасцю сцірае... І гэты знак мае над намі нейкую ўладу: ты адчуваеш патрэбу дапамагчы чалавеку і потым доўга дакараеш сябе, калі не працягнуў руку помачы. Але я падмануў сябе, дакладней не падмануў, а праверыў свой стары боль, зразумеў яго вытокі, зразумеў, што павінен не таіць ад цябе нічога, а ўсё расказаць, каб нас не падзяляла, аніколі не магла падзяліць адзінота...

Розумам я разумела гэтую споведзь. А сэрцам — не! Больш таго, я была жорсткая і бязлітасная, быццам мяне падманулі ў нечым самым важным, святым.

— Ты будзеш помніць яе ўсё жыццё. І закрэсліць яе не зможаш. І не зможаш ненавідзець.

— А пры чым тут нянавісць?

— Ёсць толькі дзве ніці, што звязваюць жанчыну і мужчыну: любоў і нянавісць.





— Ёсць, на жаль, і іншыя. Суіснаванне і адзінота, напрыклад.

— Мне гэта не трэба.

— А мне тым больш. Мне толькі думаецца, што ты зараз пакрыўдзілася і не ўсё зразумела... Гэта — разуменне — прыйдзе потым, крыху спагадзя...

Падаў і падаў снег, і цяпер ужо не мядзяным, а густааранжавым бляскам свіцілася неба над лесам, і яшчэ гучнейшы зрабіўся шоркат сняжынак, што церусіліся з сасновага голля. Як гучна можа шархацець мяккі снег!

— Ты памыляешся,— сказала я, як мне здалося, спакойна і зусім абыякава.— Я ўсё зразумела. Літаральна ўсё! Хадзем назад!..

— Хадзем...

Зноў вакол нас былі снегавыя гурбы, і мне цяжка было ісці, і ў сэрцы маім незразумела змяшаліся скруха, туга і трывога. Цяжка разабрацца ў гэтай мешаніне, але я прымусіла сябе маўчаць, нічога не казаць Валеру, і з гэтага маўчання пакрысе прыходзіла да мяне яснасць. Скруха — гэта шкадаванне ад таго, што ў маім жыцці ўсё разбуралася, разбуралася тое, у што я глыбока верыла і што цяпер пахавала бязлітасна сама — маё каханне; туга — гэта крыўда на Валеру за тое, што ён не зразумеў маёй жорсткасці, не паспрабаваў ні ў чым пераканаць ці патрабаваць нейкіх тлумачэнняў, а тут жа з усім пагадзіўся і пакорліва пайшоў побач, бы нічога не здарылася, быццам усё ішло так, як трэба; трывога — гэта спачуванне і баязлівасць, бо мяне пачынала непакоіць думка пра тое, як цяжка будзе цяпер Валеру. Зноў — адзінота? Няхай я была яму благім сябрам, калі слухала яго споведзь, не разумела яго, але ж я, як магла, увесь час ахоўвала яго пакой, хацела, каб яму было лепей!.. Хацела адным словам, каб было як лепей, а выйшла як найгорай!..

Да станцыі мы дайшлі моўчкі. На пероне зусім і не давялося пастаяць. З-за павароткі прынеслася, узнімаючы белы пыл, электрычка; у вокнах гарэла святло, і я бачыла, што вагоны амаль пустыя; памкнулася да вагона, але Валера затрымаў мяне.

— Гэта — маторны. Электраматоры вельмі гудуць — будзе балець галава. Лепей садзіся ў гэты...

Яго клапатлівасць раззлавала мяне, але я зноў стрымалася. Мяне нават здзівіла, што я магу так валодаць сваімі пачуццямі, але не ўзрадавала, я толькі адзначыла гэты факт, і ўпершыню адчула за гэты вечар, што недзе зрабіла памылку. Але якую, дзе — не магла даўмецца.

Валера ішоў уповравень з вагонам, калі электрычка кранулася. На яго твары то наплывалі, то знікалі дрыготкія палосы, і твар ад гэтага чаргавання дзіўна і хутка змяняўся, і я толькі пазней, калі за вокнамі імкліва адляталі назад пярэстыя дрэвы, здагадалася, што Валераў твар быў такі пярэсты ад святла, што падала з вокнаў электрычкі; і мне раптам так стала шкада яго, Валеру, так шкада свайго кахання, што я не ўтрымалася і заплакала. У вагоне было ўсяго тры пасажыры, і сядзелі яны далёка ад мяне, і, вядома, ж, нічога не заўважылі, але я хуценька выцерла слёзы і адчула як бы нейкую палёгку.

А электрычка імкліва неслася наперад, і цяпер за акном было ўсё знаёмае. Станцыйны будынак і нізкі перон «Мінскага мора», чэзлыя яліны на касагоры, вузкая сцяжынка ў густой сцяне ахоўных пасадак. Аднойчы мы варочаліся з мора, спяшаліся дужа на электрычку і беглі гэтай сцяжынкаю, і я зачапілася за гнуткае карэнне, але не паваліласе — Валера падхапіў мяне на рукі,— і мы ўляцелі ў вагон электрычкі і доўга смяяліся з таго здарэння на сцежцы.



Валера... Валера...

Усё ва мне як бы зварухнулася; думкі панесліся назад, туды, на перон, дзе пад таполямі застаўся Валера, і прыводзілі мяне да высновы, якую я не хацела прымаць і ўсё адкідвала ад сябе; тут, у вагоне, пад грукатлівы звон колаў, я пачынала разумець, дакараючы сябе — ах, чаму ж гэтак запознена прыйшло гэтае разуменне, а не з'явілася там, у лесе, замест нікому непатрэбнай маёй жорсткасці! — пераконваючыся, што яшчэ болей, чым калі-небудзь, кахаю Валеру.

Страчацца з ім ты болей не будзеш! Гэта я загадала сабе. Ты павінна выкінуць яго з душы, з сваіх думак, з сваіх успамінаў і спадзяванняў!

І сама пасмяялася з гэтага. Выкінуць? А навошта? Сустрэчы з ім, гаворкі, радасць спатканняў — хіба ж гэта не самае лепшае, што было ў маім жыцці?.. А тая навагодняя ноч над возерам у зімовым парку? І аснежаныя бярозы, і зоркі, што віселі, як прывязаныя, на галінах, і Валераў пацалунак?.. Чым жа тады жыць?..

Не, гэта ўсё павінна быць у душы, гэта трэба берагчы, захоўваць і нічога з гэтага ніколі і нікому не аддаваць!..

## 3

Ранкам Піваварава з намі ўжо не было — ён злез з цягніка на світанні на нейкай маленькай станцыі. Толькі адзін лейтэнант развітваўся з ім, ён жа сказаў мне і назву станцыі, але яна, гэтая назва, тут жа выветрылася з памяці. А вось прозвішча нашага былога спадарожніка па купэ, яго жарты засталіся. Ёсць такія людзі: мільгане перад тваімі вачыма, пажартуе, і словы гэтыя застаюцца надоўга ўспамінам лёгкім і прыемным.

Адчуваю: лейтэнант не належыць да такіх людзей. Мы з ім зноў выйшлі на калідор і зноў глядзім у акно. Нейкая вёсачка. Дымы над комінамі. Машына на дарозе, што жоўтай падковаю агінае возера. Возера невялічкае, злева зарасло рудой нізкай асакою, а ля вёскі асака трыма палосамі, быццам нізенькім плотам, разгараджвае пабітую рабаціннем паверхню; плавае чародка качак, адна качка ўзлезла на беражок, лопае крыламі, бы спрабуе ўзляцець, і над ёю вісіць празрыстае вясёлкавае кола.

— Прыгожа, праўда? — пытаецца лейтэнант.

— Звычайная вёска. І лес далёка. Я люблю, калі лес побач...

— Звычайная мара гараджаніна. А той, хто жыве ў вёсцы, марыць пажыць у горадзе. Вось скажы мне: жыві, браце, вось у гэтай вёсцы, хадзі штодня ў лес, збірай грыбы... Не пагаджуся, мабыць. Не, напэўна не пагаджуся. А ў душы жаданне такое часам узнікае.

Адчуваю: ён хоча распачаць гаворку аб маёй будучай працы, нешта, мабыць, даводзіць, штосьці раіць, у нечым пераконваць. Учора такая гаворка была мне па душы, а сёння, пасля прайшоўшай ночы, мяне быццам падмянілі. Успаміны пра мінулае вярнулі мяне ў той, зусім нядаўні і радасны свет, дзе я жыла, і я адчула цяпер нейкую як бы вінаватасць перад Валерам. Нават не, не перад ім, а перад маімі думкамі, перад кожным маім словам, што я кажу і казала тут, у вагоне, з незнаёмым мне раней чалавекам.

Успаміны ў ночы абудзілі абавязак перад тым мінулым, перад маім пачуццём да Валеры. Я нават не разумею, адкуль ва мне пачуццё гэтага абавязку. Валера? Нас нічога не звязвала, нічога не звязвае зараз. Але чаму тады я так лаю сябе за крыху гуллівую размову ўчора з лей-

тэнантам, чаму і сёння неяк ніякавата мне, быццам я павінна была гаварыць зусім іншыя словы і ўчора і сёння? І разам з тым, адчуваю сябе неяк спакойна, калі лейтэнант звяртае на мяне ўвагу, гаворыць са мною. Ён жа мог размаўляць і з Вольгаю! Але ён быццам і не заўважае яе, асабліва сёння ранкам. І яна гэта бачыць і знарок пагнала нас на калідор.

Дзверы з тамбура адчыняюцца — уваходзяць наш праваднік і жанчына. Жанчына голасна патрабуе:

— Вы аб'явіце, калі ласка, аб'явіце па сваім вагоне! Павінен жа адшукацца ўрач які-небудзь! Хлопчык жа крывёю сцякае! Крывёю! Разумееце?!

І ўжо зусім прафесійная рэакцыя ў мяне на гэтыя апошнія словы невядомай жанчыны — я мігам апынулася ля яе.

— Што з вашым хлопчыкам? І дзе ён?

Зеленаватыя, як са шкла, вочы спалохана ўтарапіліся на мяне.

— Мы ў трэцім вагоне. У трэцім едзем... Адкрытыя дзверы былі, а Пецечка ручкаю за канцік узяўся. Вагон — то-орг. А яму расцiснула ручаньку.. Кроў там, кроў... Ай-яй-яй! Дык вы доктар? То скарэй жа, доктар!

— Чакайце. Я зараз!..

Уляцела ў купэ, схапіла сваю сумку, і мы пабеглі. Лейтэнант увесь час наперадзе — адчыняе перад намі дзверы.

Я поўная адвагі, гатовая на вялікі подзвіг і самаахвярнасць. Вось і трэці вагон. На калідоры поўна пасажыраў, але ўсе расступаюцца, калі мы ідзем. Уваходзім у купэ. Заляпаная крывёю прасціна, спалоханы твар кучаравага хлопчыка з вялізнымі ад болю і жаху вачыма. І буйныя слёзы коцяцца па шчоках. А рука ў хлопчыка тоўстая, як калода — навярнулі на яе ўжо адзін ручнік, другі, а пад ім яшчэ і хусцінка нейкая, белая, уся ў буйных чырвоных плямах. І калі хлопчык бачыць гэтую хусцінку — ручнікі я хуценька зняла,— твар яго расцягвае грымаса болю, і ён верашчыць, як парасё.

— Баліць! Баліць! Баліць!..

Ведама, баліць. Але хлопчыку пашчасціла, і ўсё не так страшна як мне здавалася: рука цэлая, пальцы цэлыя, толькі на вялікім і ўказальным разадрана скура.

— Ну, не плач, не плач,— прашу я хлопчыка і адкрываю сваю сумку.— Мы цябе зараз і вылечым. І ты праз дзень будзеш гуляць у футбол. Ты гуляеш у футбол?.. Дык вось, аднойчы Пеле... Ты ведаеш, хто такі Пеле? Ага, ведаеш. Дык вось аднойчы ён паваліўся і абадраў абедзве далоні — гэта моцна ўдарыўся. Але ён гуляў да канца. Праўда, яму перавязалі руку, і ён гуляў да канца і забіў два галы. Нават не два, а тры. А ў цябе, калі гэты палец зажыве — а зажыве ён роўна праз два дні — скура на пальцы будзе такая крэпкая, што ні аб які камень не праб'еш. Карацей кажучы, будзеш ты забіваць галы, і хлопцы яшчэ табе пазайздросцяць, бо ў іх ніколі не быў так падраданы палец...

Я, вядома ж, хлусіла, бо аніякага такога выпадку з Пеле не ведала. Не ведаю, як мне ўвогуле цюкнула ў галаў сказаць пра таго Пеле— футбол я ўвогуле не люблю,— але гэта імя падзейнічала на хлопчыка магічна: ён перастаў плакаць, дазволіў, хоць і моршчыўся ад болю, перавязаць палец.

Жанчына дзякавала бясконца. Потым, калі мы з лейтэнантам варочаліся да сябе і былі ўжо ў тамбуры, яна дагнала нас і зноў дзякавала мне, і хацела сунуць мне ў сумку нейкі стары скамечаны канверт.

— Гэта ж вы мяне ўратавалі, доктар, ой, як уратавалі. Гэта ж я ўнука вязу!.. Дык вы кажаце, што заражэння не будзе. Я дужа баюся, бо ў нас аднойчы ў доме такое было. Драпінка — а заражэнне...

— Гэта што? Грошы?!

— Ой, доктар, кіньце. Якія там грошы. Падзяка, проста падзяка вам...

Я знямела. Было сорамна, нясцерпна сорамна. А лейтэнант адвярнуўся, высакародна нават нахіліўся, быццам не паддавалася ручка і ён сіліўся і не мог адчыніць дзверы ў суседні вагон.

А жанчына ўмольна глядзела на мяне даверлівымі шэрымі вачыма. І за адзін гэты кароткі міг я зненавідзела яе. І гэтае пачуццё нават палохала мяне сваёю сілай, яно ўзнялося з невядомай глыбіні і прабіла, здаецца, мяне навылёт — мне здалося нават, што ў мяне стрэлілі, і стрэліла менавіта яна, вось гэтая жанчына, з такімі добрымі шэрымі вачыма. Там, у нашым вагоне, калі яна прасіла праваднiка пашукаць урача, і пазней, калі была з намі і бегла з вагона ў вагон, з устрывожаным тварам, але радасным бляскам у вачах, яна здавалася мне прыгожай, а цяпер я глядзела на яе з гідлівасцю. Непрычасаныя тлустыя, відаць, даўно не мытыя валасы з густой луской себарэі, вугравагы нос... Не, я ж яе ніколі, здаецца, і не бачыла!

— Сорамна! Сорамна! Старая жанчына, а такое робіце,— выгукнула я і кінула канверт жанчыне на далонь.— Ды каб я ведала, што вы такая... Ды аніколі б не пайшла я да вашага хлопчыка! Усё на капейкі мераеце! Горшай абразы ўрачу вы прыдумаць не змаглі!..

Яна ніколькі не збянтэжылася, хуценька схавала канверт у рукаў кофтачкі, спытала, быццам нічога не адбылося:

— Скажыце, калі ласка, сёння яму перавязку трэба?

— Заўтра зробіце. Толькі не самі. У паліклініку звярніцеся...

— Урэшце! Урэшце я іх адчыніў! — выгукнуў лейтэнант, прытрымліваючы адчыненыя дзверы на пляцоўку.— Калі ласка, хадземце!

Я скочыла на жалезныя пласціны, што як жывыя соўгаліся, дугаліся пад нагамі; лейтэнант нешта сказаў, але яго голас заглух у грукаце жалеза, і я нічога не перапытала.

Мы зноў стаялі на калідоры ля свайго купэ. Мяне ўсё яшчэ гняла, душыла крыўда, і ўсё яшчэ не праходзіў сорам. Якая подлая і брыдкая традыцыя: плаціць чалавеку за тое, што ён робіць не дзеля выгоды, а кіруючыся добрымі і шчырымі парываннямі свайго сэрца. Абавязкова заплаціць! Чаму? Калі і адкуль узялася такая завядзёнка? Вядома, я не філантропка. Урач працуе, і яго праца зусім не лягчэйшая за іншую, і яна, безумоўна, павінна аплачвацца. Але ж гэта ўжо зусім іншыя адносіны, гэта з вобласці адносін чалавека і яго рабочага абавязку. А маральны абавязак? Чуласць? Сардэчнасць? Гэта што, таксама павінна аплочвацца, таксама па нейкай градацыі? А дзе ж тады годнасць урача, тая годнасць, быць верным якой прысягае кожны, хто звязвае свой лёс з медыцынай?..

Я ўсё яшчэ спрачалася з той, невядомай мне жанчынай. Дык не ж, яна не проста жанчына! Яна — першая мая пацыентка! Не, ніякая яна не пацыентка, яна шукала ўрача, яна простая пасажырка, ёй патрэбен быў урач, каб дапамагчы хлопчыку. А з хлопчыкам здарылася бяда. Ды не, якая ж гэта бяда!..

Некалі ў інстытуце я спрабавала ўявіць сабе — дыпламаванаму ўжо ўрачу! — свайго першага пацыента, свайго першага хворага. І ўяўляла сабе даволі лёгка, але ў арэоле гераічным і значным. Мяне паклікалі, і я паехала і ўратавала жыццё чалавеку, і людзі бясконца ўдзячны мне і схіляюцца ў павазе і захапленні. А вось яна, сапраўдная, рэальны факт жыцця! Нейкая драбяза, маленькая драпінка на

пальцы ў хлопчыка, і гэтая істэрычная амаль жанчына, і гэты змяты канверт з узнагародаю, і спачувальная няёмкасць лейтэнанта — выпадковага спадарожніка па купэ... Ён нават і зараз неяк саромеецца глядзець мне ў вочы, утаропіўся позіркам у акно.

— Аднойчы чытаў па дарозе з адпачынку кніжку... Ці часопіс... Не памятаю, адным словам,— гаворыць ён і паглядае на мяне, і ў вачах яго няма і ценю насмешлівасці, а шчырая заклапочанасць чалавека, які хоча нешта прыгадаць.— І не памятаю — чыё тое было апавяданне. І назву таксама. Але вось тое, пра што там — у памяці незвычайна... Вы слухаеце?

— Ахвотна нават.

— Прыкладна так, як зараз — таму, мабыць, і прыгадалася. Ну, дэталі я не памятаю... Асноўнае, значыцца... У дарозе здараецца няшчасны выпадак з дзяўчынкаю. Цягнік у стэпе — станцыя далёка... Па ўсіх вагонах па радыё аб'ява: шукаюць урача. І ўяўляеце? Ля гэтай дзяўчынкі сабралася ажно шэсць ці пяць урачоў — дакладна не памятаю, ды і гэта не мае значэння. Галоўнае, сабраліся, усе такія паважаныя, у купэ ўсе не месцяцца — кансіліум на калідоры. А дапамагчы канкрэтна ніхто не можа: ані ў кога няма шпрыца. Патрэбнае лякарства ў вагоне знайшлося, а вось шпрыца няма: усе гэтыя эскулапы — з пустымі рукамі. Праўда, у трох, здаецца, былі стэтаскопы. І ўяўляеце? Шпрыц знайшоўся! Ён знайшоўся ў маленькай, дужа непрыкметнай, сціплай такой дзяўчыны. Яе нават не прынялі за ўрача — гэты кансіліум паважаных эскулапаў! — І проста адціснулі ад хворай, хоць у вагон яна прыбегла першая. Проста яе праз гэтую яе сціпласць адсунулі, каб не замінала. А ў яе партфеліку, старэнькім вучнёўскім партфеліку, было ўсё патрэбнае: дзяўчынка толькі што скончыла інстытут і ехала да месца сваёй работы. Тады гэтае апавяданне не прымалася: прыдумаў, маўляў, пісьменнік усё. А вось зараз інакш думаю: якая глыбіня твора, якая назіральнасць і пісьменніцкае майстэрства. Не даводзілася чытаць гэтае апавяданне?

— На жаль. І не разумею, на жаль, у чым жа гэтая, як вы кажаце, вялізная глыбіня!

— У простым надзвычай. Тым, паважаным эскулапам, прыелася іхняя праца, яны ўжо звыкліся з ёю і не ўзялі з сабою ў дарогу нічога, што з гэтаю работаю іх звязвала — цягнік ішоў на поўдзень. Натуральна, ехалі ўсе на адпачынак. Згодзен, не ўсе — розныя маглі быць абставіны. Але не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што яна, тая дзяўчына, той малады ўрач, не магла не ўзяць з сабою шпрыц, розныя лекі, бо яна ехала да сваёй работы, як на свята вялікае, гатовая да вялікага подзвігу, падрыхтаваная да яго...

Я перапыніла яго: маўляў тое, пра што ён гаворыць, магчыма, сапраўды было, магчыма мае добры сэнс, але мне асабіста зараз не гэта карціць даведацца. Свядома ці міжвольна спрабуе ён супакоіць мяне? І дзеля чаго?

— Свядома і міжвольна — адзін грэх,— добразычліва сказаў лейтэнант, і я зразумела, што падазраваць яго ў няшчырасці нельга.— Але вы пагадзіцеся: пісьменнік заўважыў, падгледзеў у жыцці вельмі тыповае, тое, у чым ёсць вялікі сэнс і што наводзіць на роздум. І ўжо мая цяпер асабістая думка: у жыцці бывае даволі часта, што малады спецыяліст — не абавязкова ўрач — едзе працаваць, як на подзвіг. А сустрэнецца з цяжкасцямі, мяшчанствам, абывацелем, і гэтая багна засмоктвае бязлітасна...

— І што, па вашай тэорыі, кожны малады спецыяліст — у сферы дзеяння гэтага закону?

— Не, не кожны. Лёс слабых. А тых, у каго ёсць мужнасць, перамагаюць. Мне вельмі падабаецца думка аднаго пісьменніка: мужнага чалавека не адолее аніякая бяда. Мужны толькі яшчэ крапчэйшы на зломе.

— Бадай што правільна. Косць, якая зраслася, калі і зломіцца другі раз, дык абавязкова ў новым месцы. А на зломе — аніколі.

— Не ведаў гэтага. А вось ужо з галіны іншай — з вайны. Мне казалі франтавікі, што ў старую варонку снарад амаль ніколі не трапляе.

— Бачыце, мы з вамі ўжо і да вайны дабраліся. Гэта робіцца небяспечным...

— На такую вайну, як у нас з вамі, я згодзен. І з вялікай прыемнасцю...

Дзіўная і незразумелая сіла слоў. Ну, прынамсі, што такое выключнае сказаў зараз лейтэнант? Нічога ж! А настрой мой змяніўся: ні крыўды, ні раздражнёнасці, ні адчування ніякаватасці. Мабыць, яно заўсёды так, калі побач з табою чалавек, які здольны разумець цябе і разумее ў любым выпадку, пры любых абставінах.

Разумее пры любых абставінах...

А што, Валера не разумеў мяне?

Разумеў. І вельмі добра разумеў. І я, здаецца, таксама разумела яго. А што гэта дало мне?..

З Валерам мы былі знаёмыя амаль два гады. З гэтым лейтэнантам — другія суткі. Ды адкуль? І сутак жа не мінула. А я ўжо раблю гэткі глыбакадумны дыягназ: здольны разумець і разумее. Не, праз гэтую сваю даверлівасць я некалі загіну...

Але што гэта я? Знайшла пра што думаць!

А за вокнамі ўжо не відаць вёскі — затуліў бярэзнік, бліскучы ад начной расы. Потым сплывае і бярэзнік, і па нізінах сцелюцца рэдкія дыванкі туманоў, і ззяе, зырка зіхаціць уверсе блакітнае ранішняе неба...

(Заканчэнне будзе.)

Аповесць Вольгі ІПАТАВАЙ

«ПРАДЫСЛАВА»

вы прачытаеце неўзабаве

на старонках «МАЛАДОСЦІ»

● Еўдакія ЛОСЬ





## Студэнты горада Бардо

Так не умеў співаць далёкі гал,
пра гэткі спеў калісь француз не марыў...
Яны пяюць «Інтэрнацыянал» —
нашчадкі неўміручых камунараў.

Пасля забавы шумнай—юнакі,
пасля танцулек джазавых—дзяўчаты...
Узнятыя рашуча кулакі,
насупленыя бровы, строй зацяты.

Я харашэй не бачыла людзей,
яны гараць, у іх вачах—світанне.
Забаўныя танцулькі—для гасцей,
а для сябе—вось гэтае спяванне.

Яны пяюць «Інтэрнацыянал».
А ты дрыжы, сучасны капітал!

## Лесі Украінцы

Я з тых мясцін, дзе жыў каханы твой,
дзе ты жыла на вуліцы Шырокай,
лунала ў снах галубкай яснавокай
над Свіслаччу, ціхуткаю ракой.

Я мушу прабачэння папрасіць,
што домік ваш вякам не ўратавала.
Усё гарэла ў нас— і дом Купалы
згарэў, і дзён ставала галасіць...

Балюча мне, што не па шчасны спеў
ты прылятала ў горад наш зялёны,
а па цяжкую драму утрапёнай,
па немату магільных братаў, дрэў...



Як быццам не чакалі спевакоў,
як быццам не кахалі Украіну...
Даруй ты ім—і гораду, і сыну
яго за горыч вечную радкоў!

І мне даруй, што невясёлы верш
прывезла я табе ў тваё стагоддзе.
Але ты ведай: веснае разводдзе
і на ціхуткіх рэках грэблі рве!

●

Адкрыты ліст—усім лістам,
што на галлі зазімавалі,
Усім вавёрчыным гуртам,
што маразы ператрывалі!
Між сосен, без якіх тужу,
я снежнай бабай пракачуся.
Вітанне золаку скажу,
на блізкім небе распішуся!..

●

Панядзелак, панядзелак,
ліпы тонкія ў тумане,
капітанскі паўшынелак,
як бы ў рыцарскім рамане...
Як бы ў рыцарскім рамане,
залацяцца эпалеты.
Мімалётнае спатканне,
гаваркія бранзалеты.
Гаваркія бранзалеты,
вечаровая туніка...
Аб'явіся, дзе ты, дзе ты,
Дон-Кіхот, гукае Ніка!
Дон-Кіхот, гукае Ніка,
крыллем плешча Перамога
там, дзе бурна і шматліка,
там, дзе рыцара трывога!..

## Песня

*Ой, чий то кінь стоїть,—*
*ще й біла гривонька?..*
*Сподобалася, сподобалася*
*мені дівчинонька.*
*З украінскай песні*

«Ой, чий то кінь стоїть»,—
спявалі хлопцы мне,
як давялося быць
у іхняй старане.
У іхняй старане
мяцеліца гула.
Але настрэч вясне
усіх любоў вяла.
Імчала нас любоў,

нібы той белы конь.
Як не было снягоў,
а палымнеў агонь!
А палымнеў агонь
у снежнай старане,
і «чий то біли конь?» —
пыталі у мяне...

●

Няхай вятры па мне галосяць,
няўдачніцай завуць няхай.
Хай мне нічога не ўдалося —
запеўны свой услаўлю май.
Для любасці душа ўсчалася,
і ў тым ніхто не папракне.
На зайздрасць іншым, удалася
любоў да Бацькаўшчыны мне...

## Згадка

Нас пад Міхайлаўскім ночка хавала,
лес нам нашэптваў адно і адно...
«Зорку Венеру» табе я спявала,
ты падпяваў, нібы ведаў даўно.

Гэткія, пэўна, нябёсы ў Расіі,
гэткае, мабыць, паветра яе,
што разумелі мы, людзі чужыя,
нават нячутыя словы свае...

Мы пакляліся, што дзе мы ні будзем,
век не забудзем той ночы між зор.
Слоў не паблытаем, жаль не астудзім—
ён нарадзіўся ля Пушкінскіх Гор...

Дружа мой, дружа! З нязменнай журбою
ў неба начное ўглядаюся я...
Зорка якая ўстае над табою?
Калі Венера—лічы, што мая!..





## ● Уладзімір СКАРЫНКІН





●

Хацелі ўсюды прагрымець
Фашысцкія гарматы...
Ішлі ў імя жыцця
на смерць
Савецкія салдаты.

І разгуляцца не далі
Свінцовым завірухам...
Залежаў
лёс усёй Зямлі
Тады
ад моцных духам.

Сямідзесятыя гады...
Ва ўсе куткі планеты,
На ўсе на свеце гарады
Нацэлены ракеты.
І нехта кнопкі пускавой
Галоўку ледзь пакратаў...
Няўжо, Зямля,
цяпер лёс твой
Залежыць
ад вар'ятаў?

●

Шчодрым сонцам вясны
Край мой родны заліты.
Сёння жахі вайны
Напалову забыты.

Над сталамі вышэй
Уздымаюцца кубкі...
Толькі шрамы траншэй
Дзе-нідзе,
як зарубкі.

Не дзяўбуць груганы
Паплавы і гасцінцы...
Толькі скрозь—курганы,
Як вузлы на хусцінцы.

●

І вось я зноў
туды вярнуўся,
Дзе ўсё спавіта цішынёй,
Да маці
моўчкі прыгарнуўся,
Сустрэўся з братам
і раднёй.
А заўтра я
збягу з пагорка,
Гукну:
— Дзень добры,
рыбакі!
Пачую:
лешч,
нібы маторка,
Чарот рассоўвае ў бакі.
Закіну,
як калісьці,
вуды
У стаўкі-акенцы
паміж траў.
Адчую,
быццам анікуды
У вырай я не адлятаў.
Нібы заўсёды
тут рыбачу...
І буду
у той самы час
Глядзець на ўсё,
як быццам бачу
У першы і апошні раз.

●

Начную песню завялі
У прыцемку квакухі.
Дрымотных сосен і ялін
Павольней сталі рухі.
У бераг носам пад кустом
Уторкнулася лодка.
Лілеі вочы перад сном
Заплюшчылі салодка.
Рыбачак-чаек сонны крык
Над возерам сціхае.
У аер зашыўся маладзік
І смачна пазяхае.
Гамоняць хвалі:
— Спаць пара!
Гусцее сіні морак.
Дымок рыбацкага кастра
Уздымаецца да зорак.



● Вячаслаў АДАМЧЫК



● Мал. Э. ГУСЕЙНАВА

# КАЛІ АПАДАЕ ЛІСЦЕ

АПАВЯДАННЕ



Бралася шостая гадзіна, пара было збірацца дадому, а мы сядзелі ў рэдакцыі, каб перачакаць дождж. З-за шарага цаглянага дома, што быў відаць з нашага акна, высунулася сіняя, з папяловымі краямі хмара — у пакоі сцямнела, нахапіўся прыцемак, бытта на дварэ звечарэла, і я ўключыў тую адну, што вісела пад самай столлю, запырсканую мелам лямпачку. Перад нашым домам на вытаптаным, без жаднай травіцы, надворку вецер дзёр і круціў слупом пясок, нёс, скінуўшы з нечага балкона, старую, зжоўклую газету, гнуў маладзенькія, папрывязваныя да калкоў, кляны.

У пад'езд, адкідаючы з вачэй доўгія рассыпаныя валасы і абгладжваючы іх дзвюма рукамі аж неяк за патыліцу, пабегла высокае дзяўчо з загарэлымі чарнаватымі нагамі — вецер паднімаў на ёй лёгкую, у буйныя салатавыя кветкі суленку.

— А ніц сабе ножкі,— сказаў нехта з нас, і падняліся ўсе, каб глянуць у акно.

Але дзяўчына ўжо схавалася ў цёмным пад'ездзе, а на шарай сцежцы асфальту застракацелі чорныя плямы — пайшоў дождж, спорны і раўнюткі, як з цэўкі, забарабаніўшы па бляхе на той бок акна.

— І каго вы там угледзелі? — спытаўся Петраш — фізік, доктар навук, аўтар нашага часопіса, які тадысяды заходзіў да нас у рэдакцыю, каб паслухаць, як ён

казаў, «пісацельскія» навіны. Петраш сядзеў за маім, што стаяў недалёка ад дзвярэй, сталом і гартаў перакідны каляндар.

Перад гэтым чалавекам мне было неяк заўсёды несамавіта, як бывае несамавіта перад знакамітымі людзьмі, але тымчасове ты маеш нейкі гонар, што вітаешся, гаворыш з ім, як з раўнёю. Петраш быў на год пяць старэйшы за мяне — яму падбіралася пад сорак, але ён быў увесь сівы, хоць з твару выглядаў маладжава; і гэтая заўчасная сівасць пасавала да яго і дадавала яму таго дужага і сталага мужчынскага хараства, якое, бывае, прыходзіць да чалавека не ў пору маладосці, а недзе каля сарака. Іншы раз, узіраючыся на яго, я думаў, што за ім, пэўна, лекацяць кабеты, і ў душы ў мяне варушылася нязлая, глыбокая рэўнасць, бо хіба чалавеку хочацца згадзіцца з тым, што ён горшы за некага.

На ім была віскозная, вайсковага колеру тэніска, праз разрэз якое чырванелі загарэлыя грудзі з чубком залацістых валасоў; у гэтакіх трохі выгараных валасах былі і яго гладкія, як у кабеты, паўнаватыя, але цвёрдыя рукі.

— І што вы там угледзелі? — спытаўся зноў ён, кінуўшы гартаць каляндар і беручы ў руку аловак, каб, мусіць, забаўляцца з ім, нават не думаючы пра гэта: у чалавека ёсць такая звычка — абы за што зачапіць рукі.

— Дзевачку харошую,— сказаў адзін з нас, апускаючыся на крэсла.

Петраш чмыхнуў носам, сам сабе смеючыся.

— А што, Віктар Антонавіч? — мы ўсе невядома чаму называлі Петраша па імені і бацьку.— Дзевачкі ў такія гады, як у нас з табою, самы раз...— Гаварыў гэта загадчык аддзела публіцыстыкі — Чэмер, лісліві перад усімі чалавек. Ён кожны раз, калі ў рэдакцыі збіраліся мужчыны, пачынаў гутарку пра кабет і гаварыў пра іх многа, хітра падморгваючы, як гавораць пра ўсё гэта мужчыны, якія менш за ўсё ведалі ці спазналі жанчын. І, мусіць, Петраш дагадаўся і пра гэтую наіўную хітрасць, і гэтую смешную мужчынскую фанабэру Чэмера, бо пільна і з нейкай затоенай ухмылкай паглядзеў на яго. Я дагадваўся, што ўмешвацца ў гутарку ён не хацеў, але ў душы ў яго нешта зрушылі, як бывае зрушыш грэблю, за якою поўна вады, і яна шукае сабе выйсця, каб хлынуць адтуль.

— Вы кажаце — дзевачкі...— сказаў ён, нешта крэслячы алоўкам на чыстым адваротным лісціку календара.— А мяне адвярнула ад іх пасля аднаго выпадку...— Петраш перасціх: за акном мільганула маланка і моцна, як у наш дом, стрэліў пярун.

— Ого, як ляснула,— сказаў Чэмер і, задраўшы галаў, махнуў ёю, як бы падганяў Петраша.— Ну і што?..

— А тое, браце, што я адчуваў такую брыдкасць,— ён адвярнуўся, мусіць, недзе бачачы перад сабою ўсё тое, пра што расказваў нам.— Два разы я адчуваў гэтую брыдкасць: першы раз, калі закахаўся, але тады пакута і радасць змяшаліся ў адное, і я быў як хворы. Тады я чуў віну перад жонкаю, перад дзіцем, перад сабою, бо я спалохаўся гэтага кахання. Мне здавалася, што да мяне прыйшло тое, у чым іншы раз я баяўся прызнацца сам сабе. Бо ведаеце, кожнага чалавека точыць нейкі чарвяк. У чалавека ёсць жонка... Усё добра... Ён любіць яе, як любяць другія, а можа нават і болей за іншых, але яму ўсё нечага недалягае, яму ўсё думаецца, што ў яго каханні нешта недзе страчана, не, не цяпер, а некалі... даўно...

— Нешта цямніш, Віктар Антонавіч,— засмяяўся нехта.

Петраш зачырванеўся, нібы яму папраўдзе зрабілася брыдка, што



ён нешта тоіць. Ён прыгладзіў абедзвюма рукамі сівыя, з глыбокімі залысінамі валасы і падняў галаў:

— Добра, я пачну спрытна́... Чатыры гады назад я абараніў доктарскую. Гора спазнаў многа. Бараніўся я ў Маскве, бо тут процi мяне падняўся ўвесь інстытут.

— Ого! — пакруціў галавою Чэмер.

— Ага, так... У Маскву прыйшла заява, яе падпісалі аж дваццаць чалавек... Але бог з імі... Я абараніўся — і на выдатна. І змучаны, знерваваны, узяў пуцёўку ў Крым. Можа хто ведае: недалёка ад Ялты ёсць такая санаторыя — «Горны». Я паехаў туды. Помню, як сёння, сяджу ў самалёце, а поруч каля аконца — лысы, гадоў пад шэсцьдзесят чалавек у выгладжанай палатнянай тэнісцы навыпуск, закрываючыся локцем, піша вершы. У такім просценькім з кардоннымі вокладкамі блакноціку за сем капеек. Краем вока я нават паспеў прачытаць. Было гэта нешта бездапаможна-графаманскае — пра каханне. Мне здаўся смешны гэты стары чалавек з сваімі вершыкамі. Смешнымі былі гэтакія лысыя дзядзькі і там, у санаторыі, калі яны, раздабрэўшы на казённых харчах, выграўшыся на сонцы, распесціўшыся пасля ўсялякіх масажаў, вечарам на танцах пачыналі дзяцініцца, з падскокам, смешна падкідваючы ногі, танцаваць, загаворваць да маладжавых кабет і іграць у розныя фанты. І яны здаваліся горшымі за маладзенькіх хлопцаў і дзяўчат — у тых было нешта натуральнае: і смех, і жарты.

— Старэем, браце,— перабілі мы Петраша,— і зайздросцім усяму маладому.

— Можа і так,— згадзіўся Петраш.— Ад маладзейшых я ўжо адышоўся, а да старых таксама яшчэ не прыстаў. І мяне там разбірала нейкая адзінота. У першы дзень я палез у мора і прастудзіўся — купацца болей мне ўжо не было як, іншы раз, лежачы пад тэнтам, я іграў у шахматы — нас такіх, абыякавых да ўсяго, сабралася трое. І я ўжо зарокся, што паехаў сюды: усё тут здалося чужое: і людзі, і прырода — нейкія дзікія калючыя кусты, пад якімі заўсёды шалпочацца рудая, велічынёю з нашага дразда, птушка; млосная гарачыня, і толькі мора — яго бясконцая, як сцяць вокам, велічыня цягнула да сябе. Надта хораша было на яго глядзець вечарам, калі на вадзе блішчыць яснасць ад месяца — здаецца, там кішыць, пераліваецца, бліскае лускою рыба, а ў сіняватай цемрадзі моргаюць агеньчыкі караблёў... Тады неяк трывожна на душы ад гэтай прасторнай ночы над морам і хораша...

Любіў я яшчэ вільготны пасля дажджу і ветраны, бывае, вечар: густа шумяць цёмныя высокія кіпарысы, і гэты іхні мяккі шум, і вастраваты сыры вецер прыпаміналі мне далёкую пору, калі я быў малы, калі ў голую яшчэ раннюю весну перад вёскаю пры дарозе густа і мяненька, лашчачы душу, шумеў ялавец; і кажаны, што ціхенька, як сполах, снавалі каля кіпарысаў, напаміналі мне пра нашае маладое лета, калі на надворку перад хатаю ў чыгунку на трыножках варацца яшчэ вадзяныя картоплі, што фарбуюць у чорнае пальцы, і пахне кропам і гаркаватым дымам, і шарай гадзінай над плеценым яловым сухім плотам мільгае кажан.

Чужыя кабеты, што шпацыравалі тут каля цёмных кіпарысаў, накінуўшы на плечы шарсцяныя кофты — далёка ў цемнаце было відаць іхнія белыя, мусіць, выфарбаваныя румянкам валасы,— напаміналі мне пра жонку, і я шкадаваў, што паехаў адзін. Але я быў давольны — тут не было абрыдлых разумных гутарак,— я спачываў душою. Я заўсёды любіў і люблю адзіноту. Ды я, мусіць, урадзіўся

такі — бо некалі, помню, ходзячы за кіламетраў пяць у школу з вёсачкі ў невялікі горад, я любіў невядома чаму восень, позиюю восень, ветраныя дні, макрэчу і жаласлівы звон тэлефонных правадоў — на душы было смутна, але я любіў гэты смутак, думалася пра нешта радаснае, і ад гэтай радасці і шкадавання да самога сябе на вочы набягалі слёзы. Я быў як хворы. А можа гэтую хваробу павінен перажыць кожны. Я таксама тады пісаў вершы, як кожны з вас у гэтую пору, але мяне не надрукавалі ў раённай газеце. Мне не пашанцавала, як усім вам, а то я, напэўна, пайшоў бы ў паэты.— Петраш паглядзеў на нас і крыва ўсміхнуўся.

За акном мільганула маланка, стрэліў пярун, аж страсянулася пад нагамі падлога. На дварэ прыпусціў спорны дождж, задрыжала лапушыстае лісце на клёне, за альтанкай на дварэ разлілася лужына, на ёй збіраўся шум, скакалі бурбалкі.

Я, каб не перабіць Петраша, ціха адчыніў акно — у пакой хлынуў роўненькі шэпт дажджу, пацягнула прэснай і лёгкай сырасцю, як ад рэчкі.

— Во, стала лягчэй,— сказаў Петраш, усё гэтак дзвюма рукамі каля вушэй падгладжваючы назад свае валасы. Ён склаў рукі на каленях, і, адхіліўшыся ад стала, пачаў расказваць зноў: — Ды я там мала з кім гаварыў. Хіба са сталяварам з Магнітагорска, з якім жыў у адной палаце. Сталявар любіў, як кажаце вы, узяць чарку. Ён кожны дзень заглядаў да «цешчы» — гэтак называлі паграбок, што быў недалёка ад санаторыі і ў якім дзябёлая ўкраінка ў вышыванай кашулі прадавала на разліў «Гарылку». Не помню, але, мусіць, гуляючы на пляжы ў карты, я пазнаёміўся, а потым і сышоўся з адным інжынерам з Харкава, маім, здаецца, равеснікам, ціхім добрым чалавекам і можа трохі дзіўнаватым — ён прызнаўся мне потым, што хоча нагледзець сабе кабету, тры гады назад ад яго ўцякла жонка — другая, бо першая памерла ад родаў, пакінуўшы яму малое дзіця.

Іншы раз вечарам мы гулялі з гэтым харкаўскім інжынерам па санаторным парку, заглядваючы на адкрытую веранду, дзе, здаецца, разы са два ці тры ў тыдзень былі танцы і дзе вось гэтыя самыя лысыя немаладыя дзядзькі дзеразаваліся, як маленькія — балазе іх ніхто ні з блізкіх, ні са знаёмых не бачыць. А чалавек, калі ён думае, што ён адзін і ніхто яго не бачыць, бог ведае што пачынае вычвараць.

Інжынер, бывае, ціхенька мне шаптаў, няўзнак паказваючы на якую-небудзь маладзіцу,— ён ведаў, хто да яе заляцаецца ці ў якое ўжо каханец паехаў.

Вось праз сватаўство гэтага харкаўскага інжынера ўсё і пачалося.

Неяк, здаецца, нядзеляю, у ціхі час, што бывае ў санаторыях з трох да чатырох гадзін, калі я лёг прыдрамаць, ён пастукаўся да мяне ў палату.

— Ты спіш? — спытаўся ён, прыадчыніўшы дзверы і ўваткнуўшы галаву.— Ідзём, паіграем у карты.

— Не,— я нацягнуў да самага падбародка коўдру. Мяне ўжо зморыў сон, уставаць не хацелася.

— Ідзём-ідзём, там у мяне сядзяць кабеткі,— ён схіліў набок галаву і прыжмурыў вочы.

— Я ж не выручу цябе, не ўмею іграць,— я не змахляваў: я папраўдзе не люблю і не ўмею гуляць у карты.

— Ой, шкода,— ён цмокнуў языком і зачыніў дзверы.

Але толькі я сцішыўся і пачаў драмаць, як у дзверы пастукалі.

— Заходзьце! — крыкнуў я, злуючыся, што гэты харкаўскі інжынер выб'е мяне са сну.



Дзверы адчыніліся, і паказалася прысадзістая, гадоў недзе дваццаць сем маладзіца, спярша нават сумеўшыся, што ўбачыла мяне ў ложку, і прыстакнуўшы ў парозе.

— Ой, выбачайце, я не ведала, што вы спіцё,— і на твары ў яе плямамі выступіла чырвань. На ёй быў лёгенькі карычневы халацік у белыя кветкі, што пасаваў да яе загарэлых і голых да пляча рук, да яе маладжавага твару і белых, каратка падстрыжаных, але высока начэсаных валасоў.

Мне ўспомнілася, што я недзе, здаецца, бачыў яе — ці не ўчарашнім вечарам, калі спорны дождж пазаганяў усіх на ганак санаторыя.

— Іван Мікалаевіч (гэтак называлі таго харкаўскага інжынера) просіць, каб вы прыйшлі да яго,— загаварыла яна, стоячы ў парозе і не ідучы далей у палату.

Мне было таксама брыдка перад ёю, што ляжу на ложку, але ўстаць я не мог — быў раздзеты.

— Добра, я прыйду, тым болей, калі кліча такая дзяўчына,— і я сказаў, здаецца, яшчэ нешта банальнае, як заўсёды гавораць людзі, не знайшоўшыся, што сказаць.

Яна адступілася за парог і зачыніла дзверы. Скоранька апрануўшыся, я спусціўся на другі паверх і зайшоў у палату, што была якраз пад маёю,— тут жыў харкаўскі інжынер.

— Знаёмцеся,— сказаў ён, няўзнак падморгваючы мне.

Я пакланіўся, назваўшы сваё імя, і сеў на слабоднае крэсла напроці чарнявае сытае кабеты з кароткімі поўнымі рукамі. З левага боку ад мяне сядзела гэтая самая дзяўчына ў карычневым халаціку, з-пад якога былі відаць яе маладыя круглыя калені. Імя яе я спярша не разабраў, але калі мы пачалі гуляць у карты, ужо чуў, што сытая кабета з кароткімі рукамі называла яе Кеня. Імя такое я чуў першы раз, і для мяне яно было нязвыклае. Потым ужо дазнаўся, што яно перароблена з самага простага — Аксеня.

Словам, мы пачалі гуляць у карты. Маёй партнёршай была гэтая кабета з кароткімі поўнымі рукамі. Мы гулялі ў «дурня», і мне невядома чаму вязло, карталі харкаўскі інжынер і Кеня. І гэта ўсім абрыдла. Інжынер дастаў з тумбачкі бутэльку «Гарылкі», гэтай самай украінскай, што прадавалася ў «цешчы», з вялікай нацэнкай. Шклянкі ў палаце знайшліся толькі дзве, і мы пілі па калейцы: спярша — жанчыны, потым я з інжынерам. Кеня неяк скора разружавелася і пачала смяяцца, а чарнявая поўная кабета ўсё саромелася, вочы яе асалавелі і хацелі спаць.

— Ідзём на мора,— сказала раптам Кеня,— я ведаю месца, дзе нікога няма.

— А што, сходзім,— падхапіўся інжынер — ён быў давволен. Кабеты пабеглі недзе, мусіць, да сябе ў палаты, каб пераадзецца.

— Табе, Віктар, пэўна, не цікава, але дзеля мяне...— гаварыў ён, прыбіраючы са стала.

Я нехаця, але згадзіўся.

Месца тое і праўда было зацішнае — стромы бераг, унізе каля самага мора вострыя жаўтаватыя камені, па якіх скакалі два цыбатыя, у выцвілых плаўках, хлопчыкі. За гэтымі каменнямі быў невялікі пляжык — якраз напроці двух вялікіх валуноў, што ляжалі ў вадзе, як нешта вялікае, жывое.

Мы памаленьку спусціліся з берагу нейкаю сцежкаю, трымаючы адно аднаго за рукі, і пачалі распранацца. Я рассунуў зверху гарачую гальку і лёг недалёка ад гэтых вялікіх карычнявата-шэрых каменняў з белымі рáгамі птушынага памёту. Вада плюхала на камені, віра-



вала між імі, ціха набягаючы на спаховы бераг, і сцякала, адкочвалася назад, цягнучы за сабою круглыя каменьчыкі — яны шоргалі, нібыта хто іх падварушваў шуфлем. Далей ад берагу мора было лянівае. На ім толькі блішчала, пераліваласся разарванае сонца. Далёка за чырвонымі буямі памаленьку сунуўся белы, здаецца, сёння пафарбованы, параход. За ім сыходзілася неба з вадою — і было не разабраць, дзе канчаецца мора, а дзе пачынаецца неба: там была сіваватая смуга, і на душы рабілася смутна і лёгка, калі доўга глядзіш туды.

Кеня расшпіліла і зняла з сябе свой карычневы халацік, застаўшыся ў чорным купальніку з дзвюма доўгімі белымі палоскамі, і пайшла да вады, не скідаючы з ног басаножкі. Было ў яе хадзе нешта лёгкае, маладое. Яна нацягнула на галаву гумовую шапачку, неяк раптам пабрыдчэўшы, скінула басаножкі і палезла ў ваду. Распрануўся і кінуўся туды з чырвонаю апечанаю спіною і чырвонымі апечанымі лыткамі харкаўскі інжынер. А я застаўся тут, на беразе, з гэтаю паўнаватаю кабетаю, што дастала з белае цыратовае сумкі выцвілую санаторскую капу і, не скідаючы з сябе сукенкі, лягла блізенька ад вады. Мы, здаецца, пра нешта гаварылі. Кабета перабірала каменьчыкі і кідала ў мора.

Вярнулася Кеня. Вада з купальніка цякла па яе гладкіх маладых нагах. Яна глыбока дыхала — падымаліся яе вострыя грудзі. Сцягнуўшы з галавы гумовую шапачку і пахарашэўшы зноў, яна лягла жыватом на гарачую гальку. Я бачыў яе маладую шыю, карычневую барадавачку з боку ад вуха, мокрую кудзерку валасоў на патыліцы, што недзе вылезла з-пад шапачкі і намокла.

— Не распісвайце, Віктар Антонавіч,— зарагатаў Чэмер.

Петраш вінавата ўсміхнуўся і змоўк. За акном яшчэ ўсё ішоў дождж, але выглянула сонца, і кроплі блішчалі, як доўгія шкляныя палачкі. Яснасць з вуліцы пачынала калоць у вочы. Петраш жмурыўся.

— Не перабівай,— прыкрыкнуў нехта з нас на Чэмера.

Петраш нібы пасмялеў, учуўшы, што мы хочам слухаць далей, і пачаў расказваць:



— Словам, у той дзень мы сабраліся схадзіць на танцы ў суседнюю санаторыю — падбіў усіх Іван Мікалаевіч, але ўжо дарогаю няўзнак шапнуў мне, што яго схапіў жывот і што яму трэба вярнуцца. Я астаўся з кабетамі. На танцах, яны, здаецца, забыліся і пра мяне, і пра ўсё чыста на свеце — танцавалі то адна з адной, то з нейкімі мужчынамі, што запрашалі іх, мусіць, дзеля Кені. Я стаяў, прыпёршыся да парэнчы (танцпляцоўка была зроблена на даху аднаго круглага будынку, як гэта робяць танцпляцоўкі звычайна ў санаторыях), і злаваў то на самога сябе, што не ўмеючы танцаваць, павалокся сюды, каб стаяць тут як пень, то на Івана Мікалаевіча, што, пэўна, знарок кінуў мяне з гэтымі дзвюма кабетамі. Варочаліся дадому мы ўжо недзе пасля адзінаццаці. Круглы і белы месяц церусіў сіняватую яснасць. Суха, як у ветраны дзень, блішчала лісце на дрэвах. Як чорныя хмары, падніміліся на захадзе горы. Паўнявай кабеце трэба было ісці спаць на пляж. Там пад навесам стаяла каля сотні ложкаў — гэта для тых, каму дактары прыпісвалі сон каля мора.

Мы давялі да пляжа гэтую паўнаватую кабету (і я нават памог ёй пералезці цераз высокі дашчаны плот, бо веснікі былі ўжо засунутыя) і варочаліся назад у санаторыю між цёмных сцішаных кустоў. Усё шумела і ніяк не магло ўлегчыся мора. І зноў блішчала ад месяца вада, нібыта там кішэла, варушылася рыба. Каля цёмных гор густа мігцелі агеньчыкі — там недзе была Ялта. Кругом галавы ў Кені напроці месяца быў відаць сіняваты арэол. Мы спыніліся. І бог ведае, што са мною пачало рабіцца. Я ўзяў Кеню за руку і ўчуў, як яна дрыжыць. І ці ад таго, што мы былі адны, што была гэтая ціхая сіняватая ноч з ясным месяцам, з гэтым трывожным і цяжкім плёскатам мора, я лёгка прыгарнуў да сябе Кеню і пачаў цалаваць у губы, у вочы. Яна неяк сцішылася і ўздыхала. І я аж сам задыхнуўся ад нейкага шаленства, радасці. Потым яна схамянулася ад гэтага нечаканага страху і ўжо спакойна загаварыла:

— Чаму вы цалуеце ў вочы? Гэта нядобры знак. Вы не будзеце мяне любіць.

Я маўчаў, я не ведаў, што сказаць — мяне душыла радасць.

— Позна ўжо, санаторый закрыюць,— яна пайшла, а кругом яе галавы ад яснага месяца стаяў гэты сіняваты арэол.



І пасля гэтага вечара бог ведае што пачало рабіцца са мною. Прыходзячы ў сталовую, я ўсё шукаў вачыма той столік, дзе сядзела яна, і кожная кабета з белаватымі, каротка падстрыжанымі валасамі здавалася ёю, у мяне аж сціпалася сэрца, і я аж задыхаўся, як задыхаецца хворы чалавек ад раптоўнага болю. І я зрабіўся як хворы. Я тады ўбачыў, што каханне — гэта хвароба, пра якую, невядома чаму, не піша навука. І мне было дзіўна і трохі смешна з самога сябе, што не магу жыць без чалавека, якога стрэў выпадкам, што я стаў як здурнелы, і смешна, што я ведаю, разумею гэта, але адкаснуцца, аслабаніцца ад яго, ад гэтага дурману, не магу, што гэта звыш мае сілы. Я ніколі не спадзяваўся, што нешта вось такое ўчыніцца са мною. І чым болей мяне цягнула да Кені, тым ласкавейшыя пісьмы пісаў я жонцы, ці ад таго, што чуў віну перад ёю, ды не толькі віну, а нейкую брыдкасць, і гадка і неяк непамысна было самому, і тым часам я быў давольны і нейкая вар'яцкая радасць працінала мяне. Рабілася са мною нешта як дурное. Гэтакае ж самае было і з ёю: Кеня прызналася мне, што вось такое перажывала некалі, як вучылася ў школе, недзе ў старшых класах і ўлюбілася ў аднаго школьніка.

Іван Мікалаевіч, той харкаўскі інжынер, стаў падсмейвацца з мяне, ці мо ад зайздрасці, ці мо ад злосці, што я адбіў у яго Кеню, але ўжо болей з ім не хадзіў, я быў з ёю... Ды што многа гаварыць...— Петраш уздыхнуў, паглядаючы недзе на вуліцу — там ужо перасціх дождж, у лапіку разарваных хмар паказалася неба — сіняе, як бывае яно на згоне зімы, блішчала мокрае лісце на маладзенькім, прывязаным да калка, клёніку. Недзе з другога боку дома сюды на двор глянула нізкае сонца — нейкай яснай, як перамешанаю з малаком чырванню адлівала лужына, што сабралася за альтанкаю, гэтай чырванню адліваў і мокры асфальт на дарожцы. Свет зрабіўся малады, ясны, як выкупанае дзіця. Усе сталі паглядаць на двор — ці не пара ісці дадому.

— Ну і чым усё скончылася? — нецярпліва спытаў нехта з нас.

— А тым,— Петраш падняўся з-за стала, мусіць, убачыўшы, што трымае нас тут, у рэдакцыі,— што скончылася мая пуцёўка. Кеня праводзіла мяне да Сімферопаля — я ўзяў таксі. І быў як сам не свой. Душу разбіраў нейкі смутак, рабілася шкада, што не ўбачу болей ні гэтых маладых жаўтлявых вінаграднікаў каля дарогі, ні гэтых вішань з цемнаватымі вочкамі ягад у закурным лісці, ні яе, Кені, што гэта ўсё міне, што мы з ёю больш не сустрэнемся, што пра ўсё гэта астанецца толькі памятка. На вочы ў мяне набеглі слёзы, калі я садзіўся ў вагончык, у гэты аўтобусік з пяці вагончыкаў, што звычайна падвозіць да самалёта пасажыраў, калі ўбачыў, як расце, шырэе далечыня асфальту, калі далее гэта пафарбаваная ў чорнае, вывітая ў карунку чыгунная агароджа, калі далее яна, Кеня, і ўжо не пазнаць яе твару, толькі відаць яе жаўтлявыя валасы, белая ў карунку блузка, яе рука, якою яна, пэўна, усё махае мне. Сэрца маё дрыжала, і ў грудзях расла нейкая пустэча, і боль сціскаў іх. Я як нежывы зайшоў у самалёт. І ўжо стаў баяцца самога сябе, каб са мною што не зрабілася. Як даляцеў у Мінск, не ведаю, помню толькі, што быў дождж і самалёт доўга не ішоў на пасадку, і кольвек-каго закалыхала. Маладзіца, што сядзела каля мяне, ззелянела ў твары, ёй блажыла, толькі мяне нічога не брала — я ўсё думаў пра Кеню, пра жонку (я адбіў ёй тэлеграму, што лячу дадому), як гляну ёй у вочы. Мяне браў страх, перамешаны з брыдкасцю, сорамам і нейкай хворай вінаватасцю.

Я выйшаў з самалёта і, не зважаючы на лужыны, пад шчырым дажджом выправіўся да багажні, куды, раскрыўшы парасон, з гамаю і смехам беглі ад нашага самалёта кабеты. Я ішоў унурыўшыся і калі падняў галаву, то ўбачыў жонку і неяк спярша ўтрупянеў — яна бегла сюды давольная, і радасць была ў яе на твары. Я раптам, мусіць, ужо як староннi, убачыў, якая яна прыгожая, якая ў яе спрытная хада, які ў яе прыгожы твар. Брыдкасць і віна перад ёю змяшаліся ў адно, у нейкі камяк крыўды, і я, мусіць, першы раз падумаў: на каго ж я прамяняў яе. І рады ўжо, што яна тут, што яна бяжыць да мяне, а тое ўсё, што было там, у Ялце, асталося за нейкай мяжою, што яно ўсё тое брыдкае, гадкае, не трэба. Я прытуліў да сябе жонку і, чуючы ў ёй нешта сваё, роднае, асцярожна, ціха пацалаваў у знаёмы холад яе шчакі.

— І ўсё, Віктар Антонавіч? — спытаў нехта з нас у Петраша. Мы ўсе падняліся, каб выйсці з кабінета.

— Не, не ўсё,— сказаў Петраш, азірнуўшыся,— ён першы адчыняў дзверы.

Я зачыніў акно і, згробшы са стала паперы, упіхнуў іх у шуфлядку і выйшаў у калідор. Там яшчэ стаялі ўсе. Заклаўшы рукі за спіну і прыпёршыся да сцяны, Петраш расказваў:

— Але гэтая любасць да жонкі праз колькі дзён прайшла. І мне свет засланіла зноў яна, Кеня. У тралейбусах, на вуліцы, словам, скрозь і ўсюды я прыглядаўся да дзяўчат з бялявымі валасамі, і кожная з іх выдавала падобнаю да Кені. Я пісаў ёй пісьмы, бегаючы ўкрадкам на паштамт. Жыла яна ў невялікім гарадку пад Масквою, на вуліцы Пірагова, як я помню, дом нумар васемнаццаць, кватэра чатыры, але пісаў ёй на пошту «да запатрабавання». Жонка нічога не ведала, але недзе на сподзе душы чула, што са мною робіцца. І самае кепскае, што калі аднаго разу мы выйшлі з ёю на вуліцу і быў гэтакі самы цёплы, як там, у Ялце, сінявата вечар, з высокаю ясною поўняй, калі мне спомнілася мора і гэты бляск на вадзе ад месяца, калі, здаецца, там трапечацца, бліскае луско́ю рыба, я, мусіць, як на мяне што надышло, забыўшыся, назваў жонку Кеняй.

Схамянуўшыся, пачаў усё зводзіць на жарты. Але дома было плачу. І я не ведаў, як супакоіць жонку, што сказаць. Але пасля таго вечара ў нас з ёю шмат што змянілася, нейкая адчужанасць знайшлася ў нашай прыязні, яна ціха і незаўважна, гэтая прыязь, раз'ядджалася, як раз'ядджаецца слабкі вузел.

Я рашыў болей не пісаць Кені. Лёгка сказаць — рашыў. Але ж хіба ўсё так адразу выкінеш з памяці. Праўду, мусіць, пісаў Міцкевіч: «Ты скажаш: «Сыйдзі з вачэй!» — і я пакаруся; «Прэч з майго сэрца!» — і сэрца паслухае, але калі ты скажаш: «Прэч з памяці!» — то ні твая і ні мая памяць з гэтым не пагодзяцца».

Бывае, перад сном, сцішыўшыся, я бачыў перад сабою той гарадок, шэрыя каробкі блочных домікаў, ціхія надворкі з маладзенькімі дрэўцамі, клумбы з ліловымі фіялкамі, з жоўтым кракосам, што сядзіць аж да самае позняе восені сярод стрымбулёў ссохлых вяргіняў. І бачылася перада мною, як я паеду туды, у гэты гарадок, і буду шукаць той дом і раптам, не чакаючы, стрэну яе, Кеню. Яна будзе варочацца з работы і здзівіцца, і не паверыць, убачыўшы мяне... Я нават дадумаўся да таго, што, каб памерла мая жонка, то я ўзяў бы яе замуж, яе, Кеню, і як мы жылі б. Словам, вар'яцтва маё не праходзіла.

І вось неяк па адной патрэбе надарылася мне паехаць у Маскву. У поездзе я нават не мог заснуць, усё думаў пра той гарадок, усё ўяўляў сабе, як стрэну Кеню, і ад нейкай радасці, вар'яцтва дрыжала маё сэрца, мяне ўсяго калаціла...

Масква мне здалася новаю і трохі нейкаю чужою — я не быў там

тры гады. Толькі метро, гэты востры, свежы і цеплаваты вецер, і гэты страх перад эскалатарам, калі ты не ведаеш, як ступіць, як патрапіць на яго, каб не ўпасці, і гэты спакой у людзей, што едуць знізу ўверх і, задраўшы галаву, ціха глядзяць на цябе, успёршыся локцем на гумавую парэнчу, гэты глыбокі жалезны грукат электрычкі, чырвоныя вочкі, што тухнуць на гадзінніку светафора,— усё гэта было знаёмае і блізкае мне.

Была голая вясна, а ў вагоне ўжо сядзела маладое дзяўчо з букетам краснадарскага бэзу, і сталага веку кабета з гаспадарчаю сумкаю на поўных каленях усё драмала на сядзенні і раптам уздрыгвала. А электрычка ляцела ў прорву цемнаты, толькі за вокнамі мільгаў ланцужок цьмяных лямпачак, і ўсё бег па сцяне, цягнуўся чорны тоўсты кабель. Пад вагонам стаяў нейкі глыбокі, жалезны лязгат, нібы электрычка ішла праз мост.

І запруджаныя людзьмі вуліцы, і машыны, што ў некалькі радоў ляцяць адна за адною, і калі глядзіш на іх, аж пачынае кружыцца ў галаве,— усё гэта была Масква і новая, і блізкая мне. І ціхі нумар у старой, здаўна знаёмай гасцініцы — за акном па іржавай бляссе ходзіць голуб і, адварочваючы галаву, глядзіць у шыбу адным вокам,— і кафэ на вуліцы пад тэнтам, куды на сталы залятаюць вёрткія вераб'і. І азыраватая цішыня раніцаю, і цюкат абцасаў па асфальце. І толькі ў табачны магазін забягаюць мужчыны... Бог ведае, якою здалася мне Масква!

За дзень я залатвіў усе свае справы і назаўтра быў слабодны. З нейкай трапятлівай радасцю я прыехаў на вакзал, кінуў у аўтамат 35 капеек і з зеленаватым білецікам выйшаў на перон. І тут мяне ахапіў страх, мне здалося, што тут недзе павінна быць яна, Кеня. Зайшоўшы ў вагон, нават пачаў прыглядацца да маладзіц і потым усё азіраўся — ці не сядзіць яна на лаўцы блізка за спіною, сядзіць са сваім мужам, вясёлая, і ўсё смяецца яму і, пэўна, не думае, што ў гэтым вагоне еду я...

Ногі ў мяне аслабелі і зрабіліся як не свае, калі я прыглядаючыся да ўсіх і шукаючы вачыма яе, Кеню, выйшаў на перон, дзе стаяў невялікі лёгкі будыначак вакзала, абліцаваны кафельнай пліткай. І калі я пазіраў на людзей, што ішлі ад электрычкі, мяне невядома чаму брала радасць, што вось гэтыя людзі ведаюць яе, Кеню, брала радасць, што іду вуліцаю, якою, напэўна, не раз хадзіла яна, калі ішла ехаць у Маскву ці вяртаючыся з электрычкі дадому.

Як я ўжо казаў, было гэта голаю вясною. За платамі ў гародчыках там-сям яшчэ не растаў, разварушаны, мусіць, лапатамі, снег. Была субота. Людзі падмяталі надворкі. Пахла сырою зямлёю, і аднекуль цягнула дымам, недзе палілі смецце. Па сухой ужо вуліцы на веласіпедах ганяліся дзеці, і ціш, як бывае яна перад святам, перад вечарам, ляжала над гарадком. Я прачытаў назву вуліцы: «Гагарына». «А дзе ж Пірагова?» За мною з транзістарам, што хрыпеў нейкую англійскую песню, ішло трое падлеткаў. Я прыпыніўся, чакаючы іх.

— Скажыце, а дзе вуліца Пірагова? — спытаўся я, калі яны параўняліся са мною.

— Мы туды ідзём,— сказаў вышэйшы за ўсіх, чарнявы хлопец год семнаццаці.

— А які вам нумар трэба? — хлопцы прыпыніліся і выключылі транзістар.

Я запнуўся: казаць ці не?

— Дваццаты,— я змахляваў на два нумары.

— Дык звярніце вось сюды і дварамі выйдзеце да гэтага дома.



Я падзякаваў і зарадаваўся, што хлопцы адчапіліся ад мяне. Звярнуў у завулак і выйшаў да шарага цаглянага дома. На сіняй эмаліраванай таблічцы пісалася: «вул. Пірагова» і стаяла лічба «20». Значыць, наступны будзе яе дом. Я выйшаў на нешырокую брукованую вуліцу з голымі ліпкамі, у якіх ад сырасці пазелянела на чорных камлях кара. Я звярнуў управа і ўбачыў трохпавярховы дом з чырвоным абводам пад кожным акном і, мусіць, скарэй інтуітыўна дагадаўся, што гэта і ёсць нумар васемнаццаць. Я стаяў, баючыся падыйсці бліжай. «А вось зараз недзе будзе ісці яна». Мне ўспомнілася тое, што я некалі думаў. Я хацеў гэтага і баяўся, баяўся, што не вытрываю, і ў мяне ад нечаканае радасці разарвецца сэрца.

«Кватэра — чатыры». Гэта недзе на першым паверсе. Я пайшоў тратуарам уздоўж дома, крадком узіраючыся ў вокны. У адным мільганула белая галава — я аслупянеў. Яна! Кеня! Я вярнуўся назад і зноў зірнуў у акно. Над сталом стаяла маладое дзяўчо і прасавала бялізну. Убачыўшы мяне, дзяўчо засмяялася і паклікала некага яшчэ. У акно ткнулася сівая кабета з зачэсанымі на радок валасамі. Я сышоў з вачэй.

Завярнуў за рог дома і глянуў на двор. На лаўцы, недалёка ад нізенькага, у калена, плоцику, за якім быў нейкі гарод, голыя кусты агрэсту, сядзела спіною да мяне маладзіца ў пуховай хустцы, трымаючы на каленях укручанае ў ружовую атласную коўдру дзіця. На вяроўцы, што была нацягнута між укопаных у зямлю тоўстых калкоў, вецер падварушваў сухія накрухмаленыя прасціradлы.

З пад'езда выбегла тое самае бялявае дзяўчо, убачыла мяне і засмяялася зноў. Дзяўчо зняло з вяроўкі сухую бялізну і схавалася ў пад'ездзе, а я ўсё стаяў, узіраючыся на тую кабету з дзіцем. А што, калі гэта яна? І калі трымае маё дзіця? Маё. Ад сораму, ад нейкае віны я аж заплюшчыў вочы.

Кабета паднялася, гушкаючы на руках дзіця, і нават па росце, па плячах, я пазнаў, што гэта не яна, не Кеня.

Нешта ссунулася ў мяне з грудзей, я падышоў бліжай. А можа спытаць у яе, ці жыве тут Кеня? Не, лепей не трэба, будзе падазрэнне. Я прайшоў надворкам, узіраючыся на дзверы пад'ездаў і шукаючы нумары кватэр і, здаецца, чуючы на сабе кожны позірк з акна: а можа ўсё глядзіць яна?

А вось і першы пад'езд. На цёмна-карычняватай палавінцы дзвярэй белыя лічбы: «1—9». Значыць, чацвертая кватэра тут. Вось дзе яна жыве... Абмінае гэтую лужыну перад сходамі, адчыняе гэтыя дзверы з выбітым шклом. Сэрца ў мяне зашчымела, што я вось зараз пайду, так і не ўбачыўшы яе, не даўшы ёй знаць, што быў тут, хадзіў каля яе дома, зазіраў у вокны, бачыў дзяўчо, маладую кабету з дзіцем, гэты ціхі двор, нізкі па калена плоцік, чорны, голы агрэст.

Я абмінуў лужыну, што сабралася перад ганкам у лагчынцы асфальту, і падняўся на сходы. У сярэдзіне ў мяне ўсё дрыжала, нейкая трывога сціскала маё сэрца, рукі калаціліся, калі я ўзяўся за халодную скобку ў дзвярах. Дыхнула сухім сатлелым пахам пад'езда. Прыгрэўшыся на радыятары, жмурыў вочы кот. Сцяна ўвешана пляскатымі бляшанымі скрыначкамі для пошты. А вось на скрынцы і лічба «4». Дзеці накрэмзалі на сцяне свае імёны — як у кожным пад'ездзе.

З нейкім страхам, што вось зараз выйдзе яна, я падышоў да дзвярэй. Не, гэта трэцяя кватэра. Чуючы, як слабеюць і дрыжаць ногі, я падняўся на другі паверх.

А вось на абітых чорным дэрмацінам дзвярах блішчыць прыбі-

тая бляшка — «4». Каля вушака званок. Перад дзвярмі драцяная сетачка, каб выцiралі ногі.

І нешта як спакушала мяне — націснуць на гэтую белую кнопку званка. І я нават убачыў, як раптам адчыняцца дзверы і з цёмнага калідора пакажацца яна ў тым самым карычняватым халаціку, у якім яна была ў Ялце, у санаторыі «Горны».

Я падышоў да дзвярэй, прыслухаўся — за імі было ціха. Я толькі чуў, як стукала — бух-бух-бух — маё сэрца. Зверху нехта спускаўся: па цэмянтовых сходах вострa цюкалі абцасы. Я адышоўся ад дзвярэй — прабегла маладое дзяўчо ў лёгкім паліто з белым каўнерыкам, пакінуўшы светлы дзявочы пах духоў.

Як жа ж ёй даць знаць? Чакаць? А калі яна выйдзе з мужам? Мяне разбіраў халодны страх. Не! Толькі тут не стаяць! Напісаць запіску. Я пашукаў у кішэнях паперы і знайшоў толькі той зеленаваты білецік, што браў на электрычку.

Падышоўшы да акна, паклаў на яго зеленаваты білецік, дастаў з кішэні ручку і пачаў пісаць, рука ў мяне дрыжала: «Кеня, пазвані, калі ласка, па тэлефоне: «223-43-72». Чакаю...» «Што болей? Не, мусіць, досыць». Я ўзяў білецік, чуючы, што ў мяне спадыспаду змакрэла рука. У пад'ездзе было ціха, блішчала бляшаная лічба «4» на чорных, абабітых дэрмацінам дзвярах.

Слухаючы, ці не адчыняюцца гэтыя чорныя дзверы, я спусціўся да паштовых скрынак, укінуў у чацвертую білецік і выйшаў на двор. Зрабілася лягчэй ад гэтага азыраватага ветру, ад вастраватага веснавога холаду, але мяне яшчэ ўсё калаціла — дрыжалі ногі, як дрыжаць яны ў хворага, калі ён доўга не ўставаў з пасцелі, навальвалася нейкая слабасць.

На лаўцы сядзела маладзіца з дзіцем на руках. Вецер варушыў слабка нацягнутую на шарых слупах белую танкаватую вяроўку. За плоцікам чарнеў голы яшчэ агрэст. Недзе піпікала машына — мусіць, тая, што збірае смецце. Нехта ў адной рубашцы, без шапкі бег з вядром, прытоптваючы, каб не разляталіся, рукою паперкі.

Я задраў галаву, гледзячы на вокны на другім паверсе. Яны былі завешаны цюлем. Суха блішчала, мусіць, вымытае надоечы, шкло. Яшчэ раз азірнуўся на першы пад'езд: каля сходаў вецер рабаціў каламутную лужыну. На лаўцы ўсё гэтак сама сядзела маладзіца ў сівай пуховай хустцы з дзіцем на руках.

Я яшчэ пастаяў, узіраючыся на гэты цагляны дом з чырвонымі абводамі над вокнамі, на гэты ціхі двор, і завярнуў на вуліцу, невядома чаму думаючы, што яна, Кеня, можа тут і не жыве. А дзе дазнацца пра яе адрас? Спытаць? Схадзіць на гэты заводзік, дзе яна працуе інжынерам, і распытаць у людзей? Але ж сёння субота. Не, калі яна ўжо не пазвоніць, тады...

Я пахадзіў па гэтым гарадку, ад якога пахла вільготнаю набрынялаю зямлёю, раскопанымі градамі, гаркаватым дымам ад сухога, ссыпанага ў кучы і падпаленага смецця, пастаяў яшчэ зводдаль новага кінатэатра, дзе на высакаватым і шырокім ганку з задзірастым брылём тапталіся людзі; прыглядаючыся яшчэ ўсё да маладзіц, ці не ўбачу яе, я вярнуўся на электрычку, ужо нейкі паспакайнелы і страціўшы спадзяванне, што калі-небудзь стрэну яе, Кеню.

Еxаў у Маскву, а перад вачыма ўсё стаяў гэты гарадок з шарымі цаглянымі дамамі, чыстыя, падмеценыя вуліцы, той дом з чырвонымі абводамі над вокнамі, пад'езд, спісаны мелам, абабітыя чорным дэрмацінам дзверы і перад імі драцяная сетачка. І ўжо наракаў на сябе, што дарма ўкінуў білецік, бо ці знойдзе яго хто, і чаму не падпісаў якое-небудзь жаночае імя, бо што тады, калі гэты білецік знойдзе муж...

У гасцініцы, у нумары была адзінота, смутак сціскаў душу. Я заказаў размову з домам і сказаў жонцы, што яшчэ затрымаюся на дзень — на два, хоць мне і абрыдла сядзець тут аднаму ў гатэлі.

— І ўся гісторыя? — здзівіўся Чэмер, калі Петраш адхіліўся ад сцяны і неяк пабольшаў адразу. Ён стаяў высокі, дужы ў плячах, толькі ў яго на гладкім маладжавым твары свіцілася нейкая жаўтлявасць. І ці можа ад таго, што стаялі мы далёка ад акна і тут было цемнавата, на ім як значылася нейкая спакутаванасць і хвароба, і ў сініх вачах была млоснасць.

— А што, вас можа і не бярэ цікавасць? — спытаўся ён, сарамяжліва засмяяўшыся і паказваючы свае белыя і як крамяныя зубы.

— Не, ужо даслухаем,— сказаў я, каб хоць як заступіцца, угадзіць яму, бачачы, што ўсім ужо расхацелася слухаць і прапаў усялякі інтарэс да гэтай Петрашовай гісторыі, кожны ўжо напэўна набыльваў пра тое, каб як пайсці дадому, бо недзе ў канцы калідора, каля кладоўкі, дзынкала вядром тэхнічка.

Петраш, растапырыўшы пальцы, абедзвюма рукамі прыгроб, неяк пачынаючы ад лоба, за вушы на патыліцу валасы, памаўчаў, кусаючы край ніжняй губы, нешта спамінаючы сваё, і адвёў ад нас вочы:

— А ўся гэтая гісторыя скончылася вельмі звыкла. Назаўтра, спусціўшыся ў рэстаран і на скорую руку паснедаўшы, я сядзеў у нумары і чакаў яе званка. Недзе ў самы полудзень зазваніў тэлефон. Я з нейкай звар'яцелай радасцю падскочыў і падняў трубку. Гаварыў мужчына. У мяне нешта адарвалася ў грудзях і спацела рука. Муж... Але чаму ён называе мяне па імю? Я ледзьве разабраўся, што звоніць таварыш, наш тутэйшы хлопец, што зрабіўся масквічом: скончыў аспірантуру і застаўся рабіць у КБ. Калі раскрываць карту, то гэты хлопец мае дачыненне да ўсіх гэтых шарыкаў, што лятаюць над намі, якраз займаецца вадкім палівам. Словам, ён кліча мяне ў госці, а пагаварыць нам з ім было пра што: некалі тры гады сядзелі за адным сталом, як займаліся на фізмаце, пакуль ён не перавёўся ў Маскву, у МГУ.

Адмовіць не было як, і я паехаў недзе аж на край Масквы — спярша ў метро, потым аўтобусам, у вёску, за якой ужо стаялі чырвоныя недабудаваныя дамы, а над імі паднімалі тонкую шыю пад'ёмныя краны, бытта заглядвалі ў сярэдзіну гэтых дамоў, а тут каля хаткаў з размалёванымі шчытамі, з выразанымі аканіцамі таўклі мак камары, стаяла цеплыня, на вербалозе ў гародчыках распускаліся жоўтыя каткі, і над імі віліся пчолы. Недзе гаўкаў тоўстым голасам вялікі сабака. Я мінуў вёсачку, і мяне стрэў мой таварыш. Дома ў яго нікога не было — жонка з дзецьмі паехала недзе на дачу. Мы выпілі па кілішку. Гутаркі было многа. Спомнілася ўсё даўнейшае. Прасядзеў я ў яго гадзіны чатыры. Ён намаўляў мяне астацца нанач, але я не помню, як ужо адгаворваўся, што яму махляваў. Ён, мусіць, не вельмі паверыў і падвёў мяне да аўтобуснага прыпынку. Вярнуўся я ў гасцініцу падвечар. Распрануўся і прылёг на ложак. І не помню, як задрамаў.

Разбудзіў мяне тэлефон. За акном ужо сутоньвалася: у кутках у нумары гусла цемната. Я кінуўся да століка, выцяўшыся каленам аб крэсла, і зняў трубку.

— Алё-о,— сказаў я, сцішыўшыся і чакаючы яе голасу. Сэрца маё дрыжала.

— Гэта Keня. Хто мяне пытае? — пачулася недзе здалёк і ціха. Голас быў яе — мяккі.

— Гэта я, Віктар...— і ў мяне ў роце зрабілася суха.

— Божа мой, няўжо гэта ты, Віктар? А я глянула на білецік, пазнала твой почырк, але ўсё не верыла сама сабе... Я ўжо званю другі раз... Ах, божа, няўжо ўсё гэта праўда?.. Ну, гавары, гавары... Я хачу слухаць твой голас, мне яшчэ ўсё не верыцца, што гэта ты.

— Адкуль ты звоніш? — нешта мяне ўсё сушыла ў горле.

— З дому, з нашых Падліпак.

— Кеня, Ксюша, я хачу цябе ўбачыць. Ці можаш ты прыехаць сюды — я назваў гасцініцу.— Бяры таксі... Каб ты ведала, як я цябе шукаў.

— Віцюня, мілы мой!.. Я прыеду... Забягу толькі дадому... Мне тут блізенька... Скажу Лёню, што прыязджала Маша, што ў яе нейкая бяда... Лёня сёння наранкі адкрыў паштовы яшчык, знайшоў твой білецік і ўсё распытваў, што гэта за тэлефон. Ой, што было... Але раскажу потым. Я бягу...— і недзе там далёка, як сухі гарохавы стручок, луснуў тэлефонны апарат — яна павесіла трубку, і я чуў гэтыя кароткія гудкі — ту-у, ту-у, а ў маіх вушах яшчэ стаяў яе далёкі мяккі голас і перад вачыма была яна ў той белай, што свіцілася ружаватасцю, карункавай блузцы, у якой яна была ў тую астатнюю ноч...

Я апрануўся і выйшаў на вуліцу. Ціха гарэлі ліхтары, густа, як далёкае мора, гула Масква, ружовымі агнямі свяціліся хвасты машын. Я прыглядаўся ўсё да тых, што, моргаючы адным жоўтым вочкам, заварочвалі пад гасцініцу, спыняючыся каля самага тратуара. Пад зеленаватымі ліхтарамі матавым святлом адліваў асфальт. Прайшло можа з гадзіну, а яе ўсё не было. У душу нават закралася падазронасць, што ёй, можа, няма як прыехаць, што нешта там муж... І я нават не падбег да сіняе «Волгі», што спынілася на другі бок вуліцы. Я толькі ўбачыў, што адтуль нехта махае рукою... Я азірнуўся, ці няма каго ў мяне за спіною, і потым ужо кінуўся туды, не верачы, што гэта яна і не ўгадваючы ў гэтай, здаецца, нізшай, паўнаватай кабеце ў бэжавым паліто, у ружаватай нейкай высакаватай шляпцы Кеню. Машына ціхенька рушыла з месца, і сярод вуліцы засталася яна адна, і я пазнаў яе твар і, падышоўшы зусім блізка, убачыў, што ён нейкі абветраны, у ім не было той даўнейшай маладжавасці. Але ў гэтым твары было мне нешта блізкае і чужое. «Яна пабрыдчэла»,— падумаў я. Толькі вочы асталіся тыя самыя — карычняватыя, вострыя, і быў у яе той самы голас:

— Віктар, дзень добры!

Я абняў яе, чуючы чужы пах духоў, чуючы рукою калючыя струкі яе бобрыкавага паліто, усю нязвыклую ў ёй чужасць... І на мяне найшла нейкая зацятасць, і нейкі холад працяў мяне, і нешта пустое заварушылася ў маёй душы. Я не ведаў, што са мною робіцца, але чуў, што я ніколі з ёй не буду такім, як быў, бо я высніў, выдумаў яе другою...

— Ты змяніўся, Віктар,— яна, мусіць, учула ў мяне гэтае нешта чужое для яе, гэтую маю нечаканую абыякавасць.— А помніш, які ты быў чорны...

— Другі год, як я нідзе не загараў,— сказаў я, адчыняючы цяжкія з абслізганай меднай ручкай дзверы гасцініцы.

Мы селі ў ліфт. Яна, узіраючыся ў люстэрка кабіны, папраўляла каля шапачкі валасы. Я бачыў яе збоку — яе прыпудраную сухаватую шчаку, яе вастраваты нос, шнарок каля кутка губ... Я ўзяў яе за плечы, павярнуў да сябе і пацалаваў у гэтыя спакойныя, трохі падця-





тыя губы, адчуваючы перад ёю і нейкую вінаватасць, і злосць на сябе — нашто я гэта раблю, нашто перасільваю сябе... Яна апусціла галаву і ўкусіла край ніжняй губы.

— Ты змяніўся, Віктар... Чаму ты змяніўся? — спытала яна, гледзячы недзе за маё плячо.— А можа, ад таго, што мы былі другія... тады... далёка ад дому...

— Я ж і цяпер не блізка,— пажартаваў я, чуючы брыдкасць за гэты няўдалы і непатрэбны жарт і перасільваючы нешта цяжкае, незразумелае ў сваёй душы.

Грукнуў і перастаў дрыжаць ліфт — спыніўся. Мы выйшлі.

— Як хораша тут у вас,— гаварыла яна, ідучы бурачковым, з зялёнымі паскамі ходнікам.

У нумары яна зняла паліто і асталася ў ружаватым, што адліваў нейкай срэбнай, як халоднай, ніткай, касцюме і яшчэ паменшала; у яе была нейкая кароткая шыя і шыракаватыя плечы, і яна выдавала падобнаю на артыстку Дароніну. І я падумаў, што і з твару яна рыхтык Дароніна. І мне невядома чаму спомнілася нешта даўнейшае, як тады яшчэ, у Ялце, калі яна адзела гумавую шапачку, твар у яе пабрыдчэў і зрабіўся нейкі шыракаваты...

— Пойдзем павячэраем,— сказаў я, каб не маўчаць, нешта рабіць, каб скінуць з сябе ўсё гэта цяжкае і незразумелае сабе самому.

У рэстаране стаяў п'янаваты гоман, і гэтая людская гутарка, і расчырванелыя давольныя твары, і гэты сіні тытунёвы дым, і духата змяшаліся ў маёй галаве ў нешта адно — цяжкае. За суседнім сталом напроці мяне сядзела маладое дзяўчо, і я быў рад, што бачу гэты цвярозы, маладжавы, трохі нейкі бляды твар, і невядома чаму павесялеў.

Падышоў афіцыянт — дробненькі, невысокі хлопец, з ручніком, перавешаным цераз руку.

Я заказаў. І нейкая зацятасць зноў надышла, навалілася на мяне.

— Віктар, чуеш, Лёня знайшоў твой білецік і пытае, што гэта за нумар тэлефона напісаны. А я і не ведаю. А потым узяла гэты білецік, пазнала твой почырк і ледзьве не абамлела. І ён глядзіць на мяне... А потым кажу: «Гэта Маша, Маша з Масквы...»

Яна пачала расказваць пра мужа і смяяцца, і мне зрабілася брыдка і шкада яго. Мне спомнілася жонка, дачка, і я падумаў: нашто я сяджу тут, з ёю, і нашто ўсё гэта?..

Кеня разрухавелася, стала вясёлаю, а я не п'янеў, мяне нічога не разбірала, я сядзеў цвярозы і ўсё ўзіраўся на тую дзяўчыну за суседнім сталом з бляды́м маладжавым тварыкам. Была яна нейкая строгая, цвярозая. Да яе нешта гаварыў хлопец у белым світары, з доўгімі, аж закручанымі на каўняры, валасамі. Яна маўчала, і я падумаў, што ёй гэтак сама смутна і невясёла тут, як і мне.

Заіграў аркестр — было чуваць звон талерак і грукат барабана. З-за сталоў пачалі ўставаць мужчыны, беручы за голы локаць жанчын.

— Віктар, я хачу танцаваць.

Не ведаю, чаму, але я падняўся. Мы выйшлі туды, дзе перад аркестрам збіліся пары. Мне стала горача. Я зусім не трапляў у такт музыцы, ногі мае не слухаліся...

На эстраду выйшла сытая дзябёлая маладзіца — пачуўся глухі, нізкі, але моцны праз мікрафон голас.

— Кеня, выбачай, але я не магу...

Мы вярнуліся і селі за свой столік. Падышоў афіцыянт, паклаўшы на стол «заказ». Я разлічыўся, і мы пайшлі ў нумар.



— Позна, Кеня... Табе пара дадому... А да мяне яшчэ маецца прыйсці таварыш,— змахляваў я.

Яна адвярнулася і заплакала.

Я маўчаў. Тупы боль сціснуў галаву — я не ведаў, што гаварыць, як суцяшаць.

Яна паціху стала апранацца і ўжо спакойна, калі мы выйшлі на вуліцу, калі я падняў руку, каб спынілася таксі, загаварыла:

— А я прыехала на цэлую ноч да цябе... Я ляцела сюды як звар'яцелая. Я забылася пра ўсё... А ты мне напомніў, што ёсць жыццё. Божа, можа так і трэба...

Я маўчаў, і мяне ела брыдкасць, сорам, крыўда... Я маўчаў. Я не хацеў гаварыць, што я яе не люблю, што я люблю яе выдуманую... Ды нашто было гаварыць — яна ведала і чула душою сама.

Яна стаяла ўся зняботжаная, яе сэрца, пэўна, сціскала страшэнная, вялікая мука. Мне было яе шкада. Але чым я мог памагчы...

Я ведаў, што калі пачну ілгаць — будзе горай і для мяне і для яе.

Падышла машына, свецячы зялёным вочкам і дыхаючы цяплом. Яна сцішана падалася да яе. Мяне нешта гняло. Я забег наперад і, узяўшы абедзвюма рукамі яе за плечы, пацалаваў у мокрыя вочы. Яна стаяла ўгнуўшы галаву, плечы яе то падніміліся, то апускаліся, дрыжалі. Шафёр адчыніў дзверцы. Зялёнае вочка патухла, і суха затрашчаў лічыльнік. Машына ціха ад'ехала, дзверцы былі яшчэ ўсё незачыненыя... Востра, аж балелі вочы, гарэлі на ёй агні стопсігналаў. Дзверцы ляпнулі, і машына пачала набіраць скорасць.

Нейкі салодкі боль апаліў мне грудзі. Я ўсё стаяў і глядзеў, як аддаляліся два ружовыя агні стопсігналаў. І мне думалася, каб я не бачыў яе дзесяць, дваццаць год, сэрца маё трапяталася б гэтак сама і гэтак сама я шукаў бы яе і прагнуў бы таго, каб яе ўбачыць, але праз які час я з ёю не стрэўся б, маё сэрца працяў бы боль, я ўсё роўна, гэтак сама разышоўся б з ёю.

— Гэта ўжо заблытаная філасофія,— сказаў нехта з нас.

Петраш схамянуўся, падняў галаў — і твар яго, здаецца, зноў памаладзеў.

— А вы помніце чэхаўскую «Пані з сабачкам»? — ён неяк пільна паглядзеў на нас.— Ды што я пытаю, вядома, помніце. Там напісана праўда, дзе Гураў шукае яе, у тэатры. І яна здалася яму там нікчэмнай з гэтай самай ларнеткай.

А далей Чэхаў выдумаў. Бо і ў Гурава павінна было гэтак сама скончыцца каханне, як у мяне. Выдумаў...

Мы насцярожыліся.

— Бо два жыцці ў чалавека не бывае. А калі чалавек і хавае што, то хавае для некага, каб расказаць пра яго.

— М-да,— уздыхнуў хтосьці.

Мы выйшлі на вуліцу. Прэсная сырасць, як ад рэчкі, дыхнула на нас. Блішчаў мокры асфальт. Недзе з-за хмар азірнулася нізкае сонца, і асфальт зрабіўся чырвоны. Мы звярнулі ў скверык. На жвіро́стую сцежку вецер нарваў зялёнага лісця. А калі ападае лісце, заўсёды думаеш, што блізка восень, што мінуў год, што шмат чалавекам пражыта і шмат перадумана.

● Алег САЛТУК





●

Лёс, напэўна, у зямлі такі,
Ці багоў яна ўгнявіла нечым?..
Грузныя, як маманты, вякі
Цяжка леглі на зямныя плечы.

Што ні век, то новая вайна —
Папялішчы, дзікі рэў гарматаў.
Пасівела за вякі яна,
Стала ад магіл зусім гарбатай.

А цяпер вось стронцый і уран,
І зямля ў жахлівасці нямее.
Нечуванай моцы ураган
Спее у глыбокіх падзямеллях.

А ў Прыдзвінні светла ад бяроз,
І зязюлі у гаях кукуюць.
Шле зямля ў эфір спрадвеку «SOS».
Ці пачуюць людзі, ці пачуюць?

●

*Рыгору Барадуліну*

У нас лясная старана —
Ласі буяняць у гародах,
І ад відна і да цямна
Снуюць птушыныя чароды.
І працаваць зямляк — мастак
Сякерай, плугам і пілою
І гультаёў не любіць так,
Як лес не любіць сухастою.
Мы шмат цярпелі на вяку.
Наш край навалы не мінулі —
У кожным дрэве і суку
Сядзяць асколкі, злыя кулі.



На брацкіх могілках яшчэ
Няўцешна, горка ўдовы плачуць...
Зіхціць слязінкай на шчацэ
Крыштальна-чыстае — Ушачы!

●

Такі наш звычай—іншага не знаю.
Прыйшоў да нас ён з даўняй старыны:
Усе вяселлі вёскаю гуляюць
І плачуць вёскай ціха ля труны.

І вёскаю ўдаве будуюць хату,
Нібы мурашнік, тая талака,
І вёскаю праводзяць у салдаты
Мурзатага калісьці хлапчука.

Вялікі звычай, мудры, чалавечы.
Пакуль ён ёсць, то будзе хлеба кус,
І мовы спеў, і вопратка на плечы,
І нескароны вольны беларус.

## Пачатак дня

Пачатак дня. Знікаюць цені.
Смяюцца росы на траве.
Аж на дванаццатым калене
Зайшоўся шчыры салавей.
Шчыруй, салоўка, каб у скокі
Пайшлі прырэчныя кусты,
Каб безгалосыя сарокі
Паднялі доўгія хвасты.

Шчыруй, каб жабы у балоце
Пазашываліся у глей,
І на высокай самай ноце
Не памірай—цягні далей.
Будзі азёрную старонку,
Каб уставала да святла,
Каб песня радасна і звонка
Ляцела з-пад твайго крыла.

●

Зялёныя лясы і азярыны,
Рыбацкія вясёлыя кастры,
Сінеча рэк, азёр і воч дзяўчыны
І наш маленькі домік на гары.

З яго у свет мяне вялі дарогі—
Як цяжка крок зрабіць цераз парог!
І лёгка як нясуць дадому ногі,
Калі сумленне перад ім збярог.

● Іван МУРАВЕЙКА





●

Перацярплю любыя мукі,
Любую вынесу бяду,
Ніколі ў роспач не ўпаду.
На падыму угору рукі.

Не раз быў я ў атаках лютых,
Тануў, гарэў і замярзаў.
Але ў смяротную мінуту
Я не аглядваўся назад.

Я не скажу, што аніколі
Не ведаў, што такое жах...
Але яго пераадольваў
Я на зыходных рубяжах.

## Лось

Зорак рой у высях сініх.
Снег да самых плеч бярозкі...
Цераз поле след ласіны
Напраcткі брыдзе да вёскі.

А вунь ён і сам ля плота —
Лось, жыхар густога бору,
З непрытоенай журботай
Пазірае на абору.

А з аборы пахне сенам,
І вадой, і цеплынёю...
Лось успомніў луг вясенні
З ручайкамі і травою.

Ні работы, ні турботы...
Эй, вясна, нідзе не баўся!..
...Палізаў сняжку ля плота
І назад у лес падаўся.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА

● Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ
● Генадзь АНЦІПАЎ
● Уладзімір ЛІПСКІ
● Эмануіл ЮФЕ
● Эдуард БРУК
● Барыс ПАСТАРНАК
● Вячаслаў РАГОЙША
● Васіль ВІТКА
● Мікола ЛОБАН
● Барыс САЧАНКА
● Уладзімір ЮРЭВІЧ
● Сцяпан ГАЎРУСЁЎ
● Аркадзь БАГАНАЎ
● Макс ШАВЕЛЬ
● Уладзімір КУЗЬМЯНКОЎ






# НЕВЫЧЭРПНЫ СКАРБ

## ПРАЛОГ, ЯКІ ПАЧЫНАЎСЯ Ў ЖНІВЕНЬСКУЮ РАНІЦУ

— Ну, паехалі!..

— Барыс! — крычаў я, нахіліўшыся да самага вуха пілота. — Спачатку на першую, на «Залутушынскую».

Ён ківае галавой, на твары зразумелая ўсмешка: свідравіна № 1 каля вёскі Залатуха. Яна калісьці першая дала доўгачаканую нафту. Пад намі праплываюць пералескі, пранізаныя наскрозь промнямі жнівеньскага сонца. Пад густой заслонай зелені цьмяны бляск вады — гэта палескія балоты. Яны цягнуцца на дзесяткі, на сотні кіламетраў. Дзе-нідзе балоты перабіваюцца густой сеткай канаў, пракапаных зусім нядаўна, — добра папрацавалі меліяратары.

Але раней за меліяратараў прыйшлі сюды нафтавікі-буравікі. Прама па курсу — адна вышка, праз кіламетр — другая. Пачынаеш прыглядацца, і вока распазнае ўсё новыя і новыя. І мне ўспомнілася.

Восьмую свідравіну заклалі зусім недалёка ад гэтых месц, там, дзе праходзіць траса нафтаправода «Дружба».

Мантажнікі, збіраючы вышку, жартавалі:

— Глядзіце, хлопцы, нафтаправод побач. Прадзіравіце трубу, а скажаце — залеж знайшлі.

Хоць і трапны быў гэты жарт, але сумны па тым цяжкім для беларускіх нафтавікоў часе. Ужо дзесяць гадоў напружана працавалі яны. Пад Салігорскам, Мазыром, на Ельскай пляцоўцы. Вынікі не радавалі. І ўсё-такі буравікі не трацілі надзеі, верылі, што ў наступны раз абавязкова пашанцуе. Вось і тады. Загулі дызелі, запрацаваў станок, долата пайшло ў глыбіню. Калі, нарэшце, глыбіня свідравіны пераваліла за дзве тысячы метраў, захваляваліся хлопцы: па падліках менавіта на гэтай глыбіні павінна быць нафта.





Але ідзе гадзіна, другая. Яшчэ раз «прастрэлілі» пласт. Нічога. Адышлі буравікі ўбок. Расселіся хто дзе, стомленыя. І раптам у трубе нешта глуха забулькала. Потым гучна плюхнуў гліністы раствор.

Усе паўсхопліваліся. Са стрэлкай манометра адбывалася нешта незвычайнае: 30... 60... 80 атмасфер!

«Нафта! Нафта пайшла! — усклікнуў Іосіф Максімавіч Рудкоўскі, майстар па выпрабаванні нафтавых свідравін. — Доўга ж мы цябе чакалі! Зараз ты наша! Наша!..»

Гэта было ў жніўні 1964 года. Нядаўна нам зноў давялося пабываць на славутай «восьмай». Выдатна працавалі свідравіны. У двух кроках ад нас — велізарная, з шэрага каменя пліта-помнік, на якім залатымі літарамі выбіта, што адсюль пайшла вялікая нафтавая рака рэспублікі.

Не ведаў у тую раніцу Іосіф Максімавіч, нават у самых смелых снах загадваць не смеў, што каля гэтага месца ў роздуме будуць спыняцца многія.

Сярод іх мы і знайшлі сваіх герояў — пасланцоў сонечнага Азербайджана, радзімы вялікага Нізамі. Але пакуль мы яшчэ не пазнаёміліся з імі, пакуль не названы імёны, давайце вернемся да вытокаў падарожжа, якое прывяло нас сюды, на промысел, што раскінуўся ўсяго ў некалькіх кіламетрах ад Рэчыцы.

**Лётчык не можа без неба,**
**Марак — без мора.**
**А нафтавік не можа без недраў.**

(З гутаркі з Ісакам Самуйлавічам Арнапольскім, раней бакінцам, а зараз начальнікам аднаго з аддзелаў «Беларусьнафты»)

Гэты дом размешчан у Гомелі на вуліцы імя Білецкага, ціхай і маладой, усяго якіх-небудзь некалькі крокаў ад славутага парку, вядомага ўсяму Саюзу. Затое ў нафтавікоў, дзе б яны не знаходзіліся — у Цюмені, у Грозным або ў стэпах Татарыі, — з домам на гэтай вуліцы свая асаблівая сувязь. Калі глядзець збоку, пра гэта і не адразу здагадаешся: цеснаватая прыбудоўка з вузкімі пакойчыкамі, сцёртымі прыступкамі, вузкімі калідорчыкамі, у якіх двум цяжка размінуцца — новы будынак «Беларусьнафты» яшчэ не гатовы. Але цеснata не бянтэжыць працаўнікоў упраўлення. Ды і якая ж гэта цеснata, калі кожны дзень праз тысячакіламетровыя прасторы палёў, праз разлівы мораў і горныя хрыбты даносяцца сюды знаёмыя галасы сяброў:

— Алё, Беларусь! Адгрузілі партыю буравога абсталявання. Чакайце з дня на дзень. Як у вас прывіўся новы метад апрацоўкі свідравіны? Калі што — не саромцеся, клічце, паможам.

Бываюць і такія званкі:

— Добры дзень, дружа! З Грознага цябе турбую. Здабыча не падае? Выдатныя, гаворыш, паказчыкі... Ну тады віншуем... А то мы ўжо збіраліся цябе да сябе пераманіць — тут нашых агульных знаёмых многа. Не пойдзеш? Паклон!..

Іншы раз вельмі хочацца сустрэцца з хлопцамі, пагаварыць пра жыццёбыццё, падзяліцца ўражаннямі за круглым сталом — разам жа канчалі інстытут у Баку. Здаецца, зусім нядаўна прыехаў у Беларусь, а хоць успаміны пішы.

Арнапольскі ўстае з-за стала, курыць. Добрыя вочы ўсміхаюцца, мове яго ўласціва тое спецыфічнае адценне, якое бывае толькі ў прыроджаных людзей поўдня.

— Дык вы ж якраз патрапілі. Нарадзіўся і вырас я ў Баку, — задуменна гаворыць ён. — А як у Беларусь трапіў — доўгая гісторыя...

Самая салідная вышэйшая навучальная ўстанова ў Азербайджане — нафтавы інстытут — рыхтавала выдатных спецыялістаў. Скончыўшы яе, Ісак Самуйлавіч думаў спачатку застацца на радзіме. Але ці ж уседзіш на месцы, калі неспазнаныя землі абяцалі рамантыку.



**Пад вінтом верталёта — Палессе.**

**Намеснік начальніка ўпраўлення па бурэнні «Беларусьнафта» Ісак Самуйлавіч Арнапольскі.**





**Бурыльшчыкі** (злева направа): **Прахор Яфрэменка, Мікалай Крысенка, Мікалай Захарчук.**



**Мартоні Сафараў на 10-й буравой.**







Яшчэ нядаўна тут расла толькі трава...

Юры Айрапетавіч Балакіраў узначальвае ў Гомелі аддзел Кіеўскага навукова-даследчага інстытута.



саюз непарушны



Газавік Супхан Мансімаў.



Бакінец машыніст Уадзімір Барадзін.

Другое «Баку» ў Башкірыі. Велізарная нафтавая правінцыя ў Міжрэччы. Інстытут рыхтаваў не толькі выдатных спецыялістаў — ён акрыляў мару, выхоўваў душэўную стойкасць. Скончыўшы інстытут, паехаў у Альмецьеўск. Пустэча, гразь, баракі. Фундамент новага жыцця даводзілася літаральна закладваць уласнымі рукамі. І буравы майстар Арнапольскі не пасаваў перад цяжкасцямі. Праз некалькі гадоў ён быў ужо галоўным інжынерам канторы бурэння. Рос Альмецьеўск. Здавалася б, жыць ды жыць, але не атрымалася так. Як прачуў пра нафту на Палессі — пацягнула на новае месца. Нават сам дзівіўся, што такім лёгкім аказаўся на пад'ём. Думаў, што будзе адным з першых бакінцаў у Беларусі, а здарылася так, што нават у першую дзесятку не трапіў, — многія былі куды нецярплівейшыя.

«Нафта ў Беларусі? Ну што вы, гэта ж несур'ёзна! Адкуль ёй тут узяцца? Хто знойдзецца такі смелы, каб паставіць на карту ўвесь свой аўтарытэт, імя, заявіць: гульня варта свечак!» Так гаварылі скептыкі, і спрачацца з імі было цяжкавата. Але сярод нафтавікоў ходзіць справядлівая прымаўка: «Нафта ёсць там, дзе яе шукаюць». А калі шукаюць вельмі доўга, а яе ўсё няма? Калі дзяржава ўкладвае ў пошукі нафтавых месцанараджэнняў велізарныя сродкі, а толку ніякага?

Бурылі ў 1949 годзе каля вёскі Корані. Дала нафту першая Прыпяцкая свідравіна. Але якую? Здабытая з глыбіні 2.600 метраў, нафта была загусцелая, цяжкая, падобная на мазут. Ды і нафтай яе можна было назваць толькі ўмоўна, хутчэй — адходы ад яе. У 1953 годзе са свідравіны каля Ельска зноў, нібы дражнячыся, лінула нафта. З вялікімі цяжкасцямі можна было ачысціць яе ад шкодных прымесяў, па-другое, колькі навокал ні бурылі новых свідравін — нафты не было.

Пра цяжкасці, якія сталі перад беларускімі нафтавікамі, чулі і ў Баку. Чулі, і, калі гаварыць шчыра, падабалася бакінцам самаадданасць, настойлівасць, з якой вялі разведку ў раёне Прыпяцкай упадзіны іх беларускія калегі.

— Ты ж сам адтуль родам, з Рэчыцы. Раскажы, як там, ці хутка запахне нафтай? — дапытваліся знаёмыя хлопцы-нафтавікі ў Ігара Страшынскага, які толькі што вярнуўся з водпуску.

— Чуе сэрца, хлопцы, хутка там заверціцца такое...

— Калі? — настойліва дапытваліся бакінцы.

— Скора. Вельмі скора.

Ігар не прыдумваў. Дзень 20 жніўня набліжаўся. Скора спатрэбіцца беларусам вялікая дапамога сяброў-бакінцаў. Вельмі скора. Дык ці здзіўляцца таму, што так шмат сярод іх было нецярплівых? Ісак Арнапольскі, Віктар Гур'янаў, Сяргей Маркаў, Уладзімір Барадзін... І яшчэ шмат іншых, сярод якіх Ігар Страшынскі, які быццам з дзіцячых гадоў прадчуваў, што пакліча яго зноў да сябе родная Рэчыца.

**«Дачка ў мяне ў гэтым годзе ў чацвёрты перайшла. Беларускую мову я пакуль дрэнна ведаю, вось яна і ўзяла на сябе дадатковую нагрузку: ліквідаваць маё адставанне. А вучань я старанны...»**

(З расказа Уладзіміра Барадзіна, які працуе машыністам на рамонце нафтавых свідравін).

Стукаюць-перастукваюць на стыках рэек цяжка гружаныя саставы. Імчацца машыны па дарогах Гомельшчыны.

Калі ўсе пуці-дарогі занясе снегам палескі бадзяга-вецер, выходзяць на дарогу тралёвачныя трактары — на дальнюю буравую трэба тэрмінова падкінуць абсталяванне.

На многіх скрынях, якія прыбываюць сюды, у Рэчыцу, праз тысячакіламетровыя адлегласці, відаць знаёмая марка бакінскіх заводаў. Цяжка пералічыць усё, што паступае з Баку ў сталіцу нафтавікоў. Трубы з Сумгаіта, долаты для бурэння свідравін, буравыя вышкі, цяжкае буравое нафтапрамысловае абсталяванне Бакінскага завода імя лейтэнанта Шміта, сродкі аўтаматыкі і тэлемеханікі...





Але самая галоўная дапамога Азербайджана нашаму нафтаваму промыслу — гэта дапамога людзьмі, цудоўнымі высокакваліфікаванымі работнікамі. Ёй, гэтай дапамозе, цаны няма. З імі сустракаешся на буравых, у кабіне рэйсавага аўтобуса, у канторы глыбокага бурэння і там, дзе буравыя работы ўжо даўно закончаны і нафта паслухмяна цячэ ў «мексіканкі», каб адтуль, ужо ачышчанай, уліцца ў «Дружбу».

Вось некалькі маналогаў.

**Маналог першы.** Юры Айрапетавіч Балакіраў думае, адстойвае, спрачаецца:

— Дык з чаго пачнём? Можа з агляду нашай лабараторыі? Ужо бачылі? Што ж, відовішча, па праўдзе кажучы, мала імпазантнае. Гэта нашы пераcоўныя домікі. Але няручнасць гэта — часовая, хутка яна скончыцца — выдадуць нам памяшканні, пабудаваныя па ўсіх законах сучаснай архітэктуры. Між іншым, і зараз мы не вельмі сумуем. Работы непачаты край, бывае стомішся, што няма калі і агледзецца вакол. Не тое, што на Каспіі. Там шторм як крутане дзесяць-адзінаццаць балаў, толькі трымайся, сачы, каб шапкі з галоў не пазрывала. Я там на востраве Пясчаным вёў цэх навукова-даследчых работ. У той час пра беларускую нафту амаль нічога не ведаў, а зараз давялося.

Цікавая беларуская нафта. Магчыма, таму і загарэўся ёю. Схавана яна ў кавярнозна-порыстых пластах, з такімі мне ніколі не даводзілася мець знаёмства раней. Наша лабараторыя вывучае будовы пластоў Прыпяцкай упадзіны, вывучаем уласцівасці фільтрацыі, дапамагаем наладзіць эфектыўную эксплуатацыю свідравін. Вось, да прыкладу, адна з апошніх нашых работ — удасканалілі помпавы спосаб. Што гэта значыць? Дастаткова палепшыць дабаўку палімерных злучэнняў у свідравіну, як прыкметна аблягчаецца здабыча нафты.

А нафта капрызная, як дзіця. Добра, калі яна б'е фантанам з зямлі, тады турбот нафтавікам мала: бяры і накіроўвай куды трэба. Але раней ці пазней энергія фантана вычэрпваецца, знікае. Як тут быць?

Звычайна падключаюць да свідравіны помпу, выкачваюць. Помпавае абсталяванне складанае. У эксплуатацыі патрабуе да сябе вельмі пільнай увагі. Іменна таму наша лабараторыя рэкамендуе так званы газліфтны спосаб. Газ, які накачваецца ў свідравіну, выштурхоўвае нафту на паверхню.

У некаторых людзей укаранілася меркаванне, што спосаб гэты нерэнтабельны, адна кампрэсарная станцыя колькі мільёнаў пацягне. Але будзем разважаць разумна. Як сцвярджае італьянская прымаўка, «бедныя людзі не купляюць танныя рэчы». Хай мы сёння багатыя, хай нашы свідравіны сённяя працуюць нармальна, хоць у далоні пляскай, але хочаш не хочаш — а праз пяць гадоў помпы прыходзіцца мяняць. А калі падключыць кампрэсарную, адну на 50 свідравін? На першы погляд — дарагавата. Але толькі на першы погляд. Промысел не жыве, не мае права жыць сённяшнім днём. Кампрэсарныя станцыі абяцаюць значны выйгрыш. Так што пазмагацца за іх укараненне, хай для пачатку хаця б на адным Асташковіцкім месцанараджэнні, ёсць сэнс...

**Маналог другі.** Таіса Рыгораўна Хароліч шукае сэнс жыцця:

— Журналісты любяць пісаць прыгожа. Чытаеш іншы раз нарыс у газеце — і дзіву даешся: не чалавек у ім, а праграма, усё ў яго жыцці проста, цяжкасці пераадольвае жартам. Калі будзеце пра мяне пісаць, не трэба прыгожых слоў, добра? Тым больш, што біяграфія ў мяне не гучная.

Жыла і працавала доўгі час у Баку, на нафце, там замуж выйшла. Ён у мяне дызеліст, у канторы бурэння працуе. Прыходзіць такі час, калі людзі пачынаюць задумвацца — пашанцавала ім у жыцці ці не. Пачынаюць успамінаць страчаныя магчымасці, зайздросціць, што ў іншых усё выйшла больш удала, чым у цябе. А я жыццё ніколі папрокамі не даймаю, ды і за што! Заўсёды ў мяне была любімая работа. Спачатку замершчыцай працавала, потым, калі скончыла шасцімесячныя курсы, паставілі мяне аператарам па здабычы нафты. Ведаеце, якая цудоўная гэта спецыяльнасць? Аператар — гэта доктар. І паслухаеш свідравіну, і прыкінеш, дзе саляную





Лабарант-калектар Надзя Нягрова.

**Таіса Рыгораўна Хароліч, аператар газавай службы, вельмі любіць кветкі.**

Фота **У. Мяжэвіча.**



**Студэнты-нафтавікі Сяргей Мацевасаў** (злева) **і Роберт Абрамян таксама прыехалі да нас з Азербайджана.**

саюз непарушны

апрацоўку весці, каб больш нафты давала яна. Іншы раз хвалявацца даводзіцца — прытуліш вуха да свідравіны, нібы сэрца выслухоўваеш, як яно б'ецца няроўна, з перабоямі. І тады ў цябе самой унутры раптам нешта абамрэ. Але раздумваць няма калі, трэба «лячыць». І якая бывае радасць, калі свідравіна пасля твайго «лячэння» зноў дыхае лёгка, роўна, на поўныя грудзі.

Першым пра беларускую нафту прачуў мой муж, прачуў і загарэўся: паедзем! Прызнацца, спачатку аднеслася да яго прапановы з недаверам. У Баку дом, любімая работа, сын у школе вучыцца. «Ведаеш, кажу, з'ездзі спачатку туды, агледзься». Прыехаў задаволены, радасны — вельмі спадабалася яму Рэчыца, цудоўная прырода, людзі. Так і апынуліся тут. Так-сяк асталяваліся, пайшла на работу ўладкоўвацца. І тут мяне чакаў непрыемны сюрпрыз. «Жанчын на свідравіну не бяром, — сказаў начальнік упраўлення, — там работа мужчынская, вялікія фізічныя нагрузкі». Пашкадаваў! Стаю і ледзь не плачу. Як жа гэта так, думаю, на Нафтавых Каменях мне давяралі, а тут спалохаліся? Пайшла ў райком партыі...

Зараз працую аператарам на здабычы і транспарціроўцы газу. Добрая работа, чыстая, а ўсё роўна больш да нафты цягне, цягне на промысел зноў. У апошні час нават у сне бачу нафту.

Так вось жыву і працую.

**Маналог трэці.** Студэнт-бакінец Мартоні Сафараў расказвае пра тое, як ён быў на практыцы:

— Два месяцы прайшло, як мы прыехалі ў Рэчыцу, а здаецца, гэта было толькі ўчора. Мы — семнаццаць хлопцаў з Бакінскага інстытута наф-

ты і газу, а зараз — практыканты, працуем у гаспадарцы Упраўлення буравых работ.

Сустрэлі нас нядрэнна. Нафтавікі наогул народ вельмі гасцінны, а ў Рэчыцы — асабліва. За гэтыя дні мы з многімі пазнаёміліся, пасябравалі, было нямала сустрэч з людзьмі, якія, як і мы, у свой час вучыліся ў нашым інстытуце, а зараз працуюць тут.

Мы яшчэ дома ведалі, што ў Рэчыцы сустрэнем нашых землякоў. У нас многа расказвалі пра «беларускую школу» здабычы нафты. Аб ёй, гэтай школе, сёння чутна далёка — у Цюмені, Ленкарані, Татарыі, нават здзіўляешся часам гэтай хуткалётнай славе — беларуская ж нафта яшчэ такая маладая. І радасна, што многія з нашых землякоў, з якімі нам даводзілася гутарыць, унеслі дастойны ўклад у справу асваення нафтавых багаццяў Палесся.

Знайшлі мы тут сяброў і сярод беларускіх хлопцаў, тых, з кім дзялілі ўсе нашы клопаты і радасці. На буравой я з Юрам Ларыёнавым працую ў пары. Калі б не рабочая загартоўка ў мяне — як-ніяк, акрамя таго, што вучуся, на заводзе Шміта слесарам працую, — цяжка было б раўняцца з ім.

Некалькі дзён працуем на зменах, потым — адпачынак. За гэты час многа паездзіў па тутэйшых месцах. Падабаецца мне беларуская прырода, вельмі! Ласкавая яна, добрая. Калі б быў паэтам, абавязкова склаў бы верш пра туманную смугу над буравой, пра сонца, якое афарбоўвае лісце бяроз у цёмны колер персіка.

* * *

Увечары гасцінны гаспадар кватэры Юры Георгіевіч Высоцкі паказваў здымкі, якія ён захаваў з маладосці.

— Глядзіце, а гэта і ёсць тыя самыя Нафтавыя Камяні — унікальны востраў, зроблены рукамі чалавека. У свой час тут працавалі многія нафтавікі, тыя, што цяпер на Палессі. Са мною побач працуюць Аляксандра Хаперская, Анатоль Каралепа. Вось як складана перамешваюцца іншы раз лёсы чалавечыя. Любка ў нашага Толі беларуска з-пад Магілёва, сам хлопец нарадзіўся ў Баку, на востраве Арцёма.

Што казаць гаспадару? З Толем мы толькі ўчора сустракаліся на свідравіне. У хлопца чысты, светлы позірк, ёсць у ім нешта такое, што саграе нейкай асаблівай цеплынёй. Шчырыя стрункі ў голасе выдавалі ў ім чалавека, настроенага лірычна.

— Толя, вы, мабыць, і вершы складаеце? — спытаўся я мімаходам.

— Складаю, — сур'ёзна адказаў ён.

А потым была яшчэ адна сустрэча — з Супханам Мансімавым.

Архангелаўка — вялікая вёска, уся ў садах. Спрадвеку яна была роднай для прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў. Ахвоча сяліліся тут рускія, украінцы, татары. «Сапраўдны інтэрнацыянал», — жартуюць дарослыя. Інтэрнацыянал дружбы пануе і ў школе — Супхан ведае пра гэта нават надзвычай добра, бо ён — сакратар камсамольскай арганізацыі. Калі задумваецца якое-небудзь мерапрыемства — аднадушнасць поўная. Калі арганізавалі школьную брыгаду па барацьбе са шкоднікамі палёў — выйшлі ўсе як адзін. Пакрыўдзяць таварыша несправядлівым словам — усе пароўну адчуваюць крыўду.

Так было і ў Бакінскім нафтавым тэхнікуме, дзе стаў Супхан спецыялістам па эксплуатацыі свідравіны.

І ў Алі-Байрамлы таксама так было. Ён там працаваў на свідравінах ва ўпраўленні «Шырван-нафта» — «горы з усіх бакоў падступаюць дзікія, непрыступныя — а ўнізе Кура, уся ў каскадах пырскаў».

Так жывуць, працуюць нафтавікі ў Рэчыцы, і Супхан сярод іх.

— А пра скарбы на дне Каспія? — спытаеце вы.

— Яны ўсюды, — адкажа ён. — Хіба зямля, на якой мы жывём, працуем, узводзім дамы, засяваем палі — не наша? Прыязджайце да нас у Азербайджан — хіба знойдзецца ў нас хоць адзін, які парушыць закон гасціннасці і не запросіць госця у свой дом. Заходзьце да маіх сяброў у Рэчыцы — хіба зробяць яны выгляд, быццам вы чужыя?

**У. ЕЛІСЕЕЎ.**





● Генадзь АНЦІПАЎ,

● Уладзімір ЛІПСКІ

# ЮНАЦТВА БУДУЕ КАМУНІЗМ

## КАМСАМОЛІЯ НА МАРШЫ

Работу камсамола вобразна называюць дарогай без прывалаў. «Толькі наперад, да новых здзяйсненняў, да новых вышыняў!» — такі нязменны дэвіз маладога племя. І сапраўды, не паспелі яшчэ змоўкнуць юбілейныя кастрычніцкія фанфары, як камсамол уключыўся ў новае ўсенароднае спаборніцтва. Выкарыстоўваючы набыты вопыт, камітэты камсамола рэспублікі разгарнулі масава-палітычную і арганізатарскую работу па мабілізацыі камсамольцаў і моладзі на дастойную сустрэчу 50-годдзя ВЛКСМ, 50-годдзя БССР і КПБ. Задача стаяла баявая: дамагчыся, каб кожны малады чалавек унёс свой асабісты ўклад у паспяховае выкананне пяцігодкі.

У студзені 1968 года на чарговым пленуме ЦК ЛКСМБ былі разгледжаны і зацверджаны мерапрыемствы па падрыхтоўцы камсамольскіх арганізацый да знамянальных дат. Гаркомы і райкомы камсамола распрацавалі свае мерапрыемствы. Прайшлі сходы ў пярвічных камсамольскіх арганізацыях.

Камсамольскія калектывы акцэнтавалі сваю ўвагу на ўзмацненні прапаганды гісторыі рэспублікі, гераічнага шляху Камуністычнай партыі Беларусі, дасягненняў беларускага народа ў эканамічным, культурным будаўніцтве, на далучэнні юнакоў і дзяўчат да больш глыбокага вывучэння гісторыі ВЛКСМ, яго слаўнага 50-гадовага шляху, на ўдзел моладзі ва ўсенародной падрыхтоўцы да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

Ад камітэтаў камсамола патрабавалася будаваць усю палітычную і арганізатарскую работу камсамольскіх арганізацый такім чынам, каб для камсамольцаў, юнакоў і дзяўчат рэспублікі год пяцідзесяцігадовага юбілею Ленінскага камсамола стаў годам напружанай, самаадданай працы, барацьбы за датэрміновае выкананне пяцігодкі, годам далейшага арганізацыйна-палітычнага ўмацавання камсамольскіх арганізацый, яшчэ цяснейшага згуртавання моладзі вакол Камуністычнай партыі.

Разгарнуўся масавы працоўны энтузіязм сярод юнацтва. Стаўшы на працоўную вахту, маладыя працаўнікі змагаліся за першыя месцы ў сацыялістычным спаборніцтве, за званне лепшага па прафесіі, за прысваенне брыгадам і калектывам імя 50-годдзя ВЛКСМ. Маладыя рабочыя Мінскага ордэна Леніна аўтамабільнага завода звярнуліся да ўсіх камсамольцаў і моладзі рэспублікі з заклікам падтрымаць іх пачын у распрацоўцы канкрэтнай праграмы дзеянняў. Перад'юбілейныя абавязацельствы маладых аўтамабілебудаўнікоў былі наступныя:

— кожнаму маладому рабочаму выканаць заданне пяцігодкі да 7 лістапада 1970 года;

— сваёй працай садзейнічаць хутчэйшаму ўкараненню комплекса мерапры-

Працяг. Пачатак — «Маладосць» № 9.

емстваў па паляпшэнні якасці і надзейнасці машын, што забяспечыцца прысваеннем дзяржаўнага Знака якасці;

— кожнаму маладому рабочаму дабіцца штогадовага зніжэння расходаў усіх відаў энергіі на тры працэнты ў параўнанні з устаноўленымі нормамі;

— сіламі камсамольцаў і моладзі падаць 40 рацпрапаноў, накіраваных на паляпшэнне ўмоў працы, тэхнікі бяспекі, сэканоміць за кошт рацыяналізацыі 20 тысяч рублёў;

— узяць пад камсамольскі кантроль укараненне новай тэхнікі, перадавой тэхналогіі і прагрэсіўных метадаў працы.

Акрамя таго, маладыя рабочыя рашылі сабраць 500 тон металалому, авалодаць 2—3 сумежнымі спецыяльнасцямі, узяць шэфства над будаўніцтвам інтэрната, Палаца культуры, плавальнага басейна, адпрацаваць кожнаму на будаўніцтве гэтых аб'ектаў не менш як 60 гадзін, дапамагчы падшэфнаму калгасу «Дзмітрыевічы» Бярэзінскага раёна абсталяваць механічную майстэрню, афарміць бібліятэку і чырвоныя куткі.

Прыклад аўтазаводцаў перанялі камсамольцы, маладыя рабочыя іншых заводаў, моладзь саўгасаў і калгасаў рэспублікі.

Камсамольцы і моладзь калгаса «Іскра» Івацэвіцкага раёна, дзейнасць якіх атрымала высокую ацэнку Цэнтральнага Камітэта ВЛКСМ, звярнуліся да юнакоў і дзяўчат Брэстчыны з заклікам уключыцца ў сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу 50-годдзя ВЛКСМ, 50-годдзя БССР і КПБ. Яны ўзялі абавязацельства стварыць два камсамольска-маладзёжныя механізаваныя звяны па вырошчванні бульбы, буракоў, ільну, а таксама стварыць камсамольска-маладзёжную брыгаду меліяратараў і правесці дранаж 540 гектараў забалочаных зямель, накіраваць на работу ў жывёлагадоўлю 11 камсамольцаў.

Камсамольцы калгаса абавязаліся авалодаць сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікай, перадавымі прыёмамі і метадамі працы, змагацца за павышэнне ўрадлівасці палёў, прадуктыўнасці жывёлы, за далейшы ўздым культуры вёскі.

Да камсамольцаў-школьнікаў Пінскага раёна з заклікам разгарнуць перад'юбілейнае спаборніцтва звярнуліся камсамольцы Хоінскай сярэдняй школы. Зварот прагучэў са старонак раённай газеты «Пинская правда»: «Мы стаім напярэдадні вялікіх святаў—50-годдзя Ленінскага камсамола, 50-годдзя Савецкай Беларусі і 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Сустрэць іх добрай вучобай, цікавымі карыснымі справамі—абавязак кожнага камсамольца».

Бюро Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ, абласныя камітэты камсамола ўважліва сачылі за ходам сацыялістычнага спаборніцтва моладзі, своечасова падтрымлівалі каштоўныя ініцыятывы калектываў, накіроўвалі камсамольскія арганізацыі з тым, каб яны былі на пярэдніх рубяжах працоўнага фронту.

На пачатку 1968 года бюро ЦК ЛКСМБ разгледзела і прыняло шэраг пастаноў, якія з'явіліся галоўнымі ў рабоце з рознымі катэгорыямі моладзі.

Сумеснай пастановай бюро ЦК ЛКСМБ, рэспубліканскага Савета прафесіянальных саюзаў, Савета ўсесаюзнага таварыства вынаходнікаў і рацыяналізатараў, Савета навукова-тэхнічнага таварыства, інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прапаганды пры Дзяржплане БССР была вызначана канкрэтная праграма ўдзелу ў аглядзе тэхнічнай творчасці моладзі «Пяцігодцы—майстэрства і пошук маладых!» Галоўнай задачай агляду з'явілася масавае прыцягненне маладых рабочых, калгаснікаў, інжынераў, тэхнікаў, студэнтаў, навучэнцаў тэхнікумаў і вучылішчаў да тэхнічнай творчасці, рацыяналізацыі, вынаходніцтва. Як баявы рапарт аб выкананні гэтай пастановы прагучэлі словы даклада на ўрачыстым пленуме ЦК ЛКСМБ 28 кастрычніка 1968 года: «Толькі ў цяперашнім годзе 23 тысячы маладых наватараў і перадавікоў вытворчасці ўнеслі звыш 25 тысяч рацыяналізатарскіх прапаноў і вынаходстваў».

Па ўдарных камсамольскіх будоўлях рэспублікі прайшла эстафета працоўных спраў маладых будаўнікоў і мантажнікаў. Яна пачалася 22 красавіка 1968 года ў Магілёве на будаўніцтве камбіната сінтэтычнага валакна і закончылася ў гадавіну нараджэння камсамола на Полацкім хімкамбінаце. Перадача эстафеты праходзіла ва ўрачыстай абстаноўцы, на сходах і мітынгах будаўнікоў. На будоўлях праводзіліся святы ўшанавання маладых перадавікоў, урачыстасці з нагоды датэрміновага пуску аб'ектаў, шырока выкарыстоўваліся маральныя і матэрыяльныя стымулы і заахвочванне пераможцаў. Усё гэта сядзейнічала мабілізацыі маладых будаўнікоў на новыя поспехі ў працы.

У студзені 1968 года на сумесным пасяджэнні бюро ЦК ЛКСМБ, калегій Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР і рэспубліканскага аб'яднання «Белсельгастэхніка» былі прыняты дзве пастановы: «Аб арганізацыі спаборніцтва сярод маладых механізатараў рэспублікі» і «Аб правядзенні рэспубліканскага агляду культуры вытворчасці і ўмоў працы на жывёлагадоўчых фермах». Былі распрацаваны палажэнні спаборніцтва, агляду і праведзена вялікая арганізатарская работа па разгортванні гэтага патрыятычнага руху сельскай моладзі.

Бюро ЦК ЛКСМБ адобрыла зварот студэнтаў Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга політэхнічнага інстытута да ўсіх удзельнікаў працоўнага семестра 1968 года. Студэнты пісалі: «Для студэнтаў політэхнічнага інстытута будаўнічы семестр 1968 юбілейнага года—гэта самаадданая праца на будаўніцтве новых карпусоў Салігорскага калійнага камбіната і Лукомльскай ДРЭС, узвядзенні цэхаў, заводаў металаканструкцый і дрэнажных труб у Маладзечанскім раёне, арганізацыя піянерскіх лагераў-спадарожнікаў, шэфства над сельскімі клубамі, ідэйна-палітычная работа сярод рабочай і сельскай моладзі.

1968 год—гэта год IX Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, дэвіз якога—«За салідарнасць, мір і дружбу». Станем ініцыятарамі правядзення ў раёнах, калгасах, саўгасах фестываляў, мітынгаў, маніфестацый, факельных шэсцяў.

За кошт сродкаў, накопленых байцамі рэспубліканскага студэнцкага атрада, створым фонд для будаўніцтва палацаў моладзі, клубаў, спартыўных збудаванняў...»

Студэнцкі працоўны семестр з'явіўся сапраўдным экзаменам для новага атрада змагароў. Толькі на будоўлях рэспублікі працавала звыш 10 тысяч студэнтаў, імі асвоена каля 8 мільёнаў рублёў капіталаўкладанняў. Іх рукамі пабудаваны дзесяткі школ, клубаў, гаспадарча-бытавых памяшканняў.

Члены атрадаў і атрадныя агітбрыгады ў клубах, на будаўнічых пляцоўках, палявых станах правялі больш як 1200 гутарак, лекцый, арганізавалі звыш 700 канцэртаў для працаўнікоў вёскі і будаўнікоў.

У вольны ад работы час студэнцкія атрады пабудавалі і адрамантавалі 118 спартыўных пляцовак, арганізавалі больш як 100 кансультацыйных пунктаў для паступаючых у ВНУ, адрамантавалі 189 школ. На палях калгасаў і саўгасаў было праведзена каля 200 нядзельнікаў па ўборцы ўраджаю. Студэнты-будаўнікі, удзельнікі працоўнага семестра ў рэспубліцы, лічылі сваім патрыятычным абавязкам узяць шэфства над помнікамі, абеліскамі, брацкімі магіламі герояў, якія аддалі жыццё за Радзіму. На працягу працоўнага семестра праведзены ў парадак, рэстаўрыраваны, спраектаваны і збудаваны 30 абеліскаў і помнікаў. Аказана вялікая дапамога сем'ям загінуўшых і інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны.

Залатому юбілею ВЛКСМ, БССР і КПБ былі прысвечаны спаборніцтвы на лепшага па прафесіі, зорная эстафета пад дэвізам «Фізічную культуру і спорт—у побыт народа». Прайшлі X рэспубліканскі злёт турыстаў-школьнікаў і злёт перадавікоў вучнёўскіх вытворчых брыгад, спартакіяда штатных камсамольскіх работнікаў і тэатральны фестываль, рэспубліканская навукова-тэхнічная канферэнцыя «Камсамол і сацыяльная актыўнасць моладзі». Школьнікі пісалі сачыненне на тэмы: «Беларусь мая родная», «Мой сучаснік».

7 ліпеня 1968 года VIII пленум ЦК ЛКСМБ абмеркаваў актуальнае пытанне—«Удзел камсамольскіх арганізацый рэспублікі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве ў вёсцы». Вялікая праграма будаўніцтва і добраўпарадкавання вёсак, вызначаная XXIII з'ездам КПСС, пастаянна растучы агульнаадукацыйны і культурны ўзровень сельскай моладзі, яе ўзрастаючая грамадска-палітычная актыўнасць, рост духоўных патрэб — усё гэта і прадыктавала парадак дня камсамольскага пленума. Адбылася прынцыповая, па-партыйнаму дзелавая размова. Побач з набытым вопытам і добрымі прыкладамі былі выяўлены істотныя недахопы ў рабоце. «У шэрагу выпадкаў,—адзначалася ў пастанове пленума,—камсамольскія арганізацыі калгасаў і саўгасаў не ўнікаюць у пытанні планавання, забудовы і добраўпарадкавання населеных пунктаў, не прыцягваюць моладзь да практычнага ажыццяўлення задач, слаба ўплываюць на пастаноўку культурна-асветнай работы ў вёсцы, на паляпшэнне бытавога абслугоўвання сельскага насельніцтва, арганізацыю адпачынку вясковай моладзі».

Пленум распрацаваў і зацвердзіў вялікую канкрэтную праграму дзейнасці камсамольскіх арганізацый рэспублікі, выкананне якой з'явілася ўдарнай справай камсамола Беларусі.

Кожны дзень набліжаў юнацтва краіны да залатога юбілею. Падрыхтоўка да яго набывала ўсё больш шырокі размах і ўрачыстасць. Характэрным у дзейнасці камітэтаў камсамола з'явіліся творчы падыход да справы, дзелавітасць і рэальная ацэнка рэчаіснасці. На бюро ЦК ЛКСМБ разглядаліся пытанні: «Аб рабоце Мінскага абкома ЛКСМБ па падборы, расстаноўцы і выхаванні камсамольскіх кадраў і актыву», «Аб стане лекцыйнай прапаганды ў камсамольскіх арганізацыях Магілёўскай вобласці», «Аб рабоце Кобрынскага РК ЛКСМБ па падрыхтоўцы моладзі да службы ў радах Савецкіх Узброеных Сіл», «Аб ролі маладой інтэлігенцыі Аршанскага раёна ў камуністычным выхаванні моладзі» і г. д. Докшыцкі і Мазырскі райкомы камсамола давалі справаздачу на бюро ЦК ЛКСМБ аб рабоце па падрыхтоўцы да 50-годдзя БССР, КПБ і 50-годдзя ВЛКСМ.

Ва ўсёй рабоце камсамола пастаянна адчувалася накіроўваючая сіла партыі. Аказваючы падтрымку і даваючы рашэнне важнейшых задач у жыцці нашага грамадства, яна накіроўвала дзейнасць камсамола, указвала на недахопы ў рабо-

це па камуністычным выхаванні падрастаючага пакалення. Як праграма дзеяння былі ўспрыняты камсамольцамі і моладдзю пастановы ЦК КПСС «Аб рабоце Краснаярскай краявой партыйнай арганізацыі па кіраўніцтве камсамолам», «Аб 50-годдзі ВЛКСМ і задачах камуністычнага выхавання моладзі», пастанова бюро ЦК КПБ «Аб мерах па паляпшэнні палітычнай вучобы камсамольцаў і моладзі».

Пытанні кіраўніцтва камсамолам абмяркоўваліся на пленумах абласных, раённых, гарадскіх камітэтаў партыі. Цэнтральны Камітэт КП Беларусі разгледзеў пытанне кіраўніцтва камсамолам Віцебскім абкомам партыі. Была распрацавана сістэма мер па далейшым паляпшэнні кіраўніцтва камсамольскімі арганізацыямі рэспублікі.

У ЦК ЛКСМБ адбылася нарада з сакратарамі абкомаў, гаркомаў і райкомаў камсамола, на якой выступілі адказныя работнікі ЦК КПБ, сакратары ЦК камсамола рэспублікі. Выпрацоўваліся першачарговыя задачы камсамола на сучасным этапе. Такія нарады адбыліся ў абласных цэнтрах, у раёнах, на буйных прамысловых прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, навучальных установах. Камсамол Беларусі гаварыў горача і аднадушна: «Я быў, ёсць і заўсёды буду згуртаваным, бясконца адданым справе партыі і народа, баявым атрадам Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі».

## СВЯТА МІЛЬЁНАЎ

Для камсамола заўсёды баявым заклікам гучыць запавет У. І. Леніна быць ударнай групай, якая ва ўсякай рабоце аказвае сваю дапамогу, праяўляе сваю ініцыятыву, свой пачын.

Камсамол на працягу паўстагоддзя няўхільна выконваў гэты запавет усюды: на палях бітваў і ў прадатрадах, на будаўніцтве новых гарадоў і асваенні цалінных земляў, у авалоданні вяршынямі навукі, культуры і ў заваяванні космасу. Камсамол заўсёды быў верны слову, дадзенаму партыі, народу—гэтыя словы, як клятва, гучалі на Усесаюзным камсамольскім сходзе, які быў прысвечаны 50-годдзю ВЛКСМ. Сход прайшоў 5 кастрычніка адначасова ва ўсіх пярвічных камсамольскіх арганізацыях краіны.

На сходы да камсамольцаў рэспублікі прыйшлі ў гэты дзень камуністы, ветэраны камсамола. Абстаноўка ўрачыстасці і прыўзнятасці панавала на камсамольскіх форумах. Ішла размова пра самае важнае—пра выкананне абавязацельстваў, пра ўклад моладзі ў датэрміновае выкананне пяцігодкі, пра самыя яркія падзеі і факты ў жыцці калектываў і іх лепшых людзей—нашых сучаснікаў. Камсамольцы не толькі падсумоўвалі дасягненні, але і аналізавалі недахопы ў сваёй рабоце, вызначалі перспектывы на будучае.

Усесаюзны камсамольскі сход напярэдадні юбілею выліўся ў дэманстрацыю адзінства слова і справы, тэорыі і практыкі ў жыцці камсамола, з'явіўся своеасаблівым рапартам перад партыяй і народам.

Кароткая, яркая мова тэлеграм, што паступалі ў тыя дні на адрас ЦК ЛКСМБ з розных куткоў рэспублікі:

«Выпушчана звыш плана дзесяткі тысяч квадратных метраў дываноў, палепшана іх якасць, на рахунак ленінскага фонду ўнесена звыш 300 тысяч рублёў. Многія камсамольцы працуюць у лік 4-га года пяцігодкі», — рапартавалі камсамольцы і моладзь Брэсцкага дыванова камбіната.

«У спаборніцтве за дастойную сустрэчу 50-годдзя ВЛКСМ удзельнічаюць камсамольцы ўсіх пакаленняў. Абавязацельствы перавыконваюць і ветэраны і моладзь». Гэта вестка прыйшла з камсамольскай арганізацыі калгаса «Іскра» Івацэвіцкага раёна.

«Прымаем самы актыўны ўдзел у выкананні абавязацельства калектывам: пяцігодку—да 7 лістапада 1970 года, звыш плана даем 50 сіласаўборачных камбайнаў і 130 трактарных прычэпаў»,—дакладвалі камсамольцы «Гомсельмаша».

Сотні дзяўчат маладзечанскай швейнай фабрыкі «Камсамолка» штодня выконваюць вытворчыя нормы на 115—120 працэнтаў. Усе камсамольцы-рабочыя асвоілі па 3—4 сумежныя аперацыі, а Валя Судакова і Зоя Рысіч—па 6—8.

Для камсамоліі Беларусі юбілей—гэта 50 камсамольскіх МАЗаў, сабраных у нерабочы час з сэканомленага металу; гэта 858 жылых, культурна-бытавых і прамысловых аб'ектаў, якія пабудавалі студэнты ў Беларусі і Уральскай вобласці; гэта кіламетры чыгункі, што праклалі яны ў Комі АССР. Юбілей—гэта 97 камсамольскіх паркаў, 700 сквераў і алеяў, 394 музеі, 1253 пакоі і куткі рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы, 300 летапісаў камсамольскіх арганізацый...

Рапарты моладзі склалі важкую справаздачу, якая з'явілася яшчэ адным яркім пацвярджэннем таго, што маладое пакаленне краіны Саветаў дастойна нясе эстафету Кастрычніка.





Пералік слаўных спраў камсамоліі Беларусі бясконцы, як бясконцы запал камсамольскага племя, як бясконцая адданасць і вернасць моладзі справе бацькоў і старэйшых братоў.

Вось чаму і ветэраны, і тыя, хто стаіць на камсамольскім уліку,—усе ў роўнай меры, цёпла і натхнёна ўспрынялі радасную вестку аб узнагароджанні Усесаюзнага Ленінскага камсамола ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэтая высокая ўзнагарода Радзімы выказала ўсенароднае прызнанне выдатных заслуг камсамольцаў, усёй савецкай моладзі ў сацыялістычным і камуністычным будаўніцтве.

Урадавых узнагарод у сувязі з юбілеем камсамола былі ўдастоены і многія яго арганізацыі. У іх ліку ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга Наваполацкая гарадская і ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені—Любанская раённая камсамольскія арганізацыі. 25 камсамольскіх арганізацый прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, навучальных устаноў рэспублікі былі адзначаны Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР. Сярод іх—камсамольская арганізацыя калгаса імя Кірава Баранавіцкага раёна, Брэсцкага дыванова камбіната, торфапрадпрыемства «Асінторф», Светлагорскага завода штучнага валакна, калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна, Пружанскай сярэдняй школы і інш.

У сувязі з 50-годдзем ВЛКСМ і адзначаючы вялікі ўклад камсамольскіх арганізацый у камуністычнае будаўніцтва і выхаванне моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях савецкага народа і Камуністычнай партыі Цэнтральны Камітэт КПБ і абласныя камітэты партыі ўстанавілі памятныя сцягі. Яны былі ўручаны ЦК ЛКСМБ і абласным камітэтам камсамола на вечнае захаванне.

Усюды ў раённых цэнтрах і гарадах прайшлі ўрачыстыя пленумы, злёты камсамольцаў усіх пакаленняў, маніфестацыі і факельныя шэсці моладзі. Вось як пачынаўся ўрачысты пленум у Нясвіжы. На Цэнтральную плошчу горада сабраліся дэлегаты ад усіх камсамольскіх арганізацый раёна. У святочным адзенні, з кветкамі, транспарантамі. Прыйшлі ветэраны, партыйныя і савецкія работнікі. Гучыць урачысты марш. Адзін за другім камсамольскія важакі аддаюць рапарты.

Затым святочная калона накіроўваецца па вуліцах да месца брацкай магілы. Наперадзе сцяг. Гучаць камсамольскія песні. Юнакі і дзяўчаты кладуць вянкі да манумента воіна-героя.

Тым жа строем, з музыкай і песнямі ўсе накіраваліся ў раённы Дом культуры, дзе адбылася ўрачыстая частка камсамольскага форума.

У кожны горад і вёску, у кожны дом, у кожную сям'ю, усюды, дзе жывуць і працуюць і сівыя ветэраны, і тыя, хто сёння атрымлівае камсамольскі білет, прыйшло вялікае светлае свята.

Урачыстасці ў Мінску пачаліся 28 кастрычніка 1968 года на сумесным пленуме ЦК ЛКСМБ, мінскіх абкома і гаркома камсамола. Як сама жывая гісторыя Ленінскага камсамола, тут былі і тыя, хто ўдзельнічаў у стварэнні камсамола, і тыя, хто здзяйсняў подзвігі бясстрашша і гераізму на франтах грамадзянскай вайны, і тыя, хто будаваў Асінторф, БелДРЭС, ствараў калгасы, вучыўся на рабфаках, і тыя, хто штурмаваў рэйхстаг, хто адбудоўваў на папялішчах гарады і вёскі, уздымаў цаліну, хто сёння ўслаўляе родную Беларусь.

У рабоце ўрачыстага пасяджэння ўдзельнічалі члены і кандыдаты бюро ЦК КПБ, сакратары Цэнтральнага Камітэта партыі, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, члены ўрада рэспублікі. З прамовай на пленуме выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі тав. Машэраў Пётр Міронавіч. З дакладам «50 гадоў ВЛКСМ» выступіў першы сакратар ЦК ЛКСМБ тав. Жабіцкі Г. М.

На адрас урачыстага пленума ішлі тэлеграмы. Старшыня Цэнтральнага штаба Усесаюзнага паходу Маршал Савецкага Саюза, двойчы Герой Савецкага Саюза тав. Конеў І. С. пісаў: «Будзьце заўсёды вернымі рэвалюцыйным, баявым і працоўным традыцыям Камуністычнай партыі, камсамола. Любіце Радзіму, як любіў яе Ленін. Працуйце і вучыцеся па-ленінску, будзьце гатовыя да абароны заваёў Кастрычніка, як наказваў Ільіч».

Тэлеграма з Нью-Йорка: «Дэлегацыя Беларускай ССР на XXIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН шле ўрачыстаму пленуму ЦК ЛКСМБ, які прысвечаны пяцідзесяцігоддзю Ленінскага камсамола, гарачае прывітанне і сардэчныя віншаванні з пажаданнем новых выдатных стваральных подзвігаў камсамольцам рэспублікі на славу савецкага народа і вялікай Камуністычнай партыі».

Тэлеграма з Дзіўнагорска: «Віншуем моладзь Беларусі з залатым юбілеем. Паведамляем, нашы абавязацельствы выкананы. Чацвёрты камсамольскі агрэгат уступіў у строй. У ім велізарная праца пасланцоў Беларусі. Са святам, дарагія сябры. Дзіўнагорскі камсамол».

Камсамольцаў і моладзь рэспублікі павіншавалі маракі карабля «Камсамолец Беларусі», удзельнікі агітпаходу крэйсера «Камсамолец». Прыйшлі віншаванні з

ЦК саюзных рэспублік, абкомаў камсамола, шматлікіх пярвічных камсамольскіх арганізацый, з маладзёжных калектываў.

З натхненнем было прынята на пленуме пісьмо-рапарт Цэнтральнаму Камітэту КПСС: «Вучыцца ў Леніна, жыць па Ільічу,—гаворыцца ў ім,—вось наша мэта, вось сама сутнасць усёй нашай работы, усяго нашага жыцця».

Дэманстрацыяй вернасці ленінскаму сцягу з'явілася маніфестацыя савецкай моладзі на Краснай плошчы ў Маскве 29 кастрычніка. У ёй удзельнічала каля 60 тысяч камсамольцаў і камсамолак сталіцы і Падмаскоўя, пасланцы ўсіх саюзных рэспублік, прадстаўнікі ўсіх пакаленняў камсамола.

У канцы ўрачыстасцяў першы сакратар ЦК ВЛКСМ Я. М. Цяжэльнікаў зачытаў зварот ад імя ўдзельнікаў юбілейнай маніфестацыі да ўсёй савецкай моладзі. Тысячагалосае «Клянёмся!» гучала на Краснай плошчы.

«Працаваць па-ленінску, па-ленінску жыць клянёмся!

Чырвоным сцягам, які ўслаўлены бессмяротнымі нашымі перамогамі, справе Леніна, справе партыі вернымі быць заўсёды клянёмся!»

Вечарам у гонар 50-годдзя ВЛКСМ начное неба над Масквой, над сталіцамі саюзных рэспублік і гарадоў-герояў расквецілася каляровымі агнямі святочнага салюта. Прагучалі артылерыйскія залпы ў гонар камсамола.

Назаўтра пачаўся новы працоўны дзень. За работу, камсамолія!

## ЛЕНІНСКІ ЗАЛІК

Краіна ўступіла ў ленінскі юбілейны год. Для камсамола ён павінен быў стаць своеасаблівым аглядам усёй сваёй работы, справаздачай роднаму Ільічу аб тым, як моладзь, кожны камсамолец выхоўваюць у сабе працоўную, палітычную і грамадскую актыўнасць, як вывучаюць і ажыццяўляюць запаветы вялікага Леніна.

Юбілейны год для камсамола Беларусі, для ўсяго беларускага народа пачаўся хвалюючым, радасным святам—1 студзеня 1969 года споўнілася 50 гадоў БССР і Кампартыі Беларусі. У святочны ўбор апрануліся гарады і вёскі. Здаецца, ніколі не была такой прыгожай сталіца рэспублікі — старажытны і вечна малады Мінск. Усюды дзяржаўныя сцягі СССР, БССР, братніх саюзных рэспублік, алыя транспаранты, якія славяць Камуністычную партыю, расказваюць пра слаўныя працоўныя подзвігі беларускага народа, дружбу народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы.

28 снежня адбылося ўрачыстае пасяджэнне ЦК КП Беларусі і Вярхоўнага Савета БССР. На свята прыбыў Генеральны сакратар ЦК КПСС тав. Л. І. Брэжнеў, дэлегацыі ўсіх братніх саюзных рэспублік, гарадоў-герояў Масквы, Ленінграда, Валгаграда, Кіева, Адэсы і Севастопаля.

Удзельнікі пасяджэння, стоячы, бурнымі апладысментамі сустрэлі паведамленне тав. Л. І. Брэжнева аб узнагароджанні Беларускай ССР ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У адказ на высокія ўзнагароды Радзімы, на прывітанне Ленінскага Цэнтральнага Камітэта і Савецкага ўрада ўдзельнікі ўрачыстага пасяджэння, выказваючы волю ўсіх камуністаў і камсамольцаў, усіх працоўных Беларусі, заявілі, што беларускі народ і надалей будзе высока несці сцяг вялікага Леніна, захоўваць і памнажаць рэвалюцыйныя, баявыя і працоўныя традыцыі савецкага народа, усямерна ўмацоўваць эканамічную і абаронную магутнасць сацыялістычнай Радзімы, аддасць усе свае сілы справе барацьбы за поўную перамогу камунізма. Гэтым самым і была вызначана праграма юбілейнага года, вызначаны задачы дня. Для камсамола рэспублікі выкананне гэтай праграмы азначала перш за ўсё—актыўны ўдзел ва ўсесаюзным Ленінскім заліку, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

Ленінскі залік з'явіўся важным сродкам арганізацыйна-палітычнага ўмацавання пярвічных камсамольскіх арганізацый. Значнасць яго не ў навізне формы, а ў глыбіні сэнсу, ён дазваляў цясней злучыць у адно вывучэнне і асваенне тэарэтычнай спадчыны У. І. Леніна з практычным удзелам моладзі ў камуністычным будаўніцтве, ідэалагічную работу з арганізатарскай, з'яўляючыся эфектыўнай формай справаздачы камсамольскіх арганізацый, кожнага камсамольца перад партыяй і народам аб тым, як ён выконвае запаветы Леніна.

Ленінскі запавет прадугледжваў тры асноўныя напрамкі: вывучэнне ленінскай тэарэтычнай спадчыны, уклад кожнага маладога чалавека ў працоўныя дасягненні свайго прадпрыемства, установы, калгаса ці саўгаса і павышэнне грамадскай актыўнасці. Пры гэтым ставіліся задачы вывучэння ленінізма ў цеснай сувязі з жыццём, з уменнем прымяняць яго важнейшыя тэарэтычныя палажэнні на практыцы, у працэсе працоўнай і грамадскай дзейнасці.

Такім чынам, у працэсе падрыхтоўкі і ў ходзе Ленінскага заліку камсамольскія арганізацыі павінны былі чотка вызначыць пункты прыкладання камсамольскай ініцыятывы, ступень удзелу кожнага чалавека ў агульнанароднай барацьбе за камунізм.

Прасочваліся чатыры этапы Ленінскага заліку. Першы этап—падрыхтоўчы. Ён працягваўся да мая 1969 года. За гэты час была праведзена вялікая арганізатарская і растлумачальная работа сярод моладзі, наладжана вучоба камсамольскіх работнікаў і актывістаў, праведзены нарады прапагандыстаў. У залежнасці ад спецыфікі камсамольскай арганізацыі выпрацаваны свае рэкамендацыі, якія прадугледжваюць больш канкрэтныя формы і метады правядзення заліку.

Ва ўсіх камсамольскіх арганізацыях прайшлі камсамольскія сходы з парадкам дня: «Аб правядзенні Ленінскага заліку», на якіх абмяркоўвалася палажэнне аб заліку, намячаліся планы і тэрміны яго правядзення, зацвярджаліся індывідуальныя і калектыўныя сацыялістычныя абавязацельствы. На гэтых жа сходах былі вызначаны творы У. І. Леніна, абавязковыя для вывучэння кожным членам ВЛКСМ. Для ажыццяўлення кантролю за ходам Ленінскага заліку і аказання дапамогі юнакам і дзяўчатам у вывучэнні ленінскай тэарэтычнай спадчыны былі створаны спецыяльныя камісіі. У іх уваходзілі сакратары пярвічных камсамольскіх арганізацый, члены партбюро, прапагандысты, ветэраны партыі і камсамола, кіраўнікі прадпрыемстваў, цэхаў, участкаў, брыгад. На мінскім гадзіннікавым заводзе такія сходы адбыліся ва ўсіх цэхах. Сэнс іх быў адзін—падрыхтоўка да ўсесаюзнага Ленінскага заліку. Камсамольцы 1-га зборачнага цэха напярэдадні свайго сходу выпусцілі насценную і радыёгазету пад дэвізам: «Рыхтуйся да Ленінскага заліку». У іх расказвалася пра асноўныя палажэнні заліку. А сам сход пачаўся з уручэння камсамольскіх білетаў маладому папаўненню арганізацыі. У той жа дзень была прынята пастанова — у кожнай камсамольскай групе вывучыць ленінскія працы «Вялікі пачын», «Як арганізаваць спаборніцтва», «Задачы саюзаў моладзі», правесці ў кожнай камсамольскай групе рапарт Ільічу, дзе кожны раскажа аб сваім удзеле ў выкананні ўзятых абавязацельстваў, з 21 па 28 красавіка правесці тыдзень ленінскай кнігі.

Вызначылі свае задачы па правядзенні Ленінскага заліку ўсе камсамольскія арганізацыі рэспублікі.

Другі этап Ленінскага заліку пачаўся ў маі і завяршыўся да 45-годдзя прысваення камсамолу імя У. І. Леніна—у чэрвені месяцы. У гэтыя дні асаблівая ўвага была звернута на аналіз агульнаадукацыйнай, палітычнай і прафесіянальнай вучобы камсамольцаў і моладзі, падвядзенне вынікаў мінулага і вызначэнне задач на будучы навучальны год, на кантроль за вывучэннем ленінскай спадчыны. Камсамольскія арганізацыі абмяркоўвалі выкананне паўгадавых вытворчых заданняў, як удзельнічае моладзь у барацьбе за навукова-тэхнічны прагрэс, укараненне навуковай арганізацыі працы на кожным рабочым месцы.

У часе трэцяга этапу (ліпень—кастрычнік 1969), які з'явіўся своеасаблівым працягам другога, як і раней, асноўныя намаганні камсамольскіх арганізацый скіроўваліся на прапаганду і вывучэнне ленінізма, на актывізацыю працоўнай і грамадскай дзейнасці камсамольцаў. У гэтыя месяцы ішла напружаная барацьба за выкананне ўзятых абавязацельстваў. Камсамольскія арганізацыі падвялі вынікі летніх работ, прааналізавалі камсамольскія паходы па дарогах славы савецкага народа, намецілі меры далейшага павышэння грамадска-палітычнай актыўнасці юнакоў і дзяўчат.

Чацвёрты этап Ленінскага заліку—завяршаючы. Дата яго заканчэння—красавік 1970 года, пярэдадзень 100-годдзя з дня нараджэння вялікага Леніна. Заключная стадыя заліку стала справаздачай камсамольскіх арганізацый аб праробленай рабоце, своеасаблівай грамадска-палітычнай атэстацыяй кожнага камсамольца.

Навучыць кожнага маладога чалавека жыць, працаваць і змагацца па-ленінску—вось тая асноўная задача, якую партыя ставіла перад ВЛКСМ. Выкананню гэтай задачы і быў падпарадкаваны Ленінскі залік.

Камітэты камсамола ўважліва сачылі і своечасова падтрымлівалі ініцыятыву і кожны пачын моладзі, накіраваны на развіццё актыўнасці, праяўленне здольнасцяў юнакоў і дзяўчат. Яшчэ ў пачатку года рэспубліку абляцела ініцыятыва калектываў Мінскага трактарнага і Беларускага аўтамабільнага завода, Віцебскага дывановага камбіната, завода «Гомсельмаш» і Мінскага завода аўтаматычных ліній, калгасаў і саўгасаў Карэліцкага раёна. Яны рашылі аб'явіць 1969 год годам ленінскай ударнай работы.

Бюро ЦК ЛКСМБ, адобрыўшы і падтрымаўшы гэты пачын, абавязала камітэты камсамола забяспечыць распаўсюджанне важнага патрыятычнага пачынання сярод усіх камсамольскіх арганізацый рэспублікі. Ініцыятыва атрымала шырокую падтрымку ў маладзёжных калектывах.

У лютым у Мінску адбыўся злёт маладых механізатараў рэспублікі. Пра тое, як трэба адносіцца да вялікай народнай скарбніцы-зямлі, каб дамагчыся высокіх ураджаяў, пра надзённыя задачы механізатараў ішла размова на злёце. Натхнёна прагучалі словы звароту ўдзельнікаў злёту да ўсіх маладых механізатараў Беларусі: «Юнакі і дзяўчаты, выпускнікі і выпускніцы сельскіх школ!

Уключайцеся ў нашы шэрагі, няхай расце наша механізатарская сям'я, няхай з дня на дзень множацца нашы поспехі.

Да вас, дзяўчаты, мы звяртаемся з упэўненасцю, што вы падтрымаеце прыклад першых трактарыстак краіны Пашы Ангелінай і Зосі Рачок, паслядоўнікаў Ганны Каліва і Марыі Канцавой, прадоўжыце іх слаўныя працоўныя традыцыі.

Будзем працаваць разам, авалодваць тэхнікай, дамагацца ад яе максімальнай аддачы.

Усе мы—дзеці і ўнукі тых, хто даў нам зямлю, хто стварыў на ёй першыя камуны, са зброяй у руках абараніў яе і зрабіў шчодрай. Памножым традыцыі бацькоў і братоў, праявім працоўны гераізм, які будзе дастойны подзвігу старэйшых пакаленняў.

Быць прыкладам у працы—абавязак кожнага механізатара рэспублікі. Нам жа давераны скарб з усіх скарбаў—зямля. Яна можа і павінна радзіць лепш. Мы яе гаспадары. Нам множыць яе багатырскую сілу.

Мы звяртаемся да ўсіх маладых працаўнікоў вёскі з заклікам падтрымаць ініцыятыву маладых механізатараў калгаса «Перамога» і аб'яднання «Белсельгастэхніка» Карэліцкага раёна зрабіць 1969 год годам ленінскай ударнай работы. Сустрэнем 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна новымі працоўнымі подзвігамі.

Нашы поспехі бясспрэчныя, але мы павінны ісці ўперад, шукаць і перамагаць, мы ж маладыя, нам будаваць камунізм, жыць пры камунізме».

У ходзе Ленінскага заліку камітэты камсамола вызначылі для кожнай катэгорыі моладзі свае спецыфічныя задачы.

Маладым прадстаўнікам навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі належала накіраваць свае творчыя здольнасці і веды на барацьбу за навукова-тэхнічны прагрэс, за датэрміновае выкананне планаў навукова-даследчых работ, за хутчэйшае ўкараненне дасягненняў навукі і тэхнікі ў вытворчасць.

Асноўнай задачай камсамольскіх арганізацый ВНУ і тэхнікумаў з'яўляўся кантроль за вучобай студэнтаў. У працэсе Ленінскага заліку студэнты павінны былі актывізаваць сваю навуковую работу, прыняць самы актыўны ўдзел у працоўным семестры, у лекцыйнай прапагандысцкай дзейнасці сярод насельніцтва, у рабоце са школьнікамі.

Правядзенне Ленінскага заліку ў школьных камсамольскіх арганізацыях патрабавала ад вучняў сур'ёзнага, творчага падыходу да вучобы. Камсамольскія арганізацыі школ павінны былі дамагацца паглыблення ведаў школьнікаў, развіваць іх цікаўнасць, пашыраць інтарэсы і развіваць здольнасці.

Адным з галоўных патрабаванняў Ленінскага заліку з'яўлялася выхаванне школьнікаў працай, у фарміраванні і ўмацаванні ў іх пачуцця павагі да рабочай прафесіі. Працуючы ў вытворчых брыгадах, у працоўных лагерах, умацоўваючы сувязь з шэфамі — вытворчымі калектывамі, вучні набывалі лепшыя якасці чалавека-працаўніка.

Яшчэ адну важную праблему рашаў камсамол у юбілейным годзе. VI пленумам ЦК ВЛКСМ была аб'яўлена ў 1969 годзе двухгодка «Камсамол—сельскай школе». Задачам па выкананні двухгодкі ў камсамольскіх арганізацыях рэспублікі быў прысвечаны пленум ЦК ЛКСМБ, які адбыўся 8 жніўня 1969 года. Двухгодка мела на мэце аб'яднанымі намаганнямі ўсіх камсамольскіх арганізацый:

дапамагчы педкалектывам сельскіх школ хутчэй перайсці да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі;

унесці канкрэтны ўклад у справу ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскіх школ;

садзейнічаць паляпшэнню якасці вучэбна-выхаваўчага працэсу; аказваць дапамогу ў падрыхтоўцы кадраў настаўнікаў і праяўляць клопаты аб стварэнні для іх неабходных умоў;

для ўсіх катэгорый моладзі ў ходзе Ленінскага заліку важнейшым было далучэнне юнакоў і дзяўчат да багатай тэарэтычнай спадчыны У. І. Леніна. Задача заключалася ў тым, каб кожны камсамолец добра ведаў перш за ўсё біяграфію У. І. Леніна, прамову правадыра на III з'ездзе камсамола, пастанову ЦК КПСС «Аб 50-годдзі ВЛКСМ і задачах камуністычнага выхавання моладзі».

Усім катэгорыям працоўнай моладзі рэкамендавалася вывучаць такія працы У. І. Леніна, як «Вялікі пачын», «Чарговыя задачы Савецкай улады», даклад на VIII з'ездзе Саветаў (план ГАЭЛРО), артыкулы «Аб кааперацыі», «Аб нашай рэвалюцыі», «Старонкі з дзённіка», «Лепш менш, ды лепш». Для моладзі з вышэйшай адукацыяй гэты спіс папаўняецца такімі працамі, як «Матэрыялізм і эмпірыёкрытыцызм», «Дзяржава і рэвалюцыя», «Дзіцячая хвароба «левізны» ў камунізме». Разам з тым ад камітэтаў камсамола патрабавалася творча падыходзіць да выбару прац Леніна, якія рэкамендуюцца для вывучэння, строга ўлічваць пры гэтым агульнаадукацыйны ўзровень моладзі, спецыфічныя асаблівасці працоўнай дзейнасці юнакоў і дзяўчат.





У прапагандзе і вывучэнні Ленінскай тэарэтычнай спадчыны сярод моладзі камітэты камсамола актыўна выкарыстоўвалі такія формы прапаганды, як Ленінскія ўрокі, Ленінскія чытанні, кніжныя выстаўкі, тэматычныя вечары, канферэнцыі чытачоў, дыспуты і інш. Ва ўсіх камсамольскіх арганізацыях прайшлі сходы, на якіх абмеркаваны вынікі работы Маскоўскай нарады камуністычных і рабочых партый.

Камітэты камсамола пад неаслабнай увагай трымалі арганізацыйныя і ідэйна-палітычныя пытанні, дамагаючыся глыбіні і зместу ў рабоце. На бюро ЦК ЛКСМБ былі разгледжаны пытанні: «Аб ходзе ўсесаюзнага Ленінскага заліку ў камсамольскіх арганізацыях Слонімскага раёна», «Аб рабоце Жыткавіцкага РК ЛКСМБ па арганізацыі вывучэння ленінскай тэарэтычнай спадчыны камсамольцамі і моладдзю раёна», «Аб ідэйна-палітычнай накіраванасці мерапрыемстваў, што праводзяцца камітэтамі камсамола Слуцкага раёна».

У лістападзе 1969 года адбыўся рэспубліканскі сход камсамольскага актыву, на якім з дакладам «Аб паляпшэнні ідэйна-палітычнага выхавання моладзі і павышэнні адказнасці членаў ВЛКСМ» выступіў сакратар ЦК КПБ тав. Пілатовіч С. А. Гэты сход—яшчэ адно яркае праяўленне клопатаў партыі аб выхаванні маладога пакалення ў камуністычным духу.

У адказ на пастаянную ўвагу і бацькоўскія клопаты роднай Камуністычнай партыі рэспубліканскі сход камсамольскага актыву заявіў, што камсамольцы і моладзь рэспублікі, удзельнічаючы ва ўсенародным руху за дастойную сустрэчу 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, азнамянуюць ленінскі юбілей новымі выдатнымі перамогамі ў камуністычным будаўніцтве, будуць высока несці пераможны сцяг вялікага Леніна.

## МЫ—ЛЕНІНЦЫ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТЫ

Важнай падзеяй 1969 года з'явілася правядзенне ў Маскве з 5 па 17 чэрвеня Міжнароднай нарады камуністычных і рабочых партый. Пленум ЦК КПСС, які адбыўся 22 чэрвеня, выказваючы аднадушную думку нашай партыі і народа, адзначыў, што Нарада з'явілася вялікім поспехам камуністычнага, рабочага і ўсяго вызваленчага руху і азнаменавала важны этап у справе ўмацавання згуртаванасці міжнароднага камуністычнага руху на прынцыпах марксізма-ленінізма, пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Матэрыялы Нарады, рашэнні пленума ЦК КПСС выклікалі вялікую цікавасць у моладзі нашай рэспублікі. У пісьмах і тэлеграмах на адрас Нарады юнакі і дзяўчаты Беларусі выказалі сваю вернасць пралетарскаму інтэрнацыяналізму, сваю аднадушную падтрымку палітыкі КПСС, імкненне ўнесці свой уклад у справу барацьбы народаў супраць імперыялізму, за мір і сацыяльны прагрэс, разуменне таго, што поспехі нашай краіны ўмацоўваюць сілу і магутнасць лагера сацыялізма, садзейнічаюць паспяховай барацьбе дэмакратычных і прагрэсіўных сіл, стрымліваюць мілітарызм і імперыялізм.

Важную ролю ў справе ўмацавання дружбы паміж прагрэсіўнай моладдзю свету адыгрываюць інтэрнацыянальныя сувязі. Камітэт маладзёжных арганізацый Беларусі наладзіў сувязі з маладзёжнымі арганізацыямі больш як 20 краін свету. Абмен дэлегацыямі і турысцкімі групамі, прыгранічныя сустрэчы, «паязды дружбы» і фестывалі, дружба гарадоў і прадпрыемстваў, фотавыстаўкі і перапіска трывала ўвайшлі ў практыку работы камсамольскіх арганізацый.

Штогод нашу рэспубліку наведвае каля 2 тысяч маладых турыстаў з зарубежных краін, якія прыязджаюць па запрашэнні Бюро Міжнароднага маладзёжнага турызму «Спадарожнік». Пасланцы беларускай моладзі дастойна прадстаўляюць нашу рэспубліку на пяці кантынентах зямнога шара.

У апошнія гады ў Беларусі было праведзена шмат важных міжнародных маладзёжных мерапрыемстваў. Гэта і пасяджэнне савета савецка-балгарскага клуба творчай моладзі, і сумесны паход прадстаўнікоў савецкай і польскай моладзі па месцах баёў Савецкай Арміі і Першай польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, і арганізацыя работы лагера дружбы, фестываляў, абмен вопытам работы з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый ГДР, Балгарыі, ЧССР, Польшчы і іншых.

Яркай, хвалюючай падзеяй стала праведзеная ў жніўні 1970 года сустрэча дружбы і салідарнасці савецкай і в'етнамскай моладзі. Яе ўдзельнікі шырока азнаёміліся з памятнымі мясцінамі нашай рэспублікі, яе гераічнымі традыцыямі, цудоўнымі людзьмі.

Па ініцыятыве рэспубліканскага Савета піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна і Славацкага савета дзіцячых арганізацый у гонар 25-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй была праведзена сумесная акцыя «Барацьба супраць фашызму». Гэтая акцыя ўзбагаціла савецкіх і славацкіх школьнікаў новым матэрыялам аб сумеснай барацьбе двух братніх народаў супраць фашызму, дапамагла даведацца шмат новага пра подзвігі савецкіх воінаў, якія змагаліся супраць фа-

шызму ў Чэхаславакіі, і пра слаўных сыноў Чэхаславакіі, якія ваявалі ў атрадах беларускіх партызанаў.

Беларуская моладзь шырока адзначыла 25-ю гадавіну ўтварэння СФДМ. Прадстаўнікі беларускай моладзі ўдзельнічалі ў рабоце 8-й юбілейнай Асамблеі СФДМ у Будапешце і Сусветнай маладзёжнай Асамблеі ў Нью-Йорку.

У навучальных установах, на прадпрыемствах і гаспадарках рэспублікі паспяхова працуюць шматлікія клубы інтэрнацыянальнай дружбы, якія разам з камітэтамі камсамола арганізоўваюць перапіску з равеснікамі з-за мяжы, праводзяць вечары дружбы, вусныя часопісы, сустрэчы з прадстаўнікамі зарубежных камуністычных саюзаў моладзі, мітынгі салідарнасці з народамі, якія змагаюцца за свабоду. Клубы інтэрнацыянальнай дружбы школ № 72, № 43, № 25 і інш. г. Мінска за вялікую работу ў гэтым напрамку ўзнагароджаны дыпломамі Прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з зарубежнымі краінамі.

У рэспубліцы навучаюцца сотні замежных студэнтаў з больш як 40 краін свету. Яны пастаянна адчуваюць сяброўскія пачуцці з боку беларускай моладзі. Замежныя студэнты з'яўляюцца частымі гасцямі на прамысловых прадпрыемствах, у школах, піянерскіх лагерах. А летам па дарогах Беларусі адпраўляецца аўтапоезд дружбы, маршрут якога праходзіць па ўдарных камсамольскіх будоўлях, месцах партызанскіх баёў і гераічных бітваў Савецкай Арміі. Удзельнікі аўтапоезда — замежныя студэнты знаёмяцца з жыццём і працай савецкіх людзей у розных кутках рэспублікі, расказваюць аб жыцці моладзі ў сваіх краінах, выступаюць з канцэртамі, адпачываюць.

Традыцыйнымі сталі ў рэспубліцы цесныя прыгранічныя і мясцовыя сувязі з маладзёжнымі арганізацыямі і калектывамі сацыялістычных краін. Камсамольскія арганізацыі Беларусі падтрымліваюць пастаянныя сувязі з маладзёжнымі і дзіцячымі арганізацыямі Варшаўскага, Люблінскага, Зеленагурскага і Беластоцкага ваяводстваў ПНР, камітэтамі ССМ акруг Патсдам і Франкфурт-на-Одэры ГДР, маладзёжнымі арганізацыямі Паўднёва-Чэшскай вобласці ЧССР і арганізацыямі ДКСМ Габраўскай акругі НРБ.

Знаёмячыся з жыццём, працай і вучобай сваіх равеснікаў за мяжой, расказваючы пра свае справы, пра дасягненні нашай дзяржавы, Савецкай Беларусі, змагаючыся за адзінства і згуртаванасць міжнароднага маладзёжнага руху, супраць імперыялізму, за мір, дэмакратыю і сацыяльны прагрэс, юнакі і дзяўчаты нашай рэспублікі актыўна пацвярджаюць вернасць ленінскім прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізму.

## «ТАВАРЫШ ЛЕНІН, МЫ ВАМ ДАКЛАДВАЕМ»

Яркай і хвалюючай старонкай у летапіс рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі ўвайшоў красавік 1970 года. Гэтыя веснавыя дні сталі для кожнага юнака і кожнай дзяўчыны генеральным аглядам на вернасць ленінскім запаветам, рапартам Радзіме, партыі, народу пра зробленае і здзейсненае, аб сваёй актыўнасці і адданасці справе Кастрычніка. Красавік 1970 года азнаменаван найвялікшай падзеяй у жыцці кожнага з нас — 100-годдзем з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна.

Незадоўга да гэтых радасных, урачыстых дзён юбілею ў Мінску адбыўся XXIV з'езд ЛКСМ Беларусі (26—27 лютага 1970 года). Сабраўшыся на свой чарговы форум, пасланцы шасці абласцей рэспублікі па-дзелавому дакладвалі аб поспехах, абмяркоўвалі і аналізавалі стаячыя перад імі праблемы, выяўлялі недахопы, намячалі далейшую праграму дзеяння.

І дакладчык, першы сакратар ЦК ЛКСМБ Г. М. Жабіцкі, і ўсе выступаючыя ў спрэчках прыводзілі шмат прыкладаў таго, як камітэты камсамола, умела скарыстоўваючы розныя формы работы, прыахвочваюць юнакоў і дзяўчат да вывучэння тэарэтычнай спадчыны Леніна, да вывучэння тэзісаў ЦК КПСС «Да 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна». Усе прамоўцы былі аднадушныя: трэба працаваць так, каб марксісцка-ленінскае вучэнне, якім авалодвае моладзь, ператварылася ў глыбокія асабістыя перакананні, а перакананні — у вялікія практычныя справы. «Мы павінны ўмець бачыць ступень уплыву нашай работы на псіхалогію асобы, калектыву, розных катэгорый моладзі, — гаварыў у сваёй прамове кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі тав. Машэраў Пётр Міронавіч. — У кожным асобным выпадку нам надзвычай важна ведаць, якое ўздзеянне аказвае тая ці іншая інфармацыя на думкі, пачуцці і настрой маладых людзей, а значыць і на іх перакананні, учынкі і дзеянні. «Па якіх прызнаках, — гаварыў У. І. Ленін, — меркаваць нам аб рэальных памылках і пачуццях рэальных асоб? Зразумела, што такі прызнак можа быць толькі адзін: дзеянні гэтых асоб» (Поўны





збор твораў, т. І, стар. 423). Гэты фактар ні ў якім разе не трэба ўпускаць з вачэй у штодзённай нашай дзейнасці, дамагаючыся высокай эфектыўнасці ў камуністычным выхаванні падрастаючага пакалення».

XXIV з'езд ЛКСМБ заклікаў камітэты камсамола рэспублікі больш актыўна выкарыстоўваць усе сродкі выхавання моладзі, удасканальваць работу з улікам інтарэсаў і запатрабаванняў розных катэгорый моладзі, павышаць эфектыўнасць арганізатарскай работы камсамола.

З новым энтузіязмам і працоўным уздымам уключылася юнацтва рэспублікі ў 100-дзённую працоўную вахту ў гонар стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Пачалося падвядзенне вынікаў Ленінскага заліку ў пярвічных камсамольскіх арганізацыях. Асноўным крытэрыем ацэнкі былі канкрэтныя «дзеянні асоб».

Усесаюзны Ленінскі залік паспяхова здалі 915.093 камсамольцы Беларусі. Больш 337 тысяч юнакоў і дзяўчат датэрмінова, да юбілею Ільіча выканалі пяцігодку. Асабістыя сацыялістычныя абавязацельствы, прынятыя ў гонар ленінскага юбілею, выканалі 474.793 чалавекі.

Канкрэтнай справай для камсамольцаў і моладзі сталіцы стала стварэнне ленінскага фонду эканоміі, ініцыятарам якога з'явілася камсамольская арганізацыя ордэна Леніна Мінскага трактарнага завода. Звыш 200 камсамольскіх арганізацый г. Мінска, уключыўшыся ў спаборніцтва па стварэнні камсамольскага фонду Ільіча, у дзень Усесаюзнага камсамольскага сходу 10 красавіка рапартавалі: ёсць дзесяцімільённы фонд!

Дваццаць тысяч маладых будаўнікоў атрымалі буйныя працоўныя перамогі на ўдарных будоўлях рэспублікі: пушчаны першая чарга 3-га Салігорскага калійнага камбіната, 2-я чарга сернакіслотнай вытворчасці на Гомельскім хімічным заводзе, першы энергаблок на Лукомльскай ДРЭС. На будаўніцтве Магілёўскага камбіната сінтэтычнага валакна 28 камсамольска-маладзёжных брыгад рапартавалі на Усесаюзным камсамольскім сходзе аб выкананні пяцігадовага плана.

А гэта радкі рапарта камсамольцаў Баранавіцкага баваўнянага камбіната: «653 члены ВЛКСМ датэрмінова выканалі пяцігодку. 884 камсамольцам прысвоена ганаровае званне ўдарніка камуністычнай працы, працуе 236 пастоў па якасці, 600 маладых рабочых павысілі сваю кваліфікацыю. У фонд эканоміі ўнесена 2 мільёны 218 тысяч рублёў. Кожны камсамолец камбіната вывучыў 2—3 працы У. І. Леніна, 80 працэнтаў членаў ВЛКСМ маюць пастаянныя грамадскія даручэнні.»

Кліч, кінуты членамі брыгады Сяргея Еслікава з Аршанскага льнокамбіната: «Ленінскаму юбілею — 50 дадатковых працоўных змен» — быў падтрыманы ўсімі камсамольска-маладзёжнымі брыгадамі камбіната. Маладзёжныя брыгады адпрацавалі дадаткова каля чатырох тысяч ленінскіх змен, што, вядома, садзейнічала датэрміноваму выпуску мільярднага метра тканіны.

Камсамольцы і моладзь Наваполацка да юбілею ўвялі ў строй 14 прамысловых аб'ектаў; 445 камсамольцаў і 9 камсамольска-маладзёжных брыгад датэрмінова выканалі заданне пяцігодкі. Маладыя рацыяналізатары за год падалі звыш 1000 рацпрапаноў, эканамічны эфект ад якіх склаў 1,4 мільёна рублёў.

З гонарам стрымаў слова калектыў Мінскага завода халадзільнікаў. Абавязацельства выпусціць да юбілею першыя ўзоры новага халадзільніка «Мінск-5» выканана.

Сельскія будаўнікі рэспублікі дастойна сустракаюць слаўную дату. Адным з першых аб выкананні сацыялістычных абавязацельстваў рапартаваў калектыў ПМК-17 трэста «Брэстсельбуд». Ён датэрмінова ўвёў у эксплуатацыю будынкі ў калгасе «Селішча», гарадскім пасёлку Ганцавічы і іншых месцах. Пастараліся і рабочыя ПМК-3 трэста «Мінсксельбуд» — яны перавыканалі план чатырох месяцаў, правёўшы мантажна-будаўнічыя работы на суму 1,2 мільёна рублёў.

У спаборніцтве за эканомію і беражлівасць пад дэвізам «Камсамольска-маладзёжны маршрут пяцігодкі» камсамольцы Ваўкавыскага паравознага дэпо сэканомілі матэрыялаў на суму 12 тысяч рублёў і 1500 тон паліва.

Рапартаў многа. Усе яны разам узятыя ствараюць важкую справаздачу, якой па праве ганарыцца беларускі камсамол.

Вынікі перад'юбілейнага года, аб якіх рапартавалі на сваіх сходах камсамольцы, велізарныя і захапляючыя. І перш за ўсё таму, што творчай і змястоўнай была работа камсамольскіх арганізацый рэспублікі на працягу ўсяго перад'юбілейнага года. Гэтыя вынікі такія яшчэ і таму, што кожны крок камсамольскай ініцыятывы, усе пачыны і творчыя пошукі маладых своечасова знаходзілі бацькоўскую падтрымку і дапамогу партыйных камітэтаў, арганізацый.

І ў дзень Усесаюзнага камсамольскага сходу, 10 красавіка прыйшлі на сустрэчу да моладзі ветэраны партыі, вайны і працы, дырэктары заводаў, фабрык, дырэктары саўгасаў, старшыні калгасаў, сакратары партыйных арганізацый, старшыні прафсаюзных камітэтаў.

У механічным цэху № 1 Мінскага ордэна Леніна трактарнага завода на юбі-

лейным камсамольскім сходзе прысутнічала дэлегацыя Дэмакратычнага саюза моладзі Фінляндыі. З прамовай перад рабочымі выступіў і ўручыў камсамольскай арганізацыі памятны сувенір старшыня Дэмакратычнага саюза моладзі Фінляндыі Пекка Саарніё.

Дзейна рыхтаваліся камітэты камсамола рэспублікі да галоўнага сходу года. У многіх пярвічных арганізацыях сходы пачаліся з слухання прамовы У. І. Леніна, з ускладання вянкоў і кветак да помніка правадыра. А камітэт камсамола мінскіх трактаразаводцаў у гэты дзень паслаў віншавальныя пісьмы бацькам камсамольцаў, якія дамагліся найлепшых паказчыкаў у ходзе ленінскай юбілейнай вахты.

Сходы праходзілі пры вялікай актыўнасці моладзі (у іх удзельнічала 1.632.298 чалавек, у тым ліку 910.137 камсамольцаў). Сходы заканчваліся спяваннем партыйнага гімна «Інтэрнацыянал», камсамольскіх песень. На іх было прынята ў члены ВЛКСМ 29.552 юнакоў і дзяўчат, рэкамендавана ў партыю— 1090 чалавек.

На Усесаюзным камсамольскім сходзе ў рэспубліцы выступіла 107.150 чалавек, прынцыпова і шчыра гаварылі пра выяўленыя недахопы, пра эканомію і беражлівасць, пра развіццё тэхнічнай творчасці і вучобы моладзі.

Многія калектывы намецілі для сябе канкрэтныя рубяжы далейшых дзеянняў, выказаліся за працяг Ленінскага заліку. Так, камсамольскія арганізацыі цэхаў №№ 7, 9, 10, 11 мінскага электратэхнічнага завода імя Казлова рашылі ў нерабочы час да XVI з'езда ВЛКСМ зрабіць 24 сілавыя трансфарматары, 10 комплексных трансфарматарных падстанцый, 29 панеляў аховы кіравання, 120 станочных трансфарматараў.

Сумесны сход камсамольцаў калгаса імя Чапаева і Паланіцкай сярэдняй школы Баранавіцкага раёна пастанавіў арганізаваць з выпускнікоў школы трактарную брыгаду дзяўчат. Усе яны набылі спецыяльнасць механізатара.

Брыгады Часлава Грыгеніча, Уладзіміра Мароза, Міны Зайцава і Васіля Сарокі з Гродзенскага будтрэста № 11 абавязаліся да XVI з'езда ВЛКСМ выканаць пяцігадовы план, а 40 камсамольска-маладзёжных брыгад—да 50-годдзя ЛКСМБ.

Ва ўсіх камсамольскіх арганізацыях ішла дзелавая размова аб далейшай праграме дзеяння, аб дасягнутым і нявырашаным, аб задачах і праблемах заўтрашняга дня. Усесаюзны камсамольскі сход можна з поўнай падставай лічыць стартам новых працоўных дасягненняў, новых перамог камсамоліі, пошукаў і пачынаў.

Аднагалосна было прынята пісьмо савецкай моладзі Цэнтральнаму Камітэту КПСС. Яно прагучала клятвай маладой гвардыі, клятвай вернасці і адданасці партыі, гатоўнасці да новых здзяйсненняў на ўсіх участках камуністычнага будаўніцтва.

«Камсамольцы і моладзь,—гаварылася ў пісьме,—урачыста заяўляюць Ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту КПСС:

Мы верныя запаветам Леніна!
Мы ідзем па шляху Леніна!
Мы змагаемся за справу Леніна!»

Дэманстрацыяй гэтай вернасці і з'явіўся Усесаюзны камуністычны суботнік— 11 красавіка. Усюды ён пачынаўся з мітынгаў, ленінскіх сходак, выпуску «маланак», лісткоў і радыёперадач. Як у дні вялікіх рэвалюцыйных свят, развяваліся чырвоныя сцягі, транспаранты і лозунгі.

Ударна працавалі ў дзень чырвонай суботы камсамольцы і моладзь. Вось некаторыя весткі з абласцей:

На Міншчыне ўдзельнічала ў суботніку 500 тысяч юнакоў і дзяўчат. У ленінскі фонд эканоміі за дзень унесена 3 мільёны рублёў.

Маладыя паліграфісты Мінска надрукавалі кнігі У. І. Леніна і перадалі іх музею Леніна ў Маскве з надпісам: «Зроблена ў дзень Усесаюзнага камуністычнага суботніка».

Камсамольцы і моладзь завода «Ударнік» у гэты дзень атрымалі бланкі нарадаў, на якіх сталі чырвоныя штэмпелі са словамі «Работа выканана ў час камуністычнага суботніка». Тады ж у ленінскі фонд эканоміі на заводзе паступіла каля 5 тысяч рублёў.

Моладзь Магілёўшчыны зарабіла на суботніку 321,3 тысячы рублёў. Юнакі і дзяўчаты фабрык і заводаў, будоўляў, транспарту, сферы абслугоўвання працавалі на сваіх месцах. У калгасах і саўгасах моладзь была занята на падкормцы азімых, вывазцы ўгнаенняў, вапнаванні глебы, падрыхтоўцы да сяўбы тэхнікі і г. д. У дзень суботніка сабрана 1300 тон металалому.

Усесаюзны камсамольскі сход і Усесаюзны камуністычны суботнік—своеасаблівы этап падрыхтоўкі да XVI з'езда ВЛКСМ і 50-годдзя ЛКСМБ. Напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна была прадэманстравана гатоўнасць юнакоў і дзяўчат рэспублікі і надалей няўхільна выконваць галоўны запавет правадыра—вучыцца камунізму.

## БАЯВАЯ ЗАДАЧА ДНЯ

26 мая 1970 года ў Крамлёўскім палацы з'ездаў пачаў сваю работу чарговы XVI з'езд ВЛКСМ. Дэлегаты камсамола ад усіх саюзных рэспублік, прадстаўнікі 98 камуністычных саюзаў моладзі дэмакратычных і сацыялістычных маладзёжных арганізацый з 84 краін свету сабраліся на вышэйшы камсамольскі сход, каб яшчэ раз зверыць свае справы і планы з бессмяротнымі ленінскімі запаветамі.

Вялікай падзеяй з'явілася выступленне на з'ездзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева. З прывітаннем да XVI з'езда камсамола звярнуўся Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

З'езд праходзіў у духу высокай патрабавальнасці пры абмеркаванні хвалюючых моладзь пытанняў, намеціў планы работы камсамола на бліжэйшыя гады.

У выступленнях дэлегатаў гучала глыбокая зацікаўленасць у далейшым паляпшэнні камсамольскай работы, у павышэнні ролі камсамола як памочніка і рэзерва КПСС, ва ўзмацненні яго ўплыву на самыя шырокія пласты моладзі.

Дэлегаты з'езда прынялі ўдзел у рабоце 10 секцый.

У якасці важнейшай задачы ВЛКСМ з'езд назваў выхаванне моладзі ў духу ленінскіх запаветаў, дапамогу камсамольцам, юнакам і дзяўчатам у творчым авалоданні марксісцка-ленінскай тэорыяй, фарміраванне класавага падыходу да з'яў грамадскага жыцця, падрыхтоўку ўсебакова развітых людзей, стойкіх і самаадданых змагароў за справу партыі, за перамогу камунізма.

Усхвалявана і сардэчна прагучэў рапарт беларускай камсамоліі XVI з'езду ВЛКСМ:

«Сёння эстафета слаўных спраў камсамола Беларусі ў руках юнакоў і дзяўчат з 70-х. Сёння яны прадаўжаюць легендарную славу старэйшых пакаленняў, якія прайшлі суровую школу жыцця і выпрабаванняў. Вернасць справе Леніна і рэвалюцыі яны пацвердзілі ў крывавых схватках з ворагам і на новабудоўлях, ля домнаў і на збожжавых палях. Гэта быў іх Ленінскі залік. Яны паспяхова здалі яго. Юнае племя слаўных паслядоўнікаў, якое выхавана на лепшых традыцыях партыі і народа, таксама паспяхова вытрымала гэты экзамен—Беларуская камсамольская арганізацыя здала свой Ленінскі залік. З пачуццём законнай гордасці мы рапартуем XVI з'езду ВЛКСМ аб працоўных поспехах маладога пакалення Беларусі».

Выконваючы рашэнні з'езда, камсамольскія арганізацыі рэспублікі, увесь беларускі народ рыхтаваліся адзначыць 50-годдзе з дня утварэння Ленінскага камсамола Беларусі. Да юбілею заставалася некалькі месяцаў. Усю велізарную падрыхтоўчую работу да свята камсамол рэспублікі праводзіў, актыўна ўключыўшыся ў барацьбу за выкананне рашэнняў XVI з'езда ВЛКСМ.

Беларуская камсамольская арганізацыя бачыла сваю задачу перш за ўсё ў тым, каб яшчэ вышэй узняць роль кожнага камсамольскага калектыву на заводзе, фабрыцы, на будоўлі, у калгасе, саўгасе, навучальнай установе, школе, уцягнуць усіх камсамольцаў рэспублікі ў барацьбу за максімальнае выкарыстанне тых велізарных рэзерваў, якія маюць прамысловасць, сельская гаспадарка, навука і культура. Гэтая задача заключалася ў тым, каб усюды і заўсёды ствараць для маладога чалавека творчую атмасферу, павышаць яго свядомасць і актыўнасць.

Напярэдадні юбілею была прынята пастанова бюро ЦК КПБ «Аб 50-годдзі ЛКСМ Беларусі», усе камітэты камсамола распрацавалі мерапрыемствы па падрыхтоўцы да гэтай даты.

У мерапрыемствах ЦК ЛКСМБ, якія былі прыняты рашэннем бюро 29 студзеня 1970 года, намячалася канкрэтная праграма работы на юбілейны год. Разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва «50-годдзю камсамола Беларусі—ударная праца моладзі». 3 мая ў рэспубліцы пачаўся Усесаюзны фестываль моладзі. Юнакі і дзяўчаты ўдзельнічалі ў правядзенні грашова-рэчавай латарэі, масавых конкурсах, спартакіядах, рэйдах. Выдавецтвы рыхтавалі рэкламную і прапагандысцкую літаратуру аб 50-годдзі ЛКСМБ.

Моладзь настойліва ўключылася ў барацьбу за тэхнічны прагрэс і павышэнне прадукцыйнасці працы, за паляпшэнне якасці прадукцыі і зніжэнне яе сабекошту, актыўна займалася пытаннямі навуковай арганізацыі працы. Пленум ЦК ЛКСМБ, які адбыўся 7 чэрвеня, абмеркаваў пытанні ўдзелу камсамольцаў і моладзі ў барацьбе за тэхнічны прагрэс, вызначыў месца кожнага юнака і дзяўчыны на гэтым важным участку.

Камсамольскія арганізацыі буйнейшых прадпрыемстваў узялі шэфства над асваеннем новай тэхнікі, машын, прыбораў, такіх, як аўтамабіль павышанай гру-



Віталь ЦВІРКА. Дрэвы скідаюць лісце.



Яўген ЖДАН. Дзяўчаты.

заходымальнасці, вылічальная машына «Мінск-32», 75-тонны аўтасамазвал БелАЗ-549 і г. д.

«Моладзь з уласцівай ёй энергіяй і энтузіязмам,— гаварыў на XXIV з'ездзе ЛКСМБ кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар Кампартыі Беларусі тав. П. М. Машэраў,—павінна першай асвойваць новае абсталяванне, машыны, прыборы, тэхналагічныя працэсы, прымаць актыўны ўдзел у арганізацыі вытворчасці новых вырабаў і пашырэнні перадавых прыёмаў і метадаў працы».

На гэты заклік камсамол рэспублікі адказаў канкрэтнымі справамі. Былі створаны і пачалі дзейнічаць 7 тысяч творчых брыгад па новай тэхніцы, грамадска-канструктарскія, тэхналагічныя і нарміровачныя бюро. Шэрагі актыўных удзельнікаў руху тэхнічнай творчасці моладзі—змагароў за ўсё новае, перадавое—выраслі да 30 тысяч чалавек. Звыш 200 тысяч юнакоў і дзяўчат набылі за апошні час новыя прафесіі, павысілі сваю кваліфікацыю.

Рыхтуючыся да свайго юбілею і XXIV з'езда КПСС, камсамол Беларусі імкнуўся не толькі замацаваць дасягнутыя поспехі, але і памножыць іх. Высокая арганізаванасць і ўзрослы працоўны энтузіязм былі характэрныя для 300-тысячнага атрада камсамоліі Мінщчыны. Больш 20 тысяч юнакоў і дзяўчат датэрмінова выканалі сваю асабістую пяцігодку. У камсамольскі фонд эканоміі ўнесена больш 15 мільёнаў рублёў. У пачатку верасня бюро ЦК ЛКСМБ падтрымала ініцыятыву камітэта камсамола Мінскага ордэна Леніна трактарнага завода «Кожнаму члену ВЛКСМ—эканамічныя веды».

Новай высокай ацэнкай і прызнаннем заслуг нашых маладых вучоных з'явілася прысуджэнне прэміі Ленінскага камсамола ў галіне навукі і тэхнікі работнікам Мінскага філіяла НДЦЭВТ Вадзіму Пыхціну, Эдуарду Кавалевічу, Уладзіміру Качкову, Марку Неменману, намесніку галоўнага тэхнолага завода імя Арджанікідзе Анатолю Цітову і загадчыку лабараторыі Інстытута матэматыкі АН БССР Мікалаю Шкуту за ўдзел у распрацоўцы электронна-вылічальных машын серыі «Мінск».

Выконваючы рашэнні снежаньскага (1969) Пленума ЦК КПСС, вырашаючы задачы, якія пастаўлены ў пісьме ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ «Аб паляпшэнні выкарыстання рэзерваў вытворчасці і ўзмацненні рэжыму эканоміі ў народнай гаспадарцы», камітэты камсамола, штабы і атрады «КП» разгарнулі рух за эканомію і беражлівасць.

Для маладых працаўнікоў вёскі ўдзел у гэтым руху азначаў перш за ўсё актыўны ўдзел ва ўборцы ўраджаю ў юбілейным годзе.

З добрай ініцыятывай выступілі маладыя хлебаробы Ваўкавыскага раёна. На раённым сходзе камсамольскага актыву з удзелам камбайнераў, шафёраў, іншых механізатараў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі была вызначана канкрэтная праграма для камсамольскіх арганізацый, усіх камсамольцаў і моладзі на час уборкі. Было створана 40 камсамольска-маладзёжных механізаваных экіпажаў, у кожнай камсамольскай арганізацыі калгаса і саўгаса створаны маладзёжныя брыгады і звенні па сушцы і ачыстцы збожжа, уборцы саломы. Райком камсамола разам з упраўленнем сельскай гаспадаркі распрацаваў умовы спаборніцтва моладзі на ўборцы. Кругавы кантроль «Поле—ток—хлебная траса—прыёмачны пункт—свіран» прадугледжваў зніжэнне да мінімуму страты збожжа. Было арганізавана гарачае харчаванне на ўборцы, культурнае абслугоўванне. У гэтай рабоце было таксама вызначана месца сельскай інтэлігенцыі, школьнікаў, моладзі раённага горада. Удзельнікі раённай нарады актыву звярнуліся да ўсёй моладзі рэспублікі з заклікам падтрымаць іх ініцыятыву. Бюро ЦК ЛКСМБ разгледзела гэтае пытанне і прапанавала арганізаваць так работу ўсюды.

Камсамольскія арганізацыі рэспублікі акцэнтавалі ўвагу на пытаннях вучобы моладзі, выхавання яе на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях партыі і народа.

У год заснавання камсамола Беларусі на тры тысячы камсамольцаў прыходзілася ўсяго некалькі чалавек, якія мелі сярэднюю адукацыю. У год 50-годдзя ЛКСМБ у рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі кожны другі меў вышэйшую незакончаную вышэйшую ці сярэднюю адукацыю. У сферы навукі і вышэйшай адукацыі працавала звыш 60 тысяч чалавек. Кожны другі з іх—малады чалавек ва ўзросце да трыццаці гадоў.

У рэспубліцы ў юбілейным годзе ў сістэме партыйнай і камсамольскай палітасветы займалася каля 210 тысяч юнакоў і дзяўчат. У сетцы камсамольскай палітасветы працавала больш 5 тысяч прапагандыстаў, з іх 85 працэнтаў—камуністы, 78 працэнтаў—з вышэйшай і незакончанай вышэйшай адукацыяй. Сярод прапагандыстаў—ветэраны партыі і камсамола, героі працы і наватары вытворчасці, кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў.

У Дамах культуры, клубах, музеях, бібліятэках, чырвоных кутках, школах і ВНУ праходзілі Ленінскія ўрокі, лекторыі, тэматычныя вечары па гісторыі камсамола Беларусі. Камсамольскія работнікі, лектары, вучоныя рыхтаваліся да навукова-практычнай канферэнцыі «ЛКСМБ—верны памочнік і рэзерв Камуністычнай партыі».

Была праведзена аперацыя «Беларусь—25», прысвечаная дню вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У ёй прынялі ўдзел камсамольцы 6.136 арганізацый. У часе аперацыі адбылося 18 тысяч сустрэч з ветэранамі рэвалюцыі і вайны. Сабраны дакументы і матэрыялы для стварэння 640 музеяў баявой славы (усяго іх у рэспубліцы каля 4500), устаноўлена 156 мемарыяльных дошак, 52 абеліскі і 57 помнікаў, закладзена 32 паркі і 80 сквераў, 360 алеяў. Патрыёты вярнулі гісторыі 680 невядомых раней імён воінаў, што загінулі ў баях за Радзіму.

Паспяхова праходзіў у камсамольскіх арганізацыях экзамен сярод юнакоў і дзяўчат па фізічнай і ваенна-патрыятычнай падрыхтоўцы.

«Вучыцца ваеннай справе сапраўдным чынам»—гэтае патрабаванне правадыра стала адным з галоўных напрамкаў у рабоце камсамольскіх арганізацый. Камсамол Беларусі на ўсіх этапах гісторыі, ад першых чонаўцаў і пасланцоў на падшэфны флот да сённяшніх юнармейцаў, праяўляў і праяўляе пастаянную ўвагу да ваеннай, маральнай і фізічнай падрыхтоўкі моладзі для абароны Радзімы.

Быў праведзены рэспубліканскі ленінскі ўрок «Запаветам Леніна верныя». У гонар 50-годдзя ЛКСМБ камітэты камсамола арганізавалі аўта- і мотапрабегі, наладжвалі работу агітбрыгад. Масавае пашырэнне набылі сустрэчы камсамольцаў і моладзі з ветэранамі вайны і працы, партыі і камсамола.

Усюды ў клубах, Дамах культуры, бібліятэках, парках былі афармлены стэнды, вітрыны, у якіх расказвалася пра баявыя і працоўныя справы камсамола: «Іх імёны бессмяротныя», «Яны змагаліся за Радзіму», «Камсамольцы—неспакойныя сэрцы», «У працы і ў баі» і інш. У многіх бібліятэках Гродзенскай, Гомельскай, Мінскай абласцей афармлены кніжныя выстаўкі «Нам 50!», «У. І. Ленін і КПСС аб моладзі і камсамоле», «Этапы вялікага шляху», «У агні грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў», «На будоўлях пяцігодкі».

У рамках Усебеларускага фестывалю моладзі, аб'яўленага ЦК ЛКСМБ у гонар 50-гадовага юбілею камсамола, адбыліся раённыя фестывалі. У многіх раённых цэнтрах яны былі арганізаваны як сапраўднае свята маладосці, працы, самадзейнага мастацтва і фізічнай культуры і спорту. Напрыклад, у Пінску праводзіліся фестывальныя суботнікі, спартыўныя спаборніцтвы, кінафестываль. Прайшло факельнае шэсце моладзі і марш-парад калектываў камуністычнай працы. Кожны дзень праходзіў пад сваім дэвізам: быў дзень мастацтва, дзень памяці герояў, дні прафесіянальнага майстэрства і выпускнікоў школ.

Прайшлі раённыя і абласныя конкурсы прафесіянальнага мастацтва. Толькі ў Віцебскай вобласці ў такім конкурсе ўдзельнічала 11,5 тысячы маладых працаўнікоў.

Конкурсы прафесіянальнага майстэрства сталі эфектыўнай формай работы з маладымі рабочымі і калгаснікамі.

У жніўні-верасні адбыліся рэспубліканскія конкурсы прафесіянальнага майстэрства, самадзейнага мастацтва і літаратуры.

У кожным перадсвяточным дні, у кожнай мінуце рабочага часу відаць былі энергія, энтузіязм і ініцыятыва маладых. Ударная вахта, плён перад'юбілейнага спаборніцтва, працоўныя падарункі юнакоў і дзяўчат камсамольскаму юбілею, XXIV з'езду КПСС, прайшоўшы 24 верасня 1970 года ўсебеларускі камсамольскі сход пераканаўча пацвердзілі, што моладзь Савецкай Беларусі, верная слаўным традыцыям старэйшага пакалення, набывае лепшыя якасці рабочага класа: арганізаванасць, дысцыпліну, камуністычныя адносіны да працы, высокую адказнасць перад народам, пачуццё гаспадара сваёй краіны.

## ВЫСОКАЯ ЎЗНАГАРОДА

Радзіма высока ацаніла заслугі камсамола Беларусі. За актыўны ўдзел у сацыялістычным і камуністычным будаўніцтве, вялікую работу па выхаванні моладзі ў духу адданасці запаветам Леніна і ў сувязі з 50-годдзем Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі ўзнагароджаны ордэнам Леніна. Гэтая радасная і хвалюючая вестка абляцела ўсе гарады і вёскі. Яна ў аднолькавай меры ўсхвалявала і моладзь, і людзей старэйшага пакалення, якія атрымалі ў шэрагах камсамола ідэйную загартоўку, вопыт грамадскай дзейнасці. Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, ЦК ВЛКСМ звярнуліся з прывітаннямі да Ленінскага Саюза Моладзі рэспублікі. Сотні віншавальных тэлеграм з пярвічных арганізацый прыйшлі ў ЦК ЛКСМБ. З усіх саюзных рэспублік, з гарадоў-герояў Масквы, Ленінграда прыехалі ў Мінск дэлегацыі моладзі, каб павіншаваць свайго сабрата—камсамол Беларусі з высокай узнагародай і паўвекавым юбілеем.

25 верасня 1970 года ў ЦК ЛКСМБ адбылася сустрэча з дэлегацыямі камсамола, якія прыбылі на святкаванне. Тут былі прыняты рапарты абласных, шэрагу гарадскіх, раённых і пярвічных камсамольскіх арганізацый аб выніках перад'юбілейнага спаборніцтва, рабоце па дастойнай сустрэчы з'езда партыі.

Вечарам у Палацы культуры камвольнага камбіната адбыўся вечар сустрэчы членаў і кандыдатаў у члены ЦК ЛКСМБ, мінскіх абкома і гаркома камсамола, моладзі сталіцы з дэлегацыямі камсамола саюзных рэспублік, горада Масквы і Ленінграда, двойчы Чырванасцяжнага Балтыйскага флоту, Групы савецкіх войск у Германіі. Пасля ўрачыстай часткі госці і прысутныя віншавалі лаўрэатаў прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Імі сталі ў юбілейным годзе «камсамольскі» прафесар, доктар гістарычных навук Анатоль Яфімавіч Жураў, пісьменнік Алесь Савіцкі, мастакі Георгі і Наталля Паплаўскія, рэжысёр Ігар Дабралюбаў, аператар Дзмітры Зайцаў, мастак Уладзімір Дзяменцьеў, Маладзечанскі ансамбль песні і танца.

У заключэнне вечара прадэманстравалі сваё майстэрства пераможцы Усебеларускага фестывалю моладзі.

У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрылася выстаўка жывапісу, скульптуры, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прысвечаная юбілею камсамола. Палац спорту расчыніў дзверы для наведвальнікаў выстаўкі «Тэхнічная творчасць моладзі». Гэтыя выстаўкі наведалі кіраўнікі партыі і ўрада рэспублікі.

Рашэннем Савета Міністраў БССР было прысвоена імя Ленінскага камсамола Беларусі Баранавіцкаму баваўнянаму камбінату, Гомельскаму дарожна-будаўнічаму тэхнікуму, Маладзечанскаму прафесіянальна-тэхнічнаму вучылішчу № 21, сярэдняй школе № 2 г. Магілёва. Імя 50-годдзя камсамола Беларусі прысвоена калгасу «Слава працы» Дзятлаўскага раёна, Беларускаму рэспубліканскаму тэатру юнага гледача і Рэспубліканскаму воднаспартыўнаму камбінату. 31 пярвічная камсамольская арганізацыя была ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Гэтай высокай урадавай узнагароды былі ўдастоены 1812 маладых перадавікоў прамысловасці, будаўніцтва, транспарту, сельскай гаспадаркі, работнікаў камсамольскіх органаў, маладзёжнага друку, культурных і навучальных устаноў. Многія арганізацыі былі занесены ў Кнігу Гонару ЦК ВЛКСМ, вялікая група моладзі і ветэранаў атрымала камсамольскія ўзнагароды.

26 верасня ў Мінску, у Беларускім дзяржаўным Вялікім тэатры оперы і балета, адбыўся ўрачысты пленум ЦК ЛКСМБ, мінскіх абкома і гаркома камсамола, прысвечаны 50-годдзю Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі.

Гучаць аркестры, задорныя камсамольскія песні з берагоў Сожа і Дняпра, Нёмана і Буга, Заходняй Дзвіны і Прыпяці.

З фае даносіцца:

Мы покоряем пространство и время,
Мы—молодые хозяева земли.

Радкі гэтай песні—не паэтычны вобраз. Няма такой сферы вытворчасці, навукі, тэхнікі, мастацтва, дзе б не працавалі маладыя патрыёты, хлопцы і дзяўчаты, якія носяць ля сэрца чырвоную кніжачку з сілуэтам Ільіча. Кожны трэці вучоны ў рэспубліцы—камсамольскага ўзросту, сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР, якія прадстаўляюць Беларусь у вышэйшым заканадаўчым органе краіны, ёсць пасланцы Беларускай камсамольскай арганізацыі. 20 камсамольцаў з'яўляюцца дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР. Тысячы юнакоў і дзяўчат выбраны ў мясцовыя органы Савецкай улады. Ці ж гэта не сведчанне велізарнага давер'я, якое аказвае краіна свайму юнацтву, сваёй будучыні!

Адрасы камсамольскага подзвігу—гэта маладыя гарады, што з'явіліся на карце Радзімы—Наваполацк і Салігорск, Светлагорск і Белаазёрск.

Юнацтва рэспублікі дастойна сустрэла свой юбілей. Здадзена ў эксплуатацыю першая чарга 3-га Салігорскага калійнага камбіната. Прамысловую энергію далі два энергаблокі Лукомльскай ДРЭС, якая з'яўляецца буйнейшай у Еўропе. Дае прадукцыю Гомельскі хімічны завод. Працуюць першыя ўстаноўкі на Магілёўскім камбінаце сінтэтычнага валакна. Уступіла ў строй магутная ўстаноўка АВТ на Полацкім нафтаперапрацоўчым заводзе. 15 тысяч маладых патрыётаў удзельнічаюць у асушэнні Палесся.

Гэта працоўныя рапарты з ударных камсамольскіх будоўляў. Гэта адказ на бацькоўскія клопаты партыі і народа аб маладой змене.

Прадстаўнікі мільённай камсамольскай сям'і сабраліся тут, каб урачыста адзначыць залаты юбілей—50-годдзе ЛКСМБ. На хвіліну заціхае зала, і зноў ўспыхвае авацыя: месцы ў прэзідыуме займаюць таварышы П. М. Машэраў, У. Е. Лабанок, І. М. Макараў, У. Ф. Міцкевіч, С. А. Пілатовіч, І. Е. Палякоў, С. О. Прытыцкі, Ф. А. Сурганаў, М. Н. Полазаў, Г. М. Жабіцкі, першы сакратар ЦК ВЛКСМ Я. М. Цяжэльнікаў, намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Ф. Клімаў, намеснікі старшыні Савета Міністраў БССР А. І. Золаў, Ю. Б. Колакалаў, камандуючы войскамі Чырванасцяжнай Беларускай Ваеннай акругі генерал-палкоўнік І. М. Трацяк, член Ваеннага Савета—начальнік Палітупраўлення ЧБВА генерал-палкоўнік Б. А. Грэкаў, лётчык-касманаўт СССР Герой Савецкага Саюза Г. С. Шонін, сакратары ЦК ЛКСМБ У. І. Падрэз, А. А. Сакалоўскі, У. В. Грыгор'еў, Г. П. Анціпаў, Н. С. Нерад, члены бюро ЦК, мінскіх абласнога і гарадскога камітэтаў ЛКСМБ, ветэраны камсамола, дэлегацыі камсамола Масквы, Ленінграда, братніх саюзных рэспублік, двойчы Чырванасцяжнага Балтыйскага флоту, Групы савецкіх войск у Германіі.





Аркестр выконвае Гімны Савецкага Саюза і Беларускай ССР. У залу ўносяцца сцягі камсамола. Іх нясуць тыя, чыімі імёнамі ганарыцца Ленінскі камсамол. Сцяг беларускай рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі—у руках выхаванца камсамола Беларусі, праслаўленага лётчыка, двойчы Героя Савецкага Саюза генерал-маёра Паўла Якаўлевіча Галавачова, асістэнты ля сцяга—члены ЦК ЛКСМБ сакратар камсамольскай арганізацыі ўдарнай будоўлі «Палессеводбуд» У. Покала і загадчык малочна-таварнай фермы калгаса імя Кірава Маладзечанскага раёна дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Я. Паўлоўская.

Да трыбуны падыходзіць кандыдат у члены палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Пётр Міронавіч Машэраў. Ён зачытвае Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі ордэнам Леніна і пад бурныя, доўгія не змаўкаючыя апладысменты ўдзельнікаў пленума прымацоўвае ордэн да сцяга рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі.

З дакладам «50 гадоў Ленінскаму Камуністычнаму Саюзу Моладзі Беларусі» выступіў першы сакратар ЦК ЛКСМБ Уладзімір Падрэз.

Удзельнікі Пленума і госці з вялікай увагай выслухалі прамову першага сакратара ЦК ВЛКСМ Яўгенія Цяжэльнікава.

І зноў у зале гучыць авацыя. На сцэну падымаюцца ветэраны камсамола, тыя, хто сваімі рукамі пісаў слаўную гісторыю ЛКСМБ на барыкадах рэвалюцыі, на палях грамадзянскай вайны, на рыштаваннях першых пяцігодак, у бітвах Вялікай Айчыннай вайны. У зале нібы жывая гісторыя камсамоліі... Ля сцяга ветэраны—член КПСС з 1920 года першы сакратар ЦК ЛКСМБ у 1924 годзе Мікалай Сямёнавіч Арэхва, Герой Савецкага Саюза, лётчык-знішчальнік, які зрабіў у гады Вялікай Айчыннай вайны чатыры паветраныя тараны, Барыс Іванавіч Коўзан, удзельнік III з'езда РКСМ Мікалай Уладзіміравіч Разанаў, Герой Савецкага Саюза, адважная партызанка, адна з арганізатараў і выканаўцаў смяротнага прыгавору стаўленіку Гітлера ў Беларусі гаўляйтару Кубэ—Марыя Барысаўна Осіпава, адзін з арганізатараў камсамола Заходняй Беларусі, народны паэт рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Яўген Іванавіч Скурко (Максім Танк), член КПСС з 1924 года, адзін з арганізатараў і стваральнікаў першых камсамольскіх ячэек у Беларусі Сямён Міронавіч Іваноўскі, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны будаўнік БССР, ганаровы грамадзянін г. Мінска Іван Мацвеевіч Жыжаль, Герой Сацыялістычнай Працы, адна з першых жанчын-механізатараў, паслядоўніца Пашы Ангелінай—Ганна Данілаўна Каліва, кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга, ткачыха Мінскага тонкасуконнага камбіната, ініцыятар руху за высокую прадукцыйнасць тэкстыльнага абсталявання Алена Сцяпанаўна Лазарэнка. Ад імя старой гвардыі камсамольцаў М. С. Арэхва вітаў прысутных у зале, усіх юнакоў і дзяўчат рэспублікі з вялікім святам і ўручыў Прэзідыуму пленума памятны чырвоны сцяг—сімвал легендарных баявых і працоўных подзвігаў.

Урачысты пленум камсамола віталі дэлегацыі рабочай і сельскай моладзі, маладой беларускай інтэлігенцыі, студэнты, піянеры, воіны.

Удзельнікі пленума з вялікім уздымам прынялі тэкст прывітання Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

«Мы гордыя тым,—пісалі яны,—што партыя ўсклала на камсамол ганаровую і адказную задачу камуністычнага выхавання маладога пакалення. І сёння ад імя камсамольцаў, усёй моладзі рэспублікі мы запэўняем цябе, родная партыя, што ўся наша практычная дзейнасць будзе і надалей накіравана на тое, каб фарміраваць класавую самасвядомасць у юнакоў і дзяўчат, выхоўваць у іх марксісцка-ленінскую ідэйную перакананасць, высокую адукаванасць, глыбокае разуменне і ўзорнае выкананне свайго патрыятычнага і грамадзянскага абавязку.

Ленінскі запавет моладзі—вучыцца камунізму—быў, ёсць і будзе галоўным сэнсам усяго нашага жыцця і барацьбы, усім нашым святым сцягам».

Урачыстасць працягвалася і 27 верасня. У Мінску адбылася маніфестацыя моладзі і спартыўнае свята, прысвечанае 50-годдзю ЛКСМБ. «Такое абавязкова трэба бачыць»,—пісалі рэпарцёры ва ўсіх рэспубліканскіх газетах.

Ля помніка на плошчы Перамогі на працягу ўсіх дзён юбілейнай урачыстасці стаяла ганаровая піянерская варта. А ў нядзелю сюды прыйшлі маніфестанты.

12.00. Гучаць фанфары. Юнак у алым гарнітуры, які сімвалізуе рэвалюцыю, запальвае ад Вечнага агню факел. Гараць 50 факелаў у руках камсамольцаў—

сімвал прадстаўнікоў усіх пакаленняў. Затым шматлікая калона моладзі накіроўваецца да плошчы Леніна.

Піянеры з кветкамі, ветэраны камсамола, удзельнікі ўрачыстага пленума, ударнікі камуністычнай працы, прадстаўнікі розных прафесій з усіх раёнаў сталіцы—усе калонамі ішлі па праспекце. На працягу ўсяго шляху маніфестантаў цёпла віталі тысячы мінчан і гасцей. Маніфестацыю суправаджаў радыёрасказ аб поспехах беларускага камсамола, аб героях-камсамольцах, якія аддалі сваё жыццё за шчасце Радзімы, аб сённяшніх справах камсамоліі.

Плошча імя Леніна. Калоны маніфестантаў выстройваюцца перад помнікам Ільічу.

Удзельнікі маніфестацыі запальваюць 50 свяцільнікаў, ставяць да падножжа помніка У. І. Леніну карзінкі з кветкамі.

Да мікрафона падыходзіць першы сакратар Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі У. І. Падрэз. Ён зачытвае тэкст клятвы ўдзельнікаў маніфестацыі ў гонар 50-годдзя ЛКСМБ:

«Камсамольцы і моладзь, юнацтва Савецкай Беларусі!

У момант выпрабаванняў і ва ўрачысты момант мы заўсёды звяртаемся да вялікага Леніна—да крыніцы нашай волі і думкі, нашай сілы і перамог.

Светлай памяццю загінуўшых у барацьбе за нашу савецкую Айчыну служыць ёй беззапаветна і заўсёды

Клянёмся!

Ратнай мужнасцю байцоў рэвалюцыі, працоўнай доблесцю бацькоў і маці рок нашых вучыцца, працаваць і жыць па Леніну

Клянёмся!

Алым сцягам рэвалюцыі мацаваць нястомна і надалей непарушнае братэрства і дружбу народаў краіны Саветаў

Клянёмся!

На сцягу камсамола рэспублікі—ордэн Леніна. Быць дастойным яго, заўсёды ісці ў шэрагах авангарда праз гарачыя, яркія дні пяцігодак

Клянёмся!

Камсамольцы і моладзь! Юнацтва Савецкай Беларусі!

Мы, як заўсёды,—на маршы.

Наперадзе—новая гістарычная вяха—XXIV з'езд роднай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза!

Прыйсці да яго з гонарам! Пераможна—у працы і вучобе.

Залогам таму—уся біяграфія Ленінскага камсамола. І неадступны яго рух за партыяй да вышэйшай мэты—да камунізма!

Нязгаснай славе нашых перамог, справе Леніна, справе партыі адданымі быць, пакуль б'юцца нашы сэрцы,

Клянёмся!»

Апошнія словы клятвы дружна падхопліваюць ўдзельнікі маніфестацыі.

Затым свята было перанесена на мінскі стадыён «Дынама». Сюды прыйшлі тысячы мінчан. Гукі фанфар падхоплівае зводны аркестр Чырванасцяжнай Беларускай Ваеннай акругі. І ў тое ж імгненне на фоне, якім стала ўсходняя трыбуна, успыхваюць лічбы «1920» ,«50», а затым словы—«ЛКСМ», «БССР». Урачысты парад адкрывае маляўнічая калона сцяганосцаў. Развяваюцца бела-блакітныя сцягі спартыўнага таварыства «Дынама». Услед за дынамаўцамі міма трыбун у чоткім страі ідзе калона ордэна Леніна таварыства «Спартак», воінаў-спартсменаў.

На дарожцы спартсмены добраахвотнага спартыўнага таварыства прафсаюзаў Беларусі «Чырвоны сцяг». Гэтае таварыства аб'ядноўвае буйнейшыя вытворчыя калектывы фізкультуры. Яно самае маладое ў рэспубліцы, але ўжо сёння ў секцыях па 43 відах спорту займаецца больш 400 тысяч юнакоў і дзяўчат. Авангард калектыву складае 500 майстроў спорту.

Ідуць калоны «Лакаматыва», «Ураджаю».

Перад Цэнтральнай трыбунай—калона «Працоўныя рэзервы». Будучыя майстры вытворчасці не толькі набываюць прафесіянальныя навыкі, але і атрымліваюць фізічную загартоўку. На прафсаюзнай спартакіядзе прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў спартсмены Беларусі заваявалі 26 залатых, 22 сярэбраныя, 21 бронзавую медалі за поспехі ў асабістых спаборніцтвах, 10—за камандныя поспехі.

На дарожцы стадыёна—спартсмены-дтсаафаўцы. Экзаменам на сталасць для іх з'явілася рэспубліканская спартакіяда па ваенна-тэхнічных відах спорту, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. У спаборніцтвах па авіяцыйным, аўтамабільным, матацыклетным, радыё, стралковым, парашутным, падводным і іншых відах спорту ўдзельнічала больш 600 тысяч юнакоў і дзяўчат.

Ідуць прадстаўнікі студэнцкага таварыства «Буравеснік». У шэрагах гэтага таварыства—шасціразовы чэмпіён свету, алімпійскі чэмпіён, заслужаны майстар





спорту Аляксандр Мядзведзь. «Буравеснік» называюць камсамольскім спартыўным таварыствам: 95 працэнтаў членаў гэтага таварыства—камсамольцы.

Марш-парад закончаны. Спартсмены паказваюць сваё майстэрства, дэманструюць сілу і спрыт.

Фінал свята вянчае шматгалосая здравіца ў гонар ордэна Леніна Чырванасцяжнага камсамола Беларусі, у гонар Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Гэты дзень запомніцца надоўга. Гэтае свята застанецца назаўсёды ў гісторыі Ленінскага камсамола Беларусі.

І зноў працоўныя будні. І напружаная вучоба. Камсамол рэспублікі разам з усім савецкім народам ішоў насустрач XXIV з'езду КПСС.

## ПЛАНЫ ПАРТЫІ—У ЖЫЦЦЁ

Моладзь рэспублікі энергічна ўключылася ў сацыялістычнае спаборніцтва, якое шырока разгарнулася пад дэвізам: «Зробім кожны перадз'ездаўскі дзень днём ударнай работы і выдатнай вучобы». Больш 600 тысяч маладых патрыётаў паспяхова ўдзельнічалі ў працы, змагаючыся за ўзяцце намечаных рубяжоў. Звыш 400 тысяч юнакоў і дзяўчат датэрмінова выканалі свае перадз'ездаўскія абавязацельствы. Фонд эканоміі, створаны камсамольцамі, склаў 43 мільёны рублёў. Юнакі і дзяўчаты рэспублікі з гонарам здалі экзамен на палітычную сталасць—усесаюзны Ленінскі залік «Мы справе Леніна і партыі верныя».

Ударныя тэмпы, энтузіязм і творчы запал—характэрныя для дзён, што папярэднічалі XXIV з'езду КПСС. Толькі мінскія трактарабудаўнікі ў завяршаючым годзе восьмай пяцігодкі далі звышпланавай прадукцыі на 1.200 тысяч рублёў, выпусцілі звыш плана 150 трактароў. «Кожны дзень з кожнай машыны—звышпланавую прадукцыю!»—пад такім дэвізам працавалі камсамольцы трэцяй змены Аршанскага льнокамбіната. Сапраўдны працоўны подзвіг праявіла камсамольска-маладзёжная брыгада Яўгена Серафімовіча, якая на будаўніцтве Магілёўскага камбіната сінтэтычнага валакна за сто дзён працоўнай вахты выканала дзевяць месячных нормаў.

На прадпрыемствах, будоўлях, у калгасах і саўгасах шырока разгарнуўся рух за высокую прадукцыйнасць працы. За 15 дзён, напрыклад, было даручана зрабіць абшыўку вежы камсамольска-маладзёжнай брыгадзе Алега Катаева на будаўніцтве Гомельскага хімічнага завода. Хлопцы кожны дзень давалі па тры нормы і выканалі заданне за 5 дзён.

Далейшае развіццё набыў масавы рух сярод моладзі. «Сучасныя навукова-тэхнічныя веды—кожнаму!», «Ад тэхмінімума—да тэхмаксімума!»

У перадз'ездаўскія дні ў рэспубліцы працавалі 6,5 тысячы творчых брыгад на новай тэхніцы, грамадскіх канструктарскіх і тэхналагічных бюро, саветаў маладых спецыялістаў, бюро эканамічнага аналізу. Асаблівая ўвага надавалася захаванню найстражэйшага рэжыму эканоміі. Моладзь Гомельшчыны падтрымала пачын рабочых завода «Электраапаратура» працаваць у дні з'езда на сэканомленай сыравіне. «Кожны месяц працаваць дзве змены на сэканомленай сыравіне!»—гэтая ініцыятыва нарадзілася на Брэсцкім панчошным камбінаце.

Камітэты камсамола сканцэнтравалі сваю ўвагу на пытаннях барацьбы за павышэнне якасці выпускаемай прадукцыі. «Сёння зрабі лепш, чым учора, а заўтра—лепш, чым сёння»—пад такім дэвізам працавалі маслаблокаўцы Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода. Амаль што кожны малады рабочы, заняты на комплексе маслаблока,—рацыяналізатар.

Вялікіх поспехаў дамагліся ў перадз'ездаўскім спаборніцтве маладыя працаўнікі вёскі. Звыш васьмі тысяч маладзёжных механізатарскіх брыгад, атрадаў і звенняў, калектываў жывёлагадоўчых фермаў удзельнічалі ва ўсесаюзным сацыялістычным спаборніцтве за высокую культуру земляробства і жывёлагадоўлі.

У ліку пераможцаў—маладзёжны калектыў жывёлагадоўчай фермы ў вёсцы Зайцава (калгас імя Кірава Віцебскага раёна), якая носіць ганаровае званне фермы камуністычнай працы. Сярэдні надой малака на адну карову тут склаў 3400 кілаграмаў. План восьмай пяцігодкі калектыў выканаў да 7 лістапада 1970 года.

Толькі ў Аршанскім раёне па ініцыятыве камсамольцаў калгаса імя Заслонава і саўгаса «Бабінічы» было створана 15 камсамольска-маладзёжных калектываў па вырошчванні прапашных культур і 39—па нарыхтоўцы ўгнаенняў. Усе яны выканалі і перавыканалі ўзятыя абавязацельствы.

Шмат увагі аддалі сельскія камсамольскія арганізацыі пытанням будаўніцтва жывёлагадоўчых памяшканняў, накіраванню моладзі на работу ў жывёлагадоўлю. Напрыклад, камсамольцы Столінскага раёна аб'явілі шэфства над 82 сельскагаспадарчымі будоўлямі, у іх ліку над 20-цю жывёлагадоўчымі будынкамі.

Звыш трох тысяч юнакоў і дзяўчат у мінулым годзе па пуцёўках камсамола рэспублікі прыйшлі працаваць у жывёлагадоўлю. У адным страі з рабочымі і кал-

гаснікамі ішлі маладыя вучоныя і артысты, мастакі і рэжысёры, студэнты і школьнікі. «Нашы веды, творчасць і вучоба—табе, партыя»,—так коратка можна выказаць думкі і справы, з якімі яны ішлі да XXIV з'езда КПСС.

Падрыхтоўка да XXIV з'езда КПСС з'явілася баявым аглядам сіл і згуртаванасці моладзі вакол Камуністычнай партыі, гатоўнасці юнакоў і дзяўчат да новых працоўных здзяйсненняў. Камсамол Беларусі гэтую праверку вытрымаў з гонарам.

«Нас сёння—мільён!»—пад такім аншлагам выйшлі 10 лютага 1970 года газеты «Чырвоная змена» і «Знамя юности». Друк, радыё, тэлебачанне рэспублікі ў гэты дзень прысвяцілі спецыяльныя выпускі нашым равеснікам, байцам мільённай арміі беларускай камсамоліі, расказвалі пра яе справы ў перадз'ездаўскія дні.

«...Прашу пярвічную камсамольскую арганізацыю прыняць мяне ў шэрагі ВЛКСМ. Ідучы насустрач XXIV з'езду КПСС, хачу быць камсамолкай. Абавязуюся ўсе ўскладзеныя на мяне абавязкі выконваць з гонарам». Гэта заява зборшчыцы плацінавага цэха Мінскага гадзіннікавага завода Марыі Даўгалевіч. Такіх заяў у перадз'ездаўскія дні было вельмі многа. За люты-сакавік 41.678 маладых рабочых, калгаснікаў і вучняў было прынята ў камсамол.

Дзесяць дзён увага савецкай моладзі была прыкавана да работы вышэйшага партыйнага форума. Зноў і зноў звяралі юнакі і дзяўчаты свае думкі і справы з рашэннямі, якія прымае партыя.

XXIV з'езд КПСС выклікаў у маладых ленінцаў новы прыліў творчай энергіі, імкненне аддаць свае сілы, энтузіязм актыўнаму ўдзелу ў камуністычным будаўніцтве. Яркім сведчаннем гэтага з'явіўся ўсесаюзны камуністычны суботнік 17 красавіка. Больш мільёна юнакоў і дзяўчат рэспублікі паказалі ў гэты дзень узоры сапраўднай камуністычнай працы. Сотні тысяч рублёў, зароблены на суботніку, увайшлі ў агульны фонд эканоміі новай пяцігодкі.

Высокая ацэнка, дадзеная партыяй камсамолу, акрыліла юнацтва на новыя здзяйсненні.

Задачы юнакоў і дзяўчат па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС абмеркаваны на пленуме ЦК ЛКСМБ, пленумах і сходах актыву абкомаў, гаркомаў, райкомаў і камітэтаў камсамола, ва ўсіх пярвічных камсамольскіх арганізацыях, на Усесаюзным сходзе, які праходзіў з 3-га па 10-е мая.

Выконваючы гэтыя задачы, маладыя рабочыя круцільна-матальнага цэха Гродзенскай баваўняна-прадзільнай фабрыкі выбралі для сябе баявы дэвіз: «Пяцігодку—за чатыры гады!» Звыш 800 юнакоў і дзяўчат Брэсцкага электрамеханічнага завода сталі паслядоўнікамі пачыну маладога камуніста Барыса Юзафовіча, які абавязаўся асабістую пяцігодку завяршыць на год раней тэрміну, а заданні пяці дзён выконваць за чатыры. Шырокую падтрымку на Мінскім трактарным заводзе атрымаў пачын токара кавальскага цэха Мікалая Няверкі, які рашыў выканаць пяцігодку за 3,5 гады—да 50-годдзя з дня прысваення камсамолу імя У. І. Леніна. Новыя павышаныя абавязацельствы ўзялі на сябе хімікі Наваполацка і шахцёры Салігорска, працаўнікі «Лаўсанбуда» і нафтавікі Рэчыцы, жодзінскія аўтамабілебудаўнікі і віцебскія ткачы. Каб гэтыя абавязацельствы былі выкананы, камітэты камсамола робяць усё для стварэння маладым рабочым добрых умоў і творчай абстаноўкі, якія з'яўляюцца залогам высокапрадукцыйнай працы. Распрацоўваюцца канкрэтныя праграмы ўдзелу ў выкананні пяцігадовага плана, тэхнічнага пераўзбраення вытворчасці, павышэння прафесіянальнага майстэрства, тэхнічнай творчасці юнакоў і дзяўчат.

Пачын масквічоў і ленінградцаў «Пяцігодцы—ударная праца, майстэрства і пошук маладых» горача падтрымалі камсамольцы і моладзь рэспублікі. Асаблівую ўвагу камітэты камсамола аддаюць пытанням выхавання маладога рабочага, павышэння яго прафесіянальнага майстэрства і тэхнічнага ўзроўню.

Савет маладых спецыялістаў Гомельскага завода пускавых рухавікоў выступіў з ініцыятывай: разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва за паскарэнне тэхнічнага прагрэсу і аказанне рабочым дапамогі ў павышэнні вытворча-тэхнічных ведаў. У выніку новыя сотні маладых рабочых сталі ўдзельнікамі тэхнічнага ўсенавуча, павысілася іх актыўнасць. Ужо сёлета прадукцыйнасць працы павысілася на 2,1 працэнта, працаёмкасць вырабаў знізілася на 71,5 тысячы норма-гадзін; мяркуецца дадаткова атрымаць 55 тысяч рублёў прыбытку.

Абмяркоўваючы задачы на новую пяцігодку, камсамольцы Мінскага трактарнага завода за кошт павышэння прадукцыйнасці працы абавязаліся забяспечыць прырост вытворчасці на 5—7 працэнтаў. Важную ролю пры гэтым будзе адыгрываць шэфства маладых трактаразаводцаў над новай тэхнікай, прагрэсіўнай тэхналогіяй.

«...Выкарыстанне ўсіх рэзерваў, умацаванне рэжыму эканоміі, барацьба з безгаспадарчасцю, марнатраўствам і празмернасцямі—гэта не кароткачасовая кампанія,—падкрэсліваў на XXIV з'ездзе КПСС Л. І. Брэжнеў.—Гутарка ідзе аб адным з важнейшых напрамкаў штодзённай дзейнасці партыйных, савецкіх, гаспадарчых, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый. Работу на гэтым напрамку трэба ўсямерна ўзмацняць».





Выконваючы ўказанні партыі, камсамольскія арганізацыі змагаюцца за эканомію сыравіны і матэрыялаў, за рацыянальнае выкарыстанне працоўных рэсурсаў, за стварэнне «камсамольскага фонду эканоміі». Большасць камітэтаў камсамола ўкаранілі метад мінскіх трактаразаводцаў па арганізацыі эканамічнага ўсенавуча моладзі. Усё большая колькасць юнакоў і дзяўчат рэспублікі ўдзельнічае ў рацыяналізацыі і вынаходніцтве.

У рашэннях з'езда партыі асабліва акцэнтуецца ўвага на пытаннях павышэння якасці прадукцыі. Камсамол рэспублік ў гэтым плане робіць многае. Маладыя рабочыя 4-й змены ткацкага цэха Полацкага завода шкловалакна змагаюцца за прысваенне ім звання калектыву выдатнай якасці. Камсамольцы мінскага прыборабудаўнічага завода імя У. І. Леніна вызначылі свае рубяжы—98 працэнтаў прадукцыі здаваць з першага прад'яўлення, дамагчыся, каб тэлевізару «Зорка-202» быў прысвоены дзяржаўны Знак якасці. На мінскім абутковым вытворчым аб'яднанні «Прамень» звыш 2,5 тысячы юнакоў і дзяўчат авалодалі дзвюма і больш сумежнымі спецыяльнасцямі. Цяпер у цэхах дзейнічае 582 камсамольскія пасты па якасці.

Робіцца шмат, але яшчэ большая работа наперадзе. Невыпадкова, абмяркоўваючы задачы камсамола рэспублікі па ўдзеле ў выкананні рашэнняў партыйнага з'езда, VI пленум ЦК ЛКСМБ падкрэсліў, што барацьба за якасць, стварэнне абстаноўкі нецярпімасці вакол бракаробаў, умацаванне ў свядомасці маладых рабочых высокай адказнасці за сваю працу павінны стаць галоўным напрамкам работы камсамольскіх арганізацый.

Новая пяцігодка—гэта пяцігодка новабудоўляў. Баявой справай камсамола Беларусі ў бліжэйшыя пяць гадоў будзе збудаванне такіх важных аб'ектаў, як Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна, Лукомльская ДРЭС, Мазырскі нафтаперапрацоўчы і Гомельскі хімічны заводы, меліярацыя беларускага Палесся. Пасланцы нашай рэспублікі будуць працаваць на будаўніцтве Лебядзінскага горнаўзбагачальнага камбіната, Волжскага і Камскага аўтазаводаў, Чалябінскага трактарнага, Амурскага машынабудаўнічага і Эльбанскага механічнага заводаў, марскіх портаў і прычалаў. Больш 15 тысяч юнакоў і дзяўчат з пуцёўкамі беларускага камсамола прыедуць за пяцігоддзе на ўдарныя камсамольскія будоўлі краіны і рэспублікі.

XXIV з'езд КПСС выпрацаваў канкрэтную праграму далейшага развіцця сельскай гаспадаркі. Удзельнічаючы ў яе выкананні, камсамол вёскі прыкладае сілы і энергію для павышэння культуры земляробства, ураджайнасці палёў, укаранення перадавой тэхналогіі. Адной з галоўных задач, як і раней, з'яўляецца вытворчасць збожжа.

Камсамольскія арганізацыі вёскі вызначылі канкрэтныя планы ўдзелу ў масавым сацыялістычным спаборніцтве моладзі «Жывёлагадоўля—ударная справа камсамола». Сотні сваіх лепшых прадстаўнікоў накіруе камсамол рэспублікі ў гэту галіну сельскай гаспадаркі. Ужо зараз шырокую падтрымку сярод сельскай моладзі атрымаў пачын нарміроўшчыцы саўгаса «Новыя Зялёнкі» Чэрвеньскага раёна Святланы Маркавай, якая па камсамольскай пуцёўцы наважыла пайсці працаваць на жывёлагадоўчую ферму. А сёння толькі на Гродзеншчыне працуе 2 308 маладых жывёлаводаў. Між іх—630 даярак, 585 свінарак і 430 цялятніц.

Тэхнічны ўсенавуч юнакоў і дзяўчат вёскі камсамол рэспублікі разглядае як адно з самых адказных даручэнняў партыі.

Уздым сельскай гаспадаркі, адзначалася на XXIV з'ездзе КПСС, залежыць не толькі ад працаўнікоў вёскі, але і ад намаганняў работнікаў прамысловасці, дзеячоў навукі і тэхнікі. З добрай ініцыятывай выступілі камсамольцы рэспубліканскага аб'яднання «Белсельгастэхніка». Яны звярнуліся да ўсёй моладзі заводаў, якія вырабляюць запасныя часткі да сельгасмашын, забяспечыць неабходнымі дэталямі аўтатранспартны парк рэспублікі. Гэты заклік падтрымалі маладыя аўтазаводцы, рабочыя Мінскага падшыпнікавага завода, Гродзенскага завода карданных валоў, Гомельскага завода пускавых рухавікоў, «Гомсельмаша» і іншых прамысловых прадпрыемстваў.

ЦК ВЛКСМ аб'явіў грамадскі заклік моладзі ў лёгкую і харчовую прамысловасць, у гандаль і сферу абслугоўвання. Дзесяткі тысяч пісьменных, кваліфікаваных маладых энтузіястаў накіруе за пяцігоддзе рэспубліканская камсамольская арганізацыя. Шырокае развіццё набудзе рух: «Лёгкай і харчовай прамысловасці, сферы абслугоўвання—камсамольскі клопат». Камітэты камсамола ствараюць новыя камсамольска-маладзёжныя калектывы, змены, укараняюць прагрэсіўныя формы работы.

Значна актывізавалася дзейнасць камітэтаў камсамола па выкананні рашэнняў V пленума ЦК ЛКСМБ, які разгледзеў у лютым 1971 года пытанне аб задачах камсамольскіх арганізацый рэспублікі па паляпшэнні марксісцка-ленін-

скай адукацыі камсамольцаў і моладзі ў святле пастановы XVI пленума ЦК КП Беларусі.

Настольнай кнігай пазнання сучаснасці, падручнікам камуністычнага будаўніцтва, ключом да класавага разумення складаных сучасных праблем для маладых людзей з'яўляюцца матэрыялы XXIV з'езда КПСС. Таму прапаганда іх і вывучэнне займаюць цэнтральнае месца ў ідэйна-палітычнай рабоце камсамола рэспублікі. Яны стануць прадметным урокам на ўсесаюзным Ленінскім заліку, які па рашэнні IV пленума ЦК ВЛКСМ будзе праводзіцца штогод з падвядзеннем вынікаў да дня нараджэння У. І. Леніна. Авалоданне ленінізмам, падкрэсліў XXIV з'езд ЛКСМБ і XVI з'езд ВЛКСМ, і надалей будзе сэрцавінай усёй работы камсамольскіх арганізацый. Юнакі і дзяўчаты гаспяхова выконваюць гэтае патрабаванне.

Традыцыі партыі, савецкага народа для нашага пакалення—гэта невычарпальная крыніца мужнасці, гераізму, самаахвяравання, бязмежнай адданасці Айчыне.

«Усё, што зроблена народам, павінна быць надзейна абаронена. Умацоўваць Савецкую дзяржаву—гэта значыць умацоўваць і яе Узброеныя Сілы, усямерна павышаць абараназдольнасць нашай Радзімы»,—гаворыцца ў справаздачным дакладзе ЦК КПСС XXIV з'езду партыі.

Сумесна з ДТСААФ, ваеннымі камісарыятамі камітэты камсамола рэспублікі праводзяць вялікую работу па падрыхтоўцы моладзі да службы ва Узброеных Сілах СССР, прывіццю падрастаючаму пакаленню любві да воінскіх прафесій. Тысячы школьнікаў аб'ядноўваюць сёння атрады «Юных сяброў Савецкай Арміі» і «Юных сяброў пагранічнікаў». Пры актыўным удзеле воінаў створаны і працуюць ваенна-спартыўныя лагеры, ваенна-тэхнічныя гурткі. Шырокае распаўсюджанне набылі «дні прызыўніка», універсітэты і лекторыі маладога воіна, спартакіяды прызыўной моладзі.

Вялікую работу праводзяць камсамольскія арганізацыі па ўзнаўленні славы гераічных подзвігаў савецкіх людзей. Так, члены клуба «Гвардзеец» Пружанскай сярэдняй школы на Брэстчыне адшукалі імёны 1700 воінаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі вобласці. Новыя старонкі бессмяротнага подзвігу, мужнасці адкрываюць энтузіясты ў чарговым этапе Усесаюзнага паходу, які прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. Удзел у паходзе дапаможа моладзі выконваць ленінскі запавет вучыцца камунізму.

Цяпер юнакі і дзяўчаты рэспублікі рыхтуюцца да новага ваенна-тэхнічнага экзамена, які адбудзецца ва ўсіх камсамольскіх арганізацыях у 1972 годзе.

Быць інтэрнацыяналістамі, выхоўваць у кожным з нас святое пачуццё салідарнасці з працоўнымі ўсяго свету—гэтаму вучыў нас У. І. Ленін. Моладзь рэспублікі на справе здзяйсняе вялікі ленінскі запавет. Прапаганда поспехаў нашай дзяржавы, дасягненняў навукі, культуры, вывучэнне твораў класікаў марксізма-ленінізма па нацыянальным пытанні, практычнай дзейнасці КПСС і Савецкай дзяржавы па ўмацаванні непарушнай дружбы народаў СССР, падрыхтоўка да Усесаюзнага фестывалю моладзі—канкрэтны адказ камсамола на рашэнні партыі па дастойнай сустрэчы 50-годдзя ўтварэння СССР.

«Камсамол, юнакі і дзяўчаты Беларусі,—гаворыцца ў пісьме Цэнтральнаму Камітэту КПСС удзельнікаў VI пленума ЦК ЛКСМБ, які абмяркоўваў задачы камсамола рэспублікі ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС,—зробяць усё, каб з гонарам выканаць заданні партыі, будуць і надалей упэўнена ісці ў адзіным маналітным страі з камуністамі да запаветнай мары чалавецтва—камунізма. Усю сваю працавітасць, запал камсамольскіх сэрцаў, нястомную энергію аддадзім на карысць і росквіт нашай любімай Радзімы».

Справы юнакоў і дзяўчат рэспублікі—яркае пацвярджэнне таго, што слова сваё яны ўмеюць трымаць. Камсамольцы, моладзь уносяць важкі ўклад у барацьбу за выкананне праграмы новай пяцігодкі. Рэспубліканская і Мінская абласная камсамольскія арганізацыі па выніках першых двух кварталаў 1971 года ўзнагароджаны пераходным Чырвоным Сцягам ЦК ВЛКСМ.

Для таго каб замацаваць поспех, з гонарам выканаць узятыя абавязацельствы, камітэты камсамола ўдасканальваюць стыль і формы работы; усюды праводзіцца вялікая работа па арганізацыйна-палітычным ўмацаванні камсамольскіх арганізацый. Наперадзе—гады самаадданай працы з поўнай аддачай сіл, энергіі і таленту.

«Планы партыі—у жыццё!»—баявы дэвіз двойчы ардэнаноснага камсамола Беларусі.






# 1971

## ЛІСТАПАД

**7**

**54-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі (1917).**

**7**

75 гадоў з дня нараджэння (1896) Міхася Чарота (М. С. Кудзелькі), вядомага беларускага паэта. Памёр у 1938 г.

**8**

40 гадоў назад (1931) у Мінску адкрыты новы будынак Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна.

**10**

25 гадоў назад (1946) была адкрыта двухгадовая партыйная школа пры ЦК КП Беларусі (цяпер Мінская вышэйшая партыйная школа).

**11**

90 гадоў з дня нараджэння (1881) В. А. Яфімава, беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Памёр у 1955 г.

**20**

70 гадоў з дня нараджэння (1901) Міхася Зарэцкага (М. Я. Касянкова), беларускага пісьменніка. Памёр у 1941 г.

**21**

45 гадоў з дня адкрыцця (1926) у Віцебску другога Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра. У 1945 г. тэатру прысвоена імя Якуба Коласа.

**22**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) П. І. Валкадаева, пісьменніка.

90 гадоў назад (1881) нарадзіўся А. І. Кайгародаў, вучоны-геафізік, акадэмік Акадэміі навук БССР. Памёр у 1951 г.

40 гадоў назад (1931) адбыўся І Усебеларускі з'езд жанчын-калгасніц.

Міхась Чарот.



В. А. Яфімаў.



Міхась Зарэцкі.



Бібліятэка імя У. І. Леніна.





**1926 год.** Злева направа: **К. Н. Таўсталес, У. І. Пічэта, А. А. Бурдзейка, Т. І. Забела (аспірант У. І. Пічэты па БДУ).**

# ПЕРШЫ РЭКТАР

28 студзеня 1919 г. быў апублікаваны падпісаны У. І. Леніным дэкрэт Савета Народных Камісараў, які прадугледжваў заснаванне ў шэрагу гарадоў краіны дзяржаўных універсітэтаў.

25 лютага 1919 г. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў пастанавіў адкрыць дзяржаўны ўніверсітэт у г. Мінску і на першыя патрэбы па яго арганізацыі адпусціць са сродкаў рэспублікі 1 мільён рублёў. Для падрыхтоўчай работы па арганізацыі БДУ была створана камісія, якую ўзначаліў акадэмік Я. Ф. Карскі. У склад камісіі ўваходзіў А. Ф. Мяснікоў, які быў у той час старшынёй ЦВК БССР.

Але падрыхтоўчая работа па стварэнні ўніверсітэта была перапынена замежнай інтэрвенцыяй і аднавілася толькі пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў. У Маскве актывізавала сваю работу камісія садзейнасці арганізацыі Беларускага ўніверсітэта пры Народным Камісарыяце асветы РСФСР. Вялікую ўвагу гэтай справе ўдзялілі Народны Камісар асветы РСФСР А. В. Луначарскі і яго намеснік прафесар М. М. Пакроўскі. У склад камісіі ўваходзілі прафесары В. П. Волгін, У. І. Пічэта, Д. М. Пранішнікаў, М. А. Янчук, Л. С. Мінор, М. Б. Кроль, А. М. Беркенгейм.

27 снежня 1920 г. група членаў маскоўскай камісіі прыбыла ў Мінск і адзначыла поўную магчымасць адкрыць БДУ ў 1921 г. Цэнтральнае бюро КП(б)Б і ўрад БССР прызналі неадкладным стварэнне Беларускага ўніверсітэта. Пры ЦВК БССР была створана аператыўная група з пяці чалавек, якая ўзначаліла ўсю арганізацыйную работу. Адначасова сумесным рашэннем Савета Народных Камісараў БССР і Народнага Камісарыята асветы БССР была ўтворана ў Маскве на правах часовага праўлення ўніверсітэта група з трох чалавек. Яе ўзначаліў прафесар У. І. Пічэта.

З першых крокаў камісіі па стварэнні БДУ на чале з У. І. Пічэтам аказалі вялікую дапамогу кіраўнікі Камуністычнай партыі і ўрада Савецкай Беларусі — адказны сакратар Цэнтральнага Бюро КП(б)Б В. Г. Кнорын і старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта А. Р. Чарвякоў. Адчуваючы такую моцную падтрымку, У. І. Пічэта з вялікім запалам бярэцца за работу. Каб забяспечыць доступ ва ўніверсітэт рабочым і сялянам, у чэрвені 1921 г. адкрываецца першы факультэт БДУ — рабфак. 30 кастрычніка 1921





года адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, 1 лістапада 1921 года пачаліся заняткі на ўсіх факультэтах.

На першым часе кіраўнікам універсітэта прыйшлося пераадолець вялікія цяжкасці. Але бадзёрасць, аптымізм, кіпучая энергія Уладзіміра Іванавіча Пічэты аказвала вялікі ўплыў на першых арганізатараў і выкладчыкаў БДУ. Адзін з бліжэйшых саратнікаў У. І. Пічэты акадэмік С. Я. Вальфсон у сваіх успамінах пісаў: «...У пакойчыку 15 прафесараў і выкладчыкаў, заўтра — 30 кастрычніка 1921 г. ...Папялявая — соль і перац — шавялюра Уладзіміра Іванавіча Пічэты. У. І. гаворыць доўга і з захапленнем. Задачы ўніверсітэта. Цяжкасць працы. Характарыстыкі асобных працаўнікоў. Заклікі да дружнай сумеснай дзейнасці. Нам належыць зрабіць вялікую гістарычную справу. Будзем яе сумесна тварыць...

У другім кутку — вялікі вучоны М. А. Янчук, буйнейшы знаўца беларускай літаратуры і выдатны этнограф. ...У актавай зале я сустрэўся з рэктарам. У. І. самотна блукаў па велізарным пустым пакоі, у якім праз гадзіну павінна было загарэцца ўніверсітэцкае жыццё. «Ведаеце, скора пачнуць ужо збірацца студэнты, а глядзіце, што робіцца...» ... Малюнак сапраўды быў не з тых, што натхняюць. Перш за ўсё актавая зала была зусім пустая. Як жа быць? У калідорчыку, што прымыкаў да залы, было звалена некалькі дзесяткаў лавак і табурэтак, прынесеных напярэдадні з Наркамасветы. У будынку нікога не было — ні служачых, ні ўборшчыкаў. Уладзімір Іванавіч сказаў: «Трэба спяшацца. Давайце будзем самі наводзіць парадак».

Мы ўзяліся перацягваць і расстаўляць лаўкі, знайшлі невялічкі столік, які знаходзіўся ў няўстойлівай раўнавазе, і дастасавалі яго да кафедры. Я намаляваў плакат чырвона-сінім алоўкам: «Аўдыторыя № 1. Уваход у час лекцый забараняецца» і прыладзіў яго ля дзвярэй...

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт нарадзіўся... Праўда, умовы яго існавання ў першыя месяцы былі суровыя. Аўдыторыі нярэдка ўяўлялі соценны натоўп, які стаяў пасярод чатырох сцен і напружана слухаў лектара. Стаялі студэнты — не было лавак, стаяў прафесар — не было крэсла. У галёшах, у паліто, у кажухах, некаторыя з паднятымі каўнярамі. А ў факультэцкай канцылярыі пісалі ў пальчатках і алоўкамі: чарніла замярзала.

Але ўніверсітэт жыў...»

Па ініцыятыве У. І. Пічэты ў якасці выкладчыкаў БДУ запрашаліся лепшыя вучоныя з усёй краіны, чые навуковыя працы былі звязаны з Беларуссю, а таксама беларускія вучоныя, якія жылі за межамі Савецкай Беларусі. З восені 1923 года пачынае выкладаць ва ўніверсітэце беларускую мову Якуб Колас, з 1925 года — беларускі вучоны-лінгвіст Пятро Апанасавіч Бузук.

У. І. Пічэта карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам сярод выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта. Марыя Адзярыха, якая вучылася на факультэце грамадскіх навук БДУ (інспектар-метадыст Міністэрства асветы БССР, цяпер персанальны пенсіянер), расказвае: «Я ніколі не забуду нашага рэктара Пічэту. Ён быў выдатным арганізатарам і чалавекам высокай культуры. Ён змог згуртаваць калектыў. Асабліва выдатнымі былі лекцыі Уладзіміра Іванавіча Пічэты на ФГН (факультэце грамадскіх навук) па гісторыі рускага права. Калі звінеў званок, ніхто не хацеў падымацца з месца... Вельмі часта мы бачылі яго на суботніках».

Адзін з першых выпускнікоў БДУ Іван Емяльянавіч Лакін (рэктар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, цяпер загадчык кафедры гісторыі пе-







**Прафесар Аркадзь Антонавіч Смоліч, прафесар Іван Іванавіч Замоцін, прафесар В. Д. Дружыц.**

дагогікі) успамінае: «Я быў старастай курса, і мне часта прыходзілася сустракацца з Уладзімірам Іванавічам Пічэтам. Лектар ён быў эрудыраваны, высокакваліфікаваны. Чытаў захапляюча, эмацыянальна. Слухалі яго з задавальненнем. На лекцыях Уладзіміра Іванавіча было заўсёды поўна студэнтаў.

Па натуры гэта быў чалавек гуманны, даступны, вельмі энергічны, рухавы, таварыскі».

Кандыдат гістарычных навук Людміла Мікалаеўна Прэабражэнская, якая вучылася ў БДУ ў 1922—1927 гг., расказвае: «У той час была вялікая нястача тавараў шырокага спажывання. У многіх аўдыторыях універсітэта нехапала электрычных лямпачак. Часта ездзячы ў Маскву, У. І. Пічэта, наш першы рэктар, прывозіў вялікія электрычныя лямпачкі ў сябе ў партфелі і ўкручваў іх у аўдыторыях.

Студэнты бачылі, што Уладзімір Іванавіч усяго сябе аддае ўніверсітэту, і за гэта паважалі яго яшчэ больш. Пічэта быў грамадскім дзеячам і вялікім вучоным. Канчаецца дзень, а ён усё ходзіць па кабінеце і дыктуе машыністцы артыкул або кнігу».

Улюбёны ў навуку, Пічэта ўсяляк заахвочваў навуковую работу сярод студэнтаў. Вядомы савецкі гісторык, прафесар Мікалай Мікалаевіч Улашчык, які вучыўся ва ўніверсітэце ў сярэдзіне 20-х гадоў, успамінае: «У 1924 годзе ў БДУ арганізаваўся краязнаўчы гурток, а ў 1925 г. Уладзімір Іванавіч пазваў мяне і выказаў жаданне стаць старшынёй гуртка. У 1926 годзе ўпершыню ў гісторыі ўніверсітэта я і С. Шутаў арганізавалі першую студэнцкую археалагічную экспедыцыю на Ніжнюю Свіслач. З восені 1926 года краязнаўчы гурток быў пераўтвораны ў студэнцкае краязнаўчае таварыства з цэлым шэрагам секцый. У 1927 годзе яно арганізавала масавую экспедыцыю ў Тураўскі раён. Пачалося археалагічнае асваенне Палесся. Уладзімір Іванавіч Пічэта даў 400 рублёў з касы ўніверсітэта. У той час гэта былі вялікія грошы. Столькі ж далі нам і мясцовыя ўлады г. Мазыра. Наогул, Уладзімір Іванавіч надаваў вялікае значэнне арганізацыі краязнаўства ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Гэта быў сапраўды вялікі вучоны-гісторык, таленавіты арганізатар, выдатны лектар, добры педагог».

І ў той жа час гэта быў просты чалавек з уласцівымі яму чалавечымі слабасцямі. Жонка яго, Аляксандра Пятроўна, расказвае, што Уладзімір Іванавіч быў рассеяны, любіў жывёл. Калі ён пра што думаў, прасіў пакінуць яго аднаго. У гэты час на каленях у яго сядзеў кот, якога ён ласкава гладзіў.

У. І. Пічэта заўсёды падкрэсліваў сваю партыйную прынцыповасць у вырашэнні ўсіх пытанняў, хоць сам быў беспартыйны. «Я вельмі ганаруся тым, што Савецкі ўрад дaручыў мне ганаровую, але вельмі цяжкую працу па арганізацыі ўніверсітэта для працоўных мас Беларусі. Я вельмі ганаруся тым, што на працягу сямі з палавінай год я займаў гэтую адказную пасаду і праводзіў у жыццё ўсе пастановы Савецкай улады... Лічу неабходным паведаміць, што праўленне БДУ будзе і надалей праводзіць палітыку Камуністычнай партыі. Займаючы пасаду рэктара БДУ, я выконваў, выконваю і буду выконваць распараджэнні Савецкага ўрада...»

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі, урад БССР, уся грамадскасць Савецкай Беларусі высока цаніла навуковую, педагагічную і арганізатарскую працу Уладзіміра Іванавіча Пічэты. 31 кастрычніка 1926 года споўнілася 25 гадоў яго навуковай і педагагічнай дзейнасці і 5 гадоў рэктарства ў БДУ. Урачыстае пасяджэнне адбылося 31 кастрычніка ў актавай зале ўніверсітэта. Вялікая зала не магла ўмясціць усіх, хто жадаў прысутнічаць на пасяджэнні, прысвечаным ушанаванню юбіляра. На гэтым пасяджэнні была зачытана пастанова Народнага Камісарыята асветы БССР аб наданні рэктару Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прафесару Уладзіміру Іванавічу Пічэце ганаровага звання заслужанага прафесара Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

У дзень юбілею Уладзімір Іванавіч атрымаў шмат прывітальных пісьмаў і віншавальных тэлеграм з розных канцоў рэспублікі, з Масквы, Ленінграда, Кіева і іншых гарадоў СССР. Сярод іх была тэлеграма ад чалавека, які пасля стаў славутым савецкім палкаводцам, маршалам Савецкага Саюза — ад Георгія Канстанцінавіча Жукава.

«Рэктару Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і старшыні шэфскай камісіі тав. Пічэце.

Камандаванне 39-га Мелякеска-Пугачоўскага кавалерыйскага палка 7-й Самарскай імя Англійскага пралетарыяту кавалерыйскай дывізіі віншуе Вас з днём 25-годдзя Вашай навукова-педагагічнай дзейнасці і адзначае тую каласальную і вельмі карысную працу, прароблeную для працоўных БССР і ў прыватнасці па выхаванні чырвонаармейцаў 39 каўпалка. Мы выказваем упэўненасць, што і ў далейшым Вы будзеце з неаслабнай энергіяй працаваць на гэтым пасту навуковай дзейнасці.

**Камандзір і ваенком 39-га Мелякеска-Пугачоўскага кавалерыйскага палка Жукаў».**

Георгі Канстанцінавіч Жукаў, з'яўляючыся камандзірам палка, а затым камандзірам брыгады ў 1926—1931 гг., па сумяшчэнні працаваў у БДУ выкладчыкам кафедры ваенна-дапрызыўнай падрыхтоўкі.

Святкаванне юбілею У. І. Пічэты паказала, наколькі вялікімі былі яго аўтарытэт і папулярнасць у навуковых і грамадскіх колах рэспублікі.

Цесная дружба звязвала У. І. Пічэту з выдатным дзеячам Камуністычнай партыі







**Прафесура першых год існавання БДУ.** Сядзяць (злева направа): **С. З. Кацэнбоген, А. Н. Вазнясенскі, М. М. Нікольскі, У. І. Пічэта, У. М. Ігнатоўскі;** (II рад) стаяць: **І. М. Салаўёў, С. Я. Вальфсон, І. Я. Барычэўскі, А. А. Савіч, Д. А. Жарынаў;** (III рад) стаяць: **У. М. Перцаў, М. М. Шчакаціхін, В. В. Якунін, М. Н. Піятуховіч.**

Беларусі, старшынёй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР Аляксандрам Рыгоравічам Чарвяковым, які высока адзываўся аб дзейнасці У. І. Пічэты на пасадзе рэктара БДУ.

У прывітальнай прамове з выпадку пяцігоддзя БДУ А. Р. Чарвякоў сказаў: «Вялікай заслугай ва ўсіх дасягненнях універсітэта з'яўляецца праца яго навуковых работнікаў, і ў першую чаргу — рэктара ўніверсітэта У. І. Пічэты, які цалкам аддаваўся справе ўніверсітэта».

І гэта было сапраўды так. У гутарцы з Іванам Емяльянавічам Лакіным у 1943 годзе ў Маскве У. І. Пічэта сказаў: «Лепшыя свае гады, сілы і энергію я аддаў БДУ, пра яго ў мяне самыя найлепшыя ўспаміны...»

У навуковым свеце У. І. Пічэта вядомы як вялікі вучоны-славіст. У яго шматлікіх даследаваннях цэнтральнае месца займала гісторыя Беларусі. Фактычна ён быў адным з пачынальнікаў беларускай савецкай гістарычнай навукі. Гісторыя аграрных адносін на Беларусі і гісторыяграфія, праблема этнагенезу беларускага народа, становішча беларускага сялянства, гісторыя дзяржавы і права, гісторыя беларускіх гарадоў, археалогія і краязнаўства, гісторыя беларускай мовы і літаратуры, педагогіка і архівазнаўства, гісторыя рабочага і сялянскага руху і вышэйшай школы ў Беларусі — усё гэта было тэмай шматлікіх даследаванняў акадэміка У. І. Пічэты. Працы вучонага па гісторыі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі «Аграрная рэформа Сігізмунда-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве», «Гісторыя сельскай гаспадаркі і землеўладання на Беларусі» і інш. набылі шырокую вядомасць не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі.

Значным укладам у гісторыю беларускай навукі і культуры з'яўляюцца працы У. І. Пічэты «Беларуская мова як фактар нацыянальнай культуры», «Скарыніяна», «Друк на Беларусі ў XV і XVI стагоддзях», «Беларускае адраджэнне ў XVI стагоддзі», «Францішак Скарына і яго працы», «Пытанне аб вышэйшай школе ў Беларусі ў мінулым», «Дзве культуры на Беларусі» і іншыя.

31 снежня 1948 года пастановай Савета Міністраў СССР Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту было прысвоена імя У. І. Леніна, а 7 студзеня 1967 года Беларускі ўніверсітэт быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Сваімі выдатнымі поспехамі цяперашнія выкладчыкі і студэнты ўніверсітэта працягваюць слаўныя традыцыі БДУ, якія ствараліся У. І. Пічэтам, яго саратнікамі — выкладчыкамі і студэнтамі БДУ 20-х гадоў.

Імя першага рэктара БДУ, выдатнага вучонага-гісторыка У. І. Пічэты не забыта ва ўніверсітэце. На гістарычным факультэце ўстаноўлены стыпендыі імя Пічэты: яны выдаюцца лепшым студэнтам, якія выдатна вучацца па ўсіх прадметах і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскай рабоце.

Эмануіл **ІОФЕ.**



# ЧАТЫРЫ ГІСТОРЫІ ПРА ФІЗФАК



У лабараторыі аптычных квантавых генератаў.

У вылічальным цэнтры ўніверсітэта.



Рэдактар сказаў:

— Пішыце, што хочаце — нарыс, эсэ, інтэрв'ю...

Мы напісалі. Нарыс? Эсэ? Інтэрв'ю? Зрэшты, ці так ужо важны жанр? Агаворым толькі адно: гэта не гісторыя фізфака, гэта гісторыі пра фізфак.

Еўропа ведае ўніверсітэты, у аўдыторыях якіх гучалі галасы Ньютана, Каперніка, Галілея. У кампаніі гэтых пабеленых акадэмічнай сівізной навучальных устаноў наш пяцідзесяцігадовы юбіляр выглядае хлопчыкам у кароткіх штоніках. Аднак з таго часу, як адноснасць легла ў аснову сучаснай фізікі, адносным стала і паняцце аб сталасці ў навуцы. З такога пункту гледжання і пяцьдзесят гадоў — тэрмін немалы. Уласна, нават не пяцьдзесят, таму што фізічны факультэт узнік толькі ў 1957 годзе ў выніку (скажам мовай ядзернай фізікі) расшчаплення фізмата.

Пры падзеле маёмасці фізфаку, акрамя ўсяго іншага, дасталіся Люстэрка і Гадзіннік. Вось пра іх і наша

## ГІСТОРЫЯ ПЕРШАЯ: ПРАСТОРА І ЧАС

Люстэрка і гадзіннік — прыборы зусім фізічныя. Яны прысутнічаюць у многіх эксперыментах, знаёмых нам яшчэ па Пёрышкіну. Магчыма, такім абсталяваннем абыдзецца школьны кабінет, але не ўніверсітэцкая лабараторыя. Тым больш, калі люстэрка — гэта трумо старадаўняй работы, а гадзіннік — напольныя куранты ў футарале з каштоўных дрэвавых парод.

Люстэрка і гадзіннік — гэта ўсё, што пакінула фізфаку вайна.

У матэрыялах Нюрнбергскага працэсу ёсць пісьмо генеральнага камісара Беларусі В. Кубэ, адрасаванае А. Розенбергу. Кубэ паведамляе, што з Беларускага ўніверсітэта вывезены прыборы коштам у мільёны марак.

Універсітэцкі гарадок ляжаў у руінах, і таму навучальны працэс быў арганізаваны так: першая гадзіна — лекцыя, другая — практычныя заняткі. Рамонт даху, напрыклад.

Магчыма, тады і былі закладзены традыцыі фізфакаўскіх будаўнічых атрадаў, якія пазней дапамагалі ўзводзіць новыя ўніверсітэцкія карпусы, мясілі цалінны саман, укладвалі чыгуначныя рэйкі на зямлі Комі АССР.

Але вернемся да пачатку. Люстэрка і Гадзіннік жывыя і цяпер. Гадзіннік стаіць у кабінеце дэкана. Люстэрка — на сваім месцы, у вестыбюлі старога фізічнага корпуса. У велізарнай факультэцкай гаспадарцы, сярод усіх гэтых атрыбутаў навуковага прагрэсу — лазераў, мазераў і электронных мікраскопаў,— яны заняты добрай прывычнай справай: Люстэрка адлюстроўвае прастору, Гадзіннік адлічвае час. Прастора і час — вечныя сімвалы фізікі.

## ГІСТОРЫЯ ДРУГАЯ: УВЕРХ НАГАМІ

Старшына прабіраўся паміж ларкамі маленькага базарчыка, які прымасціўся ў той пасляваенны год на плошчы перад Домам урада. Дывізія нядаўна прыбыла з Германіі і стаяла пад Мінскам. Ішоў старшына па справе: пагуляць у валейбол з універсітэцкімі. Першы раз яго запрасілі выпадкова — не хапала ігрока ў камандзе, а потым так і павялося: яго сталі прымаць за свайго. На гэты раз матч аказаўся нядоўгім — трэба было ісці на лекцыю. Фізікі-валейбалісты зацягнулі з сабой у аўдыторыю і старшыну. Слухачоў было менш дзесятка. Лекцыю па квантавай механіцы чытаў малады выкладчык. Калі празвінеў званок і ўсе вывалілі ў калідор, старшына са здзіўленнем убачыў, як лектар, спрытна стаўшы на рукі, у такім нетрадыцыйным становішчы накіраваўся ў прафесарскую. Аднак дайсці туды яму не ўдалося: трапіўшыя насустрач старшакурснікі без пачцівасці схапілі лектара за рукі, за ногі і закінулі на старую кніжную шафу. Студэнты смяяліся. Ад душы рагатаў і выкладчык.

Дзеючыя асобы гэтай няхітрай гісторыі такія: старшына — цяперашні дэкан фізфака Іван Паўлавіч Зяцькоў, лектар — акадэмік-сакратар фізічнага аддзялення Акадэміі навук БССР Фёдар Іванавіч Фёдараў.

Калі сёння які-небудзь дэмабілізаваны старшына-абітурыент зойдзе ва ўніверсітэцкі будынак, ён, больш верагодна за ўсё, не сустрэне ідучых на руках выкладчыкаў. Час цяпер не той. Аднак адсутнасць пыхлівасці, ганарлівасці, фанабэрыстасці, уяўнай вучонасці — і сёння норма жыцця фізфака. Любы з дзвюх тысяч студэнтаў можа зайсці на любую з пятнаццаці кафедраў і атрымаць кансультацыю, адказ на пытанне, параду ў любога са 170 выкладчыкаў і 350 навуковых супрацоўнікаў факультэта. Калі адказ яго не задаволіць — што ж, ён можа заняць месца ля лабараторнага стала і даказаць сваю пераконанасць. Няхай такая спрэчка не будзе роўнай і не прывядзе да адкрыцця, яна дапаможа фарміраванню сапраўднага навуковага характару.

На чацвёртым паверсе фізфака можна сустрэцца позіркамі з карыфеямі: Максвелам, Фарадэем, Ленцам. Іх партрэты— не проста дэкарацыя. Факультэт мае права на гэту галерэю як прадаўжальнік рода. Некаторыя сувязі можна нават прасачыць.

На нядаўнім юбілейным ушанаванні Ф. І. Фёдарава (яму сёння шэсцьдзесят) супрацоўнікі падарылі Фёдару Іванавічу яго навуковае «генеалагічнае дрэва». Карэнні гэтага «дрэва» ідуць да Ленца. Крона змяшчае чатыры магутныя галіны — гэта дактары навук, выхаваныя Фёдарам Іванавічам. Галіны танчэйшыя— гэта кандыдаты навук — іх звыш двух дзесяткаў. З цягам часу яны ўзмацнеюць. Ад іх ужо ідуць новыя парасткі — аспіранты, студэнты.

Аднойчы Нільса Бора — вядомага дацкага фізіка — спыталі, чым яго школа абавязана сваімі поспехамі. Бор адказаў: «Таму, што мы не баяліся паказацца дурнямі ў вачах уласных вучняў».

Хадзіць на руках не абавязкова. Важна заўсёды захоўваць здольнасць крытычна адносіцца да аўтарытэтаў, да навуковых акамянеласцяў, да таго, што даверліва нашэптвае на вуха цвярозы сэнс. Тады дрэва не засохне.

## ГІСТОРЫЯ ТРЭЦЯЯ: ДАХ НАД ГАЛАВОЙ

Нават мінчаніну пры слове «ўніверсітэт» уяўленне малюе галоўны корпус, што выходзіць на плошчу Леніна. Калі задумацца, то можна ўспомніць новы будынак хімічнага і біялагічнага факультэтаў, які глядзіць вокнамі сваіх дзевяці паверхаў на Прывакзальную плошчу. Той, хто ездзіць трамваем міма Універсітэцкага гарадка, прыпомніць яшчэ строгі рабрысты фасад фізічнага корпуса.

Той дом, пра які мы павядзём гутарку, схаваны ад пабочнага позірку сваімі бе-

тоннымі «братамі меншымі». Але калі гаварыць пра ўніверсітэт «альма матэр», то перш за ўсё трэба аднесці гэтыя словы да цаглянага будынка дарэвалюцыйнай кладкі, што патанае ў зеляніне ўніверсітэцкага двара.

Быў час, калі тут змяшчаўся ўвесь універсітэт. Потым будынак аддалі фізфаку. У тыя часы такая «прастора» здавалася незвычайнай раскошай. Гэта не выкліча ўсмешкі, калі ўспомніць, што, скажам, у 1952 годзе колькасць выпускнікоў-фізікаў не дацягвала і да двух дзесяткаў. Выкладчыкаў была адпаведная колькасць: сем дацэнтаў і ніводнага прафесара.

Але неўзабаве настаў той пераломны ў гісторыі фізфака год, калі ў БДУ прыбыло магутнае навуковае падмацаванне — група беларускіх вучоных, якія прайшлі агні і воды ленінградскай школы тэарэтычнай і эксперыментальнай фізікі. Іх імёны гавораць самі за сябе: Сеўчанка, Сцяпанаў, Ельяшэвіч... Прыезд іх не



Высокія паверхі навукі.

толькі паслужыў штуршком да імклівага развіцця фізфака. Ён азнаменаваў сабой нараджэнне новай фізічнай школы.

Праз тры гады пасля свайго ўзнікнення фізфак адсвяткаваў наваселле: яму была аддадзена значная частка новага галоўнага корпуса. Стары пайшоў пад лабараторыі. Не кранулі толькі Вялікую фізічную аўдыторыю — вельмі ўжо добрая акустыка,— і на перапынках з новага корпуса ў стары перабягалі шумныя натоўпы студэнтаў. «Вялікай» аўдыторыя працягвала называцца па традыцыі. Малодшыя курсы ў яе цалкам ужо не змяшчаліся. З'явіліся «патокі». Вельмі хутка стала ясна, што ўражанне прасторы было ўсяго толькі першым уражаннем. Штогадовы прыём пераваліў за чатыры сотні чалавек. Кафедры пладзіліся і размнажаліся. Набывалі абсталяванне, якое не было куды ставіць. Запрашалі супрацоўнікаў, якім не было дзе сесці.

І настаў дзень... Адбылося вялікае перасяленне (чарговае). Уласна, той-сёй пераехаў у новы фізфакаўскі корпус і раней: першы «навасёлец» — велізарны трансфарматар — пасяліўся ў яшчэ недабудаваны корпус з дапамогай пад'ёмных кранаў. Інакш бы яму не пасяліцца туды ніколі. Урэшце ўсё ўтрэслася і асела.

Мы спадзяёмся, што ў чытача не ўзнікла ўражання, быццам дзейнасць фізфака ў той час зводзілася да вырашэння жыллёвага пытання. Тое-сёе рабілася і паміж пераездамі. У забеспячэнні фізічнымі і фізіка-тэхнічнымі кадрамі рэспублікі перайшла на самаабслугоўванне. Склалася адна з буйнейшых у СССР аптычных школ, навуковая прадукцыя якой атрымала сусветнае прызнанне. Набіраюць сілу многія іншыя напрамкі. Штогод супрацоўнікамі фізфака абараняецца каля паўтара дзесятка кандыдацкіх дысертацый. Беларускія тэлевізары, радыёпрыёмнікі, лічыльныя машыны, паўправадніковыя прыборы, аптычнае абсталяванне (спіс можна прадоўжыць), здаецца, не маюць патрэбы ў рэкламе. Хутчэй, самі яны з'яўляюцца выдатнай рэкламай фізічнага факультэта і ў нейкай меры — ацэнкай яго дзейнасці.

Ну а як жа той дом, з якога мы пачалі? Над яго даволі-такі стаптаным каменным ганкам прыбіта адрасная таблічка з нумарам васемнаццаць. Па справядлівасці, трэба было б прысвоіць гэтаму дому нумар першы. А калі часам узнікне думка стварыць фізфакаўскі музей — лепшага месца для яго не знайсці.

## ГІСТОРЫЯ ЧАЦВЁРТАЯ: «Я ВЕРУ!»

Праверка другога паверху ні да чаго не прывяла. Усе дзверы былі замкнутыя. Тэлефоны не адказвалі.

— Ён павінен быць тут,— сказаў камендант.— Яго бачылі гадзіну назад.

— А гэта адзіны выхад?

— Усе астатнія зачынены. Яму проста няма куды дзецца.

Яны выйшлі. На стаянцы ніводнай машыны не было. Не пешшу ж ён пойдзе! Падзяліўшыся, хутка агледзелі двор.

— Тут. Шэрая «Волга». Яго.

Цяпер яны напэўна ведалі — ён тут. Заставалася цярпліва чакаць.

Цямнела. Збіраўся дождж. Двор даўно апусцеў.

Стукнулі дзверы. Ідзе. Яны кінуліся наперарэз.

Ён хутка ацаніў сітуацыю.

— Добра,— сказаў ён,— ваша ўзяла. Садзіцеся ў машыну. Пагутарым.

...Так вось бяруць інтэрв'ю ў рэктара ў жніўні, у разгар уступных экзаменаў.





Біялагічны факультэт. Эксперыментальная работа ў лабараторыі біястанцыі возера Нарач.

Пра што мы гаварылі з акадэмікам Сеўчанкам? Перш-наперш, пра конкурсныя экзамены. Як быццам і не збіраліся, а пагутарылі — аддаць, паветра такое экзаменацыйнае. Пра Эйнштэйна і Фока (таксама, быццам, не збіраліся, а пагутарылі). Пра навуку і журналістыку... Пра акадэмікаў і студэнтаў. Абмяркавалі, хто больш галоўны — тэарэтыкі ці эксперыментатары (па-нашаму выходзіла — тэарэтыкі, а Антон Нікіфаравіч меркаваў інакш). І вось тут ён загаварыў аб тым, што цікавіла нас больш за ўсё з самага пачатку — пра Інстытут фізікі пры БДУ. Карпусы яго падводзяцца пад дах.

У навукова-даследчых інстытутаў існуе свая іерархія: яны дзеляцца на тры катэгорыі. Памянёны інстытут фізікі будзе належаць да самай вышэйшай. Выпадак, які ва ўніверсітэцкай практыцы краіны прэцэдэнтаў не мае.

Хімфак. Лабараторыя хіміі рэдкіх і цяжкіх элементаў.





Відавочна, наша імкненне да гэтай тэмы было ўзаемным, таму што рэктар прыкметна ажывіўся:

— Калі гаварыць сумленна, я ахвотна прыняў бы гэты інстытут, нават калі б прыйшлося дзеля гэтага адмовіцца ад рэктарства — дзве такія пасады не выцягнуць. Чым там будуць займацца? Ды тым жа, чым і цяпер на кафедрах, толькі, натуральна, на больш высокім узроўні. Інстытут стане як бы выпрабавальным палігонам фізфака. У яго лабараторыях пройдуць праверку справай усе, хто чаго-небудзь варты. Ёмістасць кафедраў абмежавана. Мы часта вымушаны расставацца са здольнымі вучнямі, якіх па розных акалічнасцях не можам пакінуць у сябе. Інстытут будзе месца больш шырокія магчымасці. І для нас, і для іх.

Далейшы рост узроўню навуковых даследаванняў прывядзе да павышэння якасці выкладання, што, зноў-такі, зробіць уплыў на ўзровень навуковых даследаванняў...

Прысваенне інстытуту першай катэгорыі — прызнанне нашай сілы. Адначасова гэта і аванс, які яшчэ трэба будзе апраўдаць.

Адчуўшы знаёмую заканчанасць апошняй фразы, шафёр запусціў рухавік. Але ў нас заставалася яшчэ адно пытанне. Яно можа здацца і банальным — усё залежыць ад таго, каму яго задаць. Мы задалі яго семідзесяцігадоваму чалавеку, Герою Сацыялістычнай Працы, няўрымсліваму вучонаму, які сталыя гады свайго жыцця прысвяціў выхаванню новых пакаленняў у навуцы.

— Ваша ўяўленне аб ідэальным універсітэце?

— Вялікі фізік Сяргей Іванавіч Вавілаў — мой настаўнік — гаварыў: «Калі вучоны займаецца толькі навукай, не клапоцячыся пра выхаванне пераемнікаў, якія падхапілі б і развілі яго ідэі,— такі вучоны сохне на корані». Я мару, каб на чале кожнай кафедры стаяў творца, які стварае ўласную навуковую школу. Пасрэднасць на чале кафедры нараджае застой, атмасферу нецярпімасці да таленту, у той час як сапраўдны вучоны не баіцца сапернiцтва. Аптымальныя памеры ўніверсітэта — 25 тысяч чалавек. Пры такой колькасці студэнтаў кафедры стануць самастойнымі навуковымі калектывамі, у якіх будуць існаваць шырокая дыскусія, творчасць, пастаянны навуковы пошук. Я веру ў такі ўніверсітэт. Я веру, што Беларускі дзяржаўны такім універсітэтам стане.

Вось і закончыліся нашы гісторыі. Нямыя летапісцы фізфака — Люстэрка і Гадзіннік — глядзяць і запамінаюць. Гісторыі закончыліся. Гісторыя працягваецца.

**Эдуард БРУК, Барыс ПАСТАРНАК.**

# З-ПАД РОДНАГА КРЫЛА

**З гісторыі літаратурнага жыцця БДУ імя У. І. Леніна**

Ці бачылі вы, як узлятаюць птушкі? Адны паступова набіраюць вышыню. Так, спакваля, увінчваюцца ў неба буслы. А жаўранкі строма ўзмываюць уверх, пад самыя хмары, каб раззваніць адтуль пра сваю радасць, любасць да зямлі, ад якой толькі што адштурхнуліся. Такі жаўранкава-імклівы, вертыкальны ўзлёт — лёс першага ў гісторыі Беларусі ўніверсітэта, які гасцінна расчыніў свае дзверы 30 кастрычніка 1921 года.

Савецкай краіне конча патрэбны былі кадры — высокаадукаваныя, узброеныя перадавым матэрыялістычным светапоглядам. І хоць не было спачатку вучэбных памяшканняў, неставала выкладчыкаў, заняткі пачаліся адразу на трох факультэтах — рабочым, грамадскіх навук і медыцынскім. Праз год далучыўся да іх педагагічны, у складзе якога было літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне. Менавіта гэтаму аддзяленню выпала шчаслівая роля падрыхтоўкі кадраў беларускай творчай інтэлігенцыі.

Траплялі ва ўніверсітэт рознымі сцяжынамі. Той, хто меў неабходную адукацыю (К. Атраховіч (Крапіва), П. Броўка),— паступаў на агульных асновах. Хто атэстата за сярэднюю школу па тых ці іншых прычынах не атрымаў (А. Пальчэўскі, М. Хведаровіч, С. Баранаў (Баранавых). С. Куніцкі, ішоў спярша на рабочы факультэт. Як успамінае сёння А. Пальчэўскі, «рабфакаўцаў прымалі без экзаменаў. Краіне патрэбны былі кадры, і праграму ўніверсітэта, разлічаную на чатыры гады, прайшлі за тры. Не было летніх канікулаў, займаліся і ў гарачыню, і ў мароз. Сесіі, як і цяпер, былі два разы ў год. Аднак экзаменаў не здавалі, толькі залікі»[1]. Своеасаблівай прыступкаю да ўніверсітэта для здольнай моладзі з'явіўся Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум. З нейкага курса тэхнікума ці пасля заканчэння яго у БДУ прыйшлі П. Глебка, П. Трус, А. Якімовіч, М. Каратай (Лужанін). Але адкуль бы ні прыходзілі маладыя літаратары, іх аб'ядноўвала адна думка: здабыць веды, як след паслужыць роднаму народу, новаму ладу, унесці свой уклад у развіццё беларускай сацыялістычнай культуры.

Бурнае літаратурнае жыццё 20-х гадоў самым непасрэдным чынам закранала ўніверсітэт. Многія з маладых паэтаў і празаікаў яшчэ да паступлення ва ўніверсітэт увахадзілі ў склад той ці іншай літаратурнай арганізацыі — «Маладняка», «Літаратурна-мастацкай камуны» ці «Узвышша», некаторыя прылучыліся да іх у часы студэнцтва. Асабліва папулярным сярод моладзі быў «Маладняк». І таму не дзіўна, што менавіта з ім універсітэцкія літаратары наладзілі самую цесную сувязь.

На старонках «Маладняка» неаднаразова друкаваліся вершы і апавяданні студэнтаў, выступалі вядомыя ўніверсітэцкія вучоныя. Пяцігоддзе з дня заснавання БДУ часопіс адзначыў артыкулам яго першага рэктара акадэміка У. І. Пічэты (1926, № 7). Многія з пачынаючых літаратараў ахвотна ўдзельнічалі ў навуковай і грамадскай рабоце. Дастаткова сказаць, што навуковая работа студэнта-другакурсніка К. Атраховіча (Крапівы) «Беларускія прыказкі» не страціла сваёй вартасці да сённяшняга дня. Некаторыя з гуртковых і семінарскіх работ студэнтаў публікаваліся на старонках рэспубліканскіх часопісаў і газет.

У маі 1928 года пачалося будаўніцтва Універсітэцкага гарадка. Педфак разам з іншымі факультэтамі (рабочым, медыцынскім, права і гаспадаркі) выйшаў на суботнікі. Побач з кіркай і малатком працавала слова. «У гады першай пяцігодкі,— успамінаў пазней П. Броўка,— мы пісалі пра ўсё. Хадзілі на заводы, чыталі, бічавалі прагульшчыкаў, гультаёў, рвачоў. Часта выходзіла рытарычна. Што ж, многае стала аднадзёнкай, але я ніколі не шкадаваў працы, аддавай лозунгам і агіткам. Працуючы над імі, даводзілася быць у віры жыцця і многае пазнаць».

Жыццё падказвала тэмы для новых твораў. У 1930 годзе П. Броўка ездзіў у камандзіроўку на Добрушскую папяровую фабрыку. Паездка дала матэрыял для зборніка вершаў «Цэхавыя будні» і аповесці «Каландры». Годам раней Янка Скрыган разам з брыгадай партыйных работнікаў выязджаў на Магілёўшчыну, дапамагаў праводзіць калектывізацыю. Пасля паездкі з'явіліся нарысы «Новая зямля», «Шугае сонца». У 1931 годзе па камандзіроўцы «Звязды» ён ездзіў на «Гомсельмаш». У выніку выдаў зборнік прозы «Недапісаны профіль» (1932).

Увогуле, універсітэцкія літаратары выдаваліся ў 20-я гады даволі часта. І не толькі тыя (К. Крапіва, П. Глебка, П. Трус, С. Хурсік, А. Якімовіч, А. Александровіч), што яшчэ да ўніверсітэта мелі свае кніжкі. Кузьма Чорны, П. Броўка, С. Баранавых, Я. Скрыган, М. Лужанін, С. Дарожны, А. Звонак, М. Хведаровіч, Т. Кляшторны, Н. Чарнушэвіч і некаторыя іншыя спазналі радасць сустрэчы са сваёй першай кніжкай менавіта ва ўніверсітэце.

У 1931 годзе па пастанове СНК БССР на базе ўніверсітэта, апрача Вышэйшага педагагічнага, былі створаны інстытуты медыцынскі, юрыдычны, політэхнічны і народнай гаспадаркі. У складзе ўніверсітэта засталіся толькі фізіка-матэматычнае і прыродазнаўчае аддзяленні педагагічнага факультэта. За дзесяць гадоў універсітэт даў рэспубліцы *336 філолагаў, сярод іх больш за сорак літаратараў — паэтаў, празаікаў, крытыкаў і літаратуразнаўцаў.*

У 1939 годзе пры ўніверсітэце адкрыўся філалагічны факультэт. Як магніт, пачаў ён прыцягваць да сябе юнакоў і дзяўчат, улюбёных у роднае слова. Адразу ж у Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, да якога ў 30-я гады пачала пераходзіць слава «пісьменніцкага асяродку», з'явіўся сур'ёзны канкурэнт...

Неўзабаве аднак грымнула вайна. Не паспелі студэнты здаць апошнія экзамены летняй сесіі, як ва Універсітэцкім гарадку пачалі рвацца фашысцкія бомбы. Універсітэт *спешна эвакуіраваўся на ўсход. Студэнты і многія выкладчыкі апранулі вайсковую форму*, пайшлі на фронт. Заняткі спыніліся.

Ваюючы з нямецкай ардой, напружваючы апошнія сілы, савецкі народ усё ж глядзеў у будучае, верыў у перамогу над ворагам. Беларусь, Украіна, Прыбалтыка палымнелі яшчэ ў агні, фашысты стаялі непадалёку ад сцен Масквы і Ленінграда, а ўжо ў сталіцы нашай Радзімы думалі пра адраджэнне разбуранай народнай гаспадаркі, пасляваеннае



**Філфак. Літаратурнае аб'яднанне «Узлёт», год 1967.**
Сядзяць (справа налева): **М. Губернатараў, М. Дукса, Р. Семашкевіч, Я. Янішчыц, Л. Руцкая, А. Казловіч, М. Камароўскі, Н. Гілевіч;** стаяць: **М. Якімовіч, С. Законнікаў, В. Законнікаў, М. Дземідовіч, А. Разанаў, А. Лойка.**

развіццё беларускай культуры і літаратуры. 15 мая 1943 года Савет Народных Камісараў СССР прымае пастанову пра аднаўленне працы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. «Праўда» данесла радасную вестку ва ўсе куткі Вялікай зямлі.

На станцыю Сходня Кастрычніцкай чыгункі, дзе распачынаў працу ўніверсітэт, пачалі з'язджацца абітурыенты. Гэта былі пераважна раненыя воіны, камісаваныя з радоў Савецкай Арміі, жанчыны, якім вайна перапыніла вучобу. З далёкага Бугуруслана, ледзь ачуняўшы ад цяжкага ранення, прыехаў І. Мележ. «У канцы кастрычніка,— успамінае пісьменнік,— сышоў я на пероне Казанскага вакзала ў Маскве, угледзеўся ў суровае аблічча сталіцы на чацвёртым годзе вайны. Сходня — дачны пасёлак за Хімкамі — была нібы маленькім кутком Беларусі: усюды сустракаліся беларускія хлопцы і дзяўчаты, студэнты і партызаны,— душу цешыла беларуская гаворка. Гора і бяда, якія ішлі па роднай зямлі, тут чутны былі як нідзе, яны чуліся не толькі ў гаворках — у шуме сходненскіх

[1] Тут і далей выкарыстоўваюцца ўспаміны былых выхаванцаў універсітэта. Большасць з іх напісана па просьбе членаў гуртка гісторыі і тэорыі роднай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна і дагэтуль нідзе не публікавалася.



**Падпісанне дагавору аб навуковым і культурным супрацоўніцтве паміж Беларускім дзяржаўным універсітэтам імя У. І. Леніна і Іенскім універсітэтам імя Шылера. Падпісваюць: рэктар БДУ А. Н. Сеўчанка і прафесар нямецкага універсітэта Герхард Рыге.**

сосен і бяроз, такіх падобных на нашы беларускія». На 1 лютага 1944 года ў БДУ на ўсіх факультэтах (філалагічным, гістарычным, біялагічным, геаграфічным, хімічным і фізіка-матэматычным) навучалася... 89 чалавек. З іх 90 працэнтаў складалі жанчыны.

Універсітэту на Сходні былі аддадзены двухпавярховы драўляны будынак школы і сорак дачных домікаў. Вось і ўся вучэбная і жылая плошча. У «вучэбным корпусе» былі павыбіваны вокны, вецер гойсаў па класах-аўдыторыях. У дашчаных дачных доміках цёплай восенню жылося няблага, але зімою мароз стаяў, што і на вуліцы. Да холаду дадаваўся яшчэ і голад. На студэнцкую харчовую картку ў цяжкім 1943 годзе выдавалі па 300 грамаў чорнага, напалавіну з бульбаю, хлеба. Толькі пазней дзякуючы намаганням рэктара П. П. Савіцкага дзённы паёк быў даведзены да 550 грамаў някепскага, як на той час, «хімкаўскага» хлеба. Не дзіва таму, што ўсе з нецярпеннем чакалі вясны: каля платоў выпстрыквала маладая крапіва, з якой варылі боршч. Вось тады сярод сходненцаў узнік жарт-заклік:

«Сабірайце крапіву
Для студэнтаў БДУ!»

Але нягледзячы на ўсе цяжкасці, вучыліся з запалам. Беларускаму ўніверсітэту дапамагаў Маскоўскі імя Ламаносава — і кнігамі, і выкладчыкамі, і вучэбнымі памяшканнямі.

Дзень 3 ліпеня 1944 года быў асабліва радасным для сходненцаў: у гэты дзень савецкія войскі вызвалілі Мінск. Марына Барсток так успамінае ў сваім вершы той час:

Мы забылі на холад люты
Падмаскоўных нятопленых дач,
Калі ўбачылі водсвет салюта
І сцягоў пераможны кумач,
Што ўзвіліся ураз над Сходняй,
Над бяздом'ем ваенных год...
І тады ж БДУ наш паходны
Загудзеў, зашумеў пра зварот...

На спецыяльна выдзеленым поездзе ажно два тыдні дабіраўся Беларускі ўніверсітэт са станцыі Сходня да Мінска. Начальнікам эшалона прызначаны быў І. Мележ. 1 жніўня 1944 года студэнты і выкладчыкі ўбачылі руіны былога прыгажуна-горада. Дашчэнту





спаленым, разрабаваным аказаўся і Універсітэцкі гарадок. Часова размясціліся ў некалькіх цудам ацалелых гарадскіх школах: вучні вучыліся ўдзень, студэнты — вечарамі. Некаторую палёгку прынёс 1945 год — год Перамогі. З арміі пачалі дэмабілізоўвацца ахвочыя да вучобы салдаты, ва ўніверсітэт ішлі былыя падпольшчыкі і партызаны. Толькі ў 1945 і 1946 гадах у БДУ паступілі А. Адамовіч, Н. Кіслік, М. Аўрамчык, Л. Арабей, У. Мехаў, Л. Салавей, Я. Курто, Г. Шыловіч, А. Рылько, У. Шыцік, на завочным аддзяленні пачалі займацца І. Навуменка, С. Александровіч.

Студэнты актыўна ўключыліся ў адбудову роднага ўніверсітэта. Мікола Аўрамчык пісаў у 1947 годзе ў вершы:

Дзяўчаты з раніцы ля біяфака
Пясок і цэглу носяць на падворак.
Супроць руін хлапцы пайшлі ў атаку,
Яшчэ з плячэй не зняўшы гімнасцёрак.

Згодна планаў чацвёртай пяцігодкі, да 1950 года павінна была быць адноўлена ўніверсітэцкая вучэбна-вытворчая база. Так яно і было. Хутка з дапамогай студэнтаў адбудавалі хімічны корпус, а з пачатку 1948—1949 навучальнага года распачаліся заняткі і ў біялагічным, дзе размясціўся таксама і філалагічны факультэт. Да канца пяцігодкі матэрыяльная база ўніверсітэта была адноўлена поўнасцю, у 1950 годзе тут займалася больш студэнтаў, чым у перадваенны час.

Сёння літаратары, былыя студэнты ўніверсітэта, сцвярджаюць: у другой палове 40-х гадоў ва ўніверсітэце арганізаванага літаратурнага руху не было. Гэта сапраўды так. Толькі з канца 1948 года пад кіраўніцтвам дацэнта (пазней прафесара) Ю. С. Пшыркова ўзнік літаратурна-творчы гурток, асноўная дзейнасць і галоўны плён якога прыпадаюць на 50-я гады. Аднак літаратурнае жыццё крынічыла і тады. Узначальвалі яго выкладчыкі літаратуры, тыя ж Ю. С. Пшыркоў і М. Р. Ларчанка, а таксама І. В. Гутараў, В. І. Саўсун, Л. Р. Бараг, Д. Я. Фактаровіч. Часта сустракаліся студэнты з беларускімі паэтамі і празаікамі. Асабліва жаданымі гасцямі тут былі Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Максім Танк, Пімен Панчанка і інш. У сакавіку 1948 года ўніверсітэцкая шматтыражка «За сталінскія кадры» аб'явіла літаратурны конкурс. Першае месца падзялілі М. Аўрамчык і І. Шуляраў. Пра М. Аўрамчыка газета пісала: «Гэта ўжо прызнаны прафесіянальны паэт. Яго вершы «Дзядзька Максім», «Народзіны», «Універсітэцкі гарадок» радуюць свежасцю і арыгінальнасцю паэтычнай мовы». У 1949 годзе, калі паэт быў на 5-м курсе, выйшла з друку яго першая кніга «Пярэдні край», станоўча ацэненая крытыкай і чытачамі. Хоць надрукаваў М. Аўрамчык свой першы верш яшчэ ў 1937 годзе, менавіта ва ўніверсітэце ён сфармаваўся як паэт. Універсітэту сваім літаратурным пасталеннем абавязаны і І. Мележ, які пасля выдатнага заканчэння ўніверсітэта быў пакінуты



**«Крыжачок» у выкананні ўніверсітэцкага народнага ансамбля танца.**

Фота **Д. Прэса і Д. Чаховіча.**

ў аспірантуры, а пасля два гады (1948—1951) выкладаў тут родную літаратуру. У 1946 годзе аспірант І. Мележ выдаў першы зборнік апавяданняў «У завіруху», а ў 1948— другі, «Гарачы жнівень». У часе вучобы і працы ва ўніверсітэце пісьменнік амаль поўнасцю скончыў раман «Мінскі напрамак».

Да ўніверсітэцкага берагу хвалі часу штогод прыбівалі і прыбівалі здольную моладзь. Мяркуйце самі. У 1950 годзе ў БДУ паступілі П. Ткачоў, Г. Кляўко, У. Нядзведскі, П. Місько, В. Тарас, А. Марціновіч, Д. Сімановіч, С. Гусак, у 1951 — Н. Гілевіч, А. Вярцінскі, М. Арочка, А. Ліс, А. Мальдзіс, А. Харкевіч, В. Шымук. У наступным годзе студэнтамі сталі І. Пташнікаў, І. Чыгрынаў, В. Адамчык, Л. Гаўрылкін, яшчэ праз год — В. Карамазаў, А. Клышка, В. Чамярыцкі, К. Цвірка, А. Яскевіч, А. Сабалеўскі. Надзвычай «ураджайным» на абітурыентаў-літаратараў быў 1954 год, калі ва ўніверсітэт прыйшлі Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, М. Стральцоў, С. Блатун, Ю. Свірка, М. Гілевіч. Хутка да іх далучыліся Я. Сіпакоў, В. Сачанка, У. Паўлаў, В. Бечык, У. Карызна, І. Хадановіч, Г. Маркава (Вера Вярба). Падавалі, як правіла, заявы на філалагічны факультэт — аддзяленне журналістыкі ці беларускай мовы і літаратуры. Жылі дружна, сябравалі. На розных дыспутах, літаратурных вечарах можна было ўбачыць і пачуць адначасова студэнтаў розных курсаў — «хударлявага Рыгора Барадуліна, які тады лічыўся перспектыўным байкаром, кучаравага Васю Зуёнка з яго «Студэнцкім чамаданам», задумлівага Юрася Свірку з тады ўжо філасофскімі ноткамі ў вершах, рамантычнага Мішу Стральцова, каржакаватага Валодзю Паўлава, засяроджанага Барыса Сачанку, шчырага Янку Сіпакова» (Г. Бураўкін). Цікава, што літаральна ўсе, нават вядомыя сёння празаікі (І. Пташнікаў, Б. Сачанка, В. Адамчык), крытыкі і літаратуразнаўцы (А. Ліс, А. Клышка) пісалі вершы. «Паэтаў не злічыць, нібы рыбы, касякамі ходзяць па калідорах! Страсяні любога студэнта, і, напэўна, пасыплюцца вершы»,— з жартам прыгадвае той час Н. Гілевіч.

50-я гады — даволі складаны час у жыцці рэспублікі і ўсяго савецкага грамадства. Не ўсе раны вайны былі яшчэ залечаны, цяжка было з харчаваннем, адзеннем, жыллём. Але, безумоўна, жылося значна лягчэй, чым у надзвычай суровыя пасляваенныя гады.

Студэнты-літаратары ўключыліся ў грамадскае і літаратурнае жыццё Мінска і ўсёй рэспублікі. Яны часта друкуюцца на старонках «Полымя», «Маладосці» і «Беларусі», «Літаратуры і мастацтва», удзельнічаюць у працы літаб'яднання пры газеце «Чырвоная змена», прысутнічаюць на рэспубліканскіх нарадах маладых пісьменнікаў. Адзін час Р. Барадулін, Г. Бураўкін і В. Зуёнак, «тры мушкецёры», як іх жартам называлі, выпускалі нават агульнагарадскую насценгазету «БОКС» (Баявы орган камсамольскай сатыры). Некаторых маладых паэтаў і празаікаў запрашалі на трэці (1945) і чацверты (1959) з'езды пісьменнікаў БССР, імёны паасобных з іх называліся ў справаздачных дакладах. У Саюзе пісьменнікаў БССР абмяркоўваліся вершы студэнта-чацвертакурсніка Ніла Гілевіча. У 1955 годзе ён быў прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў БССР.

Літаратары разам са студэнтамі іншых факультэтаў актыўна адгукнуліся на заклік партыі паехаць на асваенне цалінных зямель. Пасля летняга працоўнага семестру яны везлі дадому не толькі мазалі ды акрэплыя мускулы, але і вершы, апавяданні, замалёўкі. У 1957 годзе на Усесаюзным літаратурным конкурсе, прысвечаным Сусветнаму фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве, Р. Барадуліну за цалінную нізку вершаў быў прысуджаны срэбраны медаль. Праз год выйшла з друку кніга яго лірыкі «Маладзік над стэпам».

Р. Барадулін надзвычай добра ўзнаўляе літаратурную атмасферу ўніверсітэта другой паловы 50-х гадоў: «Універсітэт. Пасяджэнні літаб'яднання пры ўніверсітэце і «Чырвонцы». Вучылі адзін аднаго і вучыліся самі. Першы надрукаваны верш. Універсітэт адкрыў мне новага Янку Купалу, яшчэ больш «прысушыў» сэрца да генія роднага слова Максіма Багдановіча.

Жыў я на Бабруйскай вуліцы ў 54-м пакоі корпуса «А». Гэты пакой не без падстаў называлі «літаратурным штабам». Акрамя мяне, жылі тут Барыс Сачанка, Іван Сіпакоў, Іван Пехцераў.

Адзін эпізод з многіх. 1958 год. Май. У пакоі нашым ажыўлена, кіпіць дыскусія. Хоць цеснавата (прыйшлі Генадзь Бураўкін, Сымон Блатун, Уладзімір Карызна, Міхась Жук), але думкам, пачуццям, словам — вольна.

— Чытай, Генка, твая чарга,— кажа Барыс Сачанка. І Генадзь Бураўкін чытае:

Я часам сам сябе не пазнаю,
Разважлівы, спакойны і цвярозы,
Пра маладосць бясхмарную маю
Усё часцей ка мне прыходзіць роздум.

Бураўкін чытае ціха, але з сур'ёзнасцю, удумлівасцю. Вершы бяруць за душу. У наступным годзе разам з Б. Сачанкам і І. Сіпаковым ён выдае першую кніжку.

За вокнамі звіняць трамваі, свішчуць паравозныя гудкі, зелянее ў скверыках маладая траўка. Хто не любіць гэтую пару года, вясну-вясною і хто аб ёй не пісаў вершаў!

У дзверы пастукалі.

— О, ды тут, бачу я, цэлая нарада,— падае свой голас Юрась Свірка, заходзячы ў пакой.

— Не хапае ліўняў! — хтосьці кідае жарт у яго адрас. Справа ў тым, што Юрась Свірка таксама выдае першы зборнік вершаў — «Шэпчуцца ліўні».





Адразу ж пасля кожнага чытання ішло абмеркаванне, выяўляліся хібы, даваліся парады. І вельмі карысна было слухаць гэтыя спрэчкі самым маладым — Ніне Лагун, Вячаславу Рагойшу, Ігару Хадановічу»...

У 50-х гадах кафедра беларускай літаратуры папоўнілася за лік былых універсітэцкіх студэнтаў. Скончылі аспірантуру і пачалі выкладаць родную літаратуру В. Казлова, І. Навуменка, А. Лойка, Н. Гілевіч. Добра ведаючы запатрабаванні і схільнасці філолагаў, яны пачалі цікавей і грунтоўней арганізоўваць на факультэце навучальны і творча-літаратурны працэс. Літаратурным гуртком у 1956 годзе стаў кіраваць І. Навуменка. За два гады студэнты падрыхтавалі і выдалі да 40-годдзя БССР зборнік вершаў «Падарунак» (1958). Гэта — першы за гісторыю ўніверсітэта друкаваны літаратурны альманах.

Слова «Узлёт» у студэнцкім лексіконе з'явілася параўнальна нядаўна, у 1964 годзе, калі пры рэдакцыі газеты «Беларускі ўніверсітэт» было створана агульнаўніверсітэцкае літаратурнае аб'яднанне з такім вымоўным іменем. Да гэтага ж на філалагічным факультэце існаваў літаратурны гурток. Асноўная заслуга гуртка, якім з 1959 года кіраваў А. Лойка,— падрыхтаваны да 40-годдзя роднага ўніверсітэта вялікі, на дзвесце машынапісных старонак, літаратурны альманах «Вясновая рунь».

На старонках «Вясновай руні» вялікімі падборакмі вершаў прадстаўлены В. Макаревіч, М. Маляўка, А. Сербантовіч, У. Верамейчык, Г. Дзмітрыеў, М. Міцкевіч, М. Чарняўскі. Па адным-два вершы змясцілі М. Зарэмба, М. Шаўчонак, М. Пашкевіч, А. Бяржынскі, А. Дудко і іншыя. Не ўсе пачынаючыя пісьменнікі, прадстаўленыя ў зборніку, выйшлі на шырокія дарогі літаратурнай творчасці, але менавіта «Вясновая рунь» вызначала літаратурнае аблічча ўніверсітэта на пачатку 60-х гадоў, менавіта яна склала аснову аб'яднання, якое пазней стала называцца «Узлётам».

Вялікай заслугай літаратурнага аб'яднання «Узлёт» з'яўляецца тое, што яно наладзіла рэгулярнае выданне паэтычных альманахаў. Стартаваў «Узлёт» кніжкай вершаў пад такой жа назвай. Сёння гэтую невялікую па фармаце кніжку, выдадзеную тыражом у дзве тысячы экземпляраў, немагчыма знайсці ў кнігарнях, цяжка адшукаць у бібліятэках. Яна засведчыла прыход у вялікую літаратуру паэтаў, якія маюць сёння свае уласныя зборнікі вершаў, а некаторыя нават прыняты ўжо ў Саюз пісьменнікаў. Гэты першы ўніверсітэцкі літаратурны прыліў 60-х гадоў вынес да чытача творы Р. Семашкевіча, М. Маляўкі, Хв. Чэрні, К. Камейшы, М. Дуксы. Цікава заяўляюць пра сябе і тыя, хто кніжкі пакуль што не мае,— П. Сушко, М. Шаўчонак, М. Губернатараў, У. Дзюба, Г. Дзмітрыеў, Э. Зубрыцкі. Безумоўна, час яшчэ раскрые творчыя магчымасці «шасцідзесятнікаў», якія толькі-толькі ступілі на шлях паэзіі.

Новы літаратурны прыліў пачаўся гадоў пяць-шэсць таму назад. Засведчаны ён другім паэтычным зборнікам узлётаўцаў — «Натхненне». Мастацкі ўзровень яго ў цэлым вышэйшы за «Узлёт». Адкрываецца «Натхненне» вершамі Яўгеніі Янішчыц, лірычнай споведзю аўтаркі перад Бацькаўшчынай і Часам. Паэтычную эстафету ад яе пераймаюць Анатоль Казловіч, Леанід Дайнека, Юрка Голуб, Віктар Ярац. Шчырасцю і цеплынёй, а падчас і глыбокім роздумам вылучаюцца ў кнізе вершы Алеся Разанава, Алены Руцкай, Сяргея Законнікава, Алеся Камароўскага, Івана Станкевіча, Яўгена Хваля. Творы гэтых паэтаў сёння можна сустрэць на старонках рэспубліканскай перыёдыкі.

Да 50-годдзя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна выходзіць у свет вялікая анталогія — «Універсітэт паэтычны». У яе ўвайшлі творы ўніверсітэцкіх паэтаў усіх пакаленняў — ад «маладнякоўца» Паўлюка Труса, «узвышэнца» Кандрата Крапівы і да «ўзлётаўкі» Яўгеніі Янішчыц.

Дзе ёсць свая гісторыя, не можа не быць і сваіх гісторыкаў. Летапісцы літаратурнага жыцця БДУ імя У. І. Леніна — члены гуртка гісторыі і тэорыі роднай літаратуры філалагічнага факультэта. Рупна, па крупінках збіраюць факты Ніна Супрун, Аня Нямковіч, якія прыйшлі ва ўніверсітэт пазалетась. Актыўна ўключыліся ў напісанне літаратурнага летапісу Аня Грабовік, Валя Вашкова, Лія Аўгусціновіч, а таксама Валодзя Васілевіч і Сяргей Палітыка. Толькі летась паступілі на філфак Валодзя Лойкаў, Іван Зянькоўвіч, Алег Яваровскі. Але і яны ўжо маюць пэўны вопыт у збіранні матэрыялу; гутарылі з пісьменнікамі-выпускнікамі ўніверсітэта, корпаліся ў архівах, праглядалі даўнюю перыёдыку. Калі ж вопыту не хапае — можна пракансультавацца ў старэйшых гурткоўцаў: Марыі Місючэні, Тамары Пятровіч ці Валі Бабіч. Яны заўсёды дапамогуць. Бо і ім жа дапамагалі ў свой час сёлетнія выпускнікі Віктар Дарашкевіч і Анатоль Бутэвіч.

Паступова, спакваля пішацца гісторыя ўніверсітэцкага літаратурнага жыцця. Пакуль што не ўсе старонкі гісторыі дапісаны, не ўсе матэрыялы для летапісу адшуканы. Наперадзе — новыя пошукі ў архівах, на старонках кніг, часопісаў і газет, новыя сустрэчы і гутаркі з пісьменнікамі — універсітэцкімі выхаванцамі. Але да залатога юбілею ўніверсітэта, з-пад крыла якога выпырхнула столькі таленавітых юнакоў і дзяўчат, гурткоўцы абавязаліся стварыць хаця б кароткі курс яго літаратурнай гісторыі. Гісторыі, якая ствараецца і сёння, якая, верыцца, ніколі не дойдзе да сваёй апошняй старонкі.

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**дацэнт кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна.**



Мікола Лобан.

# ХЛЕБ НАШАГА СЯБРОЎСТВА

Ён прынёс мне свой новы раман з такім надпісам: «Першаму і бязлітаснаму чытачу...», і недзе ў глыбіні маіх пачуццяў варухнулася радасць ад таго, што мой даўні друг не толькі ні разу не пакрыўдзіўся на мае, можа, і непрыемныя часам заўвагі, але праз усё жыццё пранёс упэўненасць, што мы ніколі не маглі пакрывіць душой адзін перад адным.

Ганаруся такім сяброўствам і з такімі людзьмі, якія ўсё, зробленае імі, і ўсё, што яны спадзяюцца зрабіць, заўсёды мераюць глыбінёй свайго сумлення.

У Слуцку, вучачыся — ён у педтэхнікуме, а я ў прафшколе,— мы пачыналі разам: ён з апавяданняў, я — з вершаў. Не маючы яшчэ ніякай падрыхтаванасці ў тэорыі літаратуры, а, мабыць, толькі па наіцыю, па асаблівасцях яго разважлівай, спакойнай натуры, схільнай ужо тады да грунтоўнага, усебаковага, дапытлівага разгляду кожнай з'явы і падзеі, людскіх паводзін і іх даследавання, я, прачытаўшы два яго першыя апавяданні, асмеліўся на такое рызыкоўнае прароцтва:

— Ты не будзеш пісаць апавяданняў. Ты будзеш пісаць раманы.

Не бяруся сцвярджаць, ці сказаў я яму пра эпічную прыроду яго магчымасцяў. Хутчэй за ўсё тады я яшчэ не ведаў такога вызначэння: эпічны талент. Хоць сам ён, калі мы аднаго разу пачалі прыгадваць гэтую размову, запэўніваў мяне, што наш творчы сімпозіум, як гавораць цяпер, праходзіў на ўзроўні, які чамусьці запомніўся, хоць гэта было сорак пяць гадоў таму назад.



Свае субяседаванні мы вялі не на семінарах, не ў творчых секцыях і не за круглымі сталамі, а ўспёршыся локцямі на хісткія парэнчы «чортавага мосціка» цераз слуцкую рачулку або на ціхай сцежцы сярод жытняга поля, якое пачыналася на выхадзе з горада, адразу ж за Трайчанскай вуліцай.

Гэтае жыта запомнілася яшчэ і таму, што ў ім адбылося злачынства, зробленае намі перад яснай некранутасцю юнацкай даверлівасці.

Ідучы аднаго лета ў горад, мы ў палавіне дарогі ў вясковай краме купілі сотку. Нялёгка было адважыцца на такі крок, не толькі склаўшы свае першыя капейкі, але і адчуваючы, як трапечуцца і заміраюць нашы сэрцы, як гараць вушы. І ўсё ж імкненне паказаць самастойнасць, якою ганарыліся дарослыя хлопцы, перамагло сорам. Спакуслівы страх прыдаў рашучасці. Мы праглі адкрыцця невядомай асалоды, сумеснай тайны нашага сяброўства. Рашыць гэтую сотачку на людзях мы ніколі не адважыліся б і таму схаваліся ў жыце.

Дзень быў гарачы. Яшчэ гарачэйшаю была зманлівая, прывабная атрута. Кожны глытаў сваю дзель, зацяўшыся перад другім, каб не паказаць слабасці. Выбраўшыся на гасцінец, мы ўбачылі, што ногі не слухаюцца нас, што да горада мы не дойдзем, не выдыхаўшы горкага прычасця. Доўга ляжалі мы на спякотным прыдарожным узмежку, а нашы ачмурэлыя галовы звінелі і гулі ад водару перасохлай на сонцы піжмы, густога палыну, горкага малачаю, між якіх асабліва выбівалася і займала дых нязвыклая, невыносная гаркота вінаватасці саміх перад сабою.

Дажыўшы да старасці, мы часта ўспамінаем свой першы пакутны хмель, ад якога і цяпер марочацца нашы галовы.

Сяброўства наша, аднак, пачалося не з гэтай прыкрай, непрыемнай прыгоды, а са светлай, яшчэ дзіцячай прагнасці да таямнічай слодычы роднага слова, імкнення да той загадкі чарадзейства, якую нясе чалавеку кніга.

Як я зайздросціў яго шчасцю! У яго вёсцы пасля скасавання валасці заснаваўся наш агульны сельсавет. Майму другу даверылі бібліятэку. І хоць кніг там было ўсяго на тры-чатыры паліцы, якім багаццем былі яны для мяне! Са сваёй у яго вёску я бегаў амаль штодня. Тоўстых тамоў там не было, і кожную ўзятую кніжачку я прачытваў яшчэ па дарозе дадому, вяртаючыся нацянькі, цераз балота, якое падзяляла нашы вёскі. Няёмка было на тым жа часе бегчы па новую кніжку. Таму як радаснага свята чакаў я наступнай сустрэчы з ім, маім бібліятэкарам, маім аднагодкам, першым другам незабыўных, падлеткавых дзён...

І цяпер дарагія нам абодвум радасці і гаркоты, перажытыя разам, і цяпер помняцца нам сцежкі цераз балота, якое вясною і ўлетку гуло, траха не разрываючыся, ад галасоў, кожны з якіх быў нам вядомы і зразумелы.

Выпрабаваўшы далёкія дарогі свайго лёсу, цяжка паранены, пасля многіх месяцаў шпітальнага ложка, ён па гарачых слядах вызвалення дабіраўся да роднае вёскі.

Ногі не слухаліся яго цяпер ужо не па ўласнай віне. Са знаёмага слуцкага гасцінца ён цераз усю сваю сілу адолеў толькі палову дарогі. Позняй ноччу ледзь дацягнуўся і пастукаў у акно хаты, якая стаяла па гэты бок балота. Мая маці абрадавалася яму гэтак, як абрадавалася б мне. Ён быў першы, хто прынёс ёй жывую вестку пра сына...

Я ўдзячны свайму лёсу ўжо за адно тое, што з нямногіх сяброў, дарагіх з дзіцячых дзён, ён зберог мне друга, у вочы, у сумленне якога глядзіш заўсёды з адчуваннем шчасця і радаснага здзіўлення: якія ж мы трывушчыя, якія жывучыя! Вылезці, выкарабкацца з ануч, з лапцей, з духоўнага рабства, якое так доўга гняло нашых бацькоў, ды яшчэ і нас саміх, зрынуць з плячэй сваіх пагарду і знявагу цывілізаванага карычневага цемрашальства і зберагчы найдаражэйшы скарб душы — захапленне чалавечнасцю чалавека!..

Мой друг — пісьменнік чуйнай, тонкай натуры, у сваіх вядомых раманах глыбока выявіў сябе як эпік. Маё рызыкоўнае юнацкае прадбачанне, на жаль, спраўдзілася. Чаму — на жаль? Таму што мастаку такога шырокага дыяпазону, як ён, вельмі прыдалася б і другая, лірычная асаблівасць таленту. Аднаго разу ён даў мне прачытаць рукапіс сваёй новай аповесці. Гэта быў твор аб самым блізкім, запаветным — аб юнацтве, першым каханні, першых кроках самастойнага жыцця.

Наш творчы сімпозіум, які на гэты раз адбываўся ў Мінскім батанічным садзе і за час якога мы не адзін раз выхадзілі ўсе яго сцежкі-дарожкі, быў не на вельмі прыемным узроўні. Але што паробіш, такі ўжо хлеб нашага сяброўства. Не заўсёды ён салодкі і смачны, але заўсёды дарагі нам. Потым мой друг перарабляў сваю рэч, спадзеючыся: быць не можа, каб асабіста перажытае не знайшло дарогі да іншых сэрцаў.

Нялёгка быць хірургам, яшчэ цяжэй рабіць аперацыю сабе самому — рэзаць па ўласным целе. Пісьменніку гэта давodзіцца.

Але ніхто з нас ніколі не выкіне з памяці ўласнага душэўнага вопыту. І я ўпэўнены, я ведаю і веру, што мой друг напіша, абавязкова напіша сваю самую запаветную кнігу, кнігу свайго жыцця, свайго часу.

Ад усяе душы зычу яму вялікай удачы!

Друга майго, самага сціплага сярод нас працаўніка беларускай літаратуры завуць Мікалай Паўлавіч Лобан.

**Васіль ВІТКА.**

● Мікола ЛОБАН

# ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ ДАРОГА

Сто васемнаццаць кіламетраў на поўдзень ад Мінска — Чаплічы, старажытнае валасное сяло. Тут жылі мае бацькі, тут пачалося і маё жыццё. У сямейнай памятнай кнізе рукою бацькі прыгожым каліграфічным почыркам было напісана: «Родилась телка 12 января 1911 года». Радком ніжэй: «Крестился Николай 14 октября 1911 года». Гэта дата і асталася ў маёй памяці.

Бацька мой, Павел Васільевіч,— з радавітых мужыкоў: як і помняць сябе, варочалі зямлю, сеялі ды збіралі. І больш у панскае, чым у сваё гумно. Кажуць, калі дзед першы раз пайшоў у школу, настаўнік запытаў у яго: «Як прозвішча?» — «Лабановіч»,— адказаў хлапчук.— «Як — Лабановіч? Мужык ды шляхечае прозвішча носіш? Лобан тваё прозвішча»,— запярэчыў настаўнік і запісаў: «Лобан Василий».

Вялікая сям'я была ў дзеда, не абдзяліць усіх зямлёю. Бацьку давялося ў свет пайсці. Кандуктарам аб'ездзіў Украіну, Сібір, Сямірэчча, працаваў стрэлачнікам, гарбаром, мулярам. Вярнуўшыся на радзіму, купіў дзесяціну зямлі, паставіў хату і ажаніўся на Сцепанідзе Трахімаўне Міснік, ахмістрыні чапялёўскай памешчыцы Відзецкай. Сям'я Трахіма Мísніка, майго дзеда па мацеры, таксама была вялікая, чатырнаццаць душ, і галодная, як усякая сям'я панскага парабка. Нехта з гэтай вялікай сям'і памёр у дзяцінстве, нехта астаўся без рук на панскай рабоце, нехта зварыўся ў кіпучай бразе на панскім бровары.

Паблукаўшы па свеце, бацька добра засвоіў рускую мову. Маці ж была захавальніца роднай мовы ў сям'і. Яна цудоўна ведала польскую, але ў сям'і гаварыла толькі па-беларуску. Бацька часам папраўляў нас, дзяцей: «Надо говорить «он»,а не «ён», «в печке» а не «ў печцэ». Але мы ніяк не маглі ў сваю моўную плынь уставіць гэтыя «он» і «в печке».

Бацька быў працавіты чалавек, і нейкім філасофскім перакананнем у яго было: «Нет ничего справедливее, чем копать заступом землю». За тое, што бацька не прытрымліваўся свят, маці іншы раз абзывала яго грахаводнікам, а ён на гэта адказваў: «Грешно воровать, а не работать». Будучы вельмі рэлігійным чалавекам, ён, аднак, ніколі не хадзіў у царкву. Не хадзіў таму, што ненавідзеў папоў, лічыў іх «мошенниками». Але дома, калі выпадала вольная хвіліна, часта браў у рукі «Псалтыр» і, водзячы пальцам па радках, громка чытаў.

Першая сусветная вайна асталася ў памяці нейкім ласкуццем малюнкаў. Ідуць салдаты, чорныя, аброслыя, чамусьці ў чорных шынялях з вінтоўкамі. З-пад Баранавіч даносіцца артылерыйская кананада. За сялом будуецца абарончы рубеж — акопы, драцяныя загароды, бліндажы ў некалькі накатаў. У двары, седзячы на драбінах, бацька прыладжвае палатняную буду, каб заўтра па загаду жандараў ехаць у бежанцы. У тыя дні многа гаварылі пра Брусілава і пра Карнілава, пра Распуціна і Мікалая II. Цераз зіму каля валасці разбілі каменнем бюст цара Аляксандра II. Тады было многа сходаў. На адным з іх бацька выступіў з выкрыццём кулацкіх махінацый на будаўніцтве акопаў. Яго за гэта так збілі, што ён ледзь прыпоўз акрываўлены дадому. Савецкая ўлада прыехала ў Чаплічы позняй восенню ў выглядзе трох салдатаў з вінтоўкамі.

У школу я пайшоў у 1918 годзе ў «приготовительную группу». Перад пачаткам заняткаў усе вучні школы збіраліся ў адзін клас. Хто-небудзь з старэйшых вучняў чытаў малітву. Усе чынна выслухвалі яе, у канцы гаварылі «амінь» і разыходзіліся па класах. На ўрок па закону божаму чакалі папа і... не дачакаліся. Нас гэта вельмі ўзрадавала — мы баяліся папа.

Нягледзячы на тое, што кожны, ідучы ў школу, нёс пад пахай палена дроў, у класах было вельмі холадна, замярзала чарніла. Настаўнікі рабілі доўгія перапынкі, каб пагрэцца ў кватэры, а мы ў гэты час, пазнімаўшы папружкі і пастаўшы на партах, усчыналі бойку, ішлі «вайною» клас на клас.

Гэта былі гады, калі я ўпершыню ўбачыў у кнігах беларускае слова, пачуў яго на ўроках. Яно даходзіла да нас праз вершы Купалы, Коласа, з песнямі Тэраўскага. Мы, стаіўшы дыханне, слухалі «Сымона-музыку», з дзіцячай верай і непасрэднасцю смяяліся з дзядзькі Антося з «Новай зямлі» Якуба Коласа, перажывалі за лёс Бандароўны, захапляліся апавяданнямі з чаротаўскага «Веснаходу». Мы з задавальненнем глыталі мастацкі твор цалкам. Наўрад ці было гэта горш. У тыя гады беларуская мова ў вуснах вясковай інтэлігенцыі была прыкметай высокай, гарадской культуры. Гаварыць на беларускай літаратурнай мове было модна. Калі я ў 1925 годзе вучыўся ў Слуцкай сямігодцы, нам неяк абвясцілі, што з наступнага панядзелка ўсе ўрокі будуць чытацца па-беларуску. Сам гэты факт не здзівіў нас. Гэта было ўжо само сабою зразумела. Не дзівіла нас і тое, як закаранелыя старарэжымныя інтэлігенты, выкладчыкі старой класічнай гімназіі змогуць адразу перайсці на беларускую мову. Нас непакоіла адно, як пяройдзе на беларускую мову наш любімы настаўнік матэматыкі Майсей Ільіч Козак. Ён не вылучаўся асаблівым красамоўствам, і нам здавалася, што яму цяжка дасца гэты пераход. Усе чакалі першага ўрока Майсея Ільіча. І вось ён настаў. Мы праніklіся яшчэ большай павагай да нашага настаўніка, праслухаўшы гэту першую на беларускай мове лекцыю. Нам паказалася, што ён ніколі так прыгожа не гаварыў, як на гэтай лекцыі. На працягу многіх год мне даводзілася сустракацца з Майсеем Ільічом. Я не чуў ад яго іншай мовы. Мне стала здавацца, што ён ніколі на іншай мове, акрамя беларускай, і не гаварыў.

У тыя гады захапленне беларускай літаратурай было незвычайнае. Моладзь зачытвалася «Сокамі цаліны» Цішкі Гартнага, «Сцежкамі-дарожкамі» Міхася Зарэцкага, апавяданнямі Бядулі і Нёманскага, «Бібліяй» Кандрата Крапівы. У Беларусі, здавалася, не было вёскі, дзе б не пабываў вандроўны тэатр Уладзіслава Галубка. У Чаплічах ён быў два ці тры разы. Сам Уладзіслаў Галубок і яго тэатр былі з'явай незвычайнай, поўнай высакароднага самаахвяравання. Тое, што ў 20-я гады ў Беларусі была высока развіта клубная самадзейнасць, вялікая заслуга ў гэтым тэатра Уладзіслава Галубка.

Наступалі гады калектывізацыі. Я вучыўся на двухгадовых педагагічных курсах пры Слуцкім педтэхнікуме. У вучэбны працэс уводзіўся так званы брыгадны метад навучання. Давалася тэма і пытанні да яе. Брыгада самастойна распрацоўвала тэму. Роля выкладчыка зводзілася да апытання. Адказваў з брыгады адзін, адзнакі ставіліся кожнаму члену брыгады аднолькавыя.

Я любіў спорт і хацеў дадаткова займацца ў спартыўным гуртку. Кіраўнік гуртка патрабаваў даведку ад доктара. Праз два дні я прынёс гэту даведку. У ёй было сказана: парок сэрца і туберкулёз. На працягу месяца я хадзіў у тубдыспансер. Тэмпература штодзённа трымалася на ўзроўні трыццаці дзевяці. Урач напісаў дырэкцыі тэхнікума аб неабходнасці майго датэрміновага выпуску, і я паехаў дадому. Была вясна 1931 года, аднаго з самых галодных гадоў, якія я толькі помню. Урач наказваў пабольш есці масла, мяса, яек, мёду, дыхаць свежым паветрам. Дома не толькі нічога гэтага не было і ў памінку, а не было і хлеба і бульбы, жылі на жытняй зацірцы. Я вырашыў не засмучаць маці і нічога нікому не сказаў. Прыдумаў, што я добра вучыўся, таму мяне раней тэрміну выпусцілі. А сам рашыў адолець хваробу сваімі сіламі. Пачаў займацца спортам, купацца, ляжаць на сонцы. Далежваўся да галаўнога болю, да пацямнення ў вачах, да кружэння галавы. Праз два гады ў мяне не стала ніводнага ачажка ў лёгкіх, а парок кампенсіраваўся. Потым, калі я звярнуўся да доктара і расказаў яму, што ў мяне было і як я лячыўся, ён мне сказаў, што я рабіў якраз самае страшнае, што ні ў якім разе няможна было рабіць.

Пісаць я пачаў вельмі даўно. Дзесяцігадовым хлапчуком напісаў некалькі апавяданняў і «выдаў» зборнік. Я кажу — выдаў, бо апавяданні былі перапісаны рукою друкаванымі літарамі, лісты склеены і пераплецены ў выглядзе маленькай кніжачкі. Праз некалькі год я такім жа чынам выдаў зборнік п'ес, потым напісаў радкоў з восемсот паэмы, пераймаючы коласаўскую «Новую зямлю». Уся гэта дзіцячая забаўка была знішчана. Пісаў я і вершы і нават пасылаў у «Беларускую вёску». Калі ў адным з нумароў «Чырвонага сейбіта» Пятро Глебка адазваўся пра мае вершы, як пра ні сёе ні тое, пакінуў пісаць я іх. У 1929 годзе напісаў дзве імпрэсіі і паслаў у той жа «Чырвоны сейбіт». Не прайшло і двух тыдняў, як атрымаў з рэдакцыі пісьмо. На невялічкім рэдакцыйным бланку было ад рукі напісана: «Паважаны таварыш Касцяроўскі! (Касцяроўскі — быў мой псеўданім. Дасланыя вамі апавяданні друкавацца не будуць, яны яшчэ слабыя. Але ў вас ёсць літаратурныя здольнасці. Працуйце над сюжэтам і мовай. Пішыце. К. Чорны». Гэты дзень мне запомніўся на ўсё жыццё. Праз невялікі час я напісаў і паслаў у рэдакцыю яшчэ адно апавяданне, і яшчэ адно пісьмо атрымаў ад Мікалая Карлавіча. Яно было таксама кароценькае і цёплае, але я не магу дакладна ўзнавіць яго ў памяці. Мікалай Карлавіч настойліва патрабаваў пісаць.

Нягледзячы на гэтыя цёплыя пісьмы Кузьмы Чорнага, я ўсё ж адчуваў няўпэўненасць у сабе. Мне хацелася хутчэй надрукавацца. Мне тады здавалася, што першае выступленне ў друку з мастацкім творам — гэта ўжо прызнанне ці, ва ўсякім выпадку, апраўданне пакутаў, вынікам якіх я ніколі не быў задаволены.

Пры бабруйскай акруговай газеце «Камуніст» выходзіў літаратурны дадатак «Вясна», у якім ужо друкаваліся мае сябры Цімох Крысько і Яўхім Кохан. Пад уплывам іх ды яшчэ Барыса Мікуліча, з якім я сустрэўся ў Слуцку ў 1930 годзе, я адважыўся паслаць апавяданне ў «Вясну». Там яно праз некаторы час і было надрукавана. Цяпер я ніколі б яго не ўспомніў, калі б не праныры-літаратуразнаўцы. Ад іх нічога не ўхаваеш. Апавяданне да немагчымасці слабае і па-дзіцячы наіўнае. Што б я цяпер, здаецца,

зрабіў, каб гэтага апавядання ў мяне не было! Я разумею, як, бывае, хочацца першае сваё выступленне ў друку сабраць і спаліць. Такія адносіны да свайго першага апавядання ў мяне стварыліся не цяпер, не праз многа год, а літаральна на другі дзень пасля яго з'яўлення ў друку. Позна вечарам, калі ў вокнах былі ўжо запалены агні, я вяртаўся ў інтэрнат. У адным з пакояў здалёк праз акно ўбачыў, быццам студэнты нешта гуртам чытаюць. Нейкім чуццём я здагадаўся, што яны чытаюць маё апавяданне. Я цішком падышоў да акна і, стаўшы так, каб мяне не заўважылі, прыслухаўся. Сапраўды студэнты чыталі маё апавяданне. Чыталі сур'ёзна, без насмешак і кпінаў, а я ад сораму не мог стаяць — такім нікчэмным і бездапаможным здалося яно мне. Назаўтра я стараўся абягаць усіх, хто ведаў пра маё надрукаванае апавяданне, каб раптам не ўзнікла як-небудзь размова пра яго. Пасля гэтага ў мяне пачалася перапіска з незабыўным Хвядосам Шынклерам, з гэтым цудоўным чалавекам, добрым, клапатлівым. Ён за вушы цягнуў мяне ў літаратуру, прадракаў мне чорт ведае якую будучыню. Не ведаю, што ім кіравала, калі ён гаварыў падобныя словы. Яны мне былі прыемныя, але не пераконвалі. У мяне не хапала ні жыццёвага вопыту, ні ведаў. Дзе ўсё гэта набыць? Мае патрабаванні да сябе значна перавышалі мае магчымасці.

У 1931 годзе я паехаў на працу ў вёску Пласток Любанскага раёна. Пачатковая школа. Самастойнае жыццё. Новыя людзі. Новае жыццё вёскі. Затым вёска Таль таго ж раёна. Выкладаю мову і літаратуру. Аднойчы іду на ўрок і бачу: па гразкай вуліцы сяла ў бок Любані ідуць фурманкі. На пярэдняй — Янка Купала, Платон Галавач... А праз некаторы час чытаю ў «Звяздзе» паэму «Над ракою Арэсай». І зноў прага пісаць. Але пра што? Што ні чалавек, то з расколінкай, са шчарбінкай. А патрэбны чысценькія, гладзенькія, адпаліраваныя энтузіясты. Такіх няма? Ствары, ты ж мастак. Навокал жывыя людзі, у кожнага свой лёс, свае радасці і свой смутак, свае думкі і свае погляды, свае адносіны да рэчаў і падзей, свой характар. Хіба не гэты чалавек павінен быў бы стаць героем літаратуры?

Хочацца вучыцца. Прашуся. Не пускаюць. Еду сам, паступаю на аддзяленне замежных моў Вышэйшага педінстытута. Праз два месяцы агледзеліся — няма даведкі з райана. Выключаюць. Еду на працу ў Шацк Рудзенскага раёна. Праз год усё гэта паўтараецца нанава. На гэты раз працую ў в. Пярэжыр аж да 1939 года. Паміраe мой незабыўны друг Любоў Іванаўна Маркава. Цяжка зношу гэту страту. Гора прымусіла мяне з'ехаць у Кіеў. Паступаю на філфак універсітэта. Так пачалася мая вучоба, спачатку ў Кіеве, потым у Мінску, у БДУ.

Вайна застае мяне ў Мінску. Двое сутак пад варожымі бомбамі. Мінск у полымі пажараў. У армію не бяруць — не прыгодны да ваеннай службы. У Рудзенскім ваенкамаце я застаю натоўп мужчын, якім раздаюць білеты,— ідзіце самі на Усход. Іду на Магілёў, з Магілёва ў Клімавічы, з Клімавіч на Рослаўль, з-пад Рослаўля на Арол, з-пад Арла на Ліпецк у галоднай, змучанай камандзе. Яна, гэта каманда, утварылася, як вялікая рака ўтвараецца з крыніц і рачулак. Помню па дарозе не адны пакрыўджаныя вочы маўклівай беларускай жанчыны з гладышом малака, з акрайцам хлеба. Іх ніхто не арганізоўваў, іх арганізоўвала Крыўда і Любоў. Гэтыя багіні — самыя лепшыя арганізатары, на іх заклік адгукваецца стыхія, магутная і шырокая, як акіян. На вуліцах г. Дзядзькава нас сустрэў натоўп жанчын. Адна з іх выйшла на сярэдзіну вуліцы, расставіла рукі і закрычала:

— Куды вы, мужчыны?! На каго вы нас пакідаеце?

Што мы маглі адказаць гэтай жанчыне? Мы ўгіналі галовы ад сораму бяссілля. У тыя дні мы мала гаварылі, але многа думалі. І колькі б мы ні думалі, тады мы не маглі растлумачыць усе «чаму». Ды, зрэшты, і цяпер гэта не так лёгка зрабіць.

Не буду расказваць падрабязнасці майго ўдзелу ў баях на Волхаўскім фронце. Гэта факты вельмі падрабязнай біяграфіі. 11 кастрычніка 1941 года быў ранены асколкам ручной гранаты пад станцыяй Мга. Адзін з асколкаў і цяпер сядзіць у шыйным пазванку ў вельмі далікатным месцы, прылашчыўшыся да сардэчнага нерва. Нічога, адносіны ў нас з ім пакуль што памяркоўныя — ні ён мяне, ні я яго. Адразу пасля ранення хацелі везці да акадэміка Бурдэнкі, галоўнага хірурга Чырвонай Арміі. Але ці то ў мяне чыну не хапіла, ці проста забыліся і пагрузілі не ў самалёт, а ў санітарны поезд, што ішоў на Волагду, Кіраў... На перагоне паміж станцыямі Новы Двор і Яфімаўскай у вагон трапляе авіяцыйная бомба з варожага самалёта. З усяго вагона адзін астаюся жывы. Да майго любімага асколка ў пазванку дадаюцца раструшчаныя косці абедзвюх ног. Сяк-так выпаўзаю з-пад кучы жалеза і ламачча.

Сем месяцаў шпіталю ў Кіраве і Іркуцку — і я паўнацэнны настаўнік у пасёлку Келераўка Паўночна-Казахстанскай вобласці. З дзецьмі вывучаю рускую мову і літаратуру, а з навабранцамі — ваенную справу: як страляць, як акопвацца, як хадзіць у атаку.

Праходзіць цяжкі для Радзімы 1942 год. Зіма прыносіць радасную перамогу нашай зброі. Гарачае лета на Курскай дузе — і яшчэ адна перамога. З Масквы ад Васіля Віткі пачынаю атрымліваць пісьмы і беларускія газеты. Радасці няма канца. А ўвосень 1943 года еду на станцыю Сходня пад Масквой.



Там аднавіў сваю работу Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Адразу столькі знаёмых — студэнты, выкладчыкі. Тут пазнаёміліся ўпершыню і з Іванам Мележам. Ён тады рабіў свае першыя крокі ў літаратуры. Разам вучыліся і вучылі студэнтаў ваеннай справе... Будучы студэнтам, я пачаў працу ў Камісіі па складанні руска-беларускага слоўніка, якую ўзначаліў П. Ф. Глебка. Кожны дзень са Сходні выязджаў у Маскву ў бібліятэку імя У. І. Леніна працаваць над слоўнікам. Энтузіязму не было мяжы: садзіўся за стол у дзевяць раніцы, а ўставаў у дзевяць вечара, спяшаючыся на апошні прыгарадны поезд. Я быў перакананы, што трэба кожнаму чалавеку працаваць за траіх, каб аднавіць, каб навярстаць.

Летам 1944 года разам з універсітэтам я вярнуўся ў родны Мінск. Аставалася паўтара года заняткаў. Канчаў і працаваў у Акадэміі. Не ведаю, ці вярнуўся б я да літаратурнай работы, калі б не ўсё той жа Васіль Вітка. Аднойчы ён прыйшоў да мяне і запрасіў на працу ў часопіс «Беларусь». Рэдакцыйнай работы я тады зусім не ведаў, таму яго запрашэнне мне здавалася страшнаватым. Я папрасіў, каб рэдакцыя даручыла мне што-небудзь напісаць. Калі спраўлюся з гэтым даручэннем, то тады няхай сабе залічаць на работу. Тады можна было працаваць па сумяшчэнні на дзвюх работах. Мой артыкул пра Я. Х. Карскага спадабаўся рэдакцыі, і я пачаў працаваць у часопісе «Беларусь». Тут я надрукаваў некалькі апавяданняў, нарысаў, артыкулаў. Надрукаваў і першую аповесць «Іркуцянку», у «Полымі». Так я стаў пісьменнікам. Нават быў прыняты ў Саюз. Але ці стаў я сапраўды пісьменнікам? Больш хвалілі, чым крытыкавалі. Не, пісьменнікам я яшчэ не стаў. Пісьменнік, мне здаецца, пачынаецца не тады, калі прыходзіць майстэрства слова, а тады, калі з'яўляецца непаўторнасць думкі, сваё мастацкае вока, калі ёсць што сказаць і, самае галоўнае, непераадольная патрэба сказаць гэта. Калі пісьменнік задае сабе пытанне, пра што б яму напісаць,— гэта не пісьменнік. Ён не разабраўся яшчэ ні ў сваіх пачуццях, ні ў пачуццях блізкіх яму людзей, не гаворачы ўжо пра грамадства ўвогуле, чым яно жыве, чым дыша. Многіх людзей, якім трэба было б быць шафёрамі, токарамі ці аграномамі, толькі па дабраце часу, як трэскі ў паводку, вынесла ў пісьменнікі. Пладзіць халодную, раўнадушную, «благополучненькую» халтуру — гэта абкрадваць, абмерваць, абвешваць чытача, можа, у самым галоўным, у яго духоўнай ежы. Я лічу сябе пісьменнікам толькі ў раманах «На парозе будучыні» і «Гарадок Устронь» і ва ўсім, што я яшчэ напішу. Можна дапусціць нейкія недасканаласці майстэрства ў раманах, але любові і нянавісці — мне здаецца, я выдаў у іх па беражкі.

Задума «Шэметаў» нарадзілася даўно. Я не магу прыпомніць дакладна, калі гэта было. Цяпер мне здаецца, што яна, як праклён, мучыла мяне на працягу ўсяго майго жыцця. Аднойчы ў Каралішчавічах, калі яшчэ не было напісана ні аднаго радка, мне раптам захацелася расказаць каму-небудзь выдуманую мною гісторыю адной сям'і, якую я трымаў у толькі мне аднаму адкрытым свеце. Маёй ахвярай быў Янка Скрыган. «Дык у цябе ж усё ёсць,— сказаў ён мне,— трэба пісаць». У гэту хвіліну я сапраўды адчуў, што пара пачаць пісаць. Наступіў нейкі рубеж выспявання, калі трэба было хутчэй пісаць, інакш матэрыял пераспее, страціць сваю вастрыню, паблякне, і мяне самога адверне ад яго.

Я напісаў дзве кнігі «Шэметаў», а здаецца, што я толькі-толькі ўвайшоў у гэты свет, здаецца, што зроблены толькі ўскрышныя работы і я стаю нагамі на тоўшчы руды, якую хочацца, але ці хопіць сілы, узвярнуць.

*Вершы Кастуся КІРЭЕНКІ, Алега ЛОЙКІ, Хведара ЧЭРНІ, Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ чытайце ў наступным нумары*

# КРЫТЫКА: ПРАБЛЕМЫ, МЕРКАВАННІ

**XXIV з'езд КПСС намеціў новую велічную праграму, ажыццявіўшы якую, наша грамадства зробіць яшчэ адзін крок па шляху матэрыяльна-тэхнічнага прагрэсу.**

**Але матэрыяльна-тэхнічны прагрэс траціць свой сэнс, калі ён не ідзе побач або не вядзе за сабою прагрэсу духоўнага, культурнага. Вось чаму і XXIV з'езд партыі, і V з'езд пісьменнікаў удзялілі такую вялікую ўвагу пытанням развіцця літаратуры і літаратурнай крытыкі як аднаго з самых дзейсных сродкаў выхавання чалавека шырокага духоўнага дыяпазону, грамадскі актыўнага барацьбіта за чалавечае шчасце.**

**Беларуская літаратурная крытыка мае сёння свае немалыя здабыткі. Вырасла і моцна стала на ногі наша гісторыка-літаратуразнаўчая навука, з кожнаю новаю кнігай сталее крытычная думка. Гэта не можа не радаваць. І ў той жа час не можа не засмучаць яе недастатковая ваяўнічасць у барацьбе з літаратурным бракаробствам, шэрасцю, пасрэднасцю, за высокі ідэйна-мастацкі крытэрый у ацэнцы літаратурных твораў.**

**У хуткім часе мае адбыцца пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечаны пытанням развіцця літаратурнай крытыкі. Як уступ да гаворкі, якая на ім разгорнецца, мы змяшчаем ніжэй артыкулы Барыса Сачанкі, Уладзіміра Юрэвіча, Сцяпана Гаўрусёва. Рэдакцыя мае намер прадоўжыць гэтую гаворку і пасля пленума, бо развіццё літаратуры—працэс кіпучы, у ім штодня ўсплываюць на паверхню ўсё новыя і новыя праблемы.**

# РАЗУМЕЦЬ АДЗІН АДНАГО

Якой павінна быць крытыка? Для пісьменніка пытанне гучыць бадай што гэтак сама, як гучала б яно для падсуднага, у якога спыталіся б, які павінен быць суддзя. У лепшым выпадку, падсудны ўспомніў бы пра непадкупнасць, справядлівасць, прынцыповасць, але ўсе гэтыя словы разумеў бы па-свойму — суддзя, што б там ні гаварылася, павінен апраўдаць яго. Крывіць душою ў такіх выпадках не даводзіцца. Для падсуднага добры той суддзя, які не карае, а калі і карае, то не вельмі жорстка. Што граха таіць, і для большасці прадстаўнікоў непамерна расплоджанага «чарнільнага племя» добры той крытык, які заўсёды, незалежна ад таго, якая кніга выходзіць з-пад пяра таго ці іншага аўтара, знойдзе прычыну, каб яе пахваліць. Хе-хе, нічога не паробіш, такая ўжо, мабыць, натура людская.

Тьмы низких истин нам дороже
Нас возвышающий обман...

Радасць ад пахвалы, як нехта з'едліва заўважыў, у пісьменніка будзе не поўная, калі крытык не здагадаецца ў тым самым артыкуле, дзе хваліць пісьменніка, палаяць з апошніх слоў таго, з кім пісьменнік супернічае ці варагуе. Паводле жарту аднаго дасціпнага чалавека, ідэальным вырашэннем праблемы—пісьменнік і крытык — былі б штогадовыя выбары крытыкаў на агульных сходах паэтаў і празаікаў закрытым, тайным галасаваннем. Баюся: нават пры такой дэмакратыі пісьменнікаў, незадаволеных крытыкамі, было б усё адно больш, чым задаволеных. Словам, можна паспачуваць крытыкам — яны глыбока памыліліся, выбраўшы сабе такую клопатную, няўдзячную прафесію, і пажадаць, каб з часам, як гэта зрабілі ўжо некаторыя спрытнейшыя іхнія папярэднікі, яны, крытыкуючы другіх, налаўчыліся самі пісаць аповесці і раманы. Толькі тады яны адчуюць сябе ў поўнай бяспецы, людзьмі без многіх «не», прынамсі, хоць не будуць чуць тых папрокаў, што чуюць адусюль цяпер...





А папрокі вядомыя і — будзем шчырыя! — не заўсёды беспадстаўныя. Сапраўды, мы маем не такую ўжо і благую беларускую літаратуру. Лепшыя творы яе гавораць самі за сябе — яны перакладзены на многія мовы і сталі здабыткам культурных людзей усяго свету. Якая роля ў гэтым нашай крытыкі? Ці зрабіла яна тое, што павінна была зрабіць — сказаць усім на ўвесь голас, што ёсць, нарадзілася такая літаратура як беларуская, раскрыць яе непаўторнасць і харавство, гістарычную абумоўленасць і неабходнасць з'яўлення яе як голасу цэлага шматмільённага, шматпакутнага народа? Урэшце, ці раскрыла наша крытыка ўсю глыбіню лепшых узораў нашай літаратуры, ці паказала ва ўсёй паўнаце чытачам, сваім і замежным, багацце талентаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Чорнага, талентаў некаторых сучасных нашых выдатных пісьменнікаў, індывідуальнасць кожнага з іх, своеасаблівасць мыслення, мовы, стылю? Мне здаецца, тут для нашай крытыкі яшчэ цаліна, зусім неапрацаваны дзірван. Наша беларуская крытыка, хоць і прыкра ў гэтым прызнавацца, не зрабіла яшчэ той вялікай работы, якую ў свой час зрабілі ў рускай літаратуры Бялінскі, Дабралюбаў, Пісараў. Менавіта яны, гэтыя крытыкі, звярнулі, засяродзілі ўвагу не толькі ўсяго свету, але і саміх рускіх, што захапляліся тады замежнай літаратурай, не бачачы, не ведаючы нават, што ёсць, нарадзілася свая вялікая руская літаратура, на яе харавство, нацыянальную самабытнасць, раскрылі глыбіню геніяльных твораў Пушкіна, Гогаля, Грыбаедава, Лермантава, Салтыкова-Шчадрына, Ганчарова, Астроўскага, Дастаеўскага, Тургенева, Л. Талстога... Праўда, апошнія гады ў гэтым кірунку нейкі зрух адбыўся ўжо і ў нас. Я маю на ўвазе працы Г. Кісялёва, Р. Бярозкіна, А. Адамовіча, С. Александровіча, некаторых нашых маладзейшых крытыкаў і навукоўцаў. Але гэтых прац яшчэ мала, недастаткова. Крытыка наша пакуль што больш збірае факты, чым іх даследуе, аналізуе, больш разрастаецца ў шырыню, чым пранікае ў глыбіню. Чытаючы многія крытычныя кнігі, міжволі задаеш пытанне — для каго яны напісаны? Калі для звычайнага, як мы часам называем, радавога чытача, то ім не хапае яснасці думак і вывадаў, даходлівасці, урэшце, не хапае саміх фактаў, якія ўзбагацілі б кожнага, хто ўзяў бы ў руку тую ці іншую крытычную працу. Калі яны напісаны для вучонага, пісьменніка — то ім не хапае глыбіні аналізу, пранікнення ў сутнасць фактаў, не хапае самай звычайнай дасведчанасці, без якіх не можа быць ніякай даследчыцкай працы. Адукаваны чалавек адразу ж убачыць, што тая вучонасць, якая быццам ёсць у кнізе,— ніякая не вучонасць, а псеўдавучонасць, блытаніна, шкалярства, звычайны набор фраз і цытат, якія нічога не даюць ні розуму ні сэрцу — толькі перакатваюцца і грымяць, як камені ў каменедрабілцы... Мне могуць запярэчыць: «А крытычныя артыкулы тых жа Бялінскага, Дабралюбава, Пісарава? Для каго яны напісаны?» У тым і розніца між кнігамі звычайных аўтараў і аўтараў геніяльных, што творы адных чытаюць не ўсе, а творы другіх могуць чытаць усе, і кожны знойдзе ў іх нешта карыснае для сябе. У нашай літаратуры пакуль што побач з класікамі — Купалам, Коласам, Багдановічам, Чорным — мы не можам паставіць ні аднаго, роўнага ім па таленце, крытыка. Не можам! Горка, але гэта так, гэта праўда. Хто тут вінаваты — гэта ўжо іншая справа. Факт жа застаецца фактам — крытыка такога ў нас яшчэ не было. І гэта адчуваецца. Літаратура наша мае ў ім вялікую патрэбу. Як мела такую патрэбу да Бялінскага руская літаратура, як мелі такую патрэбу літаратуры іншых народаў. Гэта, дарэчы, добра адчувалі і Я. Колас, і М. Багдановіч, і М. Гарэцкі, і К. Чорны, і многія іншыя нашы пісьменнікі, бо нярэдка браліся самі падагульняць вопыт развіцця беларускай літаратуры, выказвалі свае погляды адносна творчасці асобных пісьменнікаў і нават жанраў. Адной з прычын, чаму адстае наша крытыка, мне здаецца, ёсць няправільная думка, што бытуе сярод асобнай часткі пісьменнікаў, быццам літаратура—гэта адно, а крытыка — зусім іншае, нешта ледзь не другараднае. Крытыка — гэта таксама літаратура. Як і паэзія. Як і проза. «...Крытыка, заснаваная на глыбокім гусце і розуме, крытыка высокага таленту мае роўныя вартасці з кожным арыгінальным творам... Для гісторыі літаратуры яна неацэнна.» (М. Гогаль). Час, мабыць, і ў нас да кожнай крытычнай працы падыходзіць не проста як да чарговай рэцэнзіі, артыкула, а як да м а с т а ц к а г а твора. Не лішне было б хоць зрэдку напамінаць сямутаму, што майстэрства існуе не толькі для паэтаў, празаікаў, а і — так-так! — для крытыкаў. Не сакрэт, чытач не чытае некаторых кніг нашых крытыкаў толькі таму, што іх пры ўсім сваім жаданні і цярплівасці не адолееш, яны напісаны жалезабетонна, нудна, да таго ж такой суконнай, шэрай—дальбог жа, як салдацкі шынель!—мовай. Што ні фраза—то рэбус, набор слоў, і не абы-якіх, а «вучоных», якіх, пакуль не абкладзешся з усіх бакоў слоўнікамі, і не зразумееш. Што ні старонка—то ўяўныя праблемы, схаластычныя спрэчкі, накшталт тых, з якіх даўно смяюцца—колькі анёлаў можа сесці на вастры іголкі? А пыхі, пыхі колькі! Крытык не тлумачыць твор, не даносіць яго да чытача, не мысліць, не шукае адказу на тыя пытанні, што

паставіў у сваёй кнізе той ці іншы аўтар — крытык вучыць! Вучыць чытача, вучыць паважанага класіка, вучыць усіх, быццам перад ім не адукаваныя людзі, а няўмекі, тыя, хто ніколі нічаму не вучыўся, ані нічога не ведае. Чытаеш такую кнігу — і адчуваеш, што не разумнееш, а дурнееш. Прыкра робіцца і за крытыка, і за выдавецтва, якое выпусціла ў свет такую прадукцыю, і за тых, каго ментар-крытык разбірае (правільней, прабірае, пясочыць): што ж вы, маўляў, Я. Колас ці Зм. Бядуля, лічыцеся класікамі, а такіх простых рэчаў не ведалі...

У крытыкі шмат задач, але адна з галоўнейшых — аналізаваць сучасную літаратуру, трымаць, як кажуць, руку на пульсе, сачыць, як яна развіваецца, куды ідзе, тлумачыць многія факты і з'явы. Ці спраўляецца з гэтым наша крытыка? Зноў жа — не скажаш, што так, спраўляецца. Выйшла некалькі прац пра пасляваенную беларускую прозу і паэзію, выйшла некалькі манаграфій пра некаторых вядомых беларускіх мастакоў слова. І ўсё. Але, прабачце, дзе ж крытыка? Перагарніце камплекты нашых часопісаў, падшыўку газеты «Літаратура і мастацтва». Рэцэнзіі, артыкулы пра асобныя творы, юбілейныя ялей, некалькі дыскусій, якія скончыліся, так і не пачаўшыся. А дзе ж аналіз, дзе спрэчкі, дзе думкі крытыкаў і пісьменнікаў пра тое, як і куды ідзе наша літаратура, дзе трывога за развіццё кожнага жанру, за развіццё кожнага таленту?.. У аўтара выходзіць адзін зборнік, другі, трэці, ён піша прозу, піша вершы, выдае кнігу за кнігай для дзяцей. І ўсё аднолькава бяздумна, бяздарна. Час бы крытыцы сказаць сваё важкае слова — не за сваё, чалавеча, узяўся, займіся чым-небудзь больш карысным, патрэбным і табе самому і народу. Не, крытыка маўчыць. Маўчыць як вады ў рот набраўшы. Крытыка так і не аб'явіла бою літаратурнай руціне, пасрэднасці і проста ваяўнічаму графаманству, хоць гразілася гэта зрабіць даўно. Наадварот, у апошні час ваяўнічае графаманства спрабуе аб'явіць бой творам таленавітым, вартым усякай падтрымкі і пахвалы. Крытыкі з добрым густам, як правіла, на дрэнныя кнігі рэцэнзій аўтарытэтна не пішуць — маўляў, навошта, і так усім відаць, што гэта... Усім, ды не ўсім! На такія кнігі, дзе нават не пахне літаратурай, знаходзяцца яшчэ больш непісьменныя рэцэнзенты. І яны, ніколечкі ні ў чым не сумняваючыся, залічаюць гэтыя кнігі ў актыў нашай літаратуры, пішуць, што «аўтар зрабіў уклад у скарбніцу беларускай літаратуры»... Аддзелы крытыкі ў некаторых выданнях вядуцца «без руля и ветрил». У аддзелах — адсутнасць усякай думкі, адсутнасць усякіх крытэрыяў. Сёння гэты твор хваляць, заўтра лаюць, паслязаўтра зноў хваляць... Рэцэнзіі пішуцца на нізкім ідэйна-мастацкім узроўні, ці то па-прыяцельску паблажліва, ці то патыгрынаму рыкліва. І залежыць гэта найчасцей не ад пераконанасці і пачуцця крытыка, а ад адносін самога рэдактара аддзела ці выдання да таго ці іншага аўтара... Калі справа пойдзе так далей, можам вярнуцца да сумнай памяці некаторых часопісаў, дзе ў свой час аўтары кніг пісалі самі на сябе рэцэнзіі і артыкулы...

На старонкі кніг прозы і паэзіі вылезла мяшчанства. Яно іранізуе, здзекуецца з самага дарагога, заваяванага крывёю нашых дзядоў, бацькоў. Дзіўна, але аўтары, ці то страціўшы класавае пачуццё, ці то проста паддаўшыся модзе, становяцца раптам на пазіцыі мяшчан, гэтых, па словах М. Горкага, самых «злосных ворагаў жыцця». А крытыка? Крытыка ці сапраўды гэтага не бачыць, ці то робіць выгляд, што не бачыць...

Гаворачы пра многія сур'ёзныя пытанні, не хацелася б успамінаць тую крытычную мітульгу, што заўсёды вілася і ўецца каля літаратуры. Не хацелася б, але давядзецца, бо бывалі моманты, калі гэтая мітульга брала верх, спрабавала дыктаваць літаратуры свае погляды і густы. Пачытайце газеты і часопісы, што выходзілі ў дваццатыя, трыццатыя... дый нават пяцідзесятыя гады. Забыліся прозвішчы многіх крытыкаў, іх нідзе не цытуюць, дый самі тыя людзі, што некалі размахвалі крытычнымі дубінкамі і білі па кім папала, не любяць успамінаць сваю былую актыўную дзейнасць. А між тым менавіта такія, з дазволу сказаць, крытыкі ў свой час вяршылі літаратурную палітыку, спрабавалі навязаць сваё разуменне літаратуры іншым, гаварылі, што каму ўзбрыдала ў галаву, пра нашу сённяшнюю нацыянальную гордасць — Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Чорнага... Вядома, тым пісьменнікам, што напісалі выдатныя творы, не так важна, што пра іх гаварыць нейкі недарэка-крытык. Урэшце, яго думка характарызуе хутчэй не сам твор пісьменніка, а самога крытыка, які нават не дарос, каб зразумець гэты твор. Але мітульга ёсць мітульга. Калі яна часам выводзіць з сябе такога цярплівага тугадума, як вол, дык што ўжо казаць пра пісьменніка, у якога нервы заўсёды аголены, хто асабліва востра рэагуе на ўсякую несправядлівасць. Можна толькі пашкадаваць некаторых нашых класікаў, уявіць, колькі горкіх хвілін перажылі яны, як абакрала ўсіх нас, усю нашу літаратуру гэтая, здавалася б, бяскрыўдная крытычная мітульга...

Мне могуць сказаць: навошта ўспамінаць старое. Было яно — і няма. Не згодзен! Успамінаць трэба, трэба помніць старое, каб не паўтараць памылак, трэба пільнавацца, каб літаратурная атмасфера заўсёды была чыстая. Не толькі час уплывае на людзей, але і людзі — творцы часу. Што ж да памылковых поглядаў, то яны былі і будуць. На памылках вучацца. З памылак трэба ўмець рабіць вывады і че





баяцца памыліцца («не памыляецца той, хто нічога не робіць!»), а баяцца паўтарыць ужо аднойчы асуджанае, асмянае...

Не магу не ўспомніць і яшчэ пра адно. Ці не завельмі многа ў нас такіх крытыкаў, якія заўсёды, што б яны ні гаварылі, гавораць не ад сябе, а ад імя народа, бяруць на сябе смеласць вызначаць, што чытач прыме, а што не прыме. Крытыкі такія звычайна гавораць не «я», а «мы», забываючы, як жорстка высмеяў гэтую самаўпэўненасць некалі М. Твэн. «Права называць сябе ў множным ліку маюць каралі і людзі, хворыя на саліцёр»... Пачытаеш такога ўсяведа-крытыка — і дзіву даешся: ды ён жа сам не разумее, што такое мастацкая літаратура. Пасадзіць бы такога за звычайную школьную парту, навучыць бы... Але ж разумець мастацкую літаратуру, успрымаць яе не кожнаму дадзена. Як і музыку. Як і жывапіс. На гэта таксама трэба — так, так, не здзіўляйцеся! — талент. Эстэтычная глухата некаторых крытыкаў відавочная. Кожную кнігу, што выходзіць па рэдакцыі мастацкай літаратуры, яны па сваёй наіўнасці прымаюць як мастацкую, не могуць адрозніць таленавіты твор ад падробкі. І тады пачынаецца нудная цягамоціна пра надзённасць тэмы, пра важнасць праблемы, пра тое, дзе аўтар «глыбока крануў» а дзе «не глыбока»; не аналіз, а пераказ...

Думаючы абараніць крытыкаў ад многіх несправядлівых папрокаў, я незаўважна нават для самога сябе пачаў іх крытыкаваць. Што ж, мабыць, наша крытыка сапраўды заслугоўвае крытыкі. Сёй-той, пэўна, не вытрымае, скажа: «А хіба не заслугоўвае папрокаў наша літаратура, тая ж проза, паэзія?» Вядома заслугоўваюць, можа нават больш, чым крытыка. Колькі няспелых, неабдуманых, часам рамесніцкіх твораў выходзіць з-пад пяра, колькі было ўжо з лёгкай рукі некаторых таварышаў аб'яўлена шэдэўраў, якія пасля праверкі аказаліся звычайнымі аднадзёнкамі! А майстэрства, няўменне падняцца над часам, адказаць на тыя пытанні, што хвалявалі і хвалююць людзей? Хіба ўсё гэта не заслугоўвае крытыкі? Правільна! Але дазвольце, чаму гэта пісьменнік мусіць крытыкаваць сябе... Хай скажа пра гэтыя кнігі на ўвесь голас зноў тая ж самая наша крытыка!

Крытыкі не любяць, калі іх гладзяць проці шэрсці, маўляў, «неча пенять на зерцало, коли рожа крива.» А хто любіць? Але ж і без крытыкі, гэтага ачышчальнага агню, гэтай парыльні, нельга. Трэба, відаць вучыцца і крытыкаваць адзін аднаго, і разумець крытыку, і прымаць яе, калі яна справядлівая, слушная. Без узаемаразумення між тымі, хто крытыкуе, і тымі, каго крытыкуюць, не можа быць руху наперад. Літаратура—агульная кроўная справа. Клопат пра яе росквіт — гэта клопат пра росквіт культуры, народа, грамадства. Ён павінен быць і мудры, і своечасовы, і па-бацькоўску добры, суровы.

Барыс САЧАНКА.

# КРЫТЫЦЫ — АЎТАРЫТЭТ

Сёння цяжка, проста немагчыма пералічыць працоўныя перамогі савецкага чалавека — такія яны незлічона-волатныя. Гэта — вынік навукова-тэхнічнага прагрэсу, якім ахоплены ўсе галіны жыцця нашага грамадства, вынік далейшага ўздыму культуры народа, які вымяраецца і багатым плёнам савецкай літаратуры. А значыць і крытыкі. Бо яе найпершы клопат — абагульняць творчы вопыт літаратуры, аналізаваць вядучыя тэндэнцыі яе развіцця і даваць своечасовую, выразную, па-партыйнаму прынцыповую ацэнку самым разнастайным з'явам літаратурнага працэсу.

Калі прыгадаць апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў, дык не будзе памылкай прызнаць, што і ў беларускай крытыцы склалася плённая традыцыя актыўнага ўмяшання ў духоўнае жыццё грамадства, у творчую практыку літаратуры. І ўсё ж крытыкай незадаволены. Не толькі пісьменнікі, але і самі крытыкі, літаратуразнаўцы. Незадаволены таму, што сённяшнія сілы літаратурна-крытычнага фронту і па сваёй колькасці (адна пятая ўсяго складу Саюза пісьменнікаў Беларусі), і, галоўнае, па прафесійных якасцях могуць зрабіць куды больш, чым робяць.

Робяць недаравальна мала, бо не адчуваюць зацікаўленасці крытыкай з боку тых, каму даручана кіраваць літаратурным працэсам. Літаратурна-крытычная дзейнасць не арганізоўваецца ні Прэзідыумам Саюза пісьменнікаў Беларусі, ні яго дру-

каванымі органамі. Так было да з'езду пісьменнікаў, так пакуль што астаецца і пасля з'езду. У гэтым вельмі лёгка пераканацца, гартаючы наш літаратурны штотыднёвік, нашы «тоўстыя» і «тонкія» часопісы. Увагу звяртаюць час ад часу артыкулы, што прысвечаны гісторыі літаратуры, асобныя публікацыі. Надзённая ж праца па вывучэнні агульных заканамернасцяў сучаснага літаратурнага працэсу, як правіла, абмяжоўваецца неглыбокім і павярхоўным рэцэнзаваннем не заўсёды тых твораў, якім наканавана быць вяхой на магістральнай дарозе літаратуры.

У штодзённай практыцы нашых выдавецтваў, друку, тэлебачання, радыё ўсталявалася дзіўная завядзёнка — абыходзіцца, як правіла, без крытыкаў. Кажуць, што ў наш век кожны пісьменны чалавек можа займацца крытыкай. І займаецца. Займаюцца адвейваннем зелля ад збажыны, пускаючы часам у зелле і добрае зерне. Або наадварот, выдаючы зелле за збажыну.

Калі не браць пад увагу акадэмічны інстытут літаратуры, філалагічныя кафедры вышэйшых навучальных устаноў, дзе, само сабой зразумела, асноўныя кадры складаюць людзі, беззапаветна ўлюбёныя ў справу літаратуры, дык у рэдакцыях і выдавецтвах не надта густа прафесіянальных крытыкаў, тых, для каго асноўнае— здольнасць самастойна меркаваць пра мастацкі твор, пра пісьменніка, пра літаратуру і яе месца ў жыцці.

Сапраўднае крытычнае выступленне (не абавязкова негатыўнае)—тое, дзе бачыш акрэсленую пазіцыю аўтара, хай сабе часам і памылковую. Тады ёсць повад паспрачацца, выказаць сваю пазіцыю, каб дабрацца да ісціны. Толькі так можна сфармаваць грамадскую думку чытача, не таго, які схоплівае адну фабулу, каб пераказаць суседу, а таго, які ставіцца да мастацкага слова актыўна і творча, чытае твор у яго глыбінным змесце. Выхаванне чытача пакуль што справа ў нас занядбаная. Выступленні пісьменнікаў перад аўдыторыяй носяць, як правіла, парадны, а не творчы характар.

У нас ёсць крытыкі рознага ўзроўню, рознага вопыту, розных густаў (маю на ўвазе эстэтычныя густы). Іх выступленні ў друку, не такія ўжо частыя, бываюць часам і супярэчлівыя. Але ці не ў гэтым трэба бачыць натуральную супярэчлівасць літаратурнага працэсу, пакліканага адлюстроўваць незвычайную складанасць сучаснага жыцця. Прынцыповасць, аб'ектыўнасць крытычнага меркавання пра тую ці іншую літаратурную з'яву я адчуваю тады, калі крытыкі розных творчых поглядаў сходзяцца ў галоўных ацэнках ідэйна-эстэтычных вартасцяў твора.

Толькі той крытык набывае аўтарытэт, які мае здольнасць адстойваць, прапагандаваць тое, у чым абсалютна ўпэўнены, які ўмее рызыкаваць дзеля сцвярджэння свае думкі. Бо пераканаць можна толькі тады, калі сам добра ведаеш, што хочаш абараніць, калі твае ідэі, перакананні адпавядаюць перадавым тэндэнцыям часу.

Крытык, як і кожны пісьменнік, нараджаецца з талентам, каб развівацца, расці, узнімацца на новыя прыступкі майстэрства, натхняцца перадавымі ідэямі нашага веку — ідэямі марксізма-ленінізма. Агульнавядома выказванне К. Маркса пра тое, што чалавек творыць і па законах харастра. Мусіць, таму ідэал мастацтва (а значыць і літаратуры) нешта большае, чым звычайнае выяўленне вобразнымі сродкамі разумова зразуметага ідэалу будучыні. Ён, эстэтычны ідэал, павінен выяўляць усю паўнату сапраўдных адносін між людзьмі, між чалавекам і грамадствам, усю невычэрпнасць чалавечых магчымасцяў, павінен сцвярджаць прыгожае як неабходнасць.

Калі браць усю шматнацыянальную савецкую літаратуру на яе сучасным этапе развіцця, дык бясспрэчным будзе адно: жыццё грамадства і прыроды, асобы і народа, нацыі і чалавецтва, гісторыя і сучаснасць, паэтычнае натхненне і проза побыту, як розныя вымярэнні рэчаіснасці, асэнсаваны даволі поўна ва ўсім унутраным багацці. Шкада, што наша крытыка, разглядаючы той ці іншы твор, не заўсёды турбуецца пра адшуканне яму належнага месца ў агульналітаратурных здабытках. Пэўныя якасна-падобныя з'явы ў літаратуры цяперашняга перыяду дазваляюць гаварыць пра мэтанакіраванасць пошуку эстэтычнага ідэалу. Але, нажаль, крытыка не занята высвятленнем вытокаў і наступных шляхоў гэтай мэтанакіраванасці.

Не занята таму, што ад яе ніхто гэтага не патрабуе. І не патрабуе ў першую чаргу творчая практыка, што склалася ў нашым Саюзе пісьменнікаў, калі сапраўды прафесійныя размовы ў секцыях падмяняюцца чарговымі мерапрыемствамі для паўнаты справаздачы. Прэзідыум СП пры вырашэнні вялікіх і малых творчых захадаў абыходзіцца без крытычнай думкі. Нават справа прапаганды літаратурных здабыткаў вядзецца пры мінімальным удзеле крытыкаў (у новы Савет прапаганды літаратуры не ўключан ніводзін крытык!). Чамусьці лічыцца, што адукацыйны цэнз у нас высокі і таму нечага асабліва турбавацца пра ўспрыманне мастацкага твора, пра выхаванне эстэтычных густаў чытача.

У нас прынята разважаць наогул аб крытыцы або адмаўляць наогул крытыку («крытыка адстае», «крытыка не заўважае» і г. д.) Хоць у «крытычным цэху», як і ў кожнай творчай (ці вытворчай) ячэйцы, ёсць самабытныя індывідуальнасці, непаўторныя ў сваіх думках і пачуццях не менш, чым паэт, празаік, драматург.





Ці не пара «выраўняць» крытыка з астатнімі пісьменнікамі ў маральна-прававых адносінах?

Духоўнае жыццё пісьменніка ўзбагачаецца вечным пошукам. Тое самае і ў сапраўднага крытыка, які заўсёды мае патрэбу ў абагульненнях канкрэтных творчых здабыткаў сумежных жанраў, мае патрэбу гэтыя абагульненні абнародаваць. Працэс назапашвання творчых здабыткаў няспынны, і крытыка не мае права ісці ў запас, нават кароткачасовы.

Запас — катэгорыя мірнага часу. У літаратуры не можа быць перадышкі. Яна ўвесь час у працы, у змаганні за душы людскія, за эстэтычны ідэал грамадства. А ён адлюстроўвае шматгалоссе рэчаіснасці, выяўленне розных бакоў яе, шматнацыянальнае багацце жыцця народа — будаўніка камунізма. Літаратура працуе няспынна, як гарачы цэх. Гэтак жа трэба каб працавала і крытыка. Працавала першнаперш на старонках перыядычных выданняў, перад тэлекамерай і мікрафонам, у лекцыйных залах. Працавала, абагульняючы здзейсненае і адкрываючы новыя творчыя далягляды для ўсёй савецкай літаратуры, якая ідзе ад жыцця і ў адлюстраванні таго, што здабыта, што ёсць, і ў прадбачанні таго, што будзе, што павінна быць.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# ЁСЦЬ У КАГО ВУЧЫЦЦА!

У літаратуры былі, ёсць і, напэўна, заўсёды будуць розныя людзі — ярка таленавітыя, добрасумленныя рабацягі і яўныя бездары. Спагадлівасць старэйшых, паблажлівасць рэдакцый і выдавецтваў — найбольш відавочныя прычыны таго, што з прытокам новых творчых сіл павялічваецца працэнт прафесійнага графаманства. Яно можа праяўляцца ў беспардоннай нахрапістасці і спекулятыўна-назойлівай сціпласці, у імітацыі наватарства і пакорлівым перайманні, але яно існуе, і адмаўляць яго нельга. Аб'явіць яму бязлітасную вайну—наша агульная задача, і ў першую чаргу — абавязак крытыкі.

У чым шкоднасць такой з'явы?

У ніверліраванні ідэйна-мастацкіх крытэрыяў і зніжэнні эстэтычнага густу. Не будзем закрываць вочы на тое, што чытач у нас — самы масавы і самы розны. Адны выхаваны ў традыцыях Максіма Багдановіча, Аляксандра Блока, Гарсія Лоркі, другія задавальняюцца сумніцельнымі эстраднымі куплетамі і нізкапробным дэтэктыўным чцівам, трэцproperly... Але хто ўзяў на сябе клопат — скрупулёзна даследваць усе катэгорыі чытачоў? Выбарачныя сацыялагічныя апытанні не даюць яснай карціны. Тыражы—красамоўнейшы барометр чытацкага попыту — таксама залежаць ад капрызаў моды: якое-небудзь прыгодніцка-шпіёнскае, наспех узведзенае збудаванне, дзе героі адрозніваюцца толькі імёнамі, прозвішчамі ці мянушкамі, імгненна можа займець такую аўдыторыю, якая не снілася Льву Мікалаевічу Талстому. А добрая кніга, асабліва маладога аўтара, можа пыліцца на кніжных складах, і яе — як ні балюча гэта прызнаць—трэба прапагандаваць. Але ж у ідэале ў нас ёсць чытач, якога не трэба весці за руку, які сам нецярпліва шукае і знаходзіць сапраўды таленавітае ў сённяшняй літаратуры і ўмее разабрацца ў якасцях кнігі без пабочнай падказкі. На яго мы і павінны арыентавацца ў сваёй рабоце, не апускаючыся да прафанацыі літаратуры.

Каэфіцыент уздзеяння крытыкі на літаратурны працэс тым больш дабратворны, чым яна аператыўней і абгрунтаваней. У прынцыпе хацелася б спадзявацца на тое, што літаральна кожная кніга будзе разгледжана і ацэнена па яе вартасці. Скідкі — аднаму на маладосць, другому на старасць, трэцяму на былую славу — карысці не прынясуць. Зразумела, меркі павінны быць рознымі, але аднолькава прынцыповымі.

Поспехі нашай крытыкі бясспрэчныя. Глыбей асэнсаваны цэлыя гістарычныя перыяды, у навуковы ўжытак уведзены невядомыя ці забытыя факты і імёны, напрыклад, «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага з салідным каментарыямі Рыгора Бярозкіна і Уладзіміра Калесніка, з'явіліся грунтоўныя манаграфіі аб найбольш папулярных сённяшніх аўтарах. Але дрэнна, што ў такой важнай справе няма планамернасці. Часта мінуламу ўдзяляецца залішняя ўвага дзеля яго самога:

…знайшлося месца
На артыкул велізарны,
У якім масціты крытык разважае,
Чаму паэт Казёл Вялікабродскі,
Які жыў у семнаццатым стагоддзі,
Пасля выклічніка «гэй»
Не паставіў коскі.

Гэтыя танкаўскія радкі цяпер мне заўсёды будуць нагадваць—сярод аналагічных публікацый—і дарожныя нататкі «Сляды продкаў» Адама Мальдзіса, аднаго з удумлівейшых даследчыкаў, што некалькі нумароў запар друкаваліся на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Яны добра выглядалі б у спецыяльным зборніку ці — таксама ў значна скарочаным выглядзе — у тоўстым часопісе, але ў аператыўным выданні... Я не магу ўявіць нешта падобнае на старонках «Литературной газеты». А для фундаментальных ці праблемных артыкулаў — заўсёды месца ў абрэз. Ці не лепш было б гэтыя старонкі аддаць, скажам, разгляду творчасці Уладзіміра Караткевіча?

Мастацтвазнаўцы ў гэтым кірунку паказваюць зайздросны прыклад— у двух нумарах таго ж «ЛІМа» Георгі Колас па свежых слядах аналізуе пастаноўку купалаўцамі дзвюх новых п'ес Андрэя Макаёнка. Як гэта добра!

А ці многа мы прыгадаем выпадкаў, што новая паэма ці аповесць пасля апублікавання зацікаўлена разглядаецца крытыкай? А колькі можна назваць пісьменнікаў маладзейшага пакалення, якія да сённяшняга дня не пачулі пра сваю работу змястоўнага слова — Генадзь Бураўкін, Уладзімір Паўлаў, Юрась Свірка, Раман Тармола, Анатоль Сербантовіч, Васіль Макаравіч, Кастусь Цвірка і многія-многія іншыя, у творчым багажы якіх ёсць па некалькі цікавых кніг. У свой час з такой гаворкай выступілі Пііліп Пестрак—пра Рыгора Барадуліна, Янка Брыль—пра Анатоля Кудраўца. Ці трэба даказваць, што высокі творчы аўтарытэт старэйшых празаікаў, іх высокая патрабавальнасць саслужылі карысць не толькі названым аўтарам, але і ўсім астатнім.

Пасля прынцыповага выступлення Анатоля Клышкі «За мухай з абухам» ніхто, здаецца, не гаварыў так сур'ёзна пра нашу сатыру, хоць яна яўна вымагае абнаўлення. Стандартныя персанажы жывёльнага свету, рознакаліберны набор бюракратаў, падхалімаў, няверных жонак і г. д. і да т. п. настолькі набілі аскому, што перасталі ўспрымацца. Ці не карысна было б паспрабаваць разабрацца, у чым сіла сатыры і гумару Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Сяргея Дзяргая, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Янкі Сіпакова, людзей, якія закранаюць многія маральна-этычныя праблемы, але робяць гэта лірычнымі сродкамі, ад чаго іх непрыняцце адмоўных з'яў набывае больш дзейсную сілу.

Алег Лойка ў свой час выступіў з цікавымі артыкуламі пра асаблівасці сучаснай паэмы і рамантычным напрамку ў сённяшняй паэзіі. Хацелася б прачытаць пра ролю трагічнага, на што звярнуў увагу Чынгіз Айтматаў у сваім выступленні на V з'ездзе пісьменнікаў СССР, пра асаблівасці нацыянальнага ў нашы дні, інтэрнацыянальнай тэмы ў нашай літаратуры і г. д. Матэрыялу тут дастаткова.

Здзіўляе інертнасць крытыкаў пры разглядзе грамадзянска-публіцыстычнай плыні нашай паэзіі. Заўважаецца некаторы спад гэтага кірунку, а гэта пачалі выкарыстоўваць халтуршчыкі. Часта старонкі нашых паважаных газет засмечваюцца такімі творамі, якім месца ў рэдакцыйным кошыку.

*Пісьменнік — не робат, які пільнуецца зададзенай праграмы.* У яго могуць быць узлёты і спады, плённасць болдзінскай восені і творчы крызіс. Крытыка і тут павінна ўмець разабрацца, далікатна і тактоўна высветліць прычыны, па-сяброўску падказаць найлепшы выхад. Гэтым яна пакуль што *не можа пахваліцца.*

Мала ў нас творчых абмеркаванняў, сустрэч маладзейшых з вопытнымі майстрамі, гутарак па агульных праблемах творчасці і па канкрэтных творах. Колькі ўсім нам далі ў свой час абмеркаванні новых твораў у творчых секцыях, у часопісе «Полымя». Усебаковая эрудыцыя Максіма Танка, фантастычная начытанасць Анатоля Вялюгіна, добразычлівасць—хіба яны прайшлі бясследна для майго пакалення? А запаўночныя гутаркі ў дзергаёўскай кватэры — хто з нас іх забудзе? А пестракоўскія развагі аб жыцці і мастацтве — ніякія лекцыі па тэорыі літаратуры іх не заменяць! А колькі мудрых куляшоўскіх і панчанкаўскіх заўваг і парад зберагае сэрца!

Мы шчаслівыя. Нам было, ёсць і будзе ў каго вучыцца. І вельмі своечасова Аляксей Гардзіцкі пачаў браць інтэрв'ю ў Янкі Брыля, Івана Шамякіна, Івана Мележа і іншых—нам важна ведаць таямніцы творчых лабараторый старэйшых таварышаў. Добра, каб ён працягнуў гэтую важную справу. Але ніякае інтэрв'ю не заменіць слова самога пісьменніка. Хочацца спадзявацца, што і ў нас з'явяцца артыкулы, падобныя артыкулам Уладзіміра Маякоўскага і Аляксандра Твардоўскага, напісаныя самімі майстрамі аб нараджэнні канкрэтных твораў.

Клопатаў і спраў многа. Тут згадана мізэрная доля таго, што хвалюе штодзённа.

**Сцяпан ГАЎРУСЁЎ.**







# ТРЭНЕР

Позні вечар. Мікалай Фёдаравіч забавіўся ля прыёмніка. Перадавалі Ленінградскую сімфонію Шастаковіча. Мікалаю Фёдаравічу прыгадаўся 1942 год на Волхаўскім фронце. Быў дажджлівы асенні дзень, і ён, 19-гадовы камсамолец Мікалай Сякерын, разам з бывалымі разведчыкамі ўсю ноч мок у балоце на нейтральнай паласе. Пад раніцу яны прыцягнулі «языка» — нямецкага яфрэйтара.

Потым быў Ленінградскі фронт. Камандзір разведроты лейтэнант Мікалай Сякерын рыхтуе падраздзяленне да самага цяжкага на вайне — разведкі боем. Дёрзкая вылазка патрабуе ад воінаў вопыту, адвагі, мужнасці. Кожны павінен ведаць свой манеўр. Усе — і кулямётчык Андрэй Піменаў, і памкамузвода Васіль Калашнікаў, і радавыя байцы — ведаюць, што хто-небудзь з іх, можа, і не вернецца сюды, у залітыя вадою акопы. Але яны спадзяюцца на свайго камандзіра, вераць яму.

Усё прадумана, агледжана. Камандзір асабіста правярае гатоўнасць зброі. Кожны атрымлівае канкрэтнае заданне.

...Перад вачамі ўзнікаюць твары загінуўшых франтавых таварышаў. У сэрцы варухнулася нейкая вінаватасць; яны загінулі, а ён жывы. Але ж і ў яго не адно раненне і не адзін асколак у целе...

Голас дыктара перапыніў яго думкі. Слых злавіў знаёмае імя. Так і ёсць, у далёкім амерыканскім горадзе Фінікс, на спаборніцтвах лепшых снайпераў, яго вучань Віталі Пархімовіч заваяваў яшчэ адзін медаль.

...У агні змагання гартаваўся характар Мікалая Сякерына. Улічваючы франтавы вопыт, маладога афіцэра ў пасляваенныя гады накіравалі начальнікам снайперскай каманды—вучыць трапнай стральбе маладых салдат.

— Галоўнае ў снайперскай справе,— гаварыў сваім выхаванцам Мікалай Фёдаравіч,—гэта жалезная вытрымка: гадзіну, суткі ляжы не кратаючыся, чакай. Перамагае той, у каго вытрымкі больш...

Трэніруючы другіх, Мікалай Сякерын нястомна трэніраваўся сам. У вольны ад службы час яго можна было бачыць у ціры з армейскай вінтоўкай. Спачатку яму скарыўся майстарскі рубеж. Затым, на чэмпіянаце Узброеных Сіл, першынствах БССР і Беларускай Чырванасцяжнай Ваеннай Акругі, ён узымаўся на ступеньку п'едэстала.

Трэнер — як урач: варта яму адзін раз памыліцца, зрабіць няправільнае заключэнне ці даць няпэўную параду, як давер вучня пахіснецца. Спартсмен павінен верыць свайму настаўніку — у гэтым залог поспеху.

Быў такі выпадак. Рэкардсмен свету Уладзімір Дзямідаў, гарачы па натуры, няўдала пачаў выступленне на чэмпіянаце Узброеных Сіл. Першая серыя — дваццаць стрэлаў — прайшла няўдала. «Нічога не выходзіць»,— з крыўдай вымавіў ён. Але варта было



**На агнявым рубяжы — В. Пархімовіч.**

трэнеру пагаварыць з выхаванцам, як да таго вярнулася ўпэўненасць, і ён добра адстраляў другую серыю.

Праходзіла IV Спартакіяда народаў СССР. Віталі Пархімовіч у практыкаванні МВ-6 з калена пасля першай серыі меў шанцы на першае месца. Ён устаў, пахадзіў, даючы адпачыць знямелай назе, і вярнуўся на рубеж агню. Стрэл — «дзевятка», яшчэ стрэл — «васьмёрка».

Пасля спаборніцтваў Віталі падышоў да трэнера, спытаўся.

— Як вы думаеце, Мікалай Фёдаравіч, дзе тут прычына?

— А якая твая думка, Віталі?

— Мне здаецца, што проста не хапіла вытрымкі,— адказаў снайпер,— я баяўся, што не паспею ў час...

— Правільна...

Мікалай Фёдаравіч выхоўвае таксама шырокі актыў спартсменаў, якія самі з'яўляюцца выхавацелямі маладых.

Ёсць шмат «дробязяў», без ведання якіх куля не патрапіць у цэль. Здаецца, не такая ўжо гэта мудрасць — адладзіць спускавы механізм. Аднак стралкі ідуць да Мікалая Фёдаравіча. Ён умее знайсці для стралка аптымальнае нацяжэнне і характар спуску. Для гэтага гадзінамі даводзіцца назіраць, як страляе той ці іншы снайпер, а потым разам вызначаюць, з якой сілай націснуць на спускавы кручок, каб без рыўка, у момант поўнай устойлівасці, не раней і не пазней, вылецеў кавалачак свінцу...

Сякерын не адразу адкажа, калі да яго звернуцца з якім пытаннем. Ён спачатку добра падумае. Сякерын не схопіцца за галаву пры няўдачы і не пачне скакаць ад радасці, калі ёсць поспех. Сякерын проста прааналізуе тое і другое, каб яшчэ лепш падрыхтавацца да новай справы.

...Гледзячы ў стэрэатрубу, Мікалай Фёдаравіч заносіць у запісную кніжку вынікі стральбы. У перапынках паспявае агледзець мішэні асноўных праціўнікаў.

Адстраляўшыся, спартсмены і суддзі стоўпіліся за бар'ерам. Усе з цікавасцю сочаць за стральбой Эдуарда Яраша. Ці здолее ён двума апошнімі стрэламі выбіць дзевятнаццаць ачкоў? Нервы ў Сякерына напружаны. Але гэтага ніхто не бачыць. Для ўсіх Сякерын спакойны і засяроджаны. Ён, як заўсёды, камандзір, кіраўнік «бою». Кажуць, што нервы згараюць назаўсёды, але, як бікфордаў шнур, гараць марудна. Колькі ж іх спалена на спаборніцтвах!..

Але грымяць стрэлы — перамога!

Гадзінамі назірае Мікалай Фёдаравіч, як вядуць стральбу выдатныя снайперы. Яго цікавіць усё: і становішча пры стральбе, і рытм дыхання, і яшчэ многае з таго, што не заўсёды зразумелае для недасведчаных. Інакш і не можа гэты чалавек, бязмежна адданы сваёй справе. Амаль пасля кожнага спаборніцтва яго выхаванцы прыносяць Радзіме залатыя, сярэбраныя і бронзавыя медалі.

Пад яго кіраўніцтвам адточваюць майстэрства не толькі праслаўленыя стралкі, але і 17—18-гадовыя хлопцы, кандыдат у майстры чэмпіён Узброеных Сіл Анатоль Іваноў, майстар спорту суворавец Аляксандр Прыжко— будучыня нашага стралковага спорту.

**Аркадзь БАГАНАЎ,**
**майстар спорту СССР.**



**Раздзел вядзе**
**міжнародны майстар**
**Макс ШАВЕЛЬ**

# АДКРЫТАЕ ЗНОЎ...

Гавораць, што новае — гэта даўно забытае мінулае. Вельмі часта і шашыстам здараецца, хаця і з горыччу, згаджацца з правільнасцю гэтых слоў. На многіх турнірах мы можам назіраць за вельмі цікавымі, зусім новымі камбінацыямі. Гэтыя камбінацыі выклікаюць захапленне сваёй нечаканасцю, і іх бяруць на ўзбраенне ўсе тыя, хто ўважліва сочыць за спаборніцтвамі. Але часам здараецца і так...

Удзельнікі і гледачы адкрытага першынства Галандыі 1970 года з цікавасцю пазнаёміліся з камбінацыяй, якую правёў шашыст з ЗША Карл Сміт супраць француза Рауля Дэльёма. Камбінацыйны ўдар і сапраўды быў глыбока замаскаваны і цяжкі для рашэння. Усе віншавалі негрыцянскага спартсмена з адкрыццём новай камбінацыйнай ідэі. Вось гэта пазіцыя.

**К. Сміт**




**Р. Дэльём**

У адказ на апошні ход белых 44. 28—22 Сміт зрабіў нечаканы ўдар 44. ...26—31! 45. 22 : 2 31 : 42 46. 38 : 47 23—29! 47. 34 : 23 19 : 37 48. 2 : 30 35 : 43 з выйгрышам.

Адным з гледачоў, што назіралі за гэтай камбінацыяй, быў гросмайстар Р. Келер. Як і ўсе прысутныя, ён быў захоплены навінкаю і шчыра віншаваў аўтара. Аднак праз некалькі мінут у цэнтры ўвагі ўсіх аказаўся сам Келер. У пазіцыі, што была на дыяграме і якую ўсе з цікавасцю разглядалі, гросмайстар знайшоў яшчэ адну цудоўнейшую камбінацыю, заснаваную на ўжо знойдзенай толькі што Смітам: 44. ...16—21! 45. 22 : 2 26—31 46. 37 : 17 23—29! 47. 34 : 23 19 : 37 48. 2 : 30 25 : 12х. Заключныя ўдары, якія прадэманстраваў Келер, былі і сапраўды цудоўнымі. Стварылася ўражанне, што знойдзена яшчэ адна арыгінальная шашачная ідэя. Мусіць, гэтая думка і ўмацавалася б у шашачнай літаратуры, калі б не маленькая заметка ў шашачным раздзеле газеты французскага горада Ніцы. Заметка была апублікавана за тыдзень да таго, як была сыграна вышэйпамянёная партыя, і ў ёй давалася адна з партый французскіх майстроў, сыграная ў 1902 годзе. Самае цікавае было тое, што і пазіцыя на дыяграме, і камбінацыйны ўдар, праведзены белымі, амаль цалкам супадаюць з тым, што ўсім здаваліся цяпер, праз 68 гадоў пасля сыгранай некалі партыі, зусім новымі і невядомымі.

**Мюсэн**




**Рафаэль**

У партыі пасля гэтага было зроблена: 1. 42—37!! 29 : 49 2. 25—20! 14 : 34 3. 28—22 17 : 28 4. 32 : 14 49 : 21 5. 26 : 39! з перамогаю.

Знайсці зусім новую ідэю на шашачнай дошцы ў наш час вельмі цяжка. Але тым ярчэйшай бывае ў букеце камбінацый кожная новая кветка, сапраўдным упрыгожаннем шашачнай гульні зрабіўся арыгінальны камбінацыйны план, які пашчасціла ажыццявіць майстру спорту Б. Баталаву ў часе каманднага першынства горада Мінска гэтага года.




На дошцы ўсяго па чатыры шашкі, і, здаецца, неўзабаве будзе нічыя. Але тут нечакана быў зроблены ход: 1. c1—b2! b4—a3 2. b2—c3 d8—c7 3. d2—e3, і чорным якраз час здавацца, таму што на 3. ... c7—b6 будзе зроблена 4. c3—b4! 5. e3—f4!x, а на 3. ... c7—d6 4. c3—b4 a3 : c5 5. d4 : b6 e7—f6 6. b6—a7 d6—c5 7. a7—b8 c5—b4 8. h4—g5! f6 : h4 9. b8—e5 з выйгрышам.



● Уладзімір КУЗЬМЯНКОЎ

# ВОСЕМ ДЗЕВАК—АДЗІН Я



Браточкі мае, што я вам расказаць хачу! Гэта ж як ні мяркуй, як ні плануй, а ніколі не ўгадаеш, што будзе з табой заўтра. Але навошта так далёка браць — што пасля абеду будзе, не скажаш. З раніцы яшчэ цвёрда ведаеш: пойдзеш на работу, а ўжо што пасля страсецца — трасца яго ведае. Гэта ж во як са мной. Прыйшоў, значыць, на работу, усё чын чынам, не спазніўся, з дарогі не збіўся. Узяў свае манаткі і пайшоў у пакой, што ўчора не скончыў, колер лажыць. Валік, значыць, памачу ў фарбу ды на сцяну, катаю сабе зверху ўніз. «Апошнюю электрычку» насвістваю, маўляў, працуем — не сумуем.

І раптам бяжыць брыгадзір.

— Квач, ты тут? — крычыць ён.

— А дзе ж мне яшчэ быць? Хіба не бачыце.

— Бачу,— строга гаворыць Васіль Васільевіч і загадвае:— Ану, падыдзі сюды. Дыхні, Квач!

Я збянтэжана гляджу на брыгадзіра: што з ім? А ён сваё:

— Дыхні, кажу.

І я дыхнуў. Брыгадзір паціснуў плячыма: «Ліха цябе знае, Квач. Здаецца, не п'яны».

— А чаму я павінен быць п'яны? — пытаюся я.

Але ён прапусціў мае словы міма вушэй.

— Ты на танцах учора быў?

— Быў.

— Ну?

— Што, ну?

— Далей што было?

— Што далей? Патанцаваў і дамоў пайшоў.

— Так і дамоў?

— А куды ж яшчэ?

— І нікога не праводзіў?

— А калі і праводзіў, дык што, нельга?

— Ды не. Яно то можна... Скажы ты мне, Квач, толькі чэсна, па-камсамольску. Ты нічога не натварыў? Ну, скажам, учора ці заўчора?

— Не, здаецца. А што такое?

— Што-што... У партком цябе выклікаюць — вось што. Ну, Квач... глядзі... Калі што якое — лепш вачэй у брыгаду не паказвай. Я не дазволю ганьбіць калектыў.

Да ўпраўлення было хады мінут дваццаць. Іду я і думаю: «Што ж я такое натварыў?» Думаю, аж галава трашчыць. Ні жывы ні мёртвы ўваліўся ў кабінет.

— Добры дзень,— кажу, а у самога з перапалоху аж у вачах пазелянела.

— Га-а-а, Іван Іванавіч, праходзьце, сядайце, рады вас бачыць,— пачуў я, як здалося мне, знаёмыя галасы.

Разгледзеўся: сакратар партбюро, начальнік аддзела кадраў і... Пецька, наш камсамольскі сакратар. Я як у абдымкі да яго не кінуўся. Цяпер, думаю, не загіну. З Пецем разам канчаў вучылішча, разам працуем. Праўда, Пецька — сакратар, але калі што якое — заступіцца.

А яны пасміхаюцца, такія радасныя, нібыта не са мной, маляром Іванам Квачом, а з касманаўтам сустрэліся.

— Як здароўе?— пытаюць.

— Ды нішто сабе,— адказваю,— не скарджуся.

— А вучоба як?

— А што,— кажу,— вучоба? Хаджу ў дзесяты. Скончу — у інстытут пастунаць буду.— І бачу раптам, як насцярожыліся іх твары.

— А як жа будоўля?

— Паступаць буду на завочнае, каб працаваць і вучыцца.

— Правільна, таварыш Квач, правільна. Мы і не сумняваліся ў вас. А ці ведаеце, чаго мы вас паклікалі?

— Не,— кажу,— адкуль мне ведаць?

— Вось мы тут параіліся, таварыш Квач, і вырашылі прызначыць вас брыгадзірам.

— Мяне... брыгадзірам?— Я ледзь не сеў ад здзіўлення. Усяго чакаў, толькі не гэтага...

— А што вы здзіўляецеся, таварыш Квач? Чалавек вы перадавы, павышаеце сваю адукацыю, камсамолец. Вось і таварыш Хохлік вас рэкамендуе. Так што... А да нас на будоўлю брыгада дзяўчат прыбыла. Вырашылі мы камсамольска-маладзёжны калектыў стварыць. З заўтрашняга дня і прыступайце да выканання абавязкаў. Калі што якое — дапаможам, падкажам.

Выйшаў я з кабінета і сам не ведаю, плакаць ці радавацца. І ўсё ж такі, думаю, трэба радавацца: у брыгадзіры выбіўся. І хоць будуць мяне клікаць бабскім камандзірам, але ўсё ж такі брыгадзір ёсць брыгадзір.

А назаўтра... Назаўтра яшчэ чэрці на кулачыкі не білі, прыбег я да Пецькі Хохліка, ва ўпраўленне. А там толькі начны вартаўнік ходзіць. Чаго, кажа, цябе так рана прынесла?

— Справа ёсць,— адказваю.— Трэба параіцца.

Вартаўнік абрадаваўся мне, нібы роднаму брату. Гэта ж памаўчы кожную ноч! Пагаварылі мы пра рыбалку, пра начальства, пра моладзь. І яшчэ пра нешта хацелі, а тут і Пецька бяжыць.

— Ну як?— пытае.

— Ай, маўчы ты. Усю ноч не спаў. Хваляваўся,— кажу я.

— Гэта пройдзе,— супакоіў мяне Пецька.— А мне, думаеш, лёгка? Так што трымай хвост пісталетам. Зараз пойдзем да тваіх красунь.

Ідзём калідорам. Пахне фарбай. Пад нагамі шматкі паперы, абрэзкі дошак, стружкі.

— А вось і яны,— сказаў Пецька. У пакоі на лаве пры сцяне сядзелі дзяўчаты, як тыя верабейчыкі, пра штосьці гаварылі і смяяліся. Паспеў палічыць: восем. Нішто сабе: «Восем дзевак — адзін я».

— Вось вам брыгадзір,— адразу пачаў Пецька.— Малады, прыгожы і ўсё іншае такое. Не хлопец — арол.



Пецька гаварыў так упэўнена, што я аж пакратаў сябе за бакі: ці я гэта?

— А ён жанаты?— пырснулі дзяўчаты смехам.

— Халасты,— падмігнуў мне Пецька.— Прашу любіць, як той казаў, і жалаваць.

Пецька падштурхнуў мяне пад бок, і я зразумеў: трэба ісці знаёміцца. Я заўсміхаўся на ўсе трыццаць два і ступіў да дзяўчат.

— Іван,— сказаў першай.

— Вера.

— Іван.

— Ніна.

Я зусім асмялеў і ўжо глядзеў у твар дзяўчатам, стараўся запомніць. Мае падначаленыя хіхікалі, смяяліся, нібыта дзе на танцах. «Несур'ёзныя»,— адзначыў я.

Далей сядзела чарнявая дзяўчына з вялікімі вачыма. Яна ўсміхнулася, і я ўбачыў на яе шчацэ маленькую ямачку, нібы яе хто выціснуў гарошынай.

— Таня,— назвалася яна.

Яна села, а я падаў руку наступнай. Але што гэта? Ці я памыліўся і знаёмлюся з Таняй другі раз, ці ў мяне ўжо галюцынацыі? А дзяўчына тым часам праспявала:

— Аня.

Я пакруціў галавой — маўляў, згінь нячыстая сіла. Гэта ж у мяне ўжо дваіцца ў ваччу: побач сядзелі, нібы дзве кроплі расы, падобныя дзяўчаты.

— Чаму Аня? Вы ж толькі што сказалі: Таня.

Грымнуў смех. Аня, відаць, шкадуючы мяне, адказала:

— Яна — Таня, а я — Аня. Сёстры мы.

«Гэта ж блізняты»,— цюкнула мне, а ўслых я ні то сабе, ні то ім сказаў: — Нічога, бывае.

— Канечне,— падтрымала мяне Аня.

Пазнаёміліся і — за працу.

Стараюцца мае дзяўчаты, працуюць, як той казаў, аж гай шуміць. Яны шчыруюць, а я — яшчэ больш. На тое ж я і брыгадзір, каб ва ўсім прыкладам быць. Распачалося паміж намі такое спаборніцтва! Ну, думаю, калі так і далей пойдзе, то не 100, а ўсе 200 працэнтаў даць можна. Словам, рыхтуйся, таварыш Квач, да хмельнай славы.

Дзень праходзіць — нічога, два — нічога, а на трэці нібы хто сурочыў маіх дзяўчат. У Веры раптам пачаў зрывацца з цвічка валік. Толькі адрамантаваў яе валік — бяжыць Ніна. Ёй падалося, што не так фарбу развяла. Не паспеў адысціся ад Ніны — Галя на праміласць бог просіць паглядзець, ці так яна колер паклала. Свеце спатрэбілася вядро замяніць, а іх на складзе няма. Надзя пачала вышыні баяцца. Калі трэба што вышэй фарбаваць, абавязкова да брыгадзіра бяжыць — каб падтрымаў ці сам пафарбаваў. А Рая стала зусім няўважлівай. Раскажаш, што да чаго, галавой кіўне, маўляў, усё зразумела. А праз якой паўгадзіны зноў бяжыць: «Брыгадзір, што гэта ты казаў зрабіць? Забылася ўжо». І смех і грэх.

Па вачах жа бачу: жартуюць. Дык ім жарты, а я так забегаўся, што кашуля мокрая. Во трапіў у нерат! Толькі Таня і Аня пакуль што не даймалі мяне сваімі жартачкамі. «Усё ж свет не без добрых людзей»,— думаў я пра сясцёр з удзячнасцю і стараўся адплаціць ім дабром. Можа, думаю, калі-нікалі і работу ім зручнейшую падкіну. Аднаго разу падыходжу, так і так, кажу, Таня, пойдзеш туды і туды, зробіш тое і тое. Я ёй сур'ёзна, а яна смяецца. Чаго ты, пытаю. А я, кажа, не Таня, а Аня. У другі раз падыходжу:

— Анечка, трэба сёння хутчэй закончыць...

Гавару, а яна аж вочы заплюшчыла — маўляў, так ужо ёй гэта прыемна.

— Ой, брыгадзір, які ты ласкавы. Толькі калі б ты сказаў гэтак — Танечка. Таня я...

І што гэта, думаю, за насланнё? Мала што пра план і якасць трэба думаць, дык яшчэ галаву трэба ламаць, як распазнаць, дзе Таня, а дзе Аня. «Так табе і трэба, бабскі камандзір,— лаю сябе, а сам думаю:— Уцякай у іншую брыгаду». А тут яшчэ сход неўзабаве надарыўся: трэба было камсорга выбраць. Адкрыў я сход. Маўляў, так і так, давайце кандыдатуру. А яны ў адзін голас:

— Цябе, брыгадзір.

— Што вы?— кажу.— Не дазволена ў адной асобе ўсе пасады сумяшчаць. Яшчэ культ мой пачне расці. Ды я, мусіць, і пайду ад вас.

Сказаў і сам не рады. Такое паднялося, што ледзь супакоіў іх. Збіраліся ўжо ў партком бегчы.

Словам, узвалілі яшчэ адзін клопат на маю шыю. І што вы думаеце, пачаў я са спісам камсамольцаў знаёміцца. Усе — камсамольцы, а Таня — не. Падцэліўся аднаго разу, калі гэтыя дзве кроплі разам былі, і пытаю: «Чаму ты, Таня, не камсамолка?»

— Ды так,— *адказвае,— калі Аня пастулала, я хварэла. Вось і асталася.*

Асталася, асталася. Ёй што, а мне Пецька Хохлік жыцця не дае. Чаму, кажа, не росціш сваю камсамольскую арганізацыю. У цябе ж і база ёсць. Мала што адзін на адзін, дык і пры ўсіх, гэта сябар называецца, даў дыхту. Узабраўся на трыбуну і зноў пра базу росту — маўляў, колькі разоў гаварыў, а з яго (гэта значыць, з мяне) быццам з гуся вада. Тут ужо я не вытрымаў. Ідзі, кажу, ды распазнай, каторая з іх камсамолка, а каторая не, калі ты разумны такі.

А Пецьку толькі гэта і трэба было.

— Во,— *кажа,— таварышы, як таварыш* Квач працуе! Ён нават людзей сваіх не ведае. А дзе індывідуальны падыход? Дзе камсамольская работа? А яшчэ кіраўнік камсамольска-маладзёжнага калектыву.

Выскачыў я са сходу як апараны. І хоць зло бярэ на гэтага Хохліка, але, думаю, сапраўды ён мае рацыю. Мала ўвагі аказваю несаюзнай моладзі ў асобе Тані Сасняк. А *трэба больш.* І індывідуальны падыход таксама патрэбны. А то толькі план, работа, працэнты. План ёсць, а індывідуальнага падыходу няма. І няма яшчэ аднаго камсамольца. Пакляўся я сам сабе: знайду індывідуальны падыход да гэтай Тані Сасняк. Хутка яна сама як міленькая папросіцца ў камсамол.

На наступны дзень, каб не зблытацца, паслаў Аню на другі паверх, а Таню на трэці. Пад канец змены пайшоў да Тані.

— Ну як ты тут? Ты вось так, то і не стомішся,— узяўся я за валік, а сам саромеюся сказаць, што наважыўся.

— Давай я ўжо сама, а то *замерзну стоячы.— Дзяўчына смяялася. Вочы яе* ззялі радасцю, а на шчаках зрабіліся ямачкі. «Цяпер ці ніколі»,— рашыў я і ступіў да яе.

— Слухай, а што ты сёння пасля работы робіш, га?

— Ды так... Быццам нічога..

— Слухай, давай у кіно сходзім. У мяне два білеты.

— Не ведаю...

Мяне ніколечкі не палохала, што яна адмаўлялася. Гэта нават радавала. Кожная сціплая дзяўчына, хоць ёй вунь як хочацца пайсці ў тое кіно, павінна для прыліку адмаўляцца.

— Ну дык што?— не адступаў я.

— Яно-то ўвогуле можна.

— Вось і добра. Значыць, чакаю каля кінатэатра без чвэрці дзевяць. Добра?

— Угу.

Вясёлы і шчаслівы панёсся я ўніз. Да сябе ў бытоўку збег так хутка, нібыта быў не на трэцім, а на другім паверсе.

Да кінатэатра я прыйшоў раней, чым трэба было. Неўзабаве прыбегла і Таня. Я пачаставаў яе марожаным, потым мы глядзелі кіно. *Толькі не пытайце, пра што было* тое кіно. Далібог, не памятаю, бо больш глядзеў на Таню.

А потым мы ішлі дамоў. Я трымаў яе пад руку, і яна зусім не вырывалася. Каля інтэрната мы спыніліся. Зверху на нас узіраліся зоркі. У інтэрнаце там-сям гарэла святло. Я ўзяў Таню за рукі. Яны былі халодныя, а вочы смяяліся, і на шчаках кругліліся ямачкі. *Мне раптам захацелася пацалаваць гэтыя ямачкі. Калі не дзве, то хоць* адну. І я ступіў да Тані.

— Дзякуй, брыгадзір,— не зразумела Таня.— Позна ўжо. Засплю яшчэ.

— Таня!..

— Ха-ха-ха! Толькі запомні, садовая галава, я — Аня! — І яна лёгка і шпарка пабегла да інтэрната.

Зноў усё пераблытаў. Паверхі пераблытаў. Замест трэцяга на другі забег. «Ну што ж, бывае,— цешыў ужо я сам сябе, як той зубны ўрач, які замест хворага вырваў здаровы зуб.— *Нічога, дабяруся і да хворага.»*

Таню (ужо сапраўды Таню) запрасіў гэтак жа, як і яе сястру. І яна спачатку адмаўлялася, а потым згадзілася. Там, у кіно, гледзячы на яе, мне падумалася, што Таня прыгажэйшая за Аню і цяпер ужо я не зблытаю іх. Мне захацелася яшчэ пабыць з Таняй, і я прызначыў ёй спатканне на заўтра.

З *гэтага і пачалося.* У брыгадзе ўжо перасталі здзіўляцца і бегаць да мяне са сваімі непаладкамі. Толькі хітра пасміхалася Аня. І няхай. А мне здавалася: калі не ўбачу вечарам Таню, то і жыў не буду. Ці здагадвалася яна пра гэта? Хто яе ведае. А аднаго разу я спытаў:

— Хочаш, я дам табе рэкамендацыю?

— Канечне. Даўно хачу, дурненькі мой.

Божа мой, як яна гэта сказала. Так сам анёл не скажа. Не ведаю, што б з ёй зрабіў ад шчасця, калі б мы былі адны. Але побач стаялі дзяўчаты.

У той жа дзень мы прынялі Таню Сасняк у камсамол. Трэба было яшчэ ісці на бюро райкома. Хваляваліся ўсе і радаваліся. І я радаваўся: хутка ўбачыш ты, Пецька Хохлік, як я працую з несаюзнай моладдзю.




На бюро райкома камсамола ўсё прайшло добра. Сам Пецька Хохлік віншаваў нас абаіх. І мы пайшлі, нібыта не з райкома, а з ЗАГСа. Толькі я так падумаў, а тут і ЗАГС па дарозе.

— Давай хіба зойдзем, паглядзім, як там ды што,— кажу я Тані.

— І праўда, давай. Я ж яшчэ ні разу не была.

Зайшлі, а там хлопцы, дзяўчаты. Нявесты, як тыя лілеі, ва ўсім белым, а жаніхі, як дыпламаты, у чорных касцюмчыках, пад гальштукамі. І такія ўсе радасныя, што аж самому такой радасці захацелася. Падышлі мы з Таняй да століка селі, каб заводдаль паглядзець. Зірк — а на століку бланк ляжыць, толькі ўзяць ды запоўніць. Узяў я адзін і кажу Тані:

— Чаго ён будзе пуставаць? Давай хіба запоўнім.

— Ой, Ваня,— спалохалася Таня, і вочы яе ад гэтага яшчэ пабольшалі і пахарашэлі,— ты сур'ёзна?

— А хіба я калі несур'ёзнае рабіў? Ты мяне ведаеш, і я цябе ведаю. Нават ведаю, пра што ты будзеш успамінаць, калі мы на пенсію пойдзем. Хочаш, скажу?

— Ну.

— Ты спытаеш: «А помніш, як у нас была брыгада, восем дзевак — адзін я, як мяне ў камсамол прымалі, а ты шукаў да мяне індывідуальны падыход?»

— А ты, канечне, скажаш: «І знайшоў яго».

**ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**

**Шмат цікавых сустрэч**

**чакае вас на старонках**

**«МАЛАДОСЦІ» ў 1972 годзе.**

**Выпісвайце і чытайце**

**свой часопіс!**

# нашы аўтары

**ЗУЁНАК Васіль** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча Крупскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

Працаваў у газеце «Піянер Беларусі». Цяпер—намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць».

Аўтар кніг «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр».

**ЯРАЦ Віктар** нарадзіўся ў 1948 годзе ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна. Працаваў у рэдакцыі рэчыцкай райгазеты. Скончыў Гомельскі універсітэт. Цяпер служыць у Савецкай Арміі.

**САВІЦКІ Алесь** нарадзіўся ў 1925 годзе ў Полацку.

Партызаніў, удзельнічаў у Айчыннай вайне, быў тройчы паранены.

Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага і аспірантуру пры ім. Працаваў у рэдакцыі, быў вучоным сакратаром Літаратурнага музея Якуба Коласа. Цяпер загадчык сектара літаратуры ЦК КПБ.

Аўтар кніг «Кедры глядзяць на мора», «Пасля паводкі», «Жанчына», «Белы гарлачык», «Палын — зелле горкае».

**ЛОСЬ Еўдакія** нарадзілася ў 1929 годзе ў вёсцы Старына Ушацкага раёна. Скончыла факультэт мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.

Працавала рэдактарам Вучэбна-педагагічнага выдавецтва. Цяпер адказны сакратар часопіса «Работніца і сялянка».

Аўтар кніг «Сакавік», «Палачанка», «Людзі добрыя», «Хараство», «Яснавокія мальвы», «Пацеркі».

**СКАРЫНКІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1939 годзе ў Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут грамадзянскай авіяцыі.

Працуе інжынерам у аэрапорце.

Аўтар зборніка вершаў «Буслы над аэрадромам».

**АДАМЧЫК Вячаслаў** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Варакомшчына Дзятлаўскага раёна.

Вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў у рэдакцыях газет і ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. Цяпер рэдактар аддзела ў часопісе «Маладосць».

Аўтар кніг «Свой чалавек», «Млечны Шлях», «Міг бліскавіцы».

**САЛТУК Алег** нарадзіўся ў 1946 годзе ў Бешанковіцкім раёне.

Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута.

Служыў у арміі. Працуе ў рэдакцыі райгазеты.

**МУРАВЕЙКА Іван,** якому спаўняецца пяцьдзесят гадоў, нарадзіўся ў вёсцы Талі Любанскага раёна.

Вучыўся ў Мінскім Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава. Удзельнічаў у Айчыннай вайне. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.

Працуе адказным сакратаром любанскай раённай газеты.

Аўтар зборнікаў вершаў «Песня над палямі», «Ручаінкі», «Вось якія мы», «Пра работу і ляноту», «Дружная сямейка», «Сняжынкі-смяшынкі», «Сем колераў вясёлкі».


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 10**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 12874. Здадзена ў набор 27/IX-71 г. Падпісана да друку 28/IX-71 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 14795 экз. Зак. 441. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі прасп., 79.**




**М. СТОМА.** З трыпціха «Кветка шчасця».